# ЗМЕСТ Крыніца

# ЁН | Юзаф Ігнацы КРАШЭЎСКІ

*Бог Вялікі злітуецца*
*з Радзівілаў!*
*А калі пераважаць грахі*
*нашыя і прыйдзе кара,*
*пане каханку, умейце*
*насіць няшчасце так,*
*як не ўмелі насіць*
*шчасце!*
*Толькі не згінацца,*
*не лезьці ў гразь.*
*Лахман пурпурай стаць*
*можа, лепей дзіркі,*
*чым плямы!*



*Пра Яго*

## АПОШНІЯ ХВІЛІНЫ КНЯЗЯ ВАЯВОДЫ

“ХОЦЬ РАДЗІВІЛ, АЛЕ Я ЧАЛАВЕК, І ГРЭШНЫ...”

“ЖЫВУ МАІМ ЧАСАМ...”





# АПОШНІЯ ХВІЛІНЫ КНЯЗЯ ВАЯВОДЫ *
## (ПАНЕ КАХАНКУ)

*Mors ita.*
*Sicut vita.*

Нашага апошняга падарожжа з вяльможным князем, а хоць бы сто гадоў я жыў, – не забуду Бо то ж была дарога, даруй Пане Божа, крыжовая Князя ўжо, бадай, нават за тым часам, калі мы ў Берлін і Ўроцлаў ездзілі да тамтэйшых іхніх дактароў, якія анічым нам не дапамагалі, было ўжо не пазнаць. Ён страшэнна перамяніўся – спахмурнеў, зрабіўся нудны, маўклівы, пануры, забыякавеў да ўсяго. Сядзіць сабе ў крэсле, рукі на жываце, пакручвае набрынялымі пальцамі, звесіць галаву на грудзі, сапе і маўчыць.

Прыйдзе каторае з нас, кашляне, каб падаць знак пра сябе (бо ён ужо нічога не бачыў), дык пазнае па голасе, падыме часам галаву· “А што там?” – спытаецца, – і, не дачакаўшыся адказу, зноў занурыцца ў задуменне.

Мы дык ужо ўсе аж ці не занадта добра ведалі, што ён даўно нічога не бачыць, але сам ён ніколі гэтага не прызнаваў, хіба што самым-самым давераным, перад іншымі строіў з сябе, што толькі недабачвае

У Нясвіжы, – пане літасцівы! – ён меў усё, чаго толькі душа спрагнуць магла, але апанаваў яго нейкі неспакой,

* Аповесць друкуецца ў скарочаным варыянце.

### *Пра Яго*

*Ганаровы, але і вельмі цяжкі абавязак. у біяграфічным нарысе стварыць партрэт чалавека, які. сваім знакамітым і ўсебаковым талентам, мноствам, разнастайнасцю і значнасцю сваіх твораў.. так нястомна, з такім замілаваннем прапаведаваў у імя праўды, дабра, прыгажосці і быў адным з самых магутных фактараў у развіцці двух пакаленняў. І вось я мушу быць біёграфам гэтага тытана.*

**Адам Плуг**
**(“Юбілейная кніга... 1879 г.”)**

***Беларускі перыяд жыцця і творчасці***

**1812** – нарадзіўся 28 ліпеня ў Варшаве ў заезным доме, на вуліцы Александрыя (цяпер Капернікa)

Бацька – Ян Крашэўскі – паходзіў з роду Крашэўскіх герба Ястрабінка і быў гаспадаром невялікага маёнтка ў вёсцы Доўгае, якая знаходзілася ў Пружанскім павеце Гродзенскай губерні (цяпер Брэстчына) Выконваў службовыя абавязкі пагранічнага суддзі, земскага суддзі, асэсара Галоўнага суда першай інстанцыі Крымінальнай палаты і харунжага Пружанскага павета.

Надыходзячая вайна прымусіла будучую маці – Зоф‘ю (у дзявоцтве Мальская), таксама шляхецкага роду, шукаць спакойны прытулак спачатку ў сваіх бацькоў у Раманаве на Падляссі (куды

# “ХОЦЬ РАДЗІВІЛ, АЛЕ Я ЧАЛАВЕК, І ГРЭШНЫ...”

*(“Радзівілаўская трылогія” Ю.І. Крашэўскага)*

**Пра князя Караля Радзівіла, віленскага ваяводу (або першага сенатара ў Літве), нясвіжскага ардыната, “самага багатага пана ў хрысціянскім свеце” (А. Міцкевіч) напісаны тамы мемуарнай, мастацкай, навуковай літаратуры. Але гэты дзеяч, які адыграў значную ролю ў палітыцы Рэчы Паспалітай у другой палове XVIII ст., гэты найвялікшы арыгінал і сёння застаецца адной з самых загадкавых постацяў у нашай гістарычнай мінуўшчыне. Жыццё Радзівіла “Пане Каханку” (мянушка – па прыказцы, з якой князь звяртаўся да суразмоўцаў) авеяна мноствам легендаў – разнастайных і вельмі супярэчлівых, і яны, вядома, адаптаваліся прыгожым пісьменствам, зрабілі ўплыў на гістарыяграфію. Тым не менш, амаль да апошняга часу ў працах гісторыкаў панавала традыцыя аднабаковага паказу асобы Радзівіла, і яго гістарычны партрэт быў увасабленнем самых адмоўных якасцяў –**

завёз яе муж ранняй вясной, а сам вярнуўся на другі бераг Буга, у Доўгае), а потым у Варшаве, дзе і нарадзіўся першынец Юзаф Ігнацы

**1813–1825** – дзяцінства праводзіць у Раманаве, у сядзібе дзеда і бабкі Мальскіх Бабка навучыла чытаць па-польску і па-французску (сям'я Мальскіх ліставалася на французскай мове) У верасні 1822 г паступае вучыцца ў другі клас школы ў Бялай на Падляссі Спрабуе складаць вершыкі, перакладаць байкі Лафантэна.

**1826–1829** – набывае веды ў ваяводскай школе ў Любліне, а з 1827 г – у Свіслацкай гімназіі. Летнія канікулы праводзіць у Доўгім. У Свіслачы паглыблена вывучае літаратуру і мовы, займаецца музыкай, жывапісам. Сустрэча з настаўнікам Альфонсам Валіцкім вызначае жыццёвы шлях юнака, і ён выбірае літаратуру Але, атрымаўшы атэстат сталасці, запісваецца восенню 1829 г на медыцынскі факультэт Віленскага універсітэта (па жаданні бацькі, які суправаджаў сына ў Вільню) Хутка, насуперак волі бацькі, пераходзіць на факультэт літаратуры (красамоўства і вольных мастацтваў) Вывучае мовы – арабскую, грэцкую, лацінскую, габрайскую, рускую і стараславянскую. Рыхтуе да выдання пераклад "Жыцця Цыцэрона" Плутарха. Сур'ёзна цікавіцца гісторыяй Вільні і літоўска-беларускіх зямель, збірае матэрыялы. Прыязныя адносіны складваюцца з прафесарам Лявонам Бароўскім, які быў родам з Піншчыны і ў свой час выкладаў літаратуру Міцкевічу і філаматам.

**1830** – пад псеўданімам Клеафас Факунд Пастарнак друкуе апавяданне "Біяграфія сакальскага арганіста" і невялікую аповесць "Катлеты" ў часопісах "Noworocznik Litewski" і "Bałamut Petersburski"

Арыштаваны ў ноч з 3 на 4 снежня за ўдзел у патрыятычным канспіратыўным руху моладзі

**1831–1832** – атрымлівае прысуд, зацверджаны царом, – адправіцца радавым у адзін з каўказскіх палкоў Выратоўвае знаходжанне ў турэмным шпіталі, а больш за ўсё – намаганні сваякоў, і 19 сакавіка 1832 г прысуд замяньваецца на паліцэйскі нагляд.

Шмат займаецца самаадукацыяй: Віленскі універсітэт пасля паўстання закрыты царскімі ўладамі. Перакладае раман "Белы дом" французскага пісьменніка Поля дэ Кока, складае польска-руска-французскі слоўнік на заказ выдаўца Глюксберга.

У віленскім выданні выходзіць "Пан Валеры. Аповесць з XIX стагоддзя" ў 1831 г , а ў 1832 г – "Вялікі свет малого мястэчка" – пад псеўданімам К.Ф Пастарнак. Пасля "Пана Валеры" пісаў маці. "Сёння я запрошаны на абед у рэстарацыю нейкім панам Манюшкам, багатым жыхаром Мінскай губерні, які хоча пазнаёміцца са мной, прачытаўшы Пастарнака. Гэта мяне вельмі радуе" "Багатым жыхаром" быў бацька Станіслава Манюшкі.

што не мог князь уседзець у горадзе Закарцела яму ехаць. Куды? У Белую? Чаго? – ён і сам, бадай што, не ведаў, небарака.. Ат, у горадзе журба заядала. . абы з месца зрушыцца. – Святару сказаў, што хоча ў Лясную, наведацца да Найсв Панны! Мараўскаму, – што там паветра лепшае, мне – што там вада здаравейшая, князю Гераніму, – што ў Белай забыўся шкатулачку з паперамі, якія павінен забраць сам, бо паперы вельмі важныя але ўсё гэта былі чысцюткія байкі, па сутнасці, яго ўжо забірала перадсмяротная трывога.

Увечары ў чацвер, як во цяпер памятаю, выйшла распарада збірацца ў дарогу Бралі і мяне, бо князь часам любіў пазводзіцца са мною

Першымі заварушыліся распарадцы службаў і кухні, пачалі запрагаць і перапрагаць цугі, цалюсенькую ноч усё кіпела, як у катле, беганіна па сходках то ўніз, то ўгору, па надворку, па стайнях з ліхтарамі – бо от жа раптоўна ўсё гэта ўброілася, ніхто і не спадзяваўся. Доктар толькі плячмі перасмыкаў. Пытаецца ў яго князеў сястранец, пан палкоўнік Мараўскі, ці не зашкодзіць? – дык доктар буркнуў на тое "А ўсё роўна, не зашкодзіць і не паможа, хай ужо сабе едзе, калі зарупела" Хто ведае? А раптам? Зменіць паветра, можа, яго гэта якраз і развярэдзіць.

Але дзе там! Ужо на першым начлезе так задумаўся, так зануры́ўся ў развагі, што слова дапытацца было нельга.

Другога дня крыху нас усцешыў, бо выглядаў жывейшым і еў лепей Увечары прыйшла мая чарга дзяжурыць. Я прызасціў свечкі, сеў каля печы, чакаю, што Бог пашле

Князь крэкнуў:

– Ёсць там хто?

– Я тут, вяльможны княжа.

– Так цёмна, што й не бачу васпана

– Я нарочна прыцьміў святло, каб вяльможнаму князю не дужа сляпіла.

Ён махнуў рукою.

– Каторая гадзіна?

Я зірнуў на гадзіннік-цыбулінку – пайшло ўжо на дзевятую.

– Па восьмай ужо, вяльможны княжа.

– Што там на дварэ?

– Слота, вяльможны княжа

– Што там робіцца з месяцам? бо я ўжо забыўся Маладзік ці што?

– Апошняя квадра

Ён шапнуў і замоўк. А я і тым, што пачуў, суцешыўся, бо князь даўно ўжо столькі не гаварыў

– Ці ёсць там якая газеціна з Варшавы? – спытаў.

– Па дарозе не бралі, а апошнія ў Нясвіжы.

– А я ж казаў, каб крэсы за мною ішлі. то ж бо той мне сеймавы час .

І зноў замоўк, уздыхнуўшы.

Гэтым вечарам ужо больш не азываўся, працягнуў толькі руку на стол па ружанец, які застаўся яму пасля Сіроткі, і пачаў маліцца. Скончыўшы малітвы, пажадаў легчы ў ложак. Мы распранулі, раздзелі яго, і начное дзяжурства нёс ужо нехта іншы.

Казалі, што спаў досыць добра, толькі праз сон некалькі разоў ускрыкнуў.

Раніцай пасля куляшу – карчма была агідная – мы рушылі далей у дарогу.

Восеньская слота як на тое не адступалася, хоць цужных коней у запрэжцы было восем, мы мусілі ісці, нагой за нагу чапляючыся. Не без таго, каб у гразі пасля ўсіх гэтых нашых вярцепаў карэта не хілялася, хоць гайдукі ўвесь час падтрымлівалі яе, а часам нават, можна сказаць, ледзь не на плячах вывалоквалі І гэта давалася князю ў знакі, бо часам стагнаў

– Цяпер бо і дарогі, як людзі, няма ладу як параскісалі, – бурчаў ён, – даўней такіх не бывала.

Увечары, толькі мы былі спыніліся ў плебаніі, ён павітаўся з ксяндзом і паспяшаўся ў ложак.

У ложку вячэраў, у ложку, лежачы, сказаў пацеры (на што меў касцельны дазвол) і неўзабаве задрамаў Сон быў зноў неспакойны

Так вось мы і даехалі, а дакладней – давалакліся да Славацічаў над Бугам Нічога на свеце не ведаю больш смутнага за гэты заканурак у княскіх землях; хоць ён і надбужны, славуты край, але, далібог і дапраўды, –

цемнаты, неадукаванасці, самадурства, п'янства, палітычнага авантурызму, анархіі... Сучасныя даследчыкі ў пошуках ісціны адыходзяць ад падобнай катэгарычнасці, не абараняючы пры гэтым гістарычны персанаж і не забываючыся на яго "дзівацтвы". Сэнс "новай" канцэпцыі зводзіцца па сутнасці да крыху перайначанага афарызму Крашэўскага, што прагучаў больш за 100 гадоў таму ў яго аповесці "Апошнія хвіліны князя ваяводы (Пане Каханку)", – "хоць ён Радзівіл, але чалавек".

Каларытная постаць князя спарадычна з'яўлялася ў творах Крашэўскага, а на першым плане выступіла ў камедыях "Пане Каханку", "Радзівіл у гасціне" і ў т.зв. "радзівілаўскай трылогіі". Аповесці "Паперы Глінкі" і ўжо згаданая "Апошнія хвіліны князя ваяводы", а таксама раман "Кароль у Нясвіжы" аб'ядноўваюцца ў цыкл дзякуючы асобе галоўнага героя – у кожным з іх Пане Каханку мае сваё адметнасці – і агульнаму месцу дзеяння: гэта Нясвіж ( і яго ваколіцы), у якім князь нарадзіўся, да якога прырос душой і любіў больш за ўсе іншыя гарады і мястэчкі (у "Апошніх хвілінах..." Нясвіж прысутнічае ва ўнутраным рэтраспектыўным дзеянні). Характэрны падтэкст мае назва рамана "Кароль у Нясвіжы". На першы погляд, яна суадносіцца з галоўным сюжэтам – "сябройскім" візітам у Нясвіж даўняга ворага князя – караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, які перад пагрозай чарговага падзелу краіны шукаў прыхільнасці ў аднаго з самых багатых і ўплывовых княжацкіх родаў ("Я гэтаму эканомскаму сыну як соль у воку, а ён мне таксама не канфіцюра", – у такі метафарычна-жартаўлівы спосаб акрэслівае Пане Каханку свае ўзаемаадносіны з каранаванай асобай). Увесь змест рамана пераконвае, што сапраўдны кароль у Нясвіжы (як "каралёк" у Літве) Радзівіл і ніхто іншы.

Крашэўскі працаваў над творамі пра князя ваяводу, маючы за плячыма вялікі жыццёвы і пісьменніцкі вопыт. Далучыўшыся да багатай літаратурнай традыцыі, звязанай з рэцэпцыяй гэтага вобраза, ён тым не менш вызначыўся арыгінальным падыходам да гістарычнай тэмы і высокімі мастакоўскімі дасягненнямі, асабліва ў аповесцях, напісаных у жанры гавэнды. Сярод складовых гэтага поспеху – і асабістая цікавасць аўтара да "фантастычнай і незваротнай", шляхецкай і магнацкай Рэчы Паспалітай, і яго жывая сувязь з погаласам пра Пане Каханку. Генезіс радзівілаўскай трылогіі не столькі ў дакументальных ведах, здабытых Крашэўскім падчас яго сур'ёзных штудзіяў у архівах, колькі ў аўтэнтычным лакальным, а менавіта ліцвінскім матэрыяле, у вуснай традыцыі. Памяць пісьменніка захавала безліч усялякіх гісторый, анекдотаў, жартаў, розных пікантных штучак, выхадак і хітрыкаў, што тычыліся нясвіжскага магната і якія ён з дзяцінства чуў у родных мясцінах – на Пружаншчыне і Падляссі. Цудоўным, дасціпным апавядальнікам быў бацька пісьменніка, Ян Крашэўскі, яго суседзі-шляхціцы, знаёмыя, у тым ліку пан дэ Лярзак, былы камендант радзівілаўскага замка, які разам з іншымі рэальнымі асобамі ўвайшоў у мастацкую структуру трылогіі.

Узорам і арыенцірам для пісьменнікаў, якія звярталіся да станіславаўскіх часоў і вобраза "літоўскага мядзведзя" Караля

**1833** – у ліпені вызваляецца з-пад нагляду паліцыі і едзе ў бацькаўскае Доўгае, дапамагае яму ў гаспадарцы

Выходзяць асобнымі выданнямі "фантастычны" раман "Пан Караль", гістарычныя раманы "Касцёл святога Міхала ў Вільні" і "Апошні год панавання Зыгмунта III" У часопісе "Tygodnik Petersburski" з'яўляюцца адмоўныя рэцэнзіі на гістарычныя раманы

**1834** – падарожнічае па Палессі і Валыні з алоўкам для запісаў і альбомам для малюнкаў З сябрам бацькі Ю Стахоўскім наведвае Гарадзец на Палессі, які належаў Урбаноўскім. Захапляецца вялікай (20 тысяч тамоў) бібліятэкай, каштоўнай карціннай галерэяй, нумізматычнай калекцыяй, архіўнымі матэрыяламі заможнага арыгінала А. Урбаноўскага і пры аказіі будзе заўсёды падкрэсліваць, як моцна спрыялі яны самаадукацыі і эрудыцыі маладога літаратара. У Гарадцы знаёміцца з будучай жонкай, 18-гадовай пляменніцай Урбаноўскіх, а таксама прымаса і паэта Я П. Вароніча – Зоф'яй Вароніч.

У Вільні выдаецца раман "Чатыры вяселлі" і зборнік замалёвак, эсэ, апавяданняў "Імправізацыі для маіх сяброў Кніжачка для запальвання фаек"

**1835–1836** – некалькі месяцаў жыве ў Вільні, дзе працуе над гісторыяй гэтага горада. З'яўляюцца станоўчыя рэцэнзіі на творы Пастарнака. За 10 дзён піша раман "Паэт і свет", які пры жыцці

пустэльня, звылюднеласць, толькі лясы і лясы, толькі сосны, балотныя купіны ды пясчаныя завалачы.

Двор на ака免міі стары, драўняны, – заранеи падчышчаны, вышараваны, абкураны, аерам пасыпаны, пазавешваны і высецелены, як толькі можна было падрыхтавацца найлепей

Князь займаў вялікі пакой, цёплы, зацішны, бо нездарма ж мы трымалі Багушэвіча, які ўмеў з нічога выстраіць палац.

Князь, дабраўшыся да Славацічаў, пачуўся стомлены і сказаў, што некалькі дзён адпачне тут; хоць і няшмат вёрстаў заставалася да Белай

Багушэвіч паехаў наперадзе ў замак, каб там усё падрыхтаваць, але ў нас пра тое не было ніякага страху, хіба што трэба, каб загадзя прапалілі ў печах, каб не напусцілі чаду

З Белай сюды загадзя, на выпадак, і для кухні завезлі ўсё, што было трэба, хапала ўсяго

Увечары славацкія жыды з вялікай помпай прынеслі на кухню велізарнага дваццаціфунтовага шчупачыска, на драўляным падносе, абшытым кармазынавай кітайкай, з лімонам у пашчы, за што князь загадаў выдаць ім пяць дукатаў, але тыя грошай не ўзялі

Было нам тут няблага, знайшоўся і забяспечаны скляпок у Стшалкоўскага, які сядзеў на гаспадарцы – і добра яму сядзелася Ды такі яно было някепска, толькі страх як нудна А тут яшчэ і дождж завёўся – цырк-цырк, пырсь-пырсь – ад відна да цямна.

Уздыхалі мы аж да самага бельскага замка – цесната там, увесь двор у доме аніяк не можа размясціцца; мы туліліся дзе і як каму ўдалося, – у шопках, па хатах, па корчмах, па жыдоўскіх дамах, а коні пад павецямі і ў аборах, дзе гною па калені даставала

Неяк аднаго вечара зноў прыпала мая чарга дзяжурыць. Ледзь толькі я сеў, як князь тут жа і пытаецца

– Ёсць там хто?

– Глінка, вяльможны княжа.

– Каторая гадзіна?

Я зірнуў, было палова дзевятай, але мы ўсе былі радыя, што ён раней звычайнага лёг адпачываць,

**Радзівіла, былі таленавітыя творы Г. Жавускага "Успаміны Сапліцы" і "Лістапад". Крашэўскі разумеў значэнне Жавускага як мастака, аднавіўшага гавэнду, форму, што захоўвала ад забыцця старыя шляхецкія звычаі, аднак падвергнуў яе вострай крытыцы за ідэалізацыю шляхты, за "культ сармацкіх грахоў". Сам ён выбірае іншы арыенцір – "Пана Тадэвуша" Міцкевіча, у якім сармацкая даўніна спалучаецца з сучасным патрыятызмам. Важным крокам Крашэўскага на гэтым шляху з'явіўся новы тып нарацыі ў яго аповесцях-гавэндах. Ролю наратараў выконваюць у іх слугі князя ваяводы – Глінка і стары Вішнеўскі, якія ведаюць свайго гаспадара не горш за яго самога, але самае цікавае, што сваёй ментальнасцю, спосабам мыслення наратары набліжаюцца да людзей XIX ст. і, нягледзячы на сваю адданасць (Глінка) і пяшчотную любоў (Вішнеўскі) да князя, ацэньваюць сармацкую рэчаіснасць падобна самому аўтару. Гэта, дарэчы, спрыяе і стылявому адзінству твораў.**

**Безумоўна, Крашэўскаму было цяжка пазбегнуць фактаграфічнасці "Успамінаў Сапліцы", і яго Пане Каханку шмат у чым нагадвае вобраз Радзівіла, створанага Жавускім, а таксама К. Вуйціцкім, І. Ходзькам і іншымі аўтарамі гавэндаў. Арыгінал з арыгіналаў, жартаўнік, дабрадзей і свайго роду божышча шляхты, патрыёт і разам з тым фанабэрысты скандаліст, арганізатар несправядлівых наездаў, распуснік, зласлівы насмешнік (як ні сцярогся кароль Панятоўскі радзівілавых "фінфаў", усё ж такі стаў іх ахвярай)... У той самы час матывацыя ўчынкаў князя ваяводы ў Крашэўскага**





выцягнуўся, засне і набярэ сілы; я думаў, што не зграшу, калі крыху прыспешу гадзіннік. І я сказаў, што дзевяць.

– Як ён цяпер, той час, ляціць, – пачаў ён, дауней, пане каханку, ого, ездзіў і на ра́ку і на слімáку, а цяпер вось крылы сабе прыстроіў Гм! а што на двары?

– Крыху прасвятляецца

– З якога боку?

Адказваць было цяжка, бо князь не любіў, калі яму хто не дагаджаўся веданнем, асабліва калі заходзілася пра пару і неба, ён заўсёды казаў, што шляхціц як жаўнер, дзень і ноч павінен ведаць, што на небе робіцца, адкуль вецер і якія там ходзяць хмары І я пальнуў па памяці, што з захаду, бо ў нас амаль усё і заўсёды ідзе з захаду, і слота і пагода.

– А яно ж бо й няблага б, – сказаў, – але ты, Глінка, мабыць, не ведаеш, дзе ў Славацічах захад? трэба было папытацца ў жыдоў, яны ўсё ведаюць.

– Але ж я ведаю, вяльможны княжа

– На здароўе табе, пане каханку.

Калі ён гаварыў гэта, я заўважыў у голасе перамену, як бы пamацнеў, як бы з гарачкі І соп мацней Праз хвіліну зноў пытаецца

– Што кажаш? не чую!

– Я і не адзываўся, вяльможны княжа, – шапнуў я ціха.

– То ж я, мусіць, задрамаў

– Не, вяльможны княжа

Бо то ж вы цяпер, пане каханку, усе лежні і спёхі, вочы вам ад пярэсыпу пазарасталі гэ?

– Я нічога не кажу, вяльможны княжа.

– А чаму ж ты не боронішся, пане каханку, – спытаўся ён, крыху ўсміхнуўшыся, – га?

Я і сам не ведаў, што яму на тое адказаць, ды тут прыйшло ў галаву што мы не жаўнеры, і што сапсавала нас добрасць княжая

У голасе чулася нейкая сіла, якой я даўно ўжо ў ім не заўважаў Яно б мяне і парадавала, калі б мне не здалося, што ў яго ўсё-такі гарачка, асабліва таму, што яна заўсёды збіралася нападвечар, паводле фізікаў гэта нядобры знак.

Ён уздыхнуў, паляпаўшы пяцярнёй па грудзях.

аўтара будзе перакладзены на 9 моў і прынясе яму еўрапейскую вядомасць. З 1836 г пачынаецца шматгадовае (да 1850 г.) супрацоўніцтва з папулярным кансерватыўным часопісам "Tygodnik Petersburski" (у раздзелах рэцэнзій і літаратурнай крытыкі, артыкулаў і аповедаў пра мастацтва, культуру, навуку)

Хадайнічае аб пасадзе выкладчыка польскай мовы ў Кіеўскім універсітэце Напісаў лепшую сярод прэтэндэнтаў працу, але кафедры не атрымлівае з прычыны палітычнай ненадзейнасці. На станоўчае рашэнне камісіі накладвае забарону генерал-губернатар Вільні Далгарукаў Не дапамагае прысвячэнне, якое зрабіў малады літаратар губернатару на І томе сваёй гістарычнай працы аб Вільні (у друку з'явіцца пазней, як і іншыя творы, напісаныя ў гэты час)

***Валынскі перыяд***

**1837–1839** – арэндуе маёнтак Амельна ў Луцкім павеце на Валыні

У часопісе "Tygodnik Petersburski" публікуе літаратурна-краязнаўчы нарыс "Пінск і Піншчына", які перадрукоўваецца іншымі часопісамі. Вялікі розгалас набывае артыкул "Як робяцца новыя кнігі са старых. Пра літаратурны крадзеж" Завяршае працу над зборнікам артыкулаў, эсэ, апавяданняў "Літаратурныя, фантастычныя і гістарычныя вандраванні" ў 3-х тамах.

**адметная, і адметнасць гэтая абумоўліваецца ў прыватнасці спалучэннем гавэнды і рамана з камедыяй (нагадаем, што Пане Каханку спачатку быў дзеючай асобай камедый Крашэўскага і ўжо пазней перайшоў у прозу). Крашэўскі адмаўляе канцэпцыю Радзівіла ў творах Жавускага як нейкага кангламерату экстравагантных рысаў, у сукупнасці сваёй хоць і цікавых, і маляўнічых, але ствараючых уражанне грубай і хаатычнай сармацкай натуры. Ён даручае свайму герою ролю, прадвызначаную самой індывідуальнасцю першага "коміка" Рэчы Паспалітай. Гэта роля фантазёра, але не толькі Мюнхаўзена, хоць да яе вельмі схільны Пане Каханку. Ён часта "ўпадае ў свой звычайны гумар" і тады распавядае анекдатычныя гісторыі пра тое, як разбагацеў, служачы кухарам у нейкай пані Галэцкай, а потым варыў страву карсарам і таму не памёр з голаду... і як карсары вылавілі яго ў моры невадам, а ён уцёк ад іх у арэхавай шкарлупіне... прыдумвае свой раман з сірэнай, сватанне да князёўны на выспе, прыгоды ў Тунісе і Марока, дзе ніколі не быў, падарожжы на неба... Сваёй дасціпнай хлуснёй князь імкнецца ўцячы ад нелюбімай ім рэчаіснасці, ад асабістых няўдач і стварае свой уласны, фантастычны свет, у якім напэўна не адчувае сябе так адзінока, як у сапраўдным жыцці (чаго, напрыклад, варта прызнанне магната, што толькі адна сука Нэпта любіла яго, "не патрабуючы ні рэнт, ні якіх запісаў"). Можа, таму Пане Каханку і не цярпіць самоты, нуды і адчувае сябе ў сваёй стыхіі толькі тады, калі вакол кіпіць "эмоцыі", калі занадта весела і шумна.**

**Упадабаная тэма "фантазіяў" князя ваяводы – паляўнічая:**

Жэніцца з Зоф'яй Вароніч (1838) і едзе з ёй у Варшаву, па дарозе наведваючы Доўгае і Раманава. У выніку сустрэчы ў Варшаве з мастаком Януарам Сухадольскім з'яўляецца першы ў Польшчы сучасны рэпартаж-інтэрв'ю "Майстэрня Сухадольскага"

Выпускае два тамы "Паэзіі" ў Вільні. Пачынае друкаваць публіцыстычныя цыклы "Асмадэй" (1838–39) і "Маральныя хваробы XIX стагоддзя" (1838–41), якія выклікалі пратэст у дэмакратычным асяроддзі, але славянафільскія перакананні аўтара не адпавядалі афіцыйнаму руска-манархічнаму славянафільству, а былі звязаны з яго захапленнем польска-беларускай гісторыяй, этнаграфіяй, фальклорам. У познаньскім выдавецтве выходзіць раман "Паэт і свет" (1839)

Нараджаецца дачка Канстанцыя

**1840** – набывае за грошы з жонкінага пасагу невялікі маёнтак Грудэк недалёка ад Луцка. Вызваляе прыгонных ад цяжкіх павіннасцяў – "дарамшчызны" і "даніны".

У віленскім друку выходзяць раманы "Усё жыццё бедная", "Пан Твардоўскі", а таксама "Успаміны пра Палессе, Валынь і Літву" ў 2-х тамах, напісаныя ў жанры падарожжаў (наступныя выданні будуць ілюстраваныя малюнкамі аўтара), і першая песня эпічнай паэмы "Анафіеляс" (з літоўскіх паданняў) – "Віталяраўда" Другая песня – "Міндоўг"

– А ці не клікнуць Фінка? – спытаўся я

Фінке быў з намі ў дарозе за доктара.

– А на якое ліха? пане каханку! – буркнуў ён. – Ты думаеш, ён ведае больш за мяне і цябе? Памацае пульс, патрымае за руку, скажа паказаць язык, паківае галавой, скажа, што ўсё добра, – абы каб грошай далі. Што тыя дактары, што гэтыя, пане каханку; ды хоць бы той табе Тралес, якога на вагу золата купляць давялося, а аслом асёл, пане каханку, немец, слова табе па-польску не скажа, як жа ён польскую хваробу лекаваць мае?

Ці князю не зашкодзіць так многа гаварыць нанач? – папярэдзіў я.

– Нешта ўжо й ты доктарам зрабіўся? – абурыўся ён, – табе што да таго? гэ! дзюбаў бы сабе носам пад печчу ды не звягаў

– Ай ды не, вяльможны княжа, я з клопату папытаўся.

– Бачылі вы яго, які клапатлівы. Маўчаў бы, пане каханку

Ён уздыхнуў, падпёрся кулаком і замоўк. Я ўгледзеўся ў яго, вачэй не заплюшчыў, – але былі як бы замглёныя, нерухомыя, хоць на твары нейкае там жыццё іграла.

– Спіш, Глінка? – спытаўся праз хвіліну.

– Не, вяльможны княжа, мяне ўвогуле сон не бярэ, у дарозе надрамаўся на запас, мне цяпер хоць цэлую ноч сядзі, і нічога.

– Каторая гадзіна?

Было па дзевятай, але аднаго разу схлусіўшы, я ўжо мусіў апярэджваць гадзіннік.

– Палова дзесятай, вяльможны княжа

– Яно ўжо і спаці ісці выпадала б, кажуць бо, што сон да апоўначы самы моцны, – забурчаў князь. – Але хлусяць. ды і спаць не хочацца Які сёння дзень?

Серада.

– Ано, праўда, пост! шчупак быў па-жыдоўску.

Відаць, пачуўшы з сеняў нашу гутарку, Фінке ўвайшоў, дзверы лёгка рыпнулі – я адразу пазнаў яго па хадзе.

– Ты, эскулапе, азваўся князь, – мусіць, хочаш загнаць мяне ў ложак. Дык жа не! Як толькі лягу, тут мне і пачынае ў грудзях душыць. Ідзі сабе з Панам Богам, я сядзецьму, а там і задрамлю.

**вядома, з якім размахам наладжвалася паляванне ў Налібоцкай пушчы, а яшчэ – марская ("венецкая"). Нялішне тут згадаць, што каля двух гадоў туляўся князь па Адрыятыцы як палітычны выгнаннік, барскі канфедэрат... А таму слушна зазначыць, што сярод ананімных стваральнікаў фальклорнай спадчыны пра Радзівіла быў і такі, імя якога мы ведаем дакладна: гэта сам Радзівіл.**

**Часам герой Крашэўскага выконвае ролю нейкага Дон-Кіхота, які пераносіць свае выдумкі і ілюзіі ў рэчаіснасць: стварае ідылічную вёску ў Альбе, прадмесці Нясвіжа, будуе флот, для якога выкопваецца цэлая сістэма каналаў і сажалак, а падчас візіту караля дэманструе "забойную" сцэну "Узяцце Гібралтара англічанамі". Немагчыма ўявіць сармацкага Дон-Кіхота без санчапансаўскага шанавання кухань і вінных паграбоў. Па-свойму тлумачыць Радзівіл цвярозы лад жыцця караля: "Чаго гэты чалавек варты, калі з ім нават напіцца нельга! Значыць, баіцца развязаць сабе язык. Калі б ён быў шчырым, то чаркі не пазбягаў бы".**

**Крашэўскі надае свайму герою і якасці "плутаўскога" характару. Пане Каханку не можа жыць без карнавала, імправізацыі, розыгрышу, сам цягнецца да махляроў, блазнаў, жартаўнікоў. Яны дапамагаюць князю рэалізаваць ледзь не галоўны яго прынцып – ставіцца да жыцця як да тэатра. Калі набліжаныя засцерагаюць Радзівіла ад шляхціца, які хваліцца прывезенай са Стамбула бутэлькай віна, уцалелай з каўчэга Ноя, гавораць, што той падобны на махляра, то ў адказ чуюць наступнае: "Напэўна! а махляры на свеце непатрэбныя?.. што вам, пане каханку,**





Фінке тым часам падышоў і, узяўшы яго за руку, трымаў, мацаючы пульс Князь, хоць і нічога не бачыў, па звычцы павярнуў да яго вочы.

– Княжа, можа б яно, ці не выпіў ліманады? – спытаўся Фінке.

– Ага, зараз, дажыдайся, калі ж ты ў яе салетру сыплеш, абурыўся ваявода. – Гэта, пане каханку, небяспечная рэч. Мяне гарачка спаліла на вуголле, а дадай да вугалю салетры вось табе і шчыры порах будзе Ад любой свечкі, пане каханку, як бабахне, і Радзівіл – пырх! – у чыстыя нябёсы!..

Фінке зарагатаў, а я за ім следам.

– Балазе табе смяяцца, – падхапіў князь, – а я ведаў аднаго гішпана, дык у яго з такое прычыны трыбух лопнуў, ледзьве ж яму яго потым зашылі Частку кішак такі страціў небарака, а што з'есць, бывала, так і вырыгне.

Фінке здзівіўся, а я радаваўся, што князь, як раней, пачаў свае штукі кроіць, а даўно ж таго не было ўжо, але змеціў, што твар у доктара спахмурнеў. Ён падаў ліманаду.

– Ліманада без салетры, вяльможны княжа.

– Ну дык дай! абы адчапіўся! – ён выпіў нават неяк прагна і, аддаючы шклянку, сказаў·

– Аднак жа, Глінка, свечку трымай далей ад мяне Фінке без салетры кроку табе не ступіць, так і рупіць яму лаціны ва ўсё намяшаць.

Доктар адступіўся на некалькі крокаў.

– Ідзі спаць, эскулапе, пане каханку, – дадаў князь.

Фінке паціснуў плячыма.

– Вяльможны княжа, пасля такой далеглівай дарогі ранні сон дужа ўздаровіўся б, – дадаў ён, – перад поўначчу сон самы моцны.

– Чуў, чуў, – сказаў князь, не навіна. Ідзі ж і мацуйся ім сам, а мне не хочацца. Вы гэтага ад курэй навучыліся, а курыца – не чалавек. . Дабранач табе! Глінка, – дадаў ён, звяртаючыся да мяне, – папрасі пана доктара за дзверы, пане каханку

Фінке выйшаў чырвоны, я правёў яго за парог

– У князя невялікая гарачка, – шапнуў ён мне, – калі папросіць піць, дык ліманада прыгатавана. Не давай яму лішне гаварыць, бо са сну выб'ецца.

(1842), трэцяя – "Баі Вітаўта" (1844)

**1841** – знаходзячыся ў Грудку, пачынае рэдагаваць часопіс "Athenaeum" (яго раздзелы: гісторыя, літаратура, мастацтва, філасофія, рознае), які выдае ў Вільні Глюксберг. Прыцягвае да супрацоўніцтва шмат літаратараў розных поглядаў, у тым ліку М. Грабоўскага і Г Жавускага. З Крашэўскім супрацоўнічаюць выхадцы з беларускіх зямель – Пляцыд Янкоўскі, Яўстафій Тышкевіч, Рамуальд Падбярэскі, Зарыян Далэнга-Хадакоўскі, Юзаф Ярашэвіч. У яго часопісе дэбютуе Уладзіслаў Сыракомля, друкуюцца Адам Плуг (псеўданім Антонія Пяткевіча), Ян Баршчэўскі, Эдвард Жалігоўскі (псеўданім – Антон Сава), Аляксандр Гроза, Тадэвуш Лада-Заблоцкі

Старонкі "Athenaeum" змяшчаюць фрагменты паэзіі М. Лермантава, прозы М. Гогаля, ранняй лірыкі Ц.К. Норвіда, празаічных твораў Ю. Кажанёўскага, Ц. Баркоўскага і інш. У гістарычным і археалагічным матэрыяле "Athenaeum" – генезіс шматлікіх гістарычных раманаў Крашэўскага. І тут надрукавана яго аповесць "Гісторыя Саўкі" (увойдзе ў склад рамана "Чарадзейны ліхтар")

Асобным выданнем выходзяць творы, сярод якіх – аповесць "Гісторыя пра бледную дзяўчыну з-пад Вострай Брамы", гістарычны раман "Апошняя з слуцкіх князёў", а таксама па тэорыі і крытыцы літаратуры "Літаратур-

**аб людзях меркаваць, дайце мне яго сюды... я нюхам яго пазнаю". Радзівіл сам шукае тых, з кім можа паспаборнічаць у хітрасці і выдумцы. Яго зыходнае палажэнне – у жыцці-тэатры лепш іграць камедыю ці фарс, чым драму альбо трагедыю. Але жыццё – гэта універсальны тэатр, і акцёр у ім павінен умець усё, а яшчэ... ён ніколі не маўчыць, нават перад смерцю, толькі голас становіцца цішэйшым...**

**Кавалькада з аслеплым, смяротна хворым Пане Каханку рухаецца ў бок Бялай Падляскай. Князь і раней любіў адпачываць у яе замку. Цяпер жа ён едзе на вечны спакой... У аповесці "Апошнія хвіліны князя ваяводы" прэвалюе меланхалічны настрой. Праўда, Пане Каханку і ў гэтай трагічнай сітуацыі працягвае выконваць сваю галоўную ролю фантазёра-коміка: спрабуе быць вясёлым, насмешлівым, распавядаць гісторыі... Але яго гумар авеяны смуткам, і замест злой насмешкі з людзей з'явілася самаіронія. Як ніколі раней, віленскі ваявода набліжаецца да пазнання самога сябе ў працэсе паглыбленай аўтарэфлексіі. І калі ён застаецца блазнам, то цяпер гэта філасофскі блазан, у стылі Шэкспіра.**

**"Якое жыццё, такая і смерць", – разважае Радзівіл згодна з чалавечай мудрасцю. А жыццё яго можна рэканструяваць па ўрыўкавых успамінах, мроях, згадках – ужо не коміка, нявжо і трагічнага, не акцёра наогул, не п'яніцы, не злачынца, а чалавека, стомленага і знямоглага целам, але захаваўшага душу. У непрытомным стане князь гаворыць, нібы хоча пакаяцца: "Mea culpa, mea culpa! Хоць Радзівіл, але я чалавек, і грэшны... Я быў сляпым, але шукаў дарогу, толькі непачцівыя**

ныя эцюды" ("Новыя літаратурныя эцюды" з'явяцца ў 1843 г )

Нараджаецца сын Ян.

**1842–1843** – выходзяць з друку "Карціны з жыцця і падарожжаў" у 2-х тамах (тут нарысы "Свіслач", "Пружаны. Карпінські", "Драгічын. Падарожжа па карчомных шыбах" і інш.), дапоўненае двухтомнае выданне "Паэзіі", чатырохтомная гістарычная праца "Вільня ад яе пачатку да 1750 года"

У чэрвені 1843 г. адпраўляецца ў Адэсу, заязджае да крэўных у Доўгае, а адтуль – у Жыровічы да сябра Пляцыда Янкоўскага (літ псеўданім John of Dycalp) Уражанні ад падарожжа, якое доўжылася 3 месяцы, будуць занатаваныя ва "Успамінах пра Адэсу, Едысан і Буджак" (1845–46)

У Вільні выходзяць "Складзены раман", напісаны ў сааўтарстве з Янкоўскім, "Уляна. Палеская аповесць" – першая і адна з лепшых у "сялянскім цыкле" аповесцяў, у Варшаве – вялікі сацыяльны раман "Чарадзейны ліхтар. Карціны нашых часоў" у 2-х частках і 8-мі тамах (1843–44), які распачынае вострую крытыку шляхты і арыстакратыі.

Нараджаецца сын Францішак.

**1844–1846** – займаецца цалкам літаратурнай дзейнасцю, перадаўшы вядзенне гаспадаркі жонцы. Працягвае рэдагаваць "Athenaeum", зведваючы вялікія цяжкасці, асабліва фінансавыя. Глюксберг плаціў Крашэўскаму па 100 дукатаў за 6 тамоў Супрацоўнікі ганарараў не атрымлівалі У 1845 г пісаў Падвысоцкаму· "Стан літаратуры з'яўляецца адбіткам сацыяльнага становішча. Прычыны абыякавасці да яе трэба шукаць глыбей. "

Усё больш аддаляецца ад пецярбургскай каталіцкай "катэрыі" – Пшэцлаўскага, Грабоўскага, Галавіньскага, Жавускага, якія мелі намер падпарадкаваць сабе, сваёй ідэалогіі "Athenaeum"

Друкуе 11 твораў, між іншым гістарычныя раманы "Maleparta" (з падзеяў XVIII ст ) у 1844 г., "Зыгмунтоўскія часы" (падзеі 1572 г.) у 1845 г , а таксама раман з рысамі аўтабіяграфізму – "Дзённікі незнаёмага" ў 1846 г. Друкуе свае пераклады ўрыўкаў з філасофскіх прац Гегеля і сваю працу "Ідэя сістэмы Гегеля" (1845)

У 1846 г як вядомы пісьменнік двойчы наведвае Варшаву і зазнае цёплы прыём з боку мясцовых літаратурных сфераў, асабліва рэдакцыі "Biblioteki Warszawskiej"

**1847** – знаходзячыся на кантрактовым кірмашы ў Дубне, сустракаецца з Бальзакам, які вяртаўся ў Парыж ад Э Ганскай.

З жніўня да лістапада праходзіць лячэнне ў Друскеніках Свой доўгі (больш за месяц) пераезд, які пралягаў праз шматлікія мястэчкі і гарады, у прыватнасці праз Кобрын, Пружаны, Свіслач, Гродна, апіша ў літаратурна-медыцынскім нарысе "Друскенікі" (1848)

Даведаўшыся пра смерць Яна Чачота, стварае верш у яго памяць.

Выходзяць раманы "Сфінкс" (у цэнтры – праблема героя-мастака), "Мільён пасагу" (сучасная сацыяльна-бытавая тэматыка),

Ледзь толькі дзверы зачыніліся, князь спытаўся

– Пайшоў шлындра?

– Пайшоў, вяльможны княжа.

– Сядай і не спі, а слухай сюды, бо мне хочацца патрызніць. А ўжо ж такі трэба кагосьці мець, каб слухаў

Сказаўшы, тут жа і замоўк адразу; перамяніў толькі руку, абаперся на другую і бурчаў нешта невыразнае. Доўжылася гэта нешта з чвэрць гадзіны. Якраз бо тады куры, не ведаю чым спалоханыя, да пары трывожна закудахталі.

– Гэ? што там такога? ужо і куры запяялі?– ускрыкнуў князь як бы разбуджаны. – Глянь-но на гадзіннік, што ім там зноў прыснілася? Раніцай скажаш Стшалкоўскай, каб мне гэтых інсургентаў усіх на калодку. Насуперак закону Божаму спяваюць да поўначы! А гвалтачкі, пане каханку! І што ж гэта мне за парода курэй такая, што без пары гарлаць сабе дазваляюць? І што тут д'яблы скажуць? а д'яблаў таксамака ж наклікаць не гадзіцца. Глінка! не спіш? – спытаўся.

– Ай не, вяльможны княжа.

– Хвалю, хвалю. А свечкі дзе, пане каханку?

– За шырмай, вяльможны княжа

– Утры ім насы, бо, пэўна, на іх грыбы панарасталі Толькі не пальцамі

Я засмяяўся

Але ж ёсць шчэпчыкі, вяльможны княжа, і нават срэбныя, – сказаў я, ідучы за шырму.

– А што ж бо ты сабе думаў, у Радзівіла павінны быць жалезныя альбо медныя? На што на што, а на шчэпцы нас яшчэ сталася, хоць і высмакталі нас дужа Але датуль шчэпцы, пакуль мяне яны ўсё гэтаператопяць і патопяць.

Ён пачаў біць сябе ў грудзі і цяжка ўздыхаць.

– Княжа, можа ліманады? – спытаўся я

Ён даў мне знак рукою, што не хоча.

Праз хвіліну раптам падняў галаву і выпрастаўся, як бы нешта ўбачыў перад сабою Нібы ад святла засланіўся далонямі і ціха трывожліва шапнуў·

– Глінка, хто там стаіць?

– Няма нікога, толькі я, вяльможны княжа, – сказаў я

– Бо ў цябе вачэй няма, пане каханку! – буркнуў ён і замоўк, апаўшы на крэсле, але доўга яшчэ ўглядваўся ў адно месца.

Незадоўга пасля нейкім дзіўным голасам пачаў, якбы да кагосьці, каго я не бачыў

– Я ведаю цябе, ведаю! ты такі, як на карціне ў Нясвіжы, але чаго ж ты хочаш? Ці ўжо прабіла гадзіну

Га? Не. Мне яшчэ трэба прасіць прабачэння, але гэтага мне не дадзена

Ты прыйшоў па рахунак сумлення?

. Што ж бо ёсць больш за вас. двух, трох?!

Во, яшчэ і Чорны, Ліздэйка Рыжы .. Багуслаў, Мікалай; колькі вас тут панапрыходзіла!. але гадзіна мая яшчэ не прабіла Я абяцаўся спыніцца ў Белай – і ўжо павінна прыйсці сюды тая, перад якою я вінаваты. Пан Бог прышле яе. Хацеў бы яшчэ пажыць, пакуль хопіць тых ста тысяч, якія сейм дазволіў...

Чаго ж вы галавой ківаеце? можа, думаеце, сейм дарма галасаваў і што нічога не выйдзе?

Страх мяне браў, калі я чуў гэты голас, хацелася перапыніць яго. Я падышоў, пакашліваючы і шаркаючы нагамі.

– Вяльможны княжа, нікога няма.

Той разгневана махнуў рукою, быццам адпіхваў, і голасна крыкнуў мне

– Маўчаць, пане каханку. .

. .Ты сляпы. Вунь жа Ліздэйка стаіць, арцыкапелан, сівая барада па калені, у руцэ пастарал, на галаве інфула. Пакланіся яму .

У голасе як бы слёзы, пачаў біць сябе ў грудзі

– *Mea culpa! mea culpa!* Хоць я і Радзівіл, але чалавек, і грэшны чалавек. Выпала мне нарадзіцца на ліхія часы Праўда, я часта быў сляпы, пане каханку, арцыкапелане, за тое, мабыць, Пан Бог і пакараў мяне слепатою ў апошнія дні мае, калі сама больш хацелася б дзівіцца на свет белы, а вочы не свецяць Сляпы я быў, але ж дарогі шукаў, а непачцівыя людзі ашуквалі мяне, паказвалі няправільную. Я заўсёды хацеў вызвалення краю, хто ж мог ведаць, у кім яно і дзе было?

Ён хваравіта енкнуў, а мне валасы на галаве ўставалі і мароз па скуры шоргаў

– Не глядзіце так на мяне! След вам было нарадзіцца не за часу Ягелаў і Жыгімонтаў, а за Эканамчука, хадзілі

**людзі блытана мне паказвалі яе. Заўсёды прагнуў выратавання краю, але хто ж мог ведаць, з кім яно і дзе было?" У гэтым пакаянні згадваюцца як гераічныя моманты жыцця Радзівіла, што лучацца з Барскай канфедэрацыяй, так і менш дастойныя – радамскія. "Я за ўсё заплаціў з лішкам: грашыма, крывёй, слязьмі, бадзяннем, бядой", – працягвае Пане Каханку сваю споведзь. Але яшчэ большую цану ён заплаціў за свой самы вялікі грэх у жыцці, заплаціў няўдалым асабістым лёсам, і зараз адыходзіць на той свет, не пакінуўшы пасля сябе ніводнага нашчадка. Гэта расплата за крыўду, што нанёс князь адзінай жанчыне, якую пакахаў па-сапраўднаму, за тое, што прымусіў пакутаваць і Феліцыю, і яе бацьку, і жаніха. Але цяжка пакутаваў і сам вінаваты...**

**Як сімвал божага даравання князю ваяводзе – з'яўленне да яго ў перадсмяротныя хвіліны Феліцыі: доўга, усё жыццё ён чакаў гэтага. Апошнія словы "філасофскага блазна" – гэта жыццёвы прынцып, які ён пакідае ў спадчыну: "Калі за грахі прыйдзе кара, пане каханку, умейце насіць у сабе няшчасце так, як шчасця насіць не ўмелі! Толькі не згінацца, толькі не падаць у гразь. Лахманы могуць стаць пурпурам, лепш дзіркі, чым плямы!" У такой нетрадыцыйнай трактоўцы героя праявіліся арыгінальнасць і смеласць Крашэўскага. Яго Пане Каханку далёкі ад стандарта ідэальнага героя, але не пазбаўлены станоўчых рысаў і аўтарскай сімпатыі. Бо хоць ён Радзівіл, але чалавек...**

# "ЖЫВУ МАІМ ЧАСАМ..."

**Разнастайнасць таленту і выключная, амаль фантастычная працавітасць – своеасаблівыя сімвалы асобы Ю.І. Крашэўскага, за якім трывала замацаваліся азначэнні: "чалавек-інстытут", "тытан працы". Сучаснікі Крашэўскага прадвызначалі яму месца, якое апусцела пасля паэтаў-прарокаў: Міцкевіча, Славацкага, Красіньскага, і прызналі празаіка (што само па сабе было немагчыма ў рамантычную паэтычную эпоху) сваім духоўным лідэрам пасля 1863 г. На літаратурным небасхіле, як і раней, мацней за ўсе іншыя свяцілася зорка "вялікага Адама", і вось побач з ёй на нейкі час змясцілася новая, няхай і не такая яскравая, але ізноў ліцвінская. Прывілейнае стновішча Крашэўскага абумоўлівалася не толькі вялікай колькасцю напісаных ім твораў і мастацкім узроўнем іх значнай часткі: яго творчасць дасканала выразіла дух эпохі. Усе праблемы XIX ст. – ідэйныя, сацыяльныя, палітычныя – адлюстраваліся ў яго творах, увасобіліся ў характарах, лёсах, сітуацыях... Да Крашэўскага з павагай ставіліся Гюго, Герцэн, Тургенеў... У яго вучыліся Ажэшка, Сянкевіч, Прус... Яго ўплыў зазнаў Янка Купала.**

**На працягу сваёй бесперапыннай, неаслабнай 57-гадовай**

"сялянскія" аповесці "Буднік" і "Астап Бардарчук"

Бацькі пісьменніка пераязджаюць у Раманава. Доўгае атрымлівае ў спадчыну брат Люцыян.

**1848–1850** – прадае Грудэк і купляе непадалёк ад яго Губін, у якім будзе жыць да 1853 г

Шмат клопатаў з часопісам "Athenaeum" Прадаўжае выдаваць яго на свае ўласныя (запазычаныя) грошы.

Нараджаецца другая дачка, Аўгуста Марыя (1849)

У 1850 г. гаспадарку перадае аканому, сам займаецца галоўным чынам літаратурай.

Улетку пісьменніка наведвае Сыракомля, аб чым Крашэўскі пісаў у сваіх лістах. "Пачцівы паэт праехаў на паштовых больш за трыццаць міль, каб працягнуць мне руку Пазнаёміўся з ім і сумеў ацаніць яго простую, сімпатычную душу і талент" "Гэта добры, вельмі добры хлопец! Поўны запалу да працы. маўчалівы і паглыблены ў сябе, як паэт, працавіты, якіх мала"

Друкуе ў Львове раман "Асцярожна з агнём" (1849). Друк рамана "Дзівакі" ў "Tygodniku Petersburskim" (1848–50) спыняецца. аўтар канчаткова парывае з гэтым часопісам. У Вільні выходзіць чарговая аповесць з "сялянскага цыкла" "Ярына" (1850)

**1851–1852** – атрымлівае запрашэнне на кафедру польскай і сусветнай літаратуры ў Ягелонскі універсітэт Усё залежыць ад царскіх уладаў, бо Крашэўскі – расійскі падданы, а яны не даюць

б, як і я, з завязанымі вачыма па гэтым лабірынце Куды ні павернецца чалавек, урвішчы. .

.І не засыпаць было іх радзівілаўскім золатам, і радзівілаўскімі слязьмі не заліць ..

. Цэлы полк даў дзяржаве і гарматы, хай хоць тыя возьмуць, што ў Нясвіжы

Ён прымоўк, а праз хвіліну зноў:

– Кароль, Ягамосць прускі, стрыечнік, праўда, але я ніводнаму немцу не веру Вялікі палітык, на блізір удае, што няма ладу як нас любіць. Але дзе ж там можа любіць авечку той, хто ёй бакі павыгрызаў! Чалавек гладкі і ветлівы, ананасамі мяне карміць заляцаўся ва Ўроцлаве, а мне лепей дай польскіх салоных гуркоў, чым прускіх ананасаў. .

Ён прыклаў дрыготлівую руку да лоба і глядзеў, ледзь бачыўся мне ў змроку.

– Валадковіч! а ты там што робіш за імі ў лісінай курцэ? на паляванне ў Налібокі выбраўся? чаго прыйшоў? па мяне? Не магу, прыяцельку, пане каханку, як Бога кохам, не магу Ты ж гэта добра ведаеш... *ад яе* няма даравання, а без яго на суд паўстаць не магу. Куры тыя, што мне спяваць павінны, не пяялі яшчэ... Чакай, каханнейка! Ужо нядоўга, ужо ж не забаўлюся.

Пасля такіх намогаў галава яго апала, а я, слухаючы, дрыжаў, бо і мне пачалі мроіцца ў мораку нейкія цені. А найбольш уразіла, што аж два разы князь згадаў пра дараванне, якога хацеў *ад яе.* Я галаву сабе круціў – ад каго?

А тады як крыкне·

– Глінка! спіш?

Аж я падхапіўся

– Ды не, вяльможны княжа!

– Бачыў іх?

– Нікога тут не было

– Так! Табе нікога, а мне кога Не табе глядзець у іх аблічны, не да цябе яны прыходзілі, і вачам тваім яны недаступныя

– А яе бачыў? – дадаў – Такая ж прыгожая, як і была, такая ж ганарыстая, што і прыступу няма! Не даравала мне, пане каханку! не! я павінен чакаць, і душа не пакіне цела, пакуль яна з мяне грэху не здыме.

**творчай дзейнасці Крашэўскі быў крыніцай усебаковых ведаў, у пэўным сэнсе універсітэтам для чытачоў, якім дапамагаў зразумець сучаснасць і спазнаць гістарычную мінуўшчыну (ва ўмовах забароны гістарычнай інфармацыі ў школах). Ён не зрабіў адкрыццяў у галіне эстэтыкі і не стварыў новых формаў, але меў дастаткова таленту і праніклівасці, каб выбіраць за ўзор лепшае з ужо дасягнутага, развіваць яго і актуалізаваць на нацыянальнай глебе. Адным з першых сярод сваіх суайчыннікаў Крашэўскі ўсвядоміў ролю празаічных жанраў у мастацкім пазнанні рэчаіснасці і ў працэсе дэмакратызацыі літаратуры, быў ініцыятарам шматлікіх тэарэтычных дыскусій аб рамане. Крашэўскі – аўтар першага рэалістычнага твора ў польскай літаратуры (аповесць "Гісторыя Саўкі"), першага сацыяльнага рамана ("Чарадзейны ліхтар"). Як ніхто іншы, ён улоўліваў актуальнасць тэмы, хутка распрацоўваў і звычайна ўжо завяршаў яе, калі іншыя толькі пачыналі, а ў падыходзе да сялянскай тэматыкі апярэдзіў і прадстаўнікоў іншых літаратур: рускай (Грыгаровіч, Тургенеў), французскай (Бальзак, Жорж Санд).**

**Крашэўскі бліскуча валодаў нялёгкім майстэрствам перакладу грамадскіх канфліктаў на мову аповесцяў і раманаў, трактаваў праблемы заглыблена і ў той самы час даступна для шырокіх колаў чытачоў. І гэта было не апошняй прычынай яго надзвычайнай папулярнасці. Не менш за 30 раманаў сталі сапраўднымі бестселерамі пры жыцці аўтара. Пісьменнік стварыў багатую і разнастайную галерэю партрэтаў, што ў пэўнай ступені было звязана з эпічнай шырынёй яго погляду**





Уздыхнуў Мне здалося нават, што слёзы па твары пабеглі Я не ведаў, што рабіць, доктар наказаў, каб князь не гаварыў шмат, а перапыняць яго не выпадала. Калі быў крыху запнуўся, я падумаў, што, можа, на тым і скончыць, і падаў яму шклянку з ліманадай.

Дакрануўшыся да яе рукою, князь схамянуўся.

– Што гэта? труцізны даеш?

– Ліманада, вяльможны княжа.

Ён лёгка павёў плячыма, здавалася, вяртаўся да памяці.

– А, так! з'ехаў на аўсяны ўзварчык і на ліманаду, на лацінскую кухню і на валошскі сляпок, княжа ваявода, дажыўся! Гэта – бабам Каб тое далі мне старога віна, адразу палепшала б, але віно самому доктару ў смак. Ліманаду толькі валохі спажываюць, а яны ж усе садаміты, адчапіся ты мне са сваёй ліманадай і марш пад печ.

Я паслухмяна адступіўся, і ўжо праз хвіліну якую быў пэўны, што яго на сон забірала. Абаперышыся на руку, князь заплюшчыў вочы і спачываў, было толькі чуваць, як цяжка дыхаў. Тады толькі зноў лёгкі пошумак дайшоў да маіх вушэй, князь нішкам гаварыў сам з сабою.

– Зноў прыйшлі! Маёй скрухі мус вам! Вінаваты, вінаваты, такі мая віна, мая вялікая віна, продачкі, бацечкі, пабожны біскупе міладайнічку, і ты, Ежы, пурпурніча рымскі, святы войча, і ты, княжа канцлер, і ўсе вы, што запабеглі мяне на свеце, *mea culpa!* Спавядаюся перад вамі Жыццё было вой якое грэшнае, але ж, пане каханку, я нарадзіўся пад слотай .. па гразі ступаць і не загразнуць гэта хіба анёльская рэч, у мяне крылаў не было, я гразь па калені *Mea culpa!*

.. Я за ўсё заплаціў з лішкам грашыма, крывёю, слязьмі, туляннем-бадзяннем, гаротаю, пане каханку Пасля Барскай досыць нагледзеўся на трагедыю, якая пачвартавала нас, і гэтага вы мне не залічваеце? Радзівіл пасля Эканамчуку мусіў кланяцца і ў руку яму цалаваць, пане каханку, і Чартарыйскіх да грудзей ціскаць мусіў!

. .І штогод пасля ішлі паразы і ўпакорванні. Якраз у час аслеп, каб не дзівіцца мне на чэзлыя рэшткі, пане каханку..

. Што мог, чым Бог успасобіў, тое і рабіў! У Альбе не

дазволу. Адмаўляюць і ў просьбе выехаць у Англію.

Выходзіць апошні нумар "Athenaeum" Пачынаецца супрацоўніцтва з ліберальным перыядычным выданнем "Gazeta Warszawska", рэдакцыя якой ладзіць у гонар Крашэўскага прыём на 150 асобаў

У Пецярбургу выходзіць бытавы раман "Камедыянты", а таксама раман "Апошні з Секяжыньскіх. Шляхецкая гісторыя" з прысвячэннем аўтара Сыракомлю.

**1853–1855** – аддае ў арэнду Губін і купляе дом у сталіцы Валынскай губерні Жытоміры. Пасля смерці бяздзетнай цёткі Урбаноўскай атрымлівае (фармальна – жонка) у спадчыну Кісялі на Кіеўшчыне – прыгожы панскі двор разам з абавязкам выплаты дзвюм сёстрам жонкі Хоць і быў Крашэўскі заможным памешчыкам, але мусіў пазычаць, і гэты доўг разам з выдаткамі на пасаг дачцэ Канстанцыі зацягнецца аж да дрэздэнскіх часоў... Кісялі застануцца ў спадчыну сыну Францішаку

Асобнымі выданнямі выходзяць раманы "Сямейныя інтарэсы" і "Залаты яблык" (абодва ў 1853), якія ўзнаўляюць побыт і норавы шляхецка-арыстакратычнага асяроддзя, і "Хата за вёскай (уключаная польскай крытыкай у "сялянскі цыкл"), якая зазнае шэраг перапрацовак для сцэны і будзе перакладзена на некалькі моў, у тым ліку на беларускую (Пятром Бітэлем у 1989 г.). Шмат з жыцця аўтара ў юнацкія і сту-

**(апісальнасць – уласцівасць яго стылю) і надавала творам ілюзію рэальнага жыцця. Да ўсіх сваіх герояў ён ставіўся з сімпатыяй і лаяльнасцю, умеў убачыць нешта чалавечае нават у такім персанажы, які выклікаў непрыязнасць. Мудры падыход да велічы і слабасці чалавека прынесіў Крашэўскаму новых прыхільнікаў. Яго літаральна закідвалі лістамі: пісалі з гарадоў і мястэчак, з шляхецкіх сядзібаў і вёсак, пісалі літаратары, настаўнікі, рамеснікі, сяляне, пісалі мужчыны і жанчыны... Гераіня аднаго фельетона, апублікаванага ў 1846 г., аматарка раманаў Крашэўскага, паставіла перад жаніхом умову: яна выйдзе замуж толькі пасля таго, як сустрэнецца са сваім любімым пісьменнікам. Жаніх пастараўся выканаць пажаданне каханай, і на сустрэчу прыйшоў... фальшывы Крашэўскі. На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў польская прэса падрабязна інфармавала пра тое, што робіць, куды едзе, што плануе "пан Крашэўскі", які падобна Атланту нёс на сваіх плячах амаль усю літаратуру.**

**Сучасныя энцыклапедыі спасылаюцца на бібліяграфію твораў Крашэўскага, якую двойчы апублікаваў К. Эстрэйхар: у 1879 г. да 50-гадовага юбілею творчай дзейнасці Крашэўскага, і ў 1887 г. пасля яго смерці. Першая бібліяграфія ўвабрала ў сябе 346 твораў, якія аўтар надрукаваў у 600-х тамах (115522 друкаваныя старонкі). Другая бібліяграфія называе 312 твораў, якія выйшлі ў 630-ці тамах. Мінула шмат часу, але ніхто не абверг гэтыя лічбы і не прапанаваў замест іх новыя. А ўкладальнікі самай дакладнай бібліяграфіі (серыя "Nowy Korbut", t. 12, 1966) сцвярджаюць, што поўная**

дэнцкія гады адлюстроўвае “Раман без назвы” (1855).

**1856–1857** – жытомірцы зноў, як і ў 1853 г , выбіраюць Крашэўскага куратарам гімназіі, але на гэты раз улады зацверджваюць яго на пасадзе. Праз год выбіраецца дырэктарам жытомірскага тэатра, дырэктарам шляхецкага клуба, яму давяраюць кіраўніцтва Таварыствам Дабрачыннасці

У 1856 г. у Варшаве выходзяць сацыяльны раман “Два светы”, “сялянская” аповесць “Ярмола” (з прысвячэннем Сыракомлю), а таксама “Абрыўкі” – зборнік аповесцяў, навуковых прац (між іншым “Барысаў”) і малюнкаў у 3-х тамах. У 1857 г – лепшы лірычны цыкл Крашэўскага “Гімны смутку” (парыжскае выданне), раман “Метамарфозы”, у якім паўстае пытанне чалавечага існавання (варшаўскае выданне) “Гавэнды пра літаратуру і мастацтва” (львоўскае выданне)

**1858** – канфлікт з кансерватыўнай жытомірскай шляхтай, падставай да якога стаў даволі кампрамісны праект Крашэўскага, члена камісіі па вызваленні сялян, які прапаноўваў іх юрыдычнае вызваленне без надзялення зямлёй.

З вялікай цяжкасцю атрымаўшы дазвол, выязджае 3 мая з Жытоміра разам з мастаком К. Радзевічам у падарожжа па краінах Заходняй Еўропы. Наведвае Раманава, Варшаву, Кракаў Урачыста прымаецца ў члены-карэспандэнты Кракаўскага навуковага таварыства. Праз Вену прыбывае ў Італію, якая была галоўнай мэтай падарожжа. Наведаўшы славутыя гарады і музеі Італіі (месяц – у Рыме), накіроўваецца· морам у Марсель, з якога праз Ліён – у Парыж, потым у Германію, з Дрэздэна – у Вроцлаў, Кракаў, Варшаву і 2 кастрычніка вяртаецца ў Жытомір. Падарожжа каштавала 5 тысяч рублёў (альбо цэлы маёнтак)

Падчас знаходжання ў Рыме Крашэўскі прысутнічаў на публічнай аўдыенцыі ў рымскага папы Пія IX, які выказаў незадаволенасць “сумніўнай маральнасцю” яго кніг У лісце да П. Вільконьскай напісаў· “Гэтая прамова, якая цягнулася вельмі доўга і была досыць рэзкай, балюча ўсхвалявала мяне... тое, пра што гаварыў святы айцец, было яму падказана. Відавочны разлік нашых айцоў, каб напалохаць і прымусіць мяне ім падпарадкавацца”

У Парыжы сустракаўся з польскай эміграцыяй – Б. Залескім, У Міцкевічам, К. Гашыньскім, Ц. К. Норвідам, з мастакамі Ю Косакам, Г Радакоўскім.

З друку выходзіць “Іканатэка. Збор нататкаў аб мастацтве і мастаках у Польшчы”

**1859** – “Gazeta Warszawska” публікуе “Лісты ў рэдакцыю” Крашэўскага з крытыкай валынскай шляхты за яе кансерватызм, нежаданне зразумець патрэбы грамадства. Пісьменнік супрацьпастаўляе ёй памешчыкаў з Літвы, якія нібыта дбаюць аб дабрабыце прыгонных (прыводзіць у прыклад рэформы князя І. Агін-

далі мне выкапаць мора, а цяпер высахне, і ўюны ў ім, печкуры ў ім будуць вадзіцца. З палком таксама не ведаю, што станецца. Хто ведае, што і з самымі Радзівіламі? Ужо тое бяда, калі пень усохне, а ад карэння пушча пойдзе, бо тады яна заўсёды карлікавая, пане каханку...

Налібоцкая пушча з мядзведзяў на кратоў звядзецца. Хто ведае, што з Геранімавага груда вырасце Мяне Вісьнёўская нарадзіла, а яго нейкая Таксіца іншая кроў Я мядзведзяў у карэту ўпрагаў, а ён хіба што казу да воза прывяжа .. найбольш хіба – асла? Унукі пешкі хадзіць гатовыя, пане каханку

Ён заплюшчыў вочы і ціха заплакаў

Кардыналы, біскупы, ваяводы, канцлеры, удзельныя княжаты, каралеўская кроў у жылах, на тронах мы сядзелі заўтра, можа, слугавацьмем тым, што нам кланяліся і бралі ў нас міласціну, а паслязаўтра – жменька пылу, якую вецер развее і нават памяці не застанецца.

Я дрыжаў, слухаючы, але мяне разбірала грэшная цікаўнасць да гэтай споведзі і ламентацый, і таму не хацелася ні перабіваць яго, ні каго клікаць.

Пасля гэтага, быццам зліта́ваўся з яго і ягоных пакутаў, сон апаў яму на павекі, ён заснуў і страшна соп Потым той храп, што ледзь не ва ўсім доме чуваць быў, змяніўся смехам. Смяяўся князь у сне так, як быў звыклы даўней, калі каму ўдавалася добрая штука, альбо сам казаў штонебудзь вельмі трапнае

І гэты смех разбудзіў яго самога, але ён не апрытомнеў, гарачка ўвесь час, здавалася, толькі больш разгаралася

– Гэй там угары, капэла. на слых іграйце, пане каханку і на трубы губ не шкадаваць. Выкаціць срэбную бочку са скарбца, накрыць яе тыгровай скурай Мне не пашкодзяць кармазынавыя гайдавэры, магу і ў іх бочку віна, як Бахус, убухаць, гайдукі хай цягнуць у залу . альбо запражы мядзведзяў, хай бабы патрухлеюць. . Ведай, Літва, Радзівіла! Хто мне стане на дарозе, лоб таму расквашу і заплачу Меншай смердзі па сто бізуноў, бізун па дукаце! пане каханку! Жыда, шэльму павесіць на япручынай кішцы, а не дык у суботу салам вышмараваць. . Гуляй душа! Валадковіч, каханне, Рэйтане, душка мая, падайце мне рукі вось так! Труцімцеся.. а хто не вып'е! таго ў чатыры кіі . пане каханку

. .Панятоўшчыка прэч змяцём з трона, паскуджаны пасля яго трон вышараваць. Даць яму дзвесце злотых, хай пісарыць у фальварку, бо руку мае добрую, крэмзае нічога сабе

У Альбе порт зладзім, пане каханку... Туркі па свініну прыязджацьмуць, а гішпаны па дзёгаць, якога ў саміх дома няма Панавязуць сюды фігаў шляхце, і лімонаў панам сенатарам. і ражкоў дзецям...

Чаму не грае музыка, пане каханку, струны ім палопаліся ці рукі? Святло патухла.. Ноч, а я босы .. пане каханку Хто жывы, ратуйся, дзе мае халявы? Што гэта? Нічога не бачу

...Хай мне цяпер Тралес заслону з вачэй здыме альбо, альбо дам яму мястэчка і вёсачак з дзесяць пажыццёва... мала? дадаць цагліну золата і аднаго апостала . але Юду хай ведае Радзівіла. . Як яму не ўдасца. . сцяць галаву шахраю на рынку. пане каханку

І тады, калі я ўжо думаў, што настаў канец гэтаму страшнаму дыялогу з лёсам, голас ягоны змяніўся.

– Адыходжу без нашчадкаў! Ты таму віною, ты... што пракляла мяне! За цябе адмучыўся цэлае жыццё, і памерці спакойна не магу А на каленях жа прасіў... не хацела дараваць, а калі я віну ўчыніў. не быў пры памяці. Фэліся... сэрца маё . праз цябе гіну

Князь заплакаў, прачнуўся і як перапалоханы крыкнуў·

– Ёсць там хто? гэй!

– Глінка, вяльможны княжа.

– Што гэта? каторая гадзіна? – ажывіўся князь, – можа, я што ў сне гаварыў? Дай вады! піць хачу, усярэдзіне гарыць. Гадзіна? каторая гадзіна?

Было яшчэ да поўначы, але я не задумваючыся адказаў·

– Не чуваць, каб першыя пеўні спявалі

– А ты ім што, каманду даў! – сказаў князь. – Адкуль ведаеш, калі запяюць?

Ён узяў шклянку, скаштаваў ліманады, але адразу выплюнуў

**бібліяграфія творчасці Крашэўскага, “бадай, самага пладавітага пісьменніка ў свеце”, застанецца на доўгі час толькі марай, калі наогул не ўтопіяй. Меркаванне гэтае небеспадстаўнае. Так, напрыклад, публіцыстыка Крашэўскага месціцца ў сотнях газет, часопісаў (у тым ліку замежных), зборнікаў і складае тысячы назваў, якіх не змогуць ахапіць і сотні тамоў бібліяграфіі. Адна “Gazeta Codzienna” (“Gazeta Polska”) за чатыры гады апублікавала 291 уступны артыкул, 149 палітычных аглядаў, 134 лісты з падарожжаў, 85 нарысаў, больш за 40 літаратурных замалёвак і рэцэнзій на выдавецкія навіны, а таксама мноства анонсаў, заўваг, тлумачэнняў і іншых матэрыялаў свайго рэдактара. І зусім “непад'ёмнай” для бібліёграфаў з'яўляецца яго карэспандэнцыя, параскіданая па ўсім свеце. У Ягелонскай бібліятэцы захоўваецца 101 папка з тысячамі лістоў да Крашэўскага, і гэта не ўсё, што ён атрымаў за сваё жыццё, да таго ж ён і адказваў на лісты. Сакратар пісьменніка А. Бжастоўскі сцвярджаў, што яго патрон напісаў 200 тысяч лістоў.**

**Не можа не ўражваць тытанічная праца Крашэўскага на ніве прыгожага пісьменства. Ён стварыў 223 раманы і аповесці (каля 400 тамоў), з якіх больш за палову прысвяціў сучаснай тэматыцы, астатнія – гістарычнай; 24 драматычныя творы (трагедыі, камедыі, сцэнічныя абразкі); 10 тамоў паэзіі; некалькі тамоў падарожных нататкаў, а таксама мемуарных твораў. Перакладаў з пяці моваў (лацінскай, французскай, англійскай, нямецкай, італьянскай). Апрача таго, ён аўтар шматлікіх навуковых прац па гісторыі і крытыцы літаратуры, этнаграфіі, філасофіі; праявіў выдатныя здольнасці як выдавец і рэдактар.**

**Сур'ёзна, на працягу ўсяго жыцця, Крашэўскі займаўся жывапісам і музыкай. Яго акварэлі, карціны, напісаныя маслам, гравюры ні ў чым не саступалі творам прафесійных мастакоў. Нялёгкай і тады яшчэ мала вядомай тэхнікай афортаў ён авалодаў настолькі дасканала, што абучаў сваіх сяброў, прафесійных жывапісцаў і графікаў. Бжастоўскі пісаў, што бачыў тысячы прац Крашэўскага, выкананых на палатне, на паперы, на дрэве, на фарфоры. Шмат малюнкаў прывозіў аўтар са сваіх падарожжаў: “Куды б я ні ехаў, усюды маляваў... Колькімі ж шчаслівымі гадзінамі абавязаны я гэтаму занятку”, – успамінаў ён. Пасля 2-й сусветнай вайны засталося 1800 прац Крашэўскага-мастака, лепшыя з якіх час ад часу становяцца экспанатамі мастацкіх выставаў. Гэта – пейзажы, пераважна рамантычныя, якія спалучаюць сузіральнае і пачуццёвае бачанне прыроды, выявы архітэктурных помнікаў і мастацкіх здабыткаў, жанравыя сцэны, асабліва з сялянскага жыцця, а таксама партрэты вяскоўцаў, мяшчан, шляхецкага саслоўя, яўрэяў, цыганоў і г.д. Вялікая колькасць малюнкаў і гравюр перадае беларускі каларыт (“Вёска на Палессі”, “Палеская карчма”, “На кірмашы ў Пінску” і інш.). Крашэўскі ілюстраваў мастацкія творы; выкарыстоўваў свой талент жывапісца і ў навуковых мэтах. Так, яго вялікі этнаграфічны артыкул “Адзенне сялян і мяшчан з ваколіц Брэста, Кобрына, Пружанаў” змяшчае малюнкі: “Паляшук з сякерай у**

скага) Вострая палеміка завяршаецца адмаўленнем Крашэўскага ад грамадскіх пасад і яго згодай на прапанову буйнога фінансіста Л. Кронэнбэрга стаць рэдактарам варшаўскай "Gazety Codziennej"

Цяжка перажывае смерць маці, хварэе

Ідылія "Вёска" паэтычна ўзнаўляе краявіды, якія нагадваюць Доўгае Друкуе таксама гістарычны раман "Старапольская любоў" і лекцыю "Аб Шылеры", з якой выступіў на ўрачыстым святкаванні стогадовага юбілею паэта.

***Варшаўскі перыяд***

**1860** – у лютым пераязджае з сям'ёй у сталіцу Каралеўства Варшаву Вясной (можа, летам) едзе ў Пецярбург, дзе сустракаецца з членамі Галоўнай Камісіі па вызваленні сялян ад прыгону У верасні-лістападзе падарожнічае з сынам Янам па Еўропе, кожны дзень адпраўляючы "Лісты рэдактара з падарожжа" – з Германіі, Англіі, Іаліі, Бельгіі. У Брусселі наведвае Лялевеля. Па вяртанні ў Варшаву выступае з 12 лекцыямі аб цывілізацыі ў Польшчы паміж X і XIII стст

Публікуе "Гісторыю калка́ ў плоце", якая завяршае "сялянскі цыкл" аповесцяў, камедыю "Кастэлянскі мёд", навуковую працу "Мастацтва ў славян, асабліва ў Польшчы і дахрысціянскай Літве", этнаграфічны нарыс "Адзенне сялян і мяшчан з ваколіц Брэста, Кобрына, Пружанаў"

– Горкая, як жоўць, дайвэльдрэку немец намяшаў, цьху!

– Княжа, даўно пара ў ложак! – сказаў я.

Гэ? дык ты хочаш мне, як пеўням, камандаваць? Але ж дай мне святога спакою з тым тваім ложкам! Ці, можа, ты хацеў бы ўмарыць князя ваяводу за тое, што табе спаць не дае, надакучыў . А мне яшчэ пажыць ахвота, а ў ложку душыць, і пад ложкам смерць затаілася, цікуе

І адразу мац-мац па кішэні, нібы грошай шукаючы, і, нічога не знайшоўшы, уздыхнуў

– Гроша жывога ў Радзівіла няма за душою, высмакталі ўсенька а ўжо ж колькі цырографаў панападпісваць казалі.. тое толькі адзін Бог ведае, а другі не цалкам паўнамоцны.

І зноў сам сабе

– Усе мае даўнія прыяцелі і таварышы спяць у трунах. на другі бок перавярнуліся, мабыць, а я праз гэтую валаводку Фэлісію, якая зняць з мяне грэх не спяшаецца, мушу чувацца за грахі мае, аж пакуль пасля апошняга ўздыху не ўдараць у мажджэры на пагібель і на трыумф . А тады прыляціць мой анёл і, як Товію, вочы пратрэ мне, каб я на радасць і шчасце глядзеў.. А сённека лепей сляпым быць.

Відаць, князеў голас, даўней такі зычны, разбудзіў і занепакоіў тых, што спалі ў сенях і чувалі ў іншых памяшканнях, бо ціха рыпнулі дзверы і ўвайшоў стары Вісьнёўскі, шляхціц, якога князь любіў, бо той быў пры ім прыдворным зводмаладзь і перажыў з ім усе нягоды, нядолі і бадзянні, кроку ад князя не адступаючы. Так і ўвайшоў, у палацяных споднях і кашулі, як падвёўся з ложка, стаў у парозе, рукі ў кішэнях, пачаў разглядацца навокал Князь як бы пачуў, што нехта тут яшчэ быў, падняў галаву.

– Вісьнёўскі? – спытаў ён

– Слуга, вашай княскай мосці

– Заўсёды цябе на нюх пазнаю, конскім потам ад вашэці тхне, а я яго люблю. Чаму ж ты, старэнькі, не спіш?

– Ну, я дык я, але чаму князь ваявода не ідзе ў ложак?

– Скажу табе, Вісьнячку, чыстую праўду, баюся я ложка, не хочацца мне паміраць.

**руцэ", "Жыхарка вёскі з ваколіц Кобрына" і інш. У артыкулах, прысвечаных жывапісу, Крашэўскі выступаў з пазіцый рамантызму. Ён крытычна выказваўся аб мастацтве сваіх сучаснікаў-рэалістаў, бо не бачыў у іх палотнах індывідуальнага аўтарскага перажывання, а, самае галоўнае, веры ў ідэалы. Дыскутаваў па праблеме гістарызму з выдатным майстрам рэалістычнага партрэта і баталісцкіх сюжэтаў Я. Матэйкам.**

**Захапленне Крашэўскага музыкай таксама не было дылетанцкім. Ён валодаў выдатнай выканальніцкай тэхнікай ігры на фартэпіяна і наогул высокай музычнай культурай, пісаў рэцэнзіі на творчасць суайчыннікаў – кампазітараў і выканаўцаў, а калі жыў у Дрэздэне, публікаваў агляды, у якіх знаёміў сваіх землякоў з дасягненнямі заходнееўрапейскага музычнага мастацтва, з творамі рамантыкаў. У сяброўскіх адносінах быў Крашэўскі са Ст. Манюшкам, станоўча ацэньваў яго творчасць. Манюшка, у сваю чаргу, стаў аўтарам музыкі на вершы І-й часткі паэмы Крашэўскага "Анафіеляс". Згодна з рамантычнай эстэтыкай Крашэўскі лічыў народныя песні важнай крыніцай нацыянальнай музыкі. Ён сам збіраў, друкаваў музычны фальклор і падтрымаў Чачота ў яго падзвіжніцкай дзейнасці, а ў сваіх "Успамінах пра Палессе, Валынь і Літву" апісаў вясельны абрад на Піншчыне і змясціў тэксты беларускіх песень, якія выконваліся яго ўдзельнікамі. Спрабаваў сябе Крашэўскі і як кампазітар: ствараў гэтак званую салонную музыку – вальсы, паланэзы, ронда, апублікаваў "Пастухоўскія песенькі".**

**"Толькі непараўнана моцны і глыбокі розум, альбо... вельмі спрытнае рамяство здольныя на такую велічэзную творчасць", – пісаў пра Крашэўскага яго малодшы сучаснік – крытык А. Свентахоўскі. Крашэўскі быў прыроджаны журналіст (у Польшчы яго называюць не толькі "бацькам рамана", а і "бацькам журналістыкі"), і гэта не магло не выявіцца ў яго пісьменніцкай працы – у трапнасці назіранняў, у тэмпе пісьма, у стылі. Ён пісаў вельмі хутка: рука з гусіным пяром не адрывалася ад паперы, хіба толькі тады, калі запальвалася файка. Том, які складаўся з 6–10 тысяч радкоў, звычайна пісаўся адным махам, за 10 дзён; раман з 4-х тамоў – на працягу 2-х месяцаў. Выдаўцы часопісаў вырывалі з рук напісанае, каб хутчэй апублікаваць, бо ад гэтага залежала колькасць падпісчыкаў.**

**Паспешнасць адбівалася на якасці, але – цікавая рэч! – у тым самым шалёным тэмпе былі напісаны лепшыя творы Крашэўскага, сярод якіх "Уляна", "Хата за вёскай", "Рым пры Нероне" і шмат іншых. "Я спрабаваў пісаць інакш... – шчыра прызнаваўся аўтар, – выпраўляць, гладзіць. Які вынік? А вось які: тое, што выпраўлялася, было немінуча сапсавана". Гэта ўжо пытанне творчай індывідуальнасці. І як тут не згадаць Стэндаля, у якога зусім іншы стыль, але ён таксама пісаў як яму пісалася, заклапочаны не прыгажосцю слова, а імкненнем данесці да чытача думку, і таму цярпець не мог адточваць тое, што было напісана, не прымаў папрокаў наконт стылю. Крашэўскі перачытваў гатовае: калі не падабалася, нічога не перарабляў, а выкідваў лісты, замест якіх пісаў новыя.**

**Пісьменнік падкрэсліваў, што**





– Э-э! Што пра тое думаць і талкаваць! – спакойна сказаў стары – У князя ў самога ў сабе бадзёру болей чым досыць, будзеш здаровы, і зрок каля цудадзейнай іконы здабудзеш, і папалюем яшчэ на мядзведзяў.

– Тэрэ-фэрэ-куку! сера баба ў руку! Папалюем! Які ты добры! так, так, разам са святым Губертам, у тым самым гайку, дзе Абэсалом павіс! – закрычаў ваявода – Ты, стары, ужо толькі ў пяты цаляеш. А я ўжо і блыху не ўпалюю Кажаш пра цудадзейную ваду ці што калі б тое Богу вады было трэба, каб цуд учыніць, калі б хацеў пане каханку; але няма яго волі на тое, Радзівіл яго даеў, плюе на яго!

У голасе чуваць была часам гарачка і непрытомнасць. Князь застагнаў і сказаў·

– Як табе здаецца, Вісьнячку? што выйдзе з гэтага мальца?

– З якога, вяльможны княжа?

– А з Дамінічка? Кепскае імя яму далі – уздыхнуў князь, а тож бо апроч яго не было нікога з Радзівілаў *Дамінікам*, бо ўсе на поўную губу былі *domini*. Ужо той ліхі *omen*, бо на ім і род змалее як і імя

І зноў як бы сам сабе·

– Галовы ім завернуцца-закруцяцца; працвіртуюць дашчэнту Радзівілаўшчызну, разлезецца ўсё, распарушыцца, шчэзне Пад канец пойдуць міласціну жабраваць, з гербам на торбах. . Добра, што тыя ў трунах, тыя Крыстофы, Станіславы, Мікалаі, Альбрэхты, Юр'і Вочы мае і ў пазамагіллі бачаць, хоць і сляпыя.. Чорна там будзе, чорна У Нясвіжы совы й кугікалы канцэрты вераб'ям спраўляюць. Запусты скончыліся, папялец і пост, следзь у прускім мундзіры едзе

Тым часам, пачуўшы размову, надышоў і ваяводаў сястранец, палкоўнік Мараўскі.

– Можа, Фінке што на сон парадзіў бы? – спытаў ён

– А так, – азваўся князь, – на сон, асабліва на вечны, у іх на тое дасканалыя рэцэпты Гэта няцяжка. Але мне яшчэ ў Белай ёсць што рабіць; пачакайце, чаго вам так зарупела?

Не было·спосабу; абступілі хворага, але ані да ложка, ані да сну яго змусіць нельга было. Ужо ён нават пачаў

**1861–1862** – уваходзіць у склад гарадской дэлегацыі, якой даверана ўтрыманне парадку ў горадзе пасля лютаўскай маніфестацыі, калі загінулі 5 яе ўдзельнікаў

Рэфармуе працу "Gazety Codziennej", якая з 3 красавіка выходзіць пад назвай "Gazeta Polska" Змяшчае ў ёй мноства сваіх артыкулаў і рэпартажаў Усталёўвае пастаянную сувязь з еўрапейскімі сталіцамі, адкуль дасылаюць матэрыялы вядомыя палякі-эмігранты і асеўшыя за мяжой: гісторык і крытык Ю. Клячко, філосаф і гісторык літаратуры М. Вішнеўскі, эканаміст і палітык Л Валоўскі, крытык і празаік Э Хаецкі, публіцыст З. Вянгерская, паэты Т Ленартовіч і У Кульчыцкі. Колькасць падпісчыкаў узрастае ад 500 да 7600

20 красавіка "Gazeta Polska" публікуе ліст Навума Прыгаворкі (В. Дуніна-Марцінкевіча), які звярнуўся з просьбай зразумець патрэбу вяскоўцаў у асветніцтве і таму падтрымаць яго, бо ён піша на беларускай мове.

З канца кастрычніка падарожнічае па Еўропе з мэтамі, хутчэй за ўсё, палітычнымі (напярэдадні паўстання) Зноў штодзённа дасылае "Лісты", у якіх галоўным чынам знаёміць з міжнароднай палітыкай.

У Парыжы выдае (ананімна) палітычную брашуру "Польская справа ў 1861 годзе" з неадназначнай ацэнкай патрыятычных

маніфестацый на радзіме. Падзяляючы патрыятычны энтузіязм суайчыннікаў, Крашэўскі застаецца праціўнікам узброенай барацьбы і кровапраліцця, лічыць паўстанне несвоечасовым і звязвае яго поспех з аб'яднаннем усіх сацыяльных слаёў, а таксама з рэвалюцыяй у Расіі

Сустракаецца ў Парыжы з І Тургеневым на абедзе, які арганізаваў іх агульны знаёмы Э Жалігоўскі

У студзені 1862 г вяртаецца ў Варшаву Засмучаны смерцю Сыракомлі, піша біяграфічна-літаратуразнаўчы нарыс "Уладзіслаў Сыракомля" (апублікаваны ў 1863 г.), які паклаў пачатак навуковаму даследаванню творчасці "вясковага лірніка"

***Дрэздэнскі перыяд***

**1863** – у студзені, пасля выбуху паўстання, спешна пакідае Варшаву, папярэджаны аб арышце і дэпартацыі ў Сібір як "небяспечны для грамадскага парадку" Выратаваў хутка выдадзены яму пашпарт на выезд за мяжу, праўда, без сям'і Асядае ў сталіцы Саксоніі Дрэздэне і ўжо ніколі не вернецца ў Варшаву

Выязджае з экскурсіямі ў Швейцарыю, Італію (Генуя) Падчас побыту ў Празе чэшскія літаратары наладжваюць у яго гонар прыём Намер наведаць сына Францішака, які вывучаў аграномію ў Кракаве, ледзьве не скончыўся арыштам на аўстрыйскай граніцы і выдачай расійскім уладам

Ля Заслаўя загінуў любімы стрыечны брат Стэфан, які ўзначаліў атрад "касіньераў", паўстанцаў, узброеных косамі.

"Дзіця старога горада" распачынае цыкл палітычна-патрыятычных раманаў на тэму паўстання 1863 г , якія забараняюцца на польскіх землях, падуладных Расійскай імперыі, і выдаюцца ў Познані і Лейпцыгу пад псеўданімам Богдан Болеславіта (аўтар славіць боль свайго народа)

**1864** – пачынаецца перыяд (1864–1876) напружанай палітычнай і публіцыстычнай дзейнасці Крашэўскага. У часопісе "Ojczyzna", які выходзіў у Лейпцыгу, выступае з артыкуламі супраць згоднікаў і тых, хто хацеў пахаваць ідэю барацьбы Пасылае матэрыялы ў англійскую і французскую прэсу, каб супрацьстаяць антыпольскай прапагандзе, аплочанай расійскімі амбасадарамі У палітычных мэтах выязджае ў Парыж на пачатку года.

Паліцыя забараняе пісьменніку пасяляцца ў Вялікім Познаньскім Княстве, і ён купляе дом у Дрэздэне, але не можа жыць у ім, бо паліцыя не дае згоды на сталы побыт у Саксоніі "У Дрэздэне, – пісаў ён, – калі не памыляюся, 11 ці 12 разоў мусіў пераносіцца з месца на месца"

Галоўная школа ў Варшаве прапануе кафедру польскай літаратуры. Оберпаліцмейстар Трэпаў не дае згоды.

Перажывае фінансавыя цяж-

сам на весялосць узбівацца, каб неяк раззброіць нашу настырнасць. Шкада нам было яго, аж нарэшце Фінке, які таксама надышоў тым часам, сказаў, каб не дражнілі яго і даверыліся ягонай волі, так і зрабілі Праз хвіліну Мараўскі, пацалаваўшы яму ў руку і дабранач аддаўшы, пайшоў; разышліся і астатнія; Вісьнёўскі сеў са мною каля печы, і мы задрамалі дуэтам. Князь у крэсле таксама моцна заснуў, час ад часу ў сне прамаўляючы кавалкамі лацінскую ларэтанскую літанію.

Пад канец мы ўсе пазасыналі, як байбакі, і ўжо толькі калі добра развіднела, толькі тады заспанага ваяводу пад рукі занеслі на ложак, і як упаў, так да дзесятай і не прачынаўся.

З раніцы дзень выдаўся хлябісты, мы нібыта меліся ехаць у Белую, але і запозна было ўжо, і дождж перцаваў такі, што ніхто ахвоты не меў, каб яму за каўнер лілося. Мне з галавы не выходзіла тая Фэлісія, пра якую князь некалькі разоў успамінаў разам з нейкім праклёнам і прабачэннем.

Хоць я ўжо з пазнейшых гадоў дасканала ведаў усе нясвіжскія падзеі, але дадумваўся, што тое нешта мусіла быць яшчэ з гуляшчых часоў пана мечніка, калі мяне там не было І я рашыў сабе, скарыстаўшыся слотным днём, узяць на распытку старога Вісьнёўскага. А ён, я быў упэўнены, павінен быў ведаць усё Ужо адно тое мяне падсцёбвала, што не дазвалялася гаварыць ні пра якую Фэлісію, а тым часам сам князь пра яе ўвесь час успамінаў, як бы меў яе на сваім сумленні, як бы праз столькі зышлых гадоў не мог пазбыцца нейкага цяжару.

– Дабрадзею мой пане лоўчы,– учапіўся я за старога,– хто такая Фэлісія, пра якую князь ноччу ў сне спамінаў?

Вісьнёўскі паглядзеў на мяне з увагай, пацiснуў плячыма, пачухаў чупрыну, паківаў галавой і, не кажучы ні слова, адышоў, нібыта толькі здзівіўся, што я задаў яму такое пытанне

Гэта, прызнаюся, толькі дадало яшчэ большай цікавасці.

Таму я перадпалуднем, атаварыўшыся ў пана карчмара, даўшы яму дуката за некалькі пляшак выстаялага віна, сказаў хлопцу падрыхтаваць памяшканне, асобнае, праўда, халоднае Але, пазатыкаўшы вокны, можна было трываць, і мы засталіся там адныя. Хлопец знайшоў што трэба было, каб зрабіць памяшканне бытавым, паставіў стол з нейкіх дзвярэй і лавачкі, пастараўся пра ўсё, бо быў жвавы і растаропны як ніколі Праўда, пазней ён блага абышоўся з тым сваім завялікім на свой стан розумам, бо, забраўшы ў мяне частку гардэробу, пару пісталетаў і каля ста талераў, драпнуў у Прусы, а там яго застрыглі ў войска, і ён мусіў насіць карабін дзеля прускага караля

Хлопец загадзя дамовіўся з кухарамі, каб было нам чым закусіць.

Вісьнёўскі спачатку маўчаў, балбаталі пра звычайныя рэчы, я чакаў, каб стары разагрэўся, разышоўся, і, убачыўшы яго ў добрым настроі, я пачаў:

– Вы ведаеце мяне за вернага слугу Радзівілаў, і што пану літасціваму і дому ягонаму я не здраджу; каб жа тое яшчэ вы маю цікаўнасць хацелі задаволіць, – а і што гэта за такая за Фэлісія, якую князь згадваў, а я пра яе нічога не ведаю?

– А навошта табе ведаць? спытаў Вісьнёўскі, – навошта? цікаўнасць – гэта першая прыступка ў пекла.

Я кажу яму:

– Пане лоўчы, калі гэта і праўда ж прыступка ў пекла, дык я ўжо на ёй даўно стаю. Такім ужо мяне маці на свет прывяла, што заўсёды носа ўтачу, ці тое яно трэба дзе, ці не.

Вісьнёўскі засмяяўся, узяў кілішак, выпіў, а я яму хуценька падліў яшчэ, і ён завёў сваё:

– Бачыш, ёсць такія справы на свеце, ба! і ў Радзівілаў, пра якія лепей не ведаць, а хто пра іх ведае, хай забудзе Навошта табе? шмат чаго ў памяці цяжарам ляжыць, бадай так, як на сумленні!

– Пане мой лоўчы, сказаў я, – а і сорам было б табе не ведаць гісторыі нават свайго каханага пана. Часам гэта і на тое прыдасца, каб адбараніць яго ад людзей

– Вядома ж! – адказаў Вісьнёўскі, – я вашэці ведаў яго яшчэ калі маладое піва толькі забрадзіла; мы! – мы памятаем іншыя часіны Лепей бы мы пра тое не гаварылі, бо і доўгая гэта гісторыя і журботная; у двух словах

**"дасканаласць твора моцна залежыць не толькі ад думкі, але і ад спосабаў яе выражэння... Не хапае таленту – не хапае і думкі..." Адметнасць Крашэўскага-мастака ў тым, што працэс пошукаў адбываўся ў яго не на паперы, а ў працы думкі і душы... Яго проза вылучаецца стылявой разнастайнасцю: жарт, сатыра, іронія, гумар пераплятаюцца з ідэалізацыяй, паэтычнай узнёсласцю, трагічным пафасам. Ён майстар лірычных пейзажаў. Большасць персанажаў Крашэўскага гаворыць мовай, якая адпавядае іх грамадскай прыналежнасці, узроўню культуры, характару. Мова самога пісьменніка ўтрымлівае шмат беларусізмаў і украінізмаў і ў большасці сваёй з'яўляецца ўзорам штодзённай гутарковай мовы. Амаль у кожным творы Крашэўскага можна сустрэць дасканалыя эпізоды і фрагменты; няцяжка заўважыць у іх і відавочна слабыя.**

**Кажуць, што па Крашэўскаму можна вывучаць XIX стагоддзе. Гэты тэзіс справядлівы не толькі ў дачыненні да тагачаснага рэальнага жыцця. Можна, напрыклад, вывучаць і мастацкія накірункі, бо ўсе яны, апрача класіцызму, праявіліся ў яго творчасці. Традыцыі асветніцкага рэалізму адчуваюцца ў першых бытавых аповесцях Крашэўскага, адыгрываюць значную ролю ў яго наступных творах. Узорам сентыменталісцкага меладраматызму з'яўляецца "Гісторыя пра бледную дзяўчыну з-пад Вострай Брамы". Складаныя стасункі былі ў пісьменніка з рамантызмам, які напачатку ён атаясамліваў з рамантычнасцю, з усім узнёслым, вычварным, ненатуральным і таму не хацеў быць рамантыкам. Але ўжо ў ранніх фантастычных аповесцях малады аўтар зазнае ўплыў эстэтыкі рамантызму, пераважна нямецкага (Гофмана і інш.), а пазней рупліва ў цыкле твораў распрацоўвае характэрную для рамантычнай культуры тэму паэта і несправядлівага свету. Менавіта раман "Паэт і свет" прыносіць Крашэўскаму першы вялікі поспех. Рамантычны канфлікт у ім – не толькі даніна літаратурнай традыцыі: аўтар імкнецца да асэнсавання духоўнага вобліка свайго пакалення, якое перажыло трагедыю паўстання 1830–1831 гг.**

**З цягам часу пісьменнік усё актыўней шукае прычыны няшчасцяў чалавека не ў ім самім, а ў сацыяльным асяроддзі. Цыкл "сялянскіх аповесцяў" і раман "Чарадзейны ліхтар" вызначаюць магістральны накірунак развіцця прозы ў XIX ст. – рэалістычны. Паступова Крашэўскі рэалізуе сваю эстэтычную праграму праўдзівага паказу чалавечага жыцця і гісторыі сучаснага грамадства", плённа выкарыстоўваючы вопыт Бальзака, Дзікенса, Гогаля. Сюжэты яго лепшых твораў засноўваюцца на драматычных суадносінах паміж псіхалогіяй чалавека і штодзённым жыццём (але рысы рамантычнай паэтыкі ніколі не знікаюць з іх).**

**Як пісьменнік і як крытык Крашэўскі не перастае выступаць за цесную сувязь літаратуры з жыццём. Ён першы адгукаецца на падзеі паўстання 1863 г. (цыкл раманаў); у сацыяльных аповесцях і раманах паказвае змены, якія адбываліся ў асяроддзі шляхты і арыстакратыі пасля 1863 г. і аграрнай рэформы; вітае эру буржуазнага прагрэсу, уводзячы ў літаратуру новага героя – "чалавека працы" – інжынера, прадпрымальніка, купца, не заплюшчваючы вочы на заганы капіталістычнага грамадства: "Кажуць: век прагрэсу – лепш сказаць: але і век расчараванняў".**

касці Даход ад чытання лекцый па гісторыі польскай літаратуры і культуры разыходзіцца на дапамогу ўдзельнікам паўстання, што эмігруюць у Дрэздэн. У Варшаве засталася жонка з дачкой Аўгустай. Францішак пераехаў на вучобу з Кракава ў Іену Другі сын, Ян, які вучыўся ў Бельгіі, залез у карцёжныя даўгі і разам з сынам чылійскага консула ўцёк у Чылі. Бацьку давялося аплочваць даўгі і затраты на вяртанне ўцекача.

Трывожныя весткі прыходзяць з дому. Дачка Канстанцыя разам з малым сынам выехала ўслед за мужам, якога выслалі ў Сібір (каля Іркуцка), а брат пісьменніка Люцыян (таксама ўдзельнік паўстання) вывезены ў Перм

Выходзяць з друку раман аб паўстанні "Шпіён" і гістарычны раман "Доля і нядоля (з апошніх гадоў XVIII стагоддзя)".

**1865–1866** – запрашаецца рэдактарам у львоўскі часопіс "Hasło", але аўстрыйская паліцыя не дае дазвол на жыхарства ў Галіцыі Паўгода супрацоўні чае з часопісам на адлегласці, друкуе ў ім свае "Дрэздэнскія лісты" і "Лісты з выгнання"

З'яўляюцца чарговыя раманы, прысвечаныя падзеям 1863 г у Лейпцыгу – "Маскаль" і "Чырвоная пара", у Познані – "Мы і яны"

З 1866 г пачынае выдаваць публіцыстычныя штогоднікі "Рахункі" (выходзяць да 1871 г) – актуальныя і смелыя рэпартажы аб палітычным, сацы-

расказаць яе, дык яшчэ чарнейшай здалася б, а калі так, як трэба, усё па парадку, дык і да вечара ледзьве скончым.

– А, нуж! – сказаў я, альбо нам ёсцека нечым лепшым заняцца? Дзяжурыць каля князя сёння іншым чарга прыйшла, нам і тут нязгорш, і дзве бутэлькі яшчэ маю старога, сорам было б не паласавацца

Я так да яго прыставаў, што ўжо пад канец той і супрацiўляцца не мог; а што расказваў мне, я запісаў адразу, каб пазней не было нарокаў на памяць.

За часу, калі князь, яшчэ малады, быў літоўскім мечнікам, двор у Нясвіжы і жыццё ў ім не былі падобныя на тое, якімі яго вашэці бачыце сёння Кроў княжая закіпела, ва ўсім свеце было яму цесна, а што вакол яго тлумілася моладзь, у якой таксама грала буйнае жыццё, тварыліся ў нас часамі рэчы, якія сёння цяжка ўспамінаць.

У наваколлі Нясвіжа ўсё дрыжала перад намі, а калі князь з прыяцелямі і дружынай спыняўся, едучы на паляванне альбо ў іншыя маёнткі праз шляхецкую вёску, усё жывое ўцякала ад яго бо пад гарачую руку, у першым імпэце ён мог даказаць, што ўпоперак яму лепш не станавіся

Бывалі ў нас і такія запусты, калі мы не мелі часу адрозніць дзень ад ночы, не адзін з нас нават жыццём прыплаціў

Тут Вісьнёўскі перахрысціўся, уздыхнуў і, пабожна ўдарыўшы сябе даланёй па грудзях, кульнуў кілішак.

– Таго я і на валовай скуры не запісаў бы, якія ў нас былі ўцехі і колькі там набіралася грахоў на велікодную споведзь. Князя, калі ўжо ён адзін раз папускаў сабе цуглі, ужо ніщто стрымаць не магло, а калі хто спрабаваў прытармазіць, – сам жа і папіхаў яго, бо дзеля пункціка гонару гатовы быў на ўсё Аднаго разу, як цяпер памятаю, мы вярталіся з палявання, усе падхмеленыя, скажу праўду п'яныя, спяваючы "Сядзіць сабе заяц на ўзмежку"..

Верце не верце, было ўсё так, як раскажу Ехалі мы на брычках, бо верхавыя коні стаміліся; у кожнай брычцы запрэжана было па чатыры пары. І вось першая, у якой сядзеў князь з Валадковічам, стала. Было тое над Нёманам. Паром па той бок ракі, а перавознік, прылёгшы

**"...Я жыву маім часам, маім краем, жыву маім народам, і кожны штуршок у ім адбіваецца ўва мне... Калі б я меў нават геній. то расцёр бы яго ў парашок, разарваў бы на шматкі і падаслаў пад ногі чалавецтва, пад ногі айчыны, каб яны не параніліся аб каменне. Ніколькі не хвалююся, што заўтра не будзе ні мяне, ні гэтых старонак. Я жыву па прызначэнні дня сённяшняга, і першы мой абавязак – працаваць на яго". Крашэўскі паўторыць гэтую важную для яго думку – быць слугой сучаснасці – у юбілейнай прамове, параўнае сябе з пекарам, які штодзень пастаўляе людзям жытні хлеб.**

**Крашэўскі першы паведамляе аб з'яўленні ў еўрапейскай літаратуры натуралізму, для азначэння якога выкарыстоўвае тэрмін "рэалізм". У натуралістычным духу ён тлумачыць прыход гэтага новага накірунку: чалавецтва доўга хварэла "ідэаламі" і, каб яно не памерла ад сухотаў, патрабавалася лячэнне сырым мясам. Крытык прызнае за мастацтвам права шукаць "новыя шляхі і сродкі", дае высокую ацэнку раману "Жэрміналь" Заля, хоць далёка не ўсё прымае ў творчасці гэтага аўтара. Рысы натуралізму ўвойдуць у паэтыку рамана Крашэўскага "Шаляніца".**

**Адсутнасць непасрэднага кантакту з радзімай падштурхнула Крашэўскага зноў, як у маладыя гады, узяцца за гістарычную тэму. І зноў ён у пошуках, бо не жадае паўтараць вальтэрскотаўскі тып гістарычнага рамана. Верны пастулату "праўдзівага" мастацтва, ён выбірае для свайго рамана не паэзію, а навуку (дакумент, факт, аўтэнтычны матэрыял). Але поспех прыйдзе з усведамлення таго, што "паэзія ці навука" – гэта не альтэрнатыва, а дзве складовыя гістарычнага жанру. Менавіта ў**





недзе ў кустах, заснуў Давай гукаць, давай страляць. Ага, дагукайся, дастраляйся! Ці п'яны быў, ці аглух, – парома як не было, так і не было.

Князь пачынае ятрыцца. І тут раптам як не крыкне фурману, як не ўлепіць яму ў карак:

– Сцягвай лейцы і плавам!

Той з хвіліну думае, а князь зноў·

Плавам! Чуеш!.

Бераг быў досыць высокі, рака шырокая, глыбіня бяздонная, але калі князь загадаў, дзе ж ты адступішся, павінна быць так, як павінна быць. Не доўга думаючы, фурман перахрысціўся, нацягнуў лейцы, коням – пугі і ў ваду. Абабітая скурай брычка выплыла, коні таксама, яны былі вельмі дужыя, рвалі жах як, дык прысталі да берага шчасліва. Другая брычка таксама перабралася, трэцяя перавярнулася, на шчасце, у ёй усе плаваць умелі і, хоць коней вадой знесла, людзі ўратаваліся. Рэшта на беразе дачакалася парома, але перш чым яго па іх паслалі, перавозчыкі асталі па пяцьдзесят бізуноў, ледзь толькі раскатурхаліся з гарэлачнага сну.

Каторыя даказалі сябе ў такой штуцы, ад такога аздараўленчага заплыву і страху аж працверазелі, нібыта на той бераг перабраліся як бы ўжо й нашча

Іншым разам, вяртаючыся з палявання, на маіх вачах п'яны Салачынскі звесіў з вазка галаву, з кола сарваўся абруч і знёс яму чэрап, Салачынскі – о, Езус! – ані пікнуў Так і прывезлі яго да ганка са звіслаю галавою, але ў ёй ужо і мазгоў не было

Жыў за тым часам на Случчыне адзін шляхціц, немаетны, але роду старога, павагі вялікай, Вайжбунам яго звалі, а імя Мікалай, а ў тытуле – войскі Меў адну вёсачку, называлася яна Чырвоная Рабка ў адрозненне ад Рабкі Чорнай, якую спадкавалі Сулістоўскія. Павядалі людзі пра тых Вайжбунаў, што род іхні калісьці, мусібыць, быў дужа заможны, што валодалі яны ці не паўтара дзесяткам вёсак, але не павялося ім, і спаўзлі яны на тую адну Рабку

Войскі жанаты быў на Стшамінскай, незаможнай шляхцянцы, а заўчасна страціўшы яе, ажаніўся другі раз з таксама немаетнай паннай Ласкай.

яльным і культурным жыцці палякаў на польскіх землях і ў эміграцыі

Атрымлівае кракаўскае, затым аўстрыйскае грамадзянства дзякуючы ўплывовым знаёмым. Летам падчас пруска-аўстрыйскай вайны падарожнічае па Галіцыі наведвае Кракаў, Крыніцу, Закапанэ

У кастрычніку едзе ў Лондан і Парыж па справе продажу польскіх карцін і гравюр. З гэтай мэтай выдаў "Catalogue d'une Collection Iconographique Polonaise .. 1865" Мае намер асесці ў Парыжы як супрацоўнік Уладзіслава Міцкевіча ў Люксембургскай кнігарні і яе літаратурны кіраўнік.

Прадае Губін.

Італьянскі кароль узнагароджвае пісьменніка ордэнам святых Маўрыцыя і Лазара.

Сярод мастацкіх твораў – гістарычны раман "Рым пры Нероне", алюзійна звязаны з палітычнымі падзеямі 60-х гадоў, І-я кніга "Старонак з падарожжаў" Друкуе пераклады фрагментаў "Боскай камедыі" Дантэ.

**1867–1869** – чытае лекцыі прысвечаныя Дантэ, у Кракаве, шмат працуе ў Ягелонскай біблі ятэцы, пасля чаго выязджае ў Львоў, дзе яго вітаюць натоўпы моладзі Даходы ад чытання лекцый перадае Акадэмічнай чытальні Становіцца ганаровым грамадзянінам Львова, і яго сустракаюць авацыямі на прадстаўленні камедыі "Пане Каханку", а таксама пры ад'ездзе. Кансерватары перашкаджаюць стаць пра-

**выніку зліцця навукі (гістарычнай праўды, заснаванай на дакуменце) з паэзіяй (уяўленнем, выдумкай, інтуіцыяй) з'явяцца ў творчасці Крашэўскага і "Радзівілаўская трылогія", і "Старое паданне"...**

**Не адно пакаленне літаратуразнаўцаў і чытачоў задавалася пытаннем, чаму з цягам часу не знікае "попыт" на Крашэўскага. Яго чытаюць школьнікі і інтэлектуалы... Яго перавыдаюць у Польшчы, перакладаюць на іншыя мовы. На беларускую – мала, крыўдна мала... Два вершы пераклаў Янка Купала, аповесць "Хата за вёскай" – П. Бітэль, і вось перад намі яшчэ адзін пераклад... дай бог, каб не апошні... А на пытанне, з якога мы пачалі, часткова адказ дае Янка Брыль, уражаны прачытанай "Хатай за вёскай": "...Больш за сто гадоў прайшло, а сутнасць гэтага твора, аўтарава любоў да беднага, простага чалавека, любоў да здаровай красы жыцця, сіла ягонага слова жывуць амаль ва ўсёй свежасці і сёння робяць сваю вялікую справу".**

**"Чым далей бег часу адносіць ад нас Крашэўскага, тым больш узвышаецца яго постаць на фоне гісторыі польскай літаратуры", – сказаў знаўца творчасці пісьменніка К.В. Завадзіньскі. Сказаў змястоўна і лаканічна. Лепш не скажаш... Дык чаму ж узнікае нейкая незадаволенасць у цытуючага гэтыя радкі?! Можа, і ў чытача таксама... Тады паспрабуем удакладніць паважанага крытыка: "Чым далей бег часу адносіць ад нас Крашэўскага, тым больш узвышаецца яго постаць на фоне гісторыі польскай і *беларускай літаратур"* Не выключана, што з "бегам часу" гэтае ўдакладненне набудзе рэальныя падставы...**

**Святлана МАЛЮКОВІЧ**

фесарам Ягелонскага універсітэта

Маніфестацыі ў гонар Крашэўскага адбываюцца ў Познані, у Берліне. Як і раней, за ім наглядае паліцыя.

Падчас Сусветнай выстаўкі ў Парыжы (1867) блізка сыходзіцца з Б Залескім, бібліятэкарам і сакратаром Гістарычна-літаратурнага таварыства ў Парыжы.

У 1868 г прымае грамадзянства Саксоніі, каб мець права на адкрыццё ўласнай друкарні Цар Аляксандр II назаўсёды забараняе выдачу Крашэўскаму пашпарта да Варшавы.

У лютым 1869 г адкрывае друкарню ў Дрэздэне Першая публікацыя ў ёй – казанне П Скаргі "Пра любоў да айчыны" Выдае неперыядычны часопіс "Omnibus" (6 выпускаў)

Камедыя "Пане Каханку" выходзіць у 1867 г Тры тамы гістарычных апавяданняў пад агульнай назвай "Вандроўнікі", якія сваёй палітычнай тэматыкай пераклікаліся з сучаснасцю, – у 1868–1870 гг Пад псеўданімам Б Болеслаўіта – раман "Дзядуня Карціны нашага часу" (1869)

**1870–1871** – выдае часопіс "Tydzień" За няпоўныя тры гады з друкарні Крашэўскага выйшлі 74 тамы публіцыстыкі і мастацкіх твораў, але выдавец вымушаны яе прадаць з прычыны фінансавых цяжкасцяў (Прадаў і сваю знакамітую калекцыю – 6 тысяч карцін і 1550 рысункаў ) Развітваючыся з чытачамі "Tygodnia", паведамляе пра пачатак свайго супрацоўніцтва з кракаўскім часопісам "Kraj"

Удзельнічае ў міжнародным кангрэсе археолагаў у Балоніі Узнагароджваецца ордэнам Італьянскай Кароны.

Дачка Канстанцыя пасля смерці мужа-выгнанніка вяртаецца з Сібіры і ў дарозе гіне ад няшчаснага выпадку (перавярнуліся сані) Траіх дзяцей адвозяць да бабкі, Зоф'і Крашэўскай, у Варшаву

Раманы "Чорная перлінка", "Магільная", "Палац і фальварак", "Вялікі незнаёмец" – на тэмы эканамічнага і маральнага заняпаду шляхты, з'яўлення польскай буржуазіі

І тая другая жонка таксама заўчасна памерла, пакінуўшы яму дачушку Гадавалася яна пры бацьку, стары Вайжбун ледзь не на руках яе сам выкалыхаў, вымамчыў І выйшаў з дзіцяці шчыры цуд харагтва і прыгажосці, але ад Вайжбунаў і Ласкіх прыбрала яна гордасці і пыхі, смелая была, фанабэрыстая, – не падступіцца, нешта амазонскае і рыцарскае насіла ў сабе

Людзі пра яе паявдалі неверагоднасці ўсякія, пра розум яе, прыгажосць, адвагу і зухвалаcць.

Няма што на той час была яна яшчэ зусім маладзюсенькая, а казалі, што ўжо запітая-засватаная, і ў нарачоных хадзіў нейкі Томак Дулемба, бацька якога спадкаваў непадалёк неблагія добры Расказвалі, як яны двое кахаліся, з якім нясцерпам чакалі, калі бацькі дазволяць шлюб Стары Дулемба загадаў яму адслужыць у кавалерыі і купіў сыну падхаружаства, даў почат абслугі, каб хлопец не цураўся рыцарскіх ухватак і пааціраўся сярод прыстойных людзей. Нямала тое аціранне каштавала, але ж і дабру навучала ды і стасункі завязваліся не абы-якія, бо і ў кавалерыі не служыў абы-хто. Дулемба, стоячы з палком непадалёк, часта, калі заядала сумота, сядзе, бывала, крадком на каня і чвалуе напралёт пяць вёрстаў, каб хоць здалёк убачыць тварык мілай ненагляды, пакланіцца ёй – і зноў назад у лагер

Зайздросцілі гэтаму хлопцаваму шчасцю, хоць ён і варты яго быў, бо і гожы, і ладны, і ўвішны, на ўсё здатны і сэрцам шчыры, і што да выпітай, тое да выбітай, – любілі яго ўсюды Паненка таксама, змалку прывыкшы да яго, бо тое ж разам у суседстве і гадаваліся, без памяці кахала яго А вось старыя абодва лічылі, што са шлюбам яшчэ не да спеху, яшчэ хай падрастуць і сілы на жыццё набяруцца. Дулемба больш з усяго баяўся, каб сын лішне рана не здамашніўся, а, значыцца, калі ажэніцца з каханай, ужо за парог не ступіць ад свайго шчасця і гнязда.

Па наваколлі слава пра панну Фэлісію насілася шырока і далёка, казалі, што другое такое адмысловае прыгажосці ідзі па ўсёй Кароне і Літве пашукай, а не знойдзеш Балабонілі пра яе часта і пры нясвіжскім двары, неразумна забіваючы князю вушы ўсялякай лухтою Бясконца плявузгаў Валадковіч, бажыўся-хрысціўся, што прыгажэйшай не, не бачыў, падбухторвалі іншыя, аж цікавасць князя мечніка літоўскага распалілі веры не дасі як. А раз'ятрылі яго яшчэ і тым, што намякалі і на шчаслівага Дулембу і на старога Вайжбуна, што нелагодлівы быў, што непрыступны быў і што ў дом свой неахвотна пускае.

Памятаецца, ужо мне ўсё тое не падабалася, калі аднаго разу, падчас вячаровай п'янкі, узялі на зуб Вайжбунуўну, і доўга языкамі перакладалі, што такі княжацкі кавалачак, а дастанецца простаму шляхцючку, і вось якраз тады мечнік наш і зацяўся, і крыкнуў:

– Памаўчаў бы, пане каханку, яны ж яшчэ й не пашлюбіліся, а хоць бы і так было, дак калі б захацеў

Валадковіч засмяяўся

– Не на ўсякія хошчы можна

– Маўчы! – грозна тупнуў князь, – я такога, пане каханку, не ведаю чаго нельга





На тым усё і скончылася, але памяць у князя была добрая, а людзі таксама ж, неабачлівыя такія, увесь час напаміналі

Надышла восень, было тое недзе перад Найсвяцейшай Паннай Зяленяй, аднаго вечара таксама піў жахліва, шляхты рознай было як гразі Мечнік вузкім колам са сваімі выбранымі засеў у кабінеце

І зноў таго вечара завёўся пан Валадковіч апісваць цноты Вайжбунуўны, каб наўмысна распаліць цікавасць князя, – інакш бы век не пачынаўся Распісваў усё дэталёва, бо нядаўна яе дзесьці якраз бачыў· а якая ручка, а якая ножка, а якія косы чорныя, а якое лічко белае а як глядзіць, а голас які салодкі, а розум які чысты, а адвага рыцарская

– Але ж бо вы яе, пане каханку, перахвальваеце, – сказаў князь.

– Ані на каліўца! Калі б пан князь пабачыў яе хоць адным вокам, сказаў бы тое, што і мы... калі не болей. Мы ж бо ўсе згодныя, што другое такое няма. Бяда толькі, што не спаткацца з ёю, нават пабачыць яе цяжка, з дому выбіраецца рэдка, толькі ў касцёл

Князь спытаў·

– А дзе парафія?

Валадковіч назваў касцёл, пачалі спрачацца, аж нехта падахвочаны ўкінуў слова:

– Ды адчапіцеся; хоць і Радзівіл, але і яму не падгледзець.

Мечнік падхапіўся з крэсла, вочы агнём, павярнуўся да таго і крыкнуў·

– Хто гэта, панове, сказаў, пане каханку?

Восень была пекная, паляванні ішлі адно за адным. Перад самай Н Паннай Зяленяй распарадзілі цэлыя абозы, сеткі і намёты і лавецтва ў лясах... Ці тое наўмысна, ці выпадкова сталася так, што лагер раскінулі ў мясцовасці, непадалёк ад парафіяльнага касцёла, да якога належала Чырвоная Рабка. І атабарыліся там не на дзень, не на два, а на тыдні.

У дзень на свята ніколі не палявалі, адпачывалі. Князь, апранены не па часе, як бы не хацеў, каб яго пазналі, выбраўся на набажэнства, ужо добра ведаючы, што там Вайжбунуўну ўбачыць Прызнаюся, дадаў Вісьнёўскі, – што я быў з князем у касцёле, бо ён загадаў мне ехаць з ім Заехалі мы пад малы касцёл, драўляны, наўзбоччы пад сасняком, у зарасніку ядлоўцу, убогі, але зграбны і чысценькі Людзей у ім і на цвінтары натаўклося мноства. З фурманак, на якіх паназ'язджаліся сяляне і шляхта, як бы кірмаш утварыўся Навезлі шмат зеляніны, кветак, збожжа, вянкоў на асвячэнне, у касцёл нават на прычасце ледзь праціснуцца было. Ксяндза не вельмі хто там у наваколлі ведаў, а і князя ў той апанчы, у якую ён наўмысна прыбраўся, мала хто мог пазнаць.

Мы неяк такі ўшыліся і дабраліся да заслоненага кута за бакавым алтаром, каб нас не адразу маглі ўбачыць і выкрыць. Рознай шляхты, нават і такой, што ў пасталах ходзіць хай сабе і пры шаблі, было процьма; мы змяшаліся сярод яе і зніклі з вачэй .

Якраз насупроць нас, на першай лаўцы, сядзела з

**1872** – вылучаецца ад Познані кандыдатам на пасла ў парламент Вялікай Германскай імперыі, абвешчанай у 1871 г Адмаўляецца з-за нападкаў у прэсе з боку кансерватыўных колаў, якія абвінавачвалі пісьменніка ў радыкалізме, варожасці да папства.

Выдае 6 гістарычных раманаў і аповесцяў, між іншым "Паперы Глінкі" У Львове пачынае выходзіць збор твораў Крашэўскага ў 102-х тамах (1872–1876)

**1873** – выбіраецца ганаровым членам Чэшскай Акадэміі мастацтваў.

Сустракаецца ў Італіі з Б. Залескім, які знаходзіўся ў кантакце з французскім ваенным міністэрствам і схіліў Крашэўскага перасылаць інфармацыю па ваенных і сацыяльных пытаннях Германіі ў французскае агенцтва друку

Перадае банкіру Кронэнбэргу канфідэнцыяльную просьбу італьянскага караля пазычыць 10 млн. франкаў золатам.

Публікуе гістарычныя раманы "Мачаха" (з паданняў XVIII ст.)", "Варшава ў 1794 годзе", а таксама гістарычную працу "Польшча ў часы трох падзелаў"

**1874** – на чале дэлегацыі ад Акадэміі Мастацтваў бярэ ўдзел у міжнародным Кангрэсе антрапалогіі і археалогіі ў Стакгольме

Асобным выданнем выходзіць "Morituri" (у 2-х т ) – адзін з лепшых раманаў, прысвечаных сучаснасці (аб маральным і фізічным выраджэнні польскай арыстакратыі) Выходзіць гістарычны раман "Крыжакі", а таксама "Графіня Косэль" – першы раман з саксонскай трылогіі, другая частка якой "Бруль" (1875), трэцяя – "З сямігадовай вайны" (1876) З'яўляецца ў друку II-я частка "Старонак з падарожжаў"

**1875** – узнагароджваецца ордэнам (вышэйшай ступені) Італьянскай Кароны.

Публікуе 9 раманаў, 3 аповесці, 2 навуковыя працы. "Дзённік паніча", "Дзённік Серафіны", "Работы і працы" – раманы на сучасную тэматыку, "Кароль і Бандароўна", "Апошнія хвіліны князя ваяводы (Пане Каханку)",

“Сеймавыя сцэны. Гродна 1793” – на гістарычную. Пад рэдакцыяй Крашэўскага і з яго ўступам пачынаецца выданне драматычных твораў Шэкспіра.

Задумвае вялікі цыкл раманаў (напіша 29), які ахопіць гісторыю Рэчы Паспалітай ад казачных часоў па XVIII ст

**1876** – працягвае атрымліваць і перадаваць сакрэтную інфармацыю на карысць Францыі.

Моцна пагаршаецца здароўе пісьменніка.

Выходзіць з друку першы раман гістарычнага цыкла – “Старое паданне” (з жыцця славянскіх плямёнаў у IX ст.), адзін з лепшых твораў у спадчыне аўтара.

**1877–1878** – атрымлівае рыцарскі ордэн (Камандорскі крыж) Італьянскай Кароны – “за вялікую сімпатыю, з якой паказваў у сваіх творах Італію і з якой прапагандаваў ідэі вольнасці і правы народа”

Рэдактар варшаўскага часопіса “Kłosy” А. Пяткевіч (Адам Плуг) выступае з праектам адзначыць 50-годдзе літаратурнай дзейнасці Крашэўскага выданнем кнігі, аўтарам якой зявіцца цэлы калектыў літаратараў

Камітэт Таварыства мастацтваў у Варшаве называе Крашэўскага сваім ганаровым членам (1878)

Атрымлівае запрашэнне на Міжнародны літаратурны кангрэс, які меў адбыцца ў Парыжы пад кіраўніцтвам В Гюго. Крашэўскі не прыняў удзелу, але стаў членам Міжнароднай асацыяцыі літаратараў і мастакоў.

Наведвае Сусветную выстаўку ў Парыжы.

З друку выходзяць 6 вялікіх твораў, сярод якіх гістарычныя раманы “Маслаў” (у цэнтры – сялянскі бунт IX ст.) і “Баляславаўцы Раман з часоў Баляслава Шчодрага”

**1879** – урачыстасці, прысвечаныя 50-гадоваму юбілею літаратурнай творчасці Крашэўскага, пачынаюцца ў Дрэздэне (у сакавіку) і адбываюцца ў Кракаве (у кастрычніку), куды з‘язджаюцца суайчыннікі з розных частак падзеленай Польшчы, з Еўропы, Амерыкі, Аўстраліі, а таксама дэлегацыі чэшскіх, італьянскіх,

бацькам Вайжбунуўна. Бацька стары, сівы, постаць паважная, хоць і ўбогасць засцянковая, а выглядам цягнуў на сенатара. Ён заўсёды хадзіў у шарачку, як гэта прынята ў старых ліцвіноў, у макавым кунтушы. Лоб лысы, валасоў ужо амаль і не засталося, пісяга ад палаша праз увесь чэрап такая, што мала б у ёй палец не схаваўся Відаць замалада сечку любіў. Побач з ім кленчыла дачка хоць ты малюй – такая ў ёй краса... уся такая слушная, шыкоўная, позірк смелы, вочы чорныя, вусны гардзелістыя. Панна глядзела ў вялікую кніжку, разгорнутай перад ёю, і за ўсё набажэнства вачэй амаль не адвяла. Пан войскі, таксама ж склаўшы рукі, у якіх трымаў вяночак, чытаў пацеры па памяці. Князь так задзівіўся на панну, што і пра малітву забыўся, за ўвесь час вачэй не адляпіў, нават пасля суплікацый, калі ўжо людзі паўставалі, ён усё яшчэ глядзеў на яе Калі парафіяне рушылі да дзвярэй, пракладаючы сабе дарогу праз тлум, працерабіўся малады і прыгожы мужчына ў кавалерыйскім мундуры і пакланіўся бацьку і панне. Стары прывітаў яго ўсмешкай, а Вайжбунуўна падала руку, і яны разам выйшлі з касцёла. За імі прасунуліся і мы, неапазнаныя. Просценькі вазок, а бадай што, каламажка, пара коней, чакалі іх, малады Дулемба сеў на каня, і так усе разам паехалі да Рабкі. А мы толькі прыглядаліся, – як хлопец з каня да панны схіляўся і весела гутарыў з ёю.

Князь таксама адразу пасля гэтага падаўся да сваіх коней і – назад у лес. За ўсю дарогу не сказаў ані слова, задуменны быў нейкі і пахмуры

У лесе, як я казаў, мы табарыліся цэлым лагерам, як бы ў паходзе супроць непрыяцеля, мала што не акопваліся... Зрэшты, ніякай такое патрэбы і не было, але нанач, больш дзеля фантазіі, чым з асцярогі, выстаўлялі варту, а раніцай трубілі пабудку... Пасярэдзіне лагера стаяў вялікі візіраў намёт з-пад Вены, у якім былі пакоі з перагародкамі і дастаткова месца для дворні Тут мы з князем елі, калі слота альбо холад не пускалі вынесціся на паветра Крыху зводдаль стаялі намёты меншыя пад службы і дворню, буданы чэлядзі, павеці для коней, на скорую руку зладжаныя кухні і спіжарні

Колькі з намі і за намі ішло падвод, колькі людзей, колькі коней, колькі запасу ўсякага патрэбна было, каб усё гэта часам па тыдні і па два карміць і паіць, цяжка палічыць. Такія ловы, такое мысліўства пазней мы ўжо мала калі бачылі

Кожнага дня іншы, загадзя нагледжаны абшар, абстаўляўся аблавамі і сеткамі Пропадзь халопства, сагнанага з навакольных вёсак, бывала, па некалькі сотняў, – хто пад голым небам, хто ў буданах – таксама покатам ляжала крыху зводдаль. . Хлеб, гуркі, піва, гарэлку для іх звозілі фурамі. Вечарамі было і смеху, і гулянак, і фігляў-мігляў, і гамонак дапозняга, без частых папоек таксама не абыходзілася. А таго дня, як што было ўрачыстае свята, і стралкі, і аблава, і госці адпачывалі ў намётах, і князю было сыта. .

Вярнуўшыся з касцёла, калі мы ўвайшлі ў намёт, засталі ўжо ўсіх за бігасам – чакалі толькі гаспадара





Яшчэ здалёк нас заўважылі кухары, і – мы ўваходзілі ў дзверы, а ў другія ўжо ўносілі дымныя місы.

Князь павярнуўся да Валадковіча і сказаў з усмешкаю на твары.

– Ну, пане каханку, што праўда тое праўда, ты меў рацыю, няма, не было і не будзе прыгажэйшай за Вайжбунуўну! Раз толькі незнарок мне ў вочы зірнула, а дагэтуль той позірк сядзіць ува мне і няскора яго забудуся Прабіла мяне, як штылетам, наскрозь...

Пачалі смяяцца, віншаваць і жартаваць, і дапякаць, як тое бывае пад кілішак. Адзін скажа, другі ўточыць слова, што не, і патыкацца туды не след – марная рэч, пустыя залёты, ай што ты, ай што ты

– Радзівіл з Вайжбунуўнай не ажэніцца, сказаў Валадковіч, а да яе, калі б нават таго Дулембы не было, іншай дарогі, як праз касцёл, нямаш..

Мечнік толькі вокам працяў гаваруна і сказаў:

– Дужа мяне запазычаў бы той, хто, пане каханку, настрэнчыў бы мне аказію, каб гэта і я мог зблізку пабачыць маю прыгажуню вайшчанку, пана войскага доньку, слоўкам з ёй перамовіцца.

Гэта няпроста, – адказаў Валадковіч, – бо нікуды не ходзяць, з дому іх выдабыць цяжка, пернікам вынадзіць нельга, але, хто ведае.. можа і надарыцца. .

Пачулі гэта людзі, і давай князю кожнае дагаджаць ад шчырага сэрца, давай прыкідваць, – дзе і як панну вайшчанку паказаць пану

Нагода такі надарылася аж толькі недзе пад запусты. Здаецца, там нават нехта і пастараўся Здаўна рупела пану суддзю Забэлу, каб хоць раз залучыць Радзівіла да сябе. Былі тыя Забэлы людзьмі, вядома, колісь даволі заможнымі і выдатнай крыві, але няўдала фартуну ўпусцілі Яна яшчэ памахвала крыламі, нягледзячы на даўгі, працэсы і розныя магчымыя ратункі, якія толькі адцягвалі поўнае руйнаванне

Суддзя часта бываў у Нясвіжы Насіўся па-французску, хоць мовы гэтай не ведаў і не скора пад моду падладзіўся. Смакавалі яму княскія ласункі і рады быў патрымацца за панскую клямку І хоць маёнтку – колькі таго там маёнтку было, а пры нагодзе выступаў так, каб дараўнацца з Радзівіламі Князь мечнік толькі пасміхаўся з таго, смяяліся сябры, але пыха пыхцела Суддзя шасцю коньмі ездзіў, з якіх і аднаго не было без калецтва, слугі насілі парадныя барвы, хоць і латаныя-пералатаныя, дваровых увівалася процьма, якія, калі прывёз іх з сабою ў Нясвіж на пракармленне, дык згаладалыя саранчою кідаліся на ўсякую ежу, пасля іх ніхто ўжо ні пад'есці не мог, ні вылізаць міску

У запусты падгаварыў нехта Забэлу, каб выстраіў вечар, паручыўшыся яму, што і Радзівіл прыедзе, калі толькі суддзя здолее пераканаць, каб і Вайжбунуўна была ў іх, бо мечнік хацеў пабачыць яе зблізку Суддзя закапыліў губы, калом упёрся і пабажыўся, што войскага ўгаворыць, упросіць, а хай хоць укленчыць перад ім давядзецца І адразу паехаў адзін; але дарма благаў, мучыў, кленчыў, войскі даў адлуп. Суддзя не дамогся нічога, паехала назаўтра пані суддзёвая ў надзеі, што ўжо

французскіх літаратараў Вельмі разнастайная праграма святкавання: віншавальныя прамовы, навукова-літаратурныя паседжанні, лекцыі, уручэнне ўзнагарод, дыпломаў, падарункаў.. спектаклі, балі (на баль у Сукеніцы было запрошана 4 тысячы гасцей) Кракаўскі клер байкатуе юбілей, дэманструючы негатыўнае стаўленне да асобы і творчасці пісьменніка.

У свяце прынялі ўдзел 14 членаў сям‘і Крашэўскага. Жонка, з якой ён не бачыўся ад часу свайго выезду з Варшавы ў 1863 г., але якой часта пісаў і сам атрымліваў ад яе лісты, не прыехала. Пані Зоф‘я была пакрыўджана на мужа за яго раманы з Марыяй Бэнкс і Флорай Гайніц. Знаёмства Крашэўскага з акцёркай Бэнкс цягнулася яшчэ з Варшавы. Пісьменнік браў яе ў падарожжа па Італіі, а потым, каб вызваліцца, звяртаўся за фінансавай дапамогай да Кронэнбэрга. Больш цесная сувязь была ў Крашэўскага з маладой удавой Флорай Гайніц. Разам з маці і сынам Флора паселіцца пасля юбілею на яго новай віле ў Дрэздэне і будзе апекаваць старога сябра да канца жыцця (Крашэўскі запіша на яе вілу)

Юбіляр прымаецца на аўдыенцыі ў аўстрыйскага імператара. Запрашаецца на прадстаўленне ў свой гонар, якое адбываецца ў венскай оперы. Там знаёміцца з венскай журналісткай, літаратаркай і перакладчыцай яго рамана “Графіня Косэль” на нямецкую мову, Крысцінай фон Талер (псеўданім Крысціна дэль Нэгра) Каля двух гадоў прадоўжыцца раман старога пісьменніка з жанчынай, малодшай за яго на 40 гадоў і да таго ж меўшай авантурны характар Іх няпростыя стасункі знойдуць адбітак у рамане Крашэўскага “Без сэрца” (асобнае выданне – 1882)

Пасля юбілею Крашэўскі хацеў адведаць хворую жонку ў Варшаве, але расійскія ўлады адмовілі яму ў пашпарце.

Публікуе 9 раманаў і літаратуразнаўчую працу “Красіцкі Жыццё і творчасць”

**1880–1882** – выходзіць 11-том-

ны збор твораў Крашэўскага на нямецкай мове.

Як ганаровы старшыня Міжнароднай літаратурнай і мастацкай асацыяцыі бярэ ўдзел у Міжнародным літаратурным кангрэсе ў Вене (1881 г )

12 красавіка 1882 г адбываецца паліцэйскі вобыск на яго дрэздэнскай віле. Пісьменнік вырашае пераехаць у Швейцарыю, але, недааацэньваючы небяспеку, марудзіць з ад'ездам.

Апошнія, безвыніковыя хадайніцтвы аб візе, каб наведаць сям'ю.

Выходзяць з друку 13 раманаў і аповесцяў на сучасную тэматыку ("Два багі, дзве дарогі" у 2-х т – Мінск, 1881; "Шаляніца", 1882), 17 – гістарычных ("Запісы пана Матэвуша Ясенецкага", 1881, "Кунігас. Раман з літоўскіх паданняў", 1882).

**1883–1884** – рэзка пагаршаецца стан здароўя. У тэстаменце просіць перанесці яго сэрца ў варшаўскі касцёл святога Крыжа. Вяртаючыся з пірэнейскага курорта, спыняецца ў Берліне, дзе арыштаваны прускімі ўладамі 13 чэрвеня 1883 г па абвінавачанні ў шпіянажы. За 2 тыдні турмы піша 2 раманы і перакладае 5 камедый Плаўта. Вызваляецца да суда за 30 тысяч марак.

Судовы працэс праходзіць у Лейпцыгу з 12 па 19 мая 1884 г Нягледзячы на недастатковасць юрыдычнай аргументацыі віны, Вышэйшы трыбунал асуджае старога і хворага пісьменніка на тры з паловай гады магдэбургскай крэпасці. Сярод палякаў панавала перакананне, што Бісмарк наўмысна ўзвёў паклёп на Крашэўскага як духоўнага правадыра іх нацыі

За кратамі яшчэ больш праяўляецца яго незвычайная творчая актыўнасць. Толькі за год Крашэўскі напісаў 5903 старонкі друкаванага тэксту 22 жніўня пераносіць апаплексічны ўдар.

Асобнымі выданнямі выходзяць гістарычныя раманы "Маці каралёў Часы Ягайлы" (1883), "Дзве каралевы (Бона і Эльжбета)" (1884), а таксама аповесць "На Палессі", зборнік навелаў і апавяданняў "Мазаіка" (абодва – у 1884) і інш.

кабеце не адмовіць. Сядзела цалюткі божы дзень і ўжо так таму Вайжбуну душу дастала, што ён нарэшце згадзіўся прыехаць з дачкою.

Забэла тут жа галопам у Нясвіж запрашаць князя, які не любіў заўчашчаць у такія дамы, дзе цырымоній было шмат, а свабоды мала, і нарэшце ўсё скончылася тым, што яшчэ і прыплаціць мусіў

На першым этапе суддзя паведаміў, што пан войскі з дачкою паабяцаўся прыбыць у той дзень таксама.

– Казалі мне, вяльможны князь цікавы зблізку прыгледзецца да таго нашага дамарослага цуду, які рэдка паказваецца ў свеце Вось жа, можа, хоць на гэтую прынаду пекнотаў панны вайшчанкі заваблю князя да сябе

Князь пачырванеў

– Мае мосці дабрадзею, пане каханку, – азваўся ён, – заўсёды мне прыемна здабыць у скарбніцу дабра людскія сэрцы. і не дзеля панны вайшчанкі, а дзеля служэння людзям, прыеду

Узрадаваны Забэла сабраў сапраўднае паспалітае рушэнне вёрстаў з дзесяці навокал Дом у іх быў ладны, стары, драўняны, пакояў у ім шмат, хоць і нізкіх, але даволі прасторных; а на такую ўрачыстасць дык не хапіла б і ў два разы большага. Вызвалілі і нанава перабялілі ўсе пакоі, з якіх павыкідалі ложкі і пасцелі, каб тых гасцей сяктак-такі размясціць. Капэлу Забэла даставіў з самага Слуцка, на дзядзінцы каля саду выставілі чатыры мажджэры, дзеля ўзмацнення віватаў Адкуль на гэтакую выправу пан суддзя грошай узяў, Богу толькі і жыдам вядома было. Даволі таго, што дзень той абставіць збіраліся парадна.

Мароз стаяў траскучы, а ў двары як у лазні; пакоі поўныя, аж дзверы зачыняліся ледзь, столькі народу натапталася Дзеля таго, што меўся прыехаць Радзівіл, збеглася шляхта, а той таксама ехаў з вялікім дваром.

Калі мы над'ехалі недзе падполудзень, гаспадары ўжо чакалі каля ганка, хоць і холад стаяў, а мажджэры бабахнулі радасную навіну Не абышлося і без прамоваў· адну сказаў сам суддзя, другую рэгент Пацэвіч, не лічачы даўжэзных і вывучаных кампліментаў

Штурхатня і ціск, што ледзьве было даступіцца да таго князя Кабет адна адной прыгажэйшых было навалам, а найперш дзве паненкі суддзянкі, гожыя і слічныя, як тыя ружы, але ўсё гэта гасла перад Фэлісіяй Вайжбунўўнай, якая была ўбраная хоць і просценька, а тым часам пасля яе ні на водную глядзець не хацелася Князь толькі ўвайшоў і адразу ўбачыў яе, але наблізіцца не мог За стол яго пасадзілі каля старое гаспадыні, з другога боку – касцельны інфулат Вайжбунўўна сядзела воддаль. Я змеціў, што князь еў мала, толькі ўвесь час вачыма ў яе страляў, пра што яна, здавалася, ані не ведала, ані здогадзі не мела.

Прагучаў першы тост з сурмамі і мажджэрамі за князя мечніка, потым пайшлі іншыя Такая ахвота ўсіх разабрала жахлівая, што пасля ўжо рукамі пілі за здароўе, раз за разам – на забой, і канца таму здароўю не было Князь нават хацеў ужо быў нейк ухіліцца, але ўсё скупілася вакол яго, так што яго дапозняга не выпускалі. Адно ўжо калі капэла ўваліла паланеза, ён устаў, запрасіў на першы танец гаспадыню Тады пайші іншыя скокі, ад якіх ужо пан мечнік адмовіўся, але не адкруціўся ад кілішкаў. Другі, трэці раз паўтарылі за яго здароўе, і за ўсё мусіў дзякаваць і тое вялікім куфлем, – сёння аднаму такому мала хто з нас рады даў бы А на той час – напарсткамі яны нам здаваліся.

Неадразу яго вызвалілі Валадковіч і я, бо мы яшчэ трохі маглі прайсці паміж гасцей На бяду тую тлум усюды быў такі, што нам цяжка далося працерабіцца Дзеручыся, як праз гушчар у лесе, мы ўсё-такі прабраліся туды, дзе стаяла Фэлісія Вайжбунўўна, а каля яе некалькі паненак. У гвалце нават размаўляць было цяжка, мы мусілі пачакаць, калі аціхне музыка і танцоры разыдуцца адпачываць.

Вайжбунўўне ўжо сяго-таго ўвялі ў вушы пра князя, як тое людзі звычайна плятуць, – што князь аж колькі разоў казаў· няма такой, як Фэлісія Вайжбунўўна, і калі князь падышоў да яе, у дзяўчыны кроў да твару прыліла і па вачах было пазнаць, што яна стрымлівала ў сабе гнеў.

Ні князя не прадстаўлялі, бо ўсе яго там ведалі, ні панны, бо прыгажосць яе і так вядомая ўсім.

Дык вось князь наблізіўся, падкручваючы вус, і сказаў·

– Ніколі ў жыцці не танцую і не маю ахвоты да іншага, хіба што да татарскага танца; але калі б далося мне шчасце пайсці з паннай вайшчанкай, дык гатовы не толькі ў танец, але хоць бы і ў пекла

Яна паглядзела на яго тымі чорнымі ўгневанымі вачыма, хвілінку памаўчала і азвалася так адважна, як бы гаварыла з якім заваляшчым шляхцюком.

– Не абы-які гэта мне гонар, што вяльможны князь зрабіў ласку звярнуць вочы на бедную шляхцянку але я таксама танцую мала і тое толькі з тымі, каго блізка ведаю а хай хоць з найвялікшым панам, хай хоць на неба, а не пайшла б дзеля фантазіі

Князь, які не чакаў такога ганарлівага адказу, памаўчаў хвіліну А тады ўжо, крыху цішэй.

– Рэдка калі такое з Радзівіламі здараецца, каб іх адпраўлялі пад квіток з нічым, асабіста я не прымаю гэтай знявагі, якое мне ўтачыла панна вайшчанка, але ў сэрцы памяць пра яе захаваю

– Гэта ніякая не знявага, – холадна азвалася Вайжбунўўна, захоўваючы ўсю сваю прытомнасць, – калі ў пана князя фантазія паскакаць сёння, дык тут ёсць з чаго выбраць да пары сабе

– Уласна, вяльможная панна, я з тых, каму, пане каханку, найлепей смакуе якраз забаронены плод, – азваўся Радзівіл, – ну, і з тых, што не баяцца рваць яго, як бы ні цяжка было ўспінацца на дрэва

Памаўчала трохі Вайжбунўўна, і дзіўна яе харастве пасаваў той гнеў, якім палала Павяла плячыма

– Не разумею вяльможнага князя, – сказала

– А як жа мне гаварыць, каб васпанне заўгодзілася мяне зразумець?

– Не так, як у палацах гавораць з прыгожымі і вывучанымі панямі, а так, як з намі, простымі шляхцянкамі, браты нашыя гаварыць прывыклі

У Варшаве пачынае друкавацца збор твораў Ю.І Крашэўскага – 10 тамоў у серыі "Бібліятэка выдатных твораў еўрапейскай літаратуры" (1884 – 1895)

**1885–1886** – вельмі цяжкі стан здароўя Хадайніцтвы італьянскага караля заканчваюцца нічым, і толькі князь Антоні Радзівіл дабіваецца паўгадовага тэрміну на лячэнне. 7 лістапада за задатак у 22 тысячы марак Крашэўскі пакідае крэпасць. Едзе ў Італію, перавозячы за сабой сваю бібліятэку (каля 10 тысяч тамоў), вялізны архіў рукапісаў, творы мастацтва, фартэп'яна.

Нягледзячы на сведчанні лекараў, прускія ўлады патрабуюць вяртання ў турму На кангрэсе Міжнароднай літаратурнай і мастацкай асацыяцыі ў Жэневе (верасень 1886 г ) яго вітаюць авацыямі

З друку выходзіць 7 твораў, у тым ліку аповесць "Ад калыскі да магілы", гістарычны раман "Выгнаннік" (абодва – у 1875 г.).

**1887** – з Фларэнцыі, дзе праводзіць 3 тыдні і наведвае хворага сябра Ленартовіча, вяртаецца ў Сан Рэмо і перажывае там 2 землятрусы.

12 сакавіка едзе ў Швейцарыю па справе куплі вілы пад Лазанай. Цяжкая хвароба ўскладняецца запаленнем лёгкіх. 19 сакавіка памірае ў Жэневе.

Урачыстае пахаванне Крашэўскага адбываецца 18 красавіка ў Кракаве Яго астанкі знаходзяцца ў Склепе Заслужаных на Скалцы, побач з Янам Длугашам

На працягу некалькіх гадоў выходзяць асобнымі выданнямі творы, ненадрукаваныя пры яго жыцці Сярод іх – гістарычны раман "Кароль у Нясвіжы. 1784" (1887)

**Падрыхтавала Святлана МАЛЮКОВІЧ.**

Гэтакае мовы мне, пане каханку, вучыцца не выпадае, – азваўся князь, усё больш жвавеючы, – мы ж таксама бо шляхта з касцьмі і скурай, а не нейкая там чужаземская дзічына .

– Радзівілы – гэта не тое, што мы, дробная шляхта, – сказала вайшчанка, – кожны мае сваё месца на свеце і свайго пільнавацца павінен Канарэйкі з вераб'ямі не йдуць у танок. а мы – шэрыя вераб'і.

У князя шчокі запунсавелі

– Страшэнна мяне, панна вайшчанка, хвошчаш за не маю віну, – азваўся, бо калі б я хацеў паслухацца панны і вадзіцца толькі са сваімі, дык мусіў бы перабрацца ў фамільныя скляпы, дзе продкі ляжаць. Чаго-чаго, а гэтага яшчэ сабе не зычу, пане каханку як на мой розум, прыгажосць у кабеце трону вартая Панне Фэліцыі ў нябеснай кароне хадзіць бы

– Вольныя жарты, вяльможны княжа, а я нават мітры сабе не жадала б, – запярэчыла Вайжбунуўна, – цярновыя гэта кароны

Князь азірнуўся на Валадковіча і шапнуў·

З такою няпроста гаварыць

Вайжбунуўна, як бы хочучы адысці і запабегчы далейшым зачэпкам, пасунулася на крок, але мечнік заступіў ёй дарогу.

– Ці ж бо мы ўжо з панам Валадковічам аж так васпанне спрыкрыліся, што ад нас панна ўцячы намысліла? Нам таксама на сонца падзівіцца хацелася б

– Вяльможны княжа, – перапыніла яго Вайжбунуўна, – завялікі мне гонар забаўляць вяльможнага князя, але я ані сілы на тое не маю, ані гумору..

– А што ж панне гумор сапсавала? – спытаўся мечнік, – ці не скруха сардэчная па кім-небудзь?

– Магло быць і такое, – азвалася спора вайшчанка, – але не ведаю, ці ў запусты я абавязана спавядацца

Мечнік закусіў губы

– Досыць таго, – сказаў, – што ў гэтым гасцінным доме пана суддзі панна вайшчанка не ласкавая са мною

Ані ласкавая, ані неласкавая, – адрэзала Вайжбунуўна Князь бачыць мяне першы раз, я вяльможнага вашэці князя толькі з людскіх слоў ведаю, адкуль бы ж тая ласка ці няласка ўзяцца мела?

– І за якога ж мяне з людскіх слоў ведаеш, пане каханку? – спытаўся князь, – за добрага ці за нядобрага?

Вайжбунуўна смела зірнула яму ў вочы ..

– Я не прывыкла залішне давярацца людзям, – сказала яна.

Князя ўсё больш і больш бянтэжылі яе смелыя адказы, ён круціў галавою і торгаў вусам

– Са слоў пазнаю, што абгаварылі мяне перад паннай, – сказаў ён далей, не была б да мяне такая (тут князь зацяўся і, не знайшоўшы адпаведнага выразу, бухнуў) такая. жорсткая

Вайжбунуўна, пачуўшы такое, холадна засмяялася, а мечнік, яшчэ больш сумеўшыся, насупіўся

Князю ці мая ветлівасць, ці мая прастата хай няшмат абыходзіць, – адказала яна, – праз хвіліну ўсё забудзецца

– Не так яно проста! пане каханку! о, не так проста, – сказаў мечнік, ну, яшчэ добрае слова магло б хутчэй сцерці з памяці прыкрасць, а вострае ніколі .

А вострага я і не сказала

– Лічыце, мала? – спытаў мечнік.

– Вяльможны князь залішне прывык, каб перад ім выдыгалі і ніцма падалі, а мы таго не вучаныя не патрафім

Паварушыла плячамі, зноў хочучы адысці, мечнік не пускаў

– І так мяне васпанна хоча адправіць без добрага слова? – сказаў

Яна паглядзела на яго

– Калі таго даволі, – пакорная слуга вяльможнага князя

Кажучы гэта, яна нізка пакланілася, падняла вочы і крыху з пакепам дадала

– Цалую ногі вяльможнаму князю.





Калі сказаўшы гэта, памкнулася ісці, мечнік яе больш не трымаў, але мы, ведаючы яго, па твары бачылі, як страшна быў узрушаны. Неўзабаве пасля, нягледзячы на настойлівыя просьбы Забэлаў, нягледзячы на божбы гасцей, што яго абступілі, зацяўся князь ехаць, а на ад'езд пайшоў шукаць Вайжбунуўну, каб развітацца. Калі яна ўбачыла, што ён набліжаецца, твар яе запалаў гневам.

– Не хачу ехаць не развітаўшыся, – сказаў князь, – а на ад'езд я хацеў бы запэўніць панну вайшчанку, што хоць панна і не ласкавая, я не дазволю так абыходзіцца са мною і буду панне дакучаць, аж пакуль не дапрашуся, пане каханку, лепшага прыёму...

І нізка пакланіўся.

– Я магу запэўніць вяльможнага князя, што якою мяне сёння бачыш, такою буду заўсёды.. бо я ўпартая...

– А я таксама! я таксама! падхапіў Радзівіл, – і няпроста мяне пазбыцца.

Вайшчанка скроіла рэверанс Ледзь толькі мы селі ў сані, князь крыкнуў·

– Я гатовы на ўсё, а гэтую ганарыстую яемосць трэба ўсціпліць і ўскромніць траха! Прыгожая, як багіня, але ж такога сабе тону задае.. Не мецьму спакою, пакуль не пастанаўлю на сваім!

Я і Валадковіч, і колькі нас там было, пачалі маліць і прасіць, каб выкінуў благое з галавы, гаварылі пра гонар Вайжбунаў і Ласкіх, пра хлопца, якога панна кахала, пра непрыстойнасць збліжэння, але ўсё гэта было гарохам аб сцяну, ён маўчаў, колькі разоў нешта азваўся, і толькі сваё права правіў, не хочучы слухаць нікога.

На раніцу тая самая літанія. Вайжбунуўна на снеданне, на абед і на вячэру, не гаварыў ні пра што, ні пра каго, толькі пра яе. Ведаючы, што ні я, ні Валадковіч, ні хто з нашых яму ў той справе не паслужыцца, трэцяга дня, як мы даведаліся, паклікаў італьянца, які быў пры нясвіжскім тэатры, зваўся Трамантана . Чалавек быў вясёлы, штукар, на ўсё гатовы, а як што ўжо каторы год пры двары ашываўся, выконваючы розныя функцыі, дык ведаў усіх суседзяў, выбіўся ў людзей на ласку, бо забаўляў іх і ўвінчваўся ўсюды дзе мог Князь недалюбваў яго, хоць і карыстаўся ім, і жартаваў з яго, і штукі ўсякія чыніў з ім бязлітасна. Але валох той меў у сабе і добрае, што, будзь той жарт мокры, гарачы, смярдзючы ці балючы, а ён ніколі не крыўдаваў, да сэрца не браў і ў хамут не біў; усё пераносіў без злосці, быў пэўны, што кожная рэч, якою прыкраю ні была б, аплаціцца стакроць. Трамантана ніколі не вагаўся ўзяцца за што хоч, не саромеўся ні самое справы, ні сродкаў

Яшчэ не стары, але ўжо лысаваты, з валасамі і вачыма чорнымі, здаровы мацак, з як бы набухлым целам, бледна-жаўтлявай скурай, заўсёды манерны і мітуслівы, хвіліны спакойна не пастаіць.

Ён умеў спрытна паказваць розныя штукі, калі было трэба, з картамі ўпраўляўся адмыслова, рабіў што хацеў, скакаў, хоць і тоўсты, лёгка, як матылёк, быў вясёлы Гаварыў па-польску кепска, але разумеў добра, а калі яму не хапала слоў, жэстыкуляваў па-італьянску выдатна. Жывыя смехі з яго, калі нам гумору не ставала.

Невядома, з чаго князю ўехала ў галаву паслужыцца такім – з дазволу сказаўшы – блазнам, відаць, дзеля таго хіба, што ад іншага такое службы не прыняў бы Даволі таго, што, як я пазней даведаўся ад самога Трамантаны, князь паклікаў яго ў кабінет і гаварыў з ім, на свой спосаб

– Слухай, ты, курдупель, пане каханку, розуму і спрыту табе не бракуе – паспрабуй жа, ці зможаш мне так зрабіць, каб у запусты завалачы ў які-небудзь дом пана войскага Вайжбуна з дачкою Нідзе не бываюць, а я хачу пабачыць панну; да іх мне яшчэ не час ездзіць. Разумееш?

Валох прасіў інструкцый – куды і як? але князь адмахнуўся.

– Калі б я ведаў – куды і як, дык бы, пане каханку, скурчыпалка, не было б і патрэбы ў табе На тое твой розум, альбо калі табе яго не стае, дык хоць у д'ябла пазыч. А яшчэ табе толькі таго і скажу, што калі хто захоча зладзіць гасціну, каб на ёй была Вайжбунуўна, дык колькі б тое чаго ні каштавала, а я заплачу і яшчэ зверху накіну

Валох не адважыўся адмовіцца, але пайшоў, павесіўшы носа на квінту, такой цяжкай задалася яму справа Раіўся з прыяцелямі пры двары, але ніхто нічога людскага не нараіў, і тады другога дня ён загадаў падаць коні і паехаў

Не было яго дзень, не было яго два і тры А ўвечары трэцяга, калі ў пакоях быў канцэрт, бо князь на той час і сам паігрываў, як гетман Агінскі, але фальшаваў, аж вушы

пухлі, – дык вось, бачым, валох стаіць у парозе, рукі на грудзях, і нібы з вялікай пабожнасцю і захапленнем прыслухоўваецца да княскага музыкавання.

Свавольнік заўсёды, зыскуючы сабе княскае песты, упадаў у ціхі экстаз, калі мечнік пачынаў іграць. І гэтым разам ён выварочваў і закочваў вочы, аж бельмы свяціліся, уздыхаў і выціраў слёзы, якіх не было Заўважылі мы яго раней за князя, які стаяў спінаю да дзвярэй перад пюпітрам

Нам карцела хутчэй даведацца, чаго там такога ён здолеў? бо мы паміж сабою пазакладаліся, ці дакажа ён тае штукі, а ці не

Па пыску мяркуючы, здавалася, што валох паставіў-такі на сваім. Але мы мусілі, хоць і ў нясцерп, чакаць, пакуль закончыцца канцэрт. Як толькі князь адступіўся ад пюпітра, адвярнуўся і зглядзеў таго з дабраславёнай мінай валоха, ён, не зважаючы на тое, што капэла ўсё яшчэ грала, схапіў яго і павалок у кабінет

Мы, не могучы ісці следам, павінны былі чакаць князевых указанняў З твару валоха, прывыклага да маскіровак, нялёгка было што-небудзь вычытаць, затое з князевага, – як з друкаванай, і тое вялікімі літарамі кнігі

Калі пасля амаль паўгадзіннай размовы мечнік выйшаў у залу, усе адгадалі, што валоху пашыхавала.

Трамантана ішоў за ім пакорлівы, сціпленькі, як тое бывае кот, уласаваўшы смачнага з горшчыка.

Капэла, скончыўшы граць, маўчала, але яшчэ стаяла. Князь загадаў паклікаць прынцыпала, кіраўніка, і граць марш Сабескага Грымнулі марша, і ў мечніка твар раз'ясніўся. Трамантана адышоўся ў кут.

Пасля музыкі падалі вячэру, весялосць была вялікая, але князь ні словам не прагаварыўся Мы аблеглі валоха.

– Кажы!

Але той бажыўся, што яшчэ нічога няма, што. . тое, што гэтае... і адпрэчыў нас за мілую душу Цікаўнасць аж паліла, а па князі толькі таго і відаць было, што з нечагась рады, але казаць таксама не казаў. Праз некалькі дзён, з раніцы, мечнік сказаў клікнуць мяне

– Слухай ты, вусаты, – сказаў мне, як звычайна ў добрым гуморы калі, – ты адзін маўчаць умееш Падвечар хай на ўсякі раз коні будуць напагатове . можа, кудысьці адскочым ты, Валадковіч, Карэнга і каторы там яшчэ Вялікага гамузу нам не трэба, але апрануцца як на свята, каб сораму не было.

Куды ж бо, пане княжа?

– А! куды? а табе на які ляд – куды? што, зараз мне тут інквізіцыю ўчыняцьмеш? Едзем і годзе

Я пайшоў да канюшніка і перадаў распарады Бралася на сутонне, калі князь выйшаў ад сябе, убраны Аж я дзіву даўся, бо строі надзеў старыя, вышараваныя, як бы наўмысна, а да іх гузікі, запінкі, розныя ланцужкі і падвескі вялікага кошту. Адно аб адно бразгоча Сказалі падаваць сані Ад ганка князь толькі сказаў·

– Рушай!

– Куды?

– Наперад! на грэблю! даведаешся, пане каханку, мой ты дасціпнічак.

І толькі ўжо за грэбляй загадаў ехаць да Забэлаў Не чуваць было, каб там сёння гасціну ладзілі, бавы строілі, але ў іх мала калі без гасцей было.

Калі мы спыніліся каля двара, ён свяціўся як лятарня На падворку людзей-людзей, усе дапалі да вокан – паглядзець, што там усярэдзіне Чулася музыка, соваліся пары, – скокі, значыцца Калі наш вазніца пачаў пугаю ляскаць, калі забрынькалі бомкі на санях, на ганак выбег сам пан Забэла.

– Што я бачу! закрычаў – Пан князь! о нечуваная ласка пана князя!

А князь на тое

– Па дарозе, пане каханку, да мілага суседа калі можна ўвайсці?

Пачуўшы шум на ганку, выйшлі і іншыя госці, вялікае здзіўленне, подзіў, воплескі, келіхі – і з налітымі, спяваючы. "То пан, то пан, то дабрадзей наш!" – трыумфальна павялі нас у залу

Не было ў ёй такога тлуму, як апошнім разам, хоць людзей было шмат, асабліва жанчын Я зірнуў, Вайжбунуўна сядзела таксама, а ўгледзеўшы князя, пачырванела і





ўстала, як бы хацела адысціся, але і толькі ж таго, што за іншай паннай стала. А мы ўжо мелі яе на воку. Капэла грала марш Загадалі ўлупіць з мажджэраў Шляхце канечне князя на руках унесці, але той не даўся-такі Падышла пані суддзёва, за ёю і іншыя дамы Аднак усё гэта нічога не дало, бо князь, таксама прыбылы сюды з праектам, хадзіў якраз так, каб спаткацца з Вайжбунуўнай, якая ўсяляк яго ўнікала.

А наступіла тое не раней, як па вечары, калі ўжо ўсталі ад стала. Вайшчанка памкнулася была вышчаміцца, але мы мамэнтам заступілі ёй дарогу

– Якое ж бо то шчасце маё, на якое сёння нават і не спадзяваўся, – усклікнуў мечнік, – што сустракаю панну вайшчанку!

– І я таксама зусім не спадзявалася нават, каб пан князь маё прозвішча памятаў.

– Прозвішча, можа, я мог бы і забыць, але твар – ніколі, – дадаў князь.

Дзяўчо зарумянілася, але можна было лёгка пазнаць, што не ад радасці, а ад гневу

Моўчкі паглядзела, рассеяная, як бы шукаючы, дзе б гэта спрытней вышмыгнуць. На тое мы парадзілі, каб пан князь хоць бы размовай задаволіўся

– Як я зайздрошчу панству судоўству, што вы суседзі пана войскага, – дадаў князь, – бо да Нясвіжа хай і недалёка, але сумняваюся, што далі б перавагі.

Панна Фэліцыя падняла вочы.

– Вашэці княжа, – сказала, – высокія парогі не на нашыя ногі, мы ў тых толькі бываем, каго і ў сябе пачаставаць можам. Бацька стары, а я не вельмі да баваў ахвочая.

– А што ж, красунечка, любіш? – спытаўся князь.

– Свой хатні спакой, – адказала Вайжбунуўна.

Э-э! – завёў мечнік, – грэх гэта, бо ў Святым Пісанні сказана, што свяцільні пасудзінаю накрываць не гадзіцца. Лічко ў панны такое прамяністае, што хаваць яго ад свету – крымінал!

– Не магу пану падзякаваць за камплімент, бо лічу яго жартам, – сказала Вайжбунуўна, – а калі князь мяркуе, што гэта шляхцянцы галаву закруціць, дык шкада мне, бо вельмі пан памыляецца.

Мечнік стаяў, раздумваючы, што сказаць далей, вайшчанка, не могучы выйсці, бо мы абступілі яе, толькі круцілася, тупала ножкай і смыкала плечыкамі

– Чыстая аблога! – пачуў я, як сказала

– Я думаў, што ўжо сёння застану панну вайшчанку ў ласцы, – сказаў князь.

Яна нічога не адказала, удаючы, што не пачула.

– Таго разу лёс пакпіў з мяне, – сказаў ён далей, бо здалёк паказаў мне надзею на шчасце, а ўсё дзеля таго, каб жорстка мяне пакараць.

– Які вялікі жаль, – адазвалася панна Фэлісія, – такія прыгожыя словы такой прастачцы, як я Іншая, вяльможны княжа, умела б ацаніць іх, а я нават не разумею, што яны значаць. Зычыла б пану прыберагчы такія дарагія кляйноты на лепшы ўжытак.

Мечнік закруціў вуса

– А ўжо ж ці можа быць так, – сказаў, падумаўшы, – каб тая, якая ўмее падабраць такія вострыя слоўцы, маіх не разумела. але бачу, не мелі шчасця ўпадабацца ні яны, ні я!

На твары дзяўчаці ўсё больш значылася нецярплівасць і абурэнне. Прызнаюся, мне ўжо было шкада яе, яна ўсё яшчэ спрабавала вырвацца, а князь падаваў нам знакі, каб не выпускалі Як бы ў роспачы, яна падняла галоўку, доўгім позіркам паглядзела на мечніка Аднаму Богу відаць, з пагардай ці з літасцю, бо і тое і другое было ў яе вачах, яна выбухнула

– Вяльможны князь толькі адным спосабам мог бы спадабацца сваёй слузе

– А якім бы гэта? навучы мяне, красунечка, ахвотна паслухаюся

– Калі б ты забыў пра яе! – тупнуўшы, закончыла панна.

Князь анямеў, уваччу яму зацьміла, слоў не знайшоў, забалбатаў нешта невыразнае, бесталковае, а ў канцы сказаў·

– Гэта цяжка, панна вайшчанка, дабрадзейка мая, мы нічога рабіць не прывыклі, а наадварот, – заўсёды пастанаўляць на сваім. Чым цяжэй, тым прыемней пастаяць на сваім

– Дык вяльможны князь пастанавілі ўжо? – спытала яна, – што? ужо ці не выставіць мяне на смех людскі?

– Не, панна вайшчанка, а каб схіліць яе сэрца, каб мне болей спрыяла, – сказаў мечнік без ніякіх выкрутак.

– І дзіўную ж дзеля таго князь выбраў дарогу, – жыва азвалася панна, – слуга вяльможнаму князю

Яна пакланілася, дадаўшы з вялікай прыкрасцю:

– Чыстае вар'яцтва! .

– Я не дамся так лёгка адпрэчыць мяне! шапнуў мечнік. – Паглядзім!

У гэты момант, убачыўшы паміж намі нейкую шчыліну, панна выслізнула, выбегла і знікла, і больш у залу не вярнулася. Забава зацягнулася далёка за поўнач, і мечнік у вясёлага строіўся, але ж мы, добра ведаючы яго, бачылі, што ўсё ў ім ад гневу кіпела. Мы вярнуліся ў Нясвіж сярод цёмнае ночы і снежнае завірухі, бо князь нічым угаварыць сябе не даў, каб хоць да дня забавіцца альбо і застацца нанач, а то ж бо ўжо і пакоі падрыхтавалі Мала таго, час быў тады самы воўчы, хеўрамі шасталі, пад самыя вёскі падбіраліся, і вельмі проста можна было на іх нарвацца. А мы ж і стрэльбаў з сабою не бралі Да дня, два разы ў дарозе вываліўшыся, вярнуліся мы ў Нясвіж, усе ў такіх настроях, што толькі кленічамі акідаліся, а ўжо колькі натрактавалі кулакамі слуг, дык і не злічыць.

Усе мы пасля гэтай выправы лічылі, што на тым і канец ёй стане, што не схочацца болей князю зорачкі з неба, аж не, бо ў ім не так каханне зайграла, як зачэплены гонар

Нікому нічога не казаў; ужо на вясну бралася, бо таго года ранняя была, калі аднаго дня загадаў рыхтаваць верхавыя коні, назначыў некалькі дзесяткаў дваровых, і хоць гразка было і дарогі жахлівыя, – на вялікі выезд.

Урачыстасці ніякай не было, ні пра якую-такую дастойную фігурацыю мы нічога не чулі, ніякага запрашэння князь не атрымліваў, мы галовы круцілі сабе, што за фантазія Да дня ўсё павінна было быць гатова. Князь выйшаў з гардэробу ўбраны як на фэст, мы паселі на коні, не ведаючы куды і чаго, аж: у Чырвоную Рабку! загадаў

У галаве нам такое не мясцілася Усю дарогу князь наўмысна жартаваў з намі дзеля неспазнаку, што быў кіслы, прадчуваючы няўдачу адведзінаў

– І што ж ты на тое? пане каханку! звярнуўся ён да Валадковіча.

– Мне здаецца, што такія штукі выкручваць варта было б прымусіць Трамантана, – сказаў Валадковіч

– Што ж гэта за выкручванне штук?

– Усё ж такі ў Рабку едзем?

– Ну ў Рабку, і што тут за штука, пане каханку? прыняць нас такі прымуць.

– Хто ведае як! – буркнуў Валадковіч.

– Думаеш, можа прыняць мяне кепска, пане каханку? а то ж бы запасную галаву трэба было б мець у куфэрку

І так па ўсёй дарозе зачэпваў то аднаго, то другога, а прыпалудні мы ўбачылі дворык, і князь загадаў рушыць чвалам. Брама перад дваром стаяла вялізная, цяжкая, замчыстая, але наша чэлядзь кінулася да яе, адчыніла, і мы з вялікай помпай заехалі на дзядзінец.

Можна сабе толькі ўявіць, якое ўражанне гэтая кавалькада, што як з неба звалілася, зрабіла там, дзе нічога такога ніколі не бачылі Адны дваровыя паўцякалі, другія паўздзіраліся на платы, на драбіны, каб лепей разгледзець. Птаства, што грэблася на дварышчы – куры, індыкі, гусі, пырхнулі з галасам на ўсе бакі

На ганку нікога. Князь сядзеў на кані, а з двара да нас даносіўся толькі стукат дзвярэй Ніхто сустракаць не выходзіў.

Князь нарэшце ссеў з каня, даў знак мне і Валадковічу, каб мы праводзілі яго, астатнім загадаў заставацца каля коней Адчыніліся левыя дзверы, і ў іх паказаўся войскі, лёгка кланяючыся князю, запрашаючы рукою ўсярэдзіну

— Я ўжо, пане каханку, падумаў быў, — сказаў мечнік, — што вашамосці ў доме не застаў, бо нас толькі гусі і куры прывіталі

— Вяльможны княжа, — сур'ёзна адказаў гаспадар, — якое дзіва, што мы не спяшаліся прыняць, хто ж бо такое пад такой убогай страхаю мог спадзявацца на такога госця? Мяркую, што хіба выпадак прывёў сюды вяльможнага вашэці князя

— Не, пане каханку, я прыехаў наўмысна і свядома, — сказаў мечнік, — на пачцівасць. Крыўдзіце вы мяне, што ані ў мяне не бываеце, ані мяне знаць не хочаце. Туркі кажуць, пане каханку, што калі гара не хацела ісці да Магамета, Магамет пайшоў да гары Вось жа і я так, пане каханку





Пан войскі смутна ўсміхнуўся

— Быў час, вашэці княжа, — адказаў, — калі Вайжбуны і да Радзівілаў ездзілі на хату пад стрэхай, цяпер трэба на сваю пядзю мерыць, вяльможны княжа Не маю чым прымаць Радзівіла.

— Пане войскі, каб жа толькі дачкі ягамосці тварык нам засвяціўся, і за ўсё гэта станецца

Вайжбун засоп, выпрастаўся і пасуровеў

— Вяльможны княжа, — сказаў ён, — мая дачка створана не на забавы магнацкія, прашу не спамінаць яе!

— Чаму? — спытаўся князь.

— Таму, што вяльможны вашэці князь не ў канкуры да яе прыбываеш, а ў залёты я сам не дапушчу

Сказаўшы гэта, пакланіўся

— Негасцінна прымаеш мяне, вашэці! пане войскі! пане каханку.

— Інакш не магу.

— Але ж, калі не з ветлівасці, дык з рышпекту да Радзівіла, які мае столькі палкоў і людзей, што не дапусціць сябе да абразы, выпадала б, пане каханку, быць больш ветлівым

— Вайжбуны, вяльможны княжа, са страху прагінацца не прывыклі

— Пане каханку, — засмяяўся князь, — далі-панбог, пан мяне выклікае?

Войскі паціснуў плячыма, рукі ў кішэні ад клопату засунуў і стаяў непарушны

— Князь мне пагражае?

Мечнік пачырванеў

— Ваша мосць мяне ятрыць? Зрэшты ж бо карона з галавы панны вайшчанкі не ўпала б, калі б выйшла паказацца нам

— Ані яна, ані я сабе таго не зычу, — адказаў войскі

Князь прайшоўся колькі разоў па цесным пакоіку, як бы наогул таго да сэрца не браў.

— Пане войскі, пане каханку, — сказаў, — вы тут так у вёсцы седзячы, сам-насам з курамі і гусямі, мабыць, паначыталіся старых прыгодаў?

Шляхціц не зразумеў, паглядзеў на мечніка і нічога не адказаў

— Га? — спытаўся праз хвіліну

— Бо я, зрэшты, думаў, пане каханку, ці не чыталі вы той цікавай гісторыі пра караля ці гішпанскага князя, які ўпадабаў быў бедную кастыльскую шляхцянку Дык жа вось, пане каханку, калі дзяўчына пару разоў адвярнулася, а бацька ў яго перад носам бразнуў дзвярыма, пане каханку, князь як ашалеў усё роўна, угневаўся і, кажуць, фатальная з таго авантура выйшла.

— Гэтай гісторыі я і праўда ж не чытаў, — сказаў войскі, — першы раз пра яе чую, але, вяльможны княжа, што там адбывалася ў Гішпаніі, за барбарскім нейкім часам, сёння нікому не абыходзіць. Сёння такое княжатка звалаклі б у трыбунал, ды, як таму Збароўскаму, сцялі б галоўку, альбо, як таго Дымітра, таго, што сілай захапіў Гальяшку Астрожскую, забіў бы першы стрэчны

Князь аж моцна пачырванеў.

— І не, — сказаў спакойна, — і.. не, пане каханку; я скажу ягамосці, што было б: сыпнуў бы грашыма і злагодзіў бы шляхту, і панавыя фантазіі залішніліся б.

Войскі збялеў, а мечнік крутануўся, надзеў на галаву шапку і спакойна дадаў·

— Дабранач вашэці, пане каханку, дабранач, а, можа, і да пабачэння! да пабачэння!

Вайжбун стаяў як скамянелы, бо гнеў не даваў яму слова вымавіць, калі мы ўжо выйшлі, селі на коні і пагапатавалі да Нясвіжа.

З таго дня і пачалася ўнутраная вайна ў князі, і няспынная спрэчка з тымі, што атачалі яго Мы стараліся прывесці яго да памяці, іншыя падбухторвалі, падлівалі алею ў агонь. Сярод шляхты адразу разнеслася вестка пра тое, адны бі-забі! стаялі за мечніка, другія ўсё на жарты і смех зводзілі У Нясвіж даносілі, быццам войскі пагражаў сабраць са шляхты на князя аблаву, быццам плявацьме на яго як на адзінца, што ў полі ў шкоду лазіць. Мабыць, выдумкі, але князь абураўся і крычаў:

— Я яму пакажу адзінца! Яшчэ пабачым, чым яно паміж намі скончыцца Можа, самога адзінец ікламі распора раней, чым ён упаляваць патрапіць!

Спакайнейшыя каторыя, напэўна, угаварылі б князя нарэшце, калі б не шайка тых, што падбіваюць усюды, сеяць бяду, каб пажывіцца на ёй. Яны ж і прыносілі новыя весткі, новыя пагрозы, і хоць князя ад іх асланялі і пільнавалі, невядома якімі шляхамі ўсё гэта пранікала да яго, так, што ледзь толькі ад адной адыходзіў душою, як ужо невядома адкуль бралася другая, каб не даць яму апамятацца і астыць.

У такой няпэўнасці і страху мы прабылі да восені, і, бадай, не выпадала такога дня, каб не заходзіла гаворка пра Вайжбунаў, каб не спаміналі.

Калі прыйшла пара на ловы, наказаў наш князь атабарыцца на ранейшым месцы, там, дзе мы раней лагер ставілі Уразіла гэта нас тым болей, што звяр'я на той дзялянцы пушчы якраз і не вадзілася, а ў іншых мясцінах і больш яго, і ўпаляваць было лацвей Ледзь толькі мы там спыніліся, як само суседства Рабкі нагадала пра Вайжбунаў Пайшла гаворка пра іх, а пасля кілішка нехта сказаў, што шляхціц учыніў князю нядобры прыём

Мечнік, дачуўшыся, буркнуў:

— Чакай, справа гэтая не скончаная, перахрысціш лоб, як зробіш гоп..

Назаўтра раніцай лоўчы назначыў паляванне за тры чвэрці вярсты ад лагера

Князь адразу ж, з вечара, чаго ніколі з ім не бывала, сказаў, каб паляўнічыя ішлі сабе адныя, бо ён будзе спачываць. Нечуваная гэта была на той час рэч, каб мечнік спачынку зажыў Здзівіла тое неверагодна. Лоўчы хацеў быў нават адкласці экспедыцыю, але князь не дапусціў.

— Едзьце сабе без мяне, пане каханку, хай і людзям штось дастанецца, каб мелі чым пахваліцца

Княскае таварыства, фаварыты і прыбліжэнцы атрымалі загад такс ıма адпачываць. З самае раніцы ён быў маркотны, задуменны і не адзываўся ні да кога. выйдзе з намёта, паглядзіць на лес і вернецца. Прыпалудні апрануўся як на паляванне, але багата і раскошна, залачоны рог на шаўковым шнурку павесіў цераз плечы, коні загадаў пасядлаць і прывесці і, сеўшы на свайго, загадаў·

— А што, пане каханку, паедзем з Вайжбунуўнай пабачымся Знудзіўся я па ёй, перавёўся!

Усім неяк няміла зрабілася, усё выдавала на чыстую авантуру, але ніхто не смяяўся, заўваг не рабіў, не пярэчыў. Усе прыціхлі, селі на коні і чвалам паляцелі за ім. Ні яму, ні нам гаварыць не хацелася, уся дарога прайшла ў маўчанні, аж вунь паказаўся і той дамок у Чырвонай Рабцы. Памятаю яго, як учора толькі бачыў. Стаяў, прыпершыся садам да бярэзніка, які яшчэ далей ішоў добрым кавалкам. Шляхецкі ўбогі дамок з высокім дахам, ганак на двух слупках, абапал яго па два акны Адзін плот агінаў дзядзінец здалёку, другі, акуратна сплецены, пад самымі вокнамі асланяў кветкі ў гародчыку, каб не здрасавала быдла, ідучы да студні

Старасвецкая брама засланяла нам частку дома, бо была не меншая за сам дом, з крытым саломаю дашкам, замчыстая, абарончая. Да яе вяла абсаджаная вербамі дарога.

Ужо здалёк відаць было, што вароты стаялі зачыненыя На ганку, рукі ў кішэнях, стаяў, як здавалася, сам гаспадар, якога мы нібыта пазналі па каптуры

Князь пусціся ў поўны чвал, проста на браму; усе за ім, пад'ехалі; гайдук саскочыў з каня і кінуўся, цуглі яму на карак заклаўшы, да форткі, каб праз яе дастацца на дзядзінец і адчыніць нам вароты Але тут з ганка пачуўся моцны голас:

— А каго ж гэта нам Пан Бог пасылае?

Гайдук з няпэўнасцю азірнуўся на князя што адказаць.

— Дакладвай пра пана Гарабурду! — крыкнуў яму мечнік.

Гайдук паўтарыў дрыготкім голасам.

Тады з ганка зноў спакойна загаварыў войскі.

— Гарабурда? пропадзь іх на белым свеце, тытул які?

— Сын стольніка смаленскага! — загаварыў князь.

Стары Вайжбун панура і дзіўна ўсміхнуўся.

— Ану! Адчыняй вароты.

Запішчалі старыя падвоі на драўняных падвесах, вароты пачалі адчыняцца, і, перш чым мы даехалі да ганка, стары Вайжбун на хвілінку знік і тут жа вярнуўся, спакойны, насуплены, паклаў побач з сабою на лаўку стрэльбу Нічога добрага нам гэта не звеставала.





Першы з каня саскочыў сам мечнік і, дакрануўшыся да шапкі, прадставіўся:

— Яцак Гарабурда, сын смаленскага стольніка, праездам з пачцівым рышпектам

— Вельмі ўдзячны, — панура адказаў войскі, пазіраючы на князя з такім дзіўным выразам на твары, што на жарт гэта ніяк не выцягвала. — Гарабурдаў на свеце шмат ведаю, з якіх жа гэта ваша будзеш, з тых, што бурды чыняць, а ці з тых, што шукаюць гуза на лоб?

— Я? пане каханку, — адказаў князь, — гузоў на лоб не шукаю, а ахвотна іх раздаю, калі зручная нагода навінецца.

Войскі суха, пакепліва засмяяўся.

— Мой стольнікавіч, — сказаў, — хто раздае гузы, той і сарваць сабе можа. Відаць, вы былі ў добрай навуцы ў князя мечніка літоўскага, бо нават аж ягоную памянёнку пераняялі Вялікі ён пан, але яму яшчэ двух гувернёраў даць не шкодзіла б, каб навучылі яго абыходаў у свеце.

Паглядзелі адзін аднаму ў вочы. Мечнік закусіў вус, войскі руку на стрэльбу паклаў

— А ваша мосць, пане каханку, — сказаў Радзівіл, — з князем мечнікам ці не водзіце знаёмства? дык шкада, ён бы пана трохі падвучыў палітыкі і свецкасці

— Застары я, каб ужо мне вучыцца, — адказаў Вайжбун, — з мечнікам ані шмат не знаёмы, ані бліжэй пазнаёміцца не прагну. Высокія парогі не на мае ногі... і... маладога піва, пакуль не адстоіцца, не п'ю.

Князь аж здрыгнуў на тое маладое піва.

— Я ж табе, як пэўна вашаць, пане каханку, сам здагадаўся, пан-мечнікаў прыяцель, — сказаў гнеўна, — што ж будзе, калі данясу яму, пане каханку, што выстаўляеце яго такім невыстаялым півам?

— Будзе якраз тое, чаго, зрэшты, і сабе зычу, — адказаў Вайжбун панура, — князь мечнік абыдзецца са мною гэтак сама, як і я з ім

— Не канечне, — распаляючыся, падхапіў князь, — не канечне, пане каханку Я ведаю яго лепей, чым ваша ведае, можа, якраз захоча зблізіцца з кім, хто яго і ведаць не хоча!

— Але ж такі нікога нельга змушаць на дружбу; на свеце даволі месца ўсім, каб не патаўкліся локцямі Я князя ведаю мала, але людзі ведаюць лепей і асудзілі яго так, што я лічу за лепшае трымацца далей

На тыя словы мечнік ужо не мог сцярпець і, узяўшыся ў бок, не зважаючы на стрэльбу, на якую абапіраўся Вайжбун, крыкнуў:

— Людзі асудзілі яго, але такія людзі, як вы. Годзе ўжо нам той камедыі, пане войскі я да вас і да вашай пекнай донечкі прыехаў на гасціну Ведаеце мяне

У старога твар успыхнуў, і ўздрыгнула рука, па ўсіх мурашкі пабеглі

— Да мяне дык да мяне, але да донечкі! а што вам да яе? Голя! голя, вяльможны княжа, яна такіх гасцей не клікала.

І ўсё яшчэ трымаючы адну руку на стрэльбе, паказаў другою на вароты. Князь хвіліну памаўчаў, як бы не ведаючы, што рабіць. Мы агледзеліся вакол, з гайдукамі і слугамі было нас чалавек з дзесяць.

— Радзівіл, васпане, пане каханку, так выгнаць сябе за вароты не дасца! — крыкнуў, — калі прыехаў у госці, дык госцем і буду

І ляпнуў па шаблі

Войскі, які не чакаў ніякага гвалту і дзеля застрашэння схапіў з цвіка толькі незараджаную стрэльбу, а ў хаце таксама, як пазней выявілася, нікога не было, апрача адной кабеты і падлетка, завагаўся, рука ў яго дрыжала, бровы ссупіліся. Усе людзі былі ў полі, клікаць іх і думаць было марна. Князь пёрся да дзвярэй, а стары Вайжбун са стрэльбаю ў руцэ заступіў яму дарогу і голасам, дрыготкім ад гневу, закрычаў·

— Ды што ж гэта такое? гвалт? набег? разбой сярод яснага дня? Ні кроку далей, вяльможны княжа. Дом — мой прыбытак, ён святым быць павінен для ўсіх чужых, што права шануюць Ні кроку далей!

На гэты крык і галас, лёгка чутны ўсярэдзіне хаты, выбегла Вайжбунуўна, як была, як стаяла, убраная па-хатняму, з распушчанымі валасамі, але яшчэ прыгажэйшая, чым калі мы яе статнаю бачылі. У руцэ яна несла ў дапамогу бацьку шаблю, пра якую той быў забыўся, вочы былі агністыя, і яна смела змерыла імі князя

Войскі схапіў шаблю другою рукою Убачыўшы, што тут ужо на нешта нядобрае

заносіць, бо і мечнік трымаўся за тронку шаблі, таварышы сталі і пачалі прасіць князя і стрымліваць, каб не браўся за зброю.

— Калі вы баязліўцы, пеньцюхі, гаўнюкі! дык ідзіце ўсе да ста тысяч д'яблаў, — адказаў ён, разгневаны, — а я тут і без вас з гэтым шляхцючком разбяруся...

Войскі бледны, слова не кажучы, з шабляй у адной руцэ, другою на стрэльбу абапершыся, стаяў і, здавалася, чакаў зачэпкі За ім дачка, зусім неспалоханая, мерыла нас поўнымі гневу вачыма, пагардліва. Князь, павярнуўшы вочы на яе, засмяяўся і паслаў рукою цалунак.

— А і не трэба мне болей прабівацца ў ваш негасцінны хляўчук, — крыкнуў уголас, — я пастанавіў на сваім, бо такі ўбачыў вашую дзеўку, вашэці войскі. Тым разам досыць і годзе, а пачакаўшы — там і пабачым, пане каханку. Захачу, дык Рабка — не фартэцыя, здабыць патраплю і Рабку і тваю зграбку .. Чуеш, войскі, пане каханку, запішы сабе гэта на памяць. Як Радзівіл сказаў, так яно і будзе

Струхлеламу старцу ў першую хвіліну слоў не хапіла, збялеў як труп і пахіснуўся Вайжбунуўна, падтрымліваючы яго, падняла на нас сціснуты кулак. Усе мы стаялі, як абамлелыя, калі мечнік саскочыў з ганка і, хаваючы шаблю ў похвы, скамандаваў·

— На коні! — і сам на свайго ўскочыў.

Мы ўжо борздзенька браліся за страмёны, калі войскі, крыху ахалонуўшы, цягнучы за сабою стрэльбу, падняўшы шаблю, бледны, дрыготкі, як шалёны збег з ганка.

— Слухай ты, мечнік літоўскі, ты, які сваімі шаламі паскудзіш пачцівае гняздо, валацуга ты апантаны, калі асмелішся нагой ступіць на мой грунт, дык, памажы мне Божа і Найсвяцейшая пакутамі Ягонымі, як сабаку ў лоб усмалю!

Нам ледзь жыцця не забракавала, калі мы пачулі такое, мы ведалі, што князь абразы век не даруе, без аддзякі не пакіне, гэта быў выклік, наступствы якога нам было лёгка загадзя прадбачыць.

Князь засмяяўся, а хутчэй рыкнуў, як паранены мядзведзь. Другі раз у жыцці мы чулі з ягоных вуснаў такі голас, а першы раз — калі шляхціца кудзеляй задушыў

— Старая бязмозглая доўбня, — рыкнуў, — ты мне заплаціш, шчодра заплаціш. Да мілага і скорага пабачэння, да пабачэння .

І, ужо даўшы астрогаў каню, зірнуў на панну, і рвануў да брамы, паўтараючы, як непрытомны· да пабачэння! да пабачэння!

Мы — за ім.

Ляцелі як апантаныя, не разбіраючы дарогі, можа, з чвэрць вярсты, адзін гайдук разам з канём нават у роў убіўся, і толькі сярод поля мечнік рыўком асадзіў каня, аж храпу закрывавіў, а задкія ногі па костачкі ўселі ў пясок. Спыніліся, князь аціраў пот з лоба, дзіка смяяўся, нездаровым смехам, зубамі скрыгочучы

— Чулі, з сабакамі мяне паслаў, — крыкнуў, — і каб я яму і ёй так перапусціў? як Бог жывы, пане каханку, не можа таго быць, хіба што Радзівілам заўтра свінні пасвіць. Дзеўку вазьму, а хай хоць галавой налажу, а старому храпы стулю на векі вечныя.

Паглядзеў на нас, як бы хацеў, каб мы яму падтаквалі, але ніхто не аказаўся, усе маўчалі І якое тут дзіва! мой дабрадзею, кожны з нас сваю хату, свайго старога бацьку і сястру ўспомніў.

— Стары каркам заплаціць! — крычаў раз'юшаны князь, — такога прыёму не дарую! Гэта яму суха не пройдзе, альбо я не Радзівіл Крывіцеся на мяне ці не, — дадаў ужо нам, — мне да халявы, не пойдзеце са мною, зганю тысячы людзей на гэтага нахабнага мяцежніка і..

Адзін стары Парчэўскі адважыўся выцадзіць праз зубы

— Вольныя жарты, вяльможны княжа, шляхціц языком малоў, дык што там у тым такога, але замахвацца на дом, гэта ўжо вязніцай пахне.

— А хай хоць бы і галаву на калодку! пане каханку, — падхапіў мечнік, — хто любіць Радзівіла, той не пакіне яго, а хто паршывая авечка, хай ідзе дахаты спаць, смалі вас д'яблы!

І, сперазаўшы каня плёткай, пусціўся зноў.

Моўчкі, растрывожаныя, ехалі мы за ім аж да лагера. Там, яшчэ мы з коней не пазлазілі, князь ужо загадаў здымаць лагер і збірацца ў дарогу ў Нясвіж.

Але раней чым затрубілі на збор раз і другі, перш чым усё пасцягвалі і ўпакавалі, перш чым забралі коней з пашы, загрузілі вазы, паскладалі намёты, пачало змяркацца





Усе хадзілі як патручаныя, ніхто слова сказаць не смеліўся, паглядалі толькі ў вочы адзін аднаму, і кожны ўзважваў, што павінен рабіць і што стацца можа

Пасля князь загадаў падаць віна, хоць нікому не хацелася піць, бо і так мы былі як п'яныя Але сцінацца з ім цяпер было нельга; калі паналівалі келіхі, кожны рады не рады мусіў хлябтаць. Гэта нас неяк міжволі ажывіла, дадало адвагі, і мы пачалі паміж сабою раіцца, што ж такі рабіць? Старыя закліналі не працівіцца, не ятрыць князя, аж бо ведалі натуру і кроў радзівілаўскую, што калі ёй запруды ставяць, яна грэблі рве.

Казалі — перабушуе; тым часам, калі сёй-той загаворваў з ім, князь перапыняў яго, паўтараючы·

— Такая абраза Радзівілам!.. Трэба шляхцюка на розум наставіць. Парчэўскі пра вязніцу намякае; па мне, дык лепей сваё адседзець, чым запляванаму хадзіць.

Загадаў піць і наліваць, а калі каторыя ўпіраліся і перапрашаліся, дайшло да таго, што пісталетам пагражаў, такі яго шал апанаваў

І нам ужо таксама ў галаве зашумела

Віно бывае добрым дарадцам, але бывае і самым здрадлівым. Лагер ужо быў зняты, а мы ўсё яшчэ, седзячы на калодках каля вогнішчаў, пілі і пілі Спаражніўшы бутляка, — бразь яго аб пень, князь сам келіхі ў кулаку душыў, выпіўшы, аж мы баяліся, што шкла не хопіць.

Каля паўночы князь устаў, шапнуў нешта лоўчаму, загадаў адпусціць людзей з аблавы, даўшы па талеры кожнаму. Дваровых паляўнічых, прыяцеляў, служак засталося галоў, можа, з пяцьдзесят.

Ночы ўжо рабіліся халодныя, але пасля віна гэта мала адчувалася; зоркі нібыта і свяцілі, але ўсё-такі было цёмна як у розе, бо месяц не ўзыходзіў яшчэ. Раптам сказалі сядлаць коні, і — сігнал у дарогу!

— Чаго мне чакаць і пераймацца гэтай абразай і насіць яе, як камень запазухай? — сказаў мечнік, — хто са мною, едзь са мною, хто ад мяне сёння адступіцца, хай ніколі на вочы не кажацца Увоз і перавоз вольны кожнаму, пане каханку, дарога адкрытая, як хто пасцелецца, так і выспіцца.

Ніхто з княжацкага двара і не думаў яму паддавацца; чэлядзь, гайдукі, дворня, усё гэта былі людзі запамінальныя, наперад вызначаныя, з ім і за яго ў агонь і ваду! Для іх — поўная ўдача і сатысфакцыя ісці на авантуру, бо пасля яе заўсёды нешта за гузы перападала

Мы, шляхта і прыяцелі Радзівілаў, самі не ведалі, што рабіць. Адступіцца ад яго ўсім кагалам і дазволіць яму ехаць з той галайстрай самому здавалася самым небяспечным. Кожны з нас уяўляў сабе, што ўдасца ўтрымаць яго ад эксцэсу.

Хвіліна ў нас была, бачыць Бог, страшная, колькі жыву, такога не памятаю. Галовы падхмеленыя, трывога нейкая, няпэўнасць, а разам з тым ятра і ліхамыснасць нейкая Дворня і служба заяглілі ў адзін голас:

— З князем — хоць у пекла!

— Вядзі нас, мы з табою!

— Наперад, Радзівіл!.

— Наперад, нашыя!

Выступіць супраць адважыўся адзін малады Рэйтан Мечнік вельмі любіў яго Ён ужо быў на кані сярод нас, але гнядога жарэбчыка, як зараз памятаю, асадзіў на некалькі крокаў Як зараз во бачу· маленькая, задзірыстая фігурка, высокі лоб, чорны падкручаны вусік, лупатыя вочы, шапка набакір, падняў руку і закрычаў:

— Княжа мечнік, напрамілы Божа, што ты робіш! Апамятайся! Набег на маёнтак — ці ж радзівілаўская гэта справа? Пайду за табою ў агонь і ваду, але не ў гразь, але не на разбой супроць безабаронных. Што з табою! Княжа! Схамяніся, злітуйся! Шляхціцу вольнай хвілінкай спакойненька ўвалім сто бізуноў; але каб на двор, Божа вас барані! Сёння на яго дом наедзеш, а заўтра на мой, я ў гэта рук умачаць не хачу і не буду

— А! ты скура бычыная! — крыкнуў мечнік, схапіўшыся за шаблю, — і ты бярэш рызыкі называцца маім сябрам і не хочаш, каб я бараніў свой гонар?

— Не дазволю паскудзіць яго! — адказаў Рэйтан, — выкліч на шаблі войскага, я паеду з табой, дам сябе засячы, але ад кабеты — рукі прэч!

Князь падскочыў да яго проста на кані, з аголенай шабляй, Рэйтан ані сцепнуўся, стаяў

— Бі, сячы, гэта ты можаш! прыму ад сябра; а на разбой з табой не пайду, і пакуль мне сілы і голасу хопіць, трымацьму цябе, бо. так мне сумленне кажа

— Скруцівяз ты якісь, — сказаў князь, усё больш загараючыся гневам і пагражаючы шабляй Але падскочылі людзі і засланілі Рэйтана і стрымалі князя. Рэйтан паволі павярнуў каня і ад'ехаў убок.

Мечнік схаваў шаблю ў похвы і крыху супакоіўся, нават ужо не гледзячы ў той бок, куды Рэйтан з вачэй з'ехаў

— За мной! Хто з Радзівілам, за мной! — крыкнуў і пусціў каня наперад, за ім усе астатнія Рэйтан як быў, так адзін у лесе ў лагеры і застаўся, пасля паехаў дамоў.

Што пазней было з намі, цяжка пераказаць. Увесь гэты вечар так змяшаўся мне ў галаве, што мала чаго з падрабязнасцяў памятаю Дворні, гайдукоў, леснікоў і паслухмянага князевым камандам тлуму, п'янага, разгарачанага, было ў чатыры разы больш, чым нас, сяброў мечніка. Усе яны адразу ж акружылі князя і з гвалтам і кляцьбою кінуліся да Чырвонай Рабкі

Не было ніякай магчымасці адвярнуць князя, каб ухіліць самае вялікае няшчасце і шаленства. Зямля дрыжала пад капытамі коней, мы ляцелі як бура, не адзін бразнуўся разам з канём, не аднаго здрасавалі, так, навослеп перлі цераз цёмную ноч, хлешчучы коней бізунамі Галастра галёкала на ўсё горла

Удалечыні паказалася нам тая няшчасная Рабка, бо, хоць ноч і была позняя, але ўсе вокны яшчэ свяціліся, а на дзядзінцы ўсё яшчэ снавалі людзі з ліхтарамі.

Пад'язджаючы да двара, запаволілі, але мечнік усё яшчэ не прыйшоў да памяці, падганяў кожнага, хто смеліўся слова яму сказаць папярок. Лоўчаму загадаў паціху ачапіць увесь двор, як палюючы на ваўкоў, каб жывая душа не праскочыла.

З таго, што відаць было на дзядзінцы і ў хаце, мы лёгка здагадаліся, што напалоханы войскі з дачкою паспешліва збіраліся з'ехаць альбо ў Слуцк, альбо ў якое іншае мястэчка — ведаў, што яго чакае.

Так было на самой справе. Ужо якраз грузілі падводы, калі мы наблізіліся да паркана.

Мечнік, засопшыся, з кленічамі, ехаў наперадзе У маўчанні падступіліся мы пад самую браму, а тады раптам вакол разлегліся дзікія крыкі, княскія людзі з усіх бакоў з галасам кінуліся на падворак.

Безабаронная чэлядзь, якая круцілася каля вазоў, маленькая жменька, перапалоханая, дала лататы, хто куды, у аборы, у двор, у хмызняк. А на ганку толькі паказаўся войскі з шабляй у руцэ і са стрэльбай. За ім дачка з пісталетамі. Нехта нават на чатырох залез пад услон на ганку

Браму выламалі мігам, — адна палавіна з грукатам бразнулася на зямлю, пачалі валіць і платы, людзі лезлі з усіх бакоў, пеша, конна, абы хутчэй.

Не зважаючы на стрэльбу ў руках у Вайжбуна, які ўжо злажыўся і цэліўся, князь з канём дапёр да яго Тут, чую, стрэл, дым засланіў ад мяне князя, жахліва залямантавалі людзі Бы ўжо былі падумалі, што, крый Божа, пацэліў мечніка, бо той пахіснуўся ў сядле Але не, гляджу, саскочыў з каня і з шабляй проста на войскага, за ім астатнія, ці трымаць, ці памагаць, Бог яго ведае

Яшчэ ўбачыў, як Вайжбунуўна няцвёрдай рукой падняла пісталет і стрэліла, — міма, і як Вайжбуна абчапілі людзі з шаблямі Той засланяўся, аж. чую·

— Езус, Марыя! — упаў на зямлю, і ўсё на ганку закруцілася, заклубілася, не пазнаеш, дзе свой, дзе чужы, толькі жывы крык душу раздзірае

Судны дзень там настаў.

Страляе той, страляе гэты, шалы шалеюць, б'юцца, падаюць, рвуць, крычаць. Вайжбунуўна прыпала да бацькі, які ляжаў у сваёй крыві, гляджу, а тут яе з аднаго боку мечнік, з другога лоўчы хапаюць, яна вырываецца, крычыць, лямантуе, — і гвалтам валакуць да коней

Такі вярцеп усчаўся, аж мы адзін аднаго не бачылі і ўцяміць не маглі, што з намі робіцца Я з каня не злазіў, але і мяне лупцавалі, пхалі, — галава пайшла, мой гняды пачаў, сам не разбіраючы каго, брыкаць заднімі нагамі А тут чэлядзь, дай ёй толькі волі, папусці ёй — дом рабуе, нясуць хто што зарваў, б'юць знойдзеных людзей.

Я не мог ужо далей на гэта глядзець, сорам, жаль, боль — спасу няма, я пачаў з канём выбірацца вонкі з тлумішча гэтага і з вялікай агідай да ўсёй жорсткай калатні павалокся да брамы, каб уцячы ад гэтай чартаўшчыны і ўжо не бачыць нікога і нічога. Шкада мне было людзей гэтых, але шкада і пачцівага князя, які аж так фатальна забыўся ў сваёй зацятасці У вачах засціла, у галаве круціла-муціла, слёзы сляпілі вочы, сам доўга не ведаў, што раблю, і не заўважыў нават, ці тое конь мяне, а ці я яго вывеў на пагорак за двор, дзе я нарэшце спыніўся перавесці дух.

Спакваля разгледзеўся, скеміў, што, сам не ведаючы як, заехаў на могілкі, стаяў сярод крыжоў, і давай з цвінтара выбірацца ў поле Нядобры гэта быў *отеп!* У той самы момант, ці тое ад кудзелі ці ад страляніны, ці ад наўмысна падкладзенага агню занялося з аднаго боку двара, а з другога загарэліся фальварковыя забудовы. Дзьмуў вецер, а як што ўсё тут было старое, драўнянае, сухое як парахня, дык як ці не за тры пацеры ўсё гэта ўжо ясным полымем шугала, гарам гарэла! Я стаю і стаю, гляджу на садому, — чорнымі шайтанамі гойсаюць цені, ужо і не ведаю, рабуючы ці ратуючы. А ў войскага, відаць, былі нейкія там запасы пораху, бо раптам — як грымне, як бухне! Езус! Марыя! — іскры сыпанулі на будынкі, цэлыя галавешкі паляцелі, людзі — у галас! Кроў у жылах стыне Апусціўшы галаву, адпусціў каню цуглі — ідзі, нясі мяне, мой косю, куды сам хочаш.

Разгледзеўшыся, я ўжо нідзе не ўбачыў князя мечніка, і не мог уявіць, дзе ён мог быць.

Усё ўва мне заплывала горкаю жоўцю, найбольшая злосць брала на тых, якія дурным дражненнем, намёкамі, пад'юджваннем давялі да няшчасця Я толькі добра ведаў, што хоць Радзівілу шмат чаго магло абысціся без кары, але толькі не шляхта, паны Сапегі, Агінскія, Тышкевічы, Масальскія так яму гэтага не даруюць, плазам не пусцяць.

Ноч стаяла глыбокая, бадай што ўжо і на золак бралася, пеўні спявалі, калі я, апрытомнеўшы, пачаў, стоячы пад плотам, глуздаваць, дзе я і што я. За некалькі крокаў была толькі брама фальварка майго прыяцеля Шылэйкі, і насустрач мне ў кажушку выйшаў начны вартаўнік.

Я сказаў яму адчыняць, уехаў на двор. Шылэйка яшчэ на тым часе жанаты не быў, не было патрэбы разводзіць з ім лішніх цырымоній, і я загадаў вартаўніку стукацца. Пакуль ён там дабудзіцца, было яшчэ часу падумаць, што сказаць. Зусім не хацелася выдаваць, дзе і з кім я быў, ні адкуль я еxаў поначы

Трэба было хлусіць. Шылэйка босы, у пантофлях, накінуўшы воўчы кажух, вылецеў напалоханы

— Што такое? — крыкнуў ён, — адзін? адкуль? чаго так позна? што ў халеры? чагось начворыў? кажы!

Мы зайшлі ў пакой; я наплёў яму нейкіх баек, як мы з князем палявалі ў суседніх барах, як я з канём заблудзіўся, як, шукаючы дарогі, цэлую ноч блукаў па зарасцях і лясах, і вось толькі пад раніцу ўзбіўся на ягоны двор І адразу, як запалілі святло, я кінуўся тварам на тапчан як нежывы

Толькі глянуўшы мне ў вочы, Шылэйка ўскрыкнуў:

— Ды ты як той Пятровіч з магілы, так выглядаеш! Што з табою? страху наеўся ці што?

— Стаміўся я

— А і, мусіць, галодны?

Мне і марцыпана ў той момант не захацелася б, я папрасіў яго толькі што-небудзь паслаць, хоць кульбаку, пад галаву Той яшчэ спрабаваў распытваць, але слова з мяне выціснуць не мог Я папрасіў у яго салоных гуркоў, кабператравілі ўва мне віно і жоўць, і хутчэй лёг спаць, каб уратавацца ад хлусні і балбатні.

На сон зусім не брала, хоць і быў я вымучаны, як жахлівай плягі набраўшыся, усе косці ў сабе адчуваў. Заплюшчыўшы вочы, праляжаў да раніцы, думаючы і перадумваючы, што там магло стацца і што яшчэ з усяго гэтага можа скруціцца.

Шылэйка нічога ад мяне не даведаўся Ужо дзень быў ясны, калі, пасярбаўшы крупніку, я развітаўся з ім і папрасіў падаць мне каня, пры святле выявілася, што на лапатцы ў мяне была садраная да жывога скура. Спаслаўся Шылэйку на лес і карчы.. Паехаў адтуль памалу, без спеху, у Нясвіж, хутчэй блукаючы, чым едучы, адпачываючы, па волі каня. Не дужа рупіла да бяды

Дабраўшыся толькі на другі дзень, разам са шкапай, пацягнуўся да стайні У першага ж конюха, якога спаткаў, пытаюся

— А князь?

Конюх нічога не адказаў. Гляджу на людзей некаторыя з тамтых, што з намі былі, тут, іншых — няма. Усе ходзяць насупленыя і маўклівыя Аддаўшы ў стайні каня, я пацягнуўся ў свой пакой, у флігелі. Людзей на дзядзінцы было мала, а ў тых, каго спаткаў, твары дзіўныя, адварочваюцца. Каго ні пытаюся, буркне сабе нешта пад нос, дзеля адчэпнага. Не здзіўляюцца, што бачаць мяне, ніхто не дапытваецца, дзе я прападаў...

У задніх пакоях, у сенцах, нарэшце, сустракаю Пятроўскага, які быў з намі ..

— Што чуваць? злітуйся .

— А ты ўцёк з месца? — спытаў ён.

— Сам не ведаю, што са мною сталася, раскажы мне!

Ён завёў мяне да сябе, і мы замкнуліся.

— Дзе князь?

— Няма яго!

— Але з ім нічога благога?

— Сталася самае горшае, што магло стацца, — кажа Пятроўскі, — бо глупства нарабіў шалёнага, якое калі і прыдасца на што, дык хутчэй каб распаліць супроць сябе людскую нянавісць, каб пасля самому ўгрызацца дакорамі

— А дзе ён?

— На фальварку за мілю адсюль.

— Звёз Вайжбунуўну?

— А ўжо ж такі Падступіцца да яе не можа, бо як дурная рве і з гразёю яго мяшае..

— А стары забіты?

— Калі і жывы, дык няшмат яму засталося, бо патаўклі яго як след, як шчупака

Абодва мы пачалі ўбольвацца і войкаць, але чым такія жалі памогуць, калі не ў часе Увечары я выбраўся ў харомы — нікога, пуста Валадковіч сноўдаўся, пакручваючы вус, вочы долу ўнурыўшы. Хадзіў, як хмара з перунамі, што вусны разамкне, — толькі кляне Паглядзеў на мяне, я на яго.

— А што?

— А што?

— А нічога! — пацісну плячмі, — Божая кара і клямка табе!

— Скажы зрабі ласку як яно тут і чым тое скончыцца?

— Чаго ты хочаш? — спытаўся нецярпліва. — Дрэнна стала, і адзін толькі Бог ведае, чым усё скончыцца.

Ад яго яшчэ я даведаўся, што Вайжбунуўну завезлі ў свой фальварак і што князь не адступаецца ад яе Частка людзей засталася і пільнавала фальварак. А ў Нясвіжы было пуста і ціха. Так мінуў дзень, два, ба — і тыдзень цэлы, а князь не паказваўся. Прысылалі толькі па розныя рэчы, і людзі на службе мяняліся. Чужым казалі, што князь на паляванні, але невядома, у якія падаўся лясы. На восьмы дзень з раніцы, калі я няспешна адзяваўся і яшчэ сядзеў у апанчы, а дзевятай гадзіне да мяне прыляцеў Пятроўскі

— Князь вярнуўся!

— І што?

— Нічога не ведаю, але ён тут

Тады я пайшоў на службу

У харомах было шмат людзей, неўзабаве паявіўся і мечнік. Я здалёк глянуў на яго змяніўся, твар азыз, вочы чырвоныя, лоб пахмурны, князь быў змрочны і маўклівы, як чалавек, які сам сабе не рады Князю раілі тое, князю раілі сёе — аніякай увагі Настрой быў магільны.

Толькі пасля абеду, шнуруючы туды-сюды, я пачаў памалу і здалёк даведвацца і даведаўся, — Вайжбунуўна ўцякла. Якім гэта чынам ёй удалося, ніхто яшчэ не ведаў, думалі шмат на каго, што ёй з літасці дапамаглі, але ўсіх апраўдалі Трымаў яе князь у фальварку, дом быў абстаўлены з усіх бакоў, пад дзвярыма і вокнамі дзень-ноч варта Ніхто апроч пакаёўкі да яе не ўваходзіў

І ўсё-такі праз тыдзень, як яе туды прывезлі, — знікла У альковe каля пакоя акно было вынятае, а тыя, што пільнавалі, ляжалі п'янюткія — не дабудзіцца было. Пазней выявілася, што нарачоны панны Дулемба, не могучы яе вырataваць сілай, даўся на ўсякія іншыя спосабы, аж такі вызваліў





Паслалі пагоню на ўсе бакі і тракты, князь сам хацеў даганяць, але нідзе не было ніякага следу.

Так тая смутная шляхецкая трагедыя скончылася знешне, пакінуўшы след на твары князя мечніка і ва ўсіх ягоных паводзінах, настроях. Ён зрабіўся рэзкі, раздражнёны, ганарысты, гнеўны, і не скора яго гэта адпусціла.

Была ў мяне таго часу на Нясвіжчыне з ласкі пана князя вёсачка, я адпрасіўся і паехаў дадому адпачыць і каб забыцца ліхога.

Па шляхце шырока разнеслася вестка пра напад на Рабку; некаторыя кідалі на князя перуны, пагражалі і наклікалі, што яму калі-небудзь адплаціцца, а тыя, што з Радзівілаў жыліся, гэтак жа сама зацята баранілі яго, пераводзячы ўсю тую авантуру на смех і жарты. Я маўчаў, Богу толькі вядома, чаго мне каштавала любіць князя і не мець сілы прабачыць яму Тыдзень я сядзеў у вёсцы замкнуты, угрызаючыся сумленнем, у поўнай роспачы. Прехаў да мяне, даведаўшыся, што я дома, Шылэйка і адразу ж з парога.

— А, дык жа і ты там быў, а мне каб слова! Сораму ў цябе няма!

— Дзе? як? што? — спрабаваў я выкручвацца, але дзе ж ты выкруцішся.

Шылэйка толькі буркнуў·

— Хай Богу падзякуе князь, што куля яго не дастала, якое сам заслужыў

Ад таго ж Шылэйкі я таксама даведаўся, што Дулемба выкраў панну і ў Вільню яе звёз, дзе і Вайжбун ацаляўся ад ран і дзе дактары абяцалі, што паставяць яго на нogі. Жыцця ў старым было столькі, што, нягледзячы на раны і вялікую страту крыві, нягледзячы на болесці, якія спадобілі яго, памалу ачуньваў.

Усе навокал лічылі, што вось цяпер якраз і пачнецца працэс супроць князя, і кожны дзень штогадзіны чакалі позваў на следства. Здавалася гэта такім непазбежным, што ўсе толькі дзіву даваліся з адцяжак. Але дарма пасылалі на выведы, колькі разоў, як толькі ў Нясвіжы паяўляўся які праўнік, ужо й думалі, што ад Вайжбунаў. Мечнік ведаў, што прыплаціць давядзецца, ды і нямала, калі заўгодзіцца яму адкруціцца ад астрога, ад ганьбы, ад — сабачымі вачыма на свет свяціць. А тым часам працэсу — ані слыху ані почуту

Пабыўшы крыху ў вёсцы, дзе мне ўжо і занудзілася і засумавалася па Нясвіжы, я вярнуўся туды, каб даведацца чаго-небудзь пэўнейшага бо па вёсках хадзілі розныя плёткі.

І застаў там усё па-старому Як на вока, дык і нічога не змянілася, звыклы парадак, звыклыя звычаі шляхты, гатовай на ўсякія паслугі, поўны двор і харомы. Пайшоў і я пакланіцца князю.

Убачыўшы мяне

— Згуба знайшлася, — сказаў, — а дзе ж ты быў, пане каханку?

— Дома крыху пагаспадарыў!

Князь пакруціў галавой і пайшоў ад мяне. Не выказаў мне ані жалю, ані гневу, увогуле, быў ласкавы са мною Я даведаўся, што князь пасылаў Валадковіча да Рэйтана, каб той прыехаў у Нясвіж, бажыўся, што слова ліхога не скажа, бо крыўды на яго не мае. Але няскора тут той паявіўся, бо сам крыўду меў, пазбыцца якое адразу не мог На другі дзень князь сам мяне зачапіў:

— А можа, табе чаго-небудзь трэба на гаспадарку? можа, добрага насення? дык скажы.

Я падзякаваў за ласку, але, дзякуй Богу, было чым абсеяцца.

Цэлы дзень, здалёк прыглядваючыся да яго, чытаючы з ягонага твару, я лёгка разумеў, што пакутаваў князь, толькі схаваць свой боль стараўся, бо не любіў, каб яго суцяшалі, усё перапальваў у сабе Планы розныя строіў, хоць і не ўдаваліся яны. Смяяліся з іх толькі тыя, што былі гатовыя і плакаць дзеля ласкі панскай і на хаўтурах скакаць Такіх ён не любіў, хоць і трымаў пры сабе.

Усё неяк не ладзілася, і паляванне, і забавы, і тэатр, і музыка. Працэс, як дамоклаў меч, вісеў над галовамі, бо здаваўся непазбежным Забавіцца, бывала, вазок на заднім двары, альбо паявіцца новая асоба, якую можна здалёк прыняць за задрыпанага юрыста, князь адразу пасылае: хто? з чым? Толькі дзверы адчыняцца, толькі новы твар у парозе, — от і позвы Рыхтуючыся да той справы, людзей, што былі на паляванні, каб не было каму сведчыць, парассылалі па розных радзівілаўскіх добрах, былі і нарады праўнікаў, і парады, як абараняцца, і ўсякага роду папярэднія захады і перасцярогі

Так прайшло некалькі месяцаў, і спакваля людзі супакоіліся. Аднойчы раніцай увальваецца да мяне Валадковіч, дакладвае, што князь жадае, каб я суправаджаў яго ў Вільню

— А, ну дык добра, калі князь кажа

Я нават не спытаўся, з чым і па што едзем. Што мне да таго? Валадковіч адказваў за ўсё, а я быў толькі дзеля большай бяспекі, ахоўнік шкатулкі

Я пайшоў у замак, князь адчыніў·

— Едзь, пане каханку з Валадковічам, каб нуды ў дарозе не было; будзеце на здароўечка сабе гуляць у мар'яж, у варцабы

І Валадковіч і князь спяшаліся, толькі ўправіліся са снеданнем, як ужо коні і служба напагатове Да грошай заўсёды дадавалі гайдукоў, па адным, па два, плячыстых дзецюкоў, такіх, каб і чорта не ўбаяліся Былі такія і пры нас Коні — выдатныя бегуны, а косці нашыя мала каму абыходзілі, так што язда пайшла рэзвая Валадковіч са мной па-свойму забаўляўся, мы жартавалі, плялі, што са слінай у рот набяжыць, пра Вайжбунуўну ніхто ані помыслу, бо ўсё такое на свеце хутка забываецца Ужо пад самай Вільняй мы спыніліся на папас у лясной карчме, каб даць перадыхнуць коням Тым часам набегла вясновая бура, як гэта яна мае звычай над лясамі гуляць і круціць чубы соснам; мы думалі, што яна хутка адшуміць, але бура шалела да вечара Перуны валілі адзін за адным, яліны гарэлі як свечкі, а мы толькі хрысціліся, гледзячы на ўсё гэта, бо от-от, здавалася, улупіць па карчме Не было ніякай магчымасці вырушыць у дарогу, аж Валадковіч пачаў выклінаць слоту Я дагэтуль не здагадваўся, па што едзем

— А і што ж бо табе так упільнілася? — спытаўся я — Нікуды твая Вільня не ўцячэ

— Не мне яно пільна, — адказаў, — а князю, і дзеля яго я ўжо й рады быў бы вярнуцца Справа так яго ўгрызла, што спасу няма.

— Якая ж гэта справа? — спытаўся я.

Валадковіч быў у добрым гуморы, і язык у яго развязаўся

— Альбо ж сам не ведаеш? — сказаў — Ты быў у той ліхацe з намі, калі і не да канца, дык, прынамсі, на пачатку Дык тут зайшлося не пра што якое, а толькі пра няшчасную Фэлісію Вайжбунуўну і пра Чырвоную Рабку, бадай бы мы іх не зналі былі!

Толькі цяпер ён прагаварыўся, што князь усё яшчэ прападаў па Вайжбунуўне, што яму і бацькі яе шкада было, што сумленнем князь неспакойны, што дагэтуль не можа суняцца і даравацъ сабе нанесенай ім крыўды Яму канечне было паправіць усё, наколькі гэта было магчыма

Можа, будзь ён шляхціц, паводле прынятых у грамадстве правілаў пачаў бы супроць яго працэс, упёрся б усімі капытамі і бараніўся б; але князю данеслі, што стары Вайжбун, залізаўшы ўсе свае раны, калі ягоныя адвакаты ўгаворвалі яго пачаць працэс, нібыта адказаў ім, не раз, а шмат разоў паўтарыўшы

— Не да людской справядлівасці я апелюю, а да Божай Навошта нам пачынацца? Галавы яму не сатну, а паганьбення дачушкі маёй, маіх утрапенняў і пралітай крыві ён не адшкадуе нічым Бог за мяне спытае Не пашанаваў князь майго дзіцятка, сам не мецьме дзяцей без нашчадкаў сканае!

Князю ўсё гэта перадалі; князь зрабіў выгляд, што смяецца, але моцна забраў да сэрца Ён паслаў праз даверанага пяць тысяч чырвонцаў золатам, якія войскі з пагардай і абурэннем адкінуў; цяпер, ужо другім разам, праз Валадковіча паслаў цэлых пятнаццаць, каб толькі палюбоўна дайсці да злагады з Вайжбунамі

Вядома было таксама, што Дулемба хацеў ажаніцца з паннай, на каленях прасіў, каб не адмаўляла яму; але вайшчанка адказала, што ні ў чый дом сораму свайго не панясе і ніколі за нікога не пойдзе

Князь так з таго ўбольваўся, што ні спаць, ні есці не мог, бясконца паўтараючы

— А няхай бы ж хто мяне ад тых Вайжбунаў адкараскаў! Дам, чаго захоча

Валадковіч, давяраючы свайму красамоўству і ўмельству, даў князю слова, што вырве ў старога згоду, а мяне хацеў мець за сведку, каб потым людзі языкамі не перакладалі, што імпэту пашкадаваў Мы доўга пра тое гаманілі Валадковіч даваў галаву на адрэз, што яшчэ ніколі разу такога не было, каб князь што-небудзь аж так браў да сэрца

Я лічыў, што мой таварыш залішне на сябе пакладаўся, ён выехаў з Нясвіжа з той





пэўнасцю, што так ці інакш, а Вайжбуна возьме, але калі я сумняваўся, дык і ён неяк прыціх са сваімі пахвалянкамі Цяпер ужо і яму ўсё гэта здавалася не надта лёгкім.

Бура не суймалася да самае ночы Перад намі былі лясы і непралазныя пяскі, па якіх трэба было прадзірацца, перастаўляючы нага за нагу, але Валадковіч, пераначаваўшы, другі раз напаіўшы коні, калі ўжо бура перастала, на досвітку загадаў рушаць у дарогу Так у дрымоце мы і дабраліся да Вострай Брамы, якраз калі ўжо пачыналася ютрань. Тут мы спешыліся памаліцца Людзей было няшмат, перада мною толькі кленчыла кабета ў глыбокай жалобе, яшчэ маладая, твар у якое я не мог разгледзець, але прыгожая постаць і нешта шляхецкае ў ёй дазвалялі адгадаць у ёй незвычайную асобу.

Калі спевы скончыліся, а кабета ўстала і павярнулася да нас, я пазнаў у ёй Вайжбунуўну

У мяне сярэдзіна пахаладзела, калі яна змерыла мяне вачыма. Нешта было ў ёй такога, як бы яна ўстала з магілы на помсту і да жывых ужо не належала; прыгажосці яна не страціла але тая прыгажосць і весялосць, якімі яна чаравала раней, саступілі месца нейкай такой урачыстай сур'ёзнасці, што яна здалася мне як бы пакутніцай з першых стагоддзяў хрысціянства, пра якіх я чытаў у Жыціях Святых.

Уся-ўсенькая яна была ў чорным, у чорных шатах, на чарнаце гэтай тварык яе свяціўся белым мармурам Я аж адступіў, а Валадковіч, таксама пазнаўшы яе, сцяўся, як бы анёла помсты ўбачыўшы Можа, і яна пазнала ягоны твар, бо таксама адступілася, нібы на вужа наступіўшы, і замест таго, каб ісці міма нас, абышла здалёк, ужо нават вачэй на нас не падняўшы

Калі і мы ўсталі, каб ісці пеша за брычкай да бернардынаў, бо Валадковіч не хацеў спыняцца ў ніводнай гасподзе, дзеля чаго мы і грошы бралі, я сказаў яму·

— А што? кепскі знак, твар вайшчанкі і яе строі нічога добрага нам не вяшчаюць.

Валадковіч зрабіў выгляд, што куражу не страціў, але насамрэч ужо не быў такі пэўны сабе

Мы пайшлі ў кляштар, дзе нас як нельга лепей прынялі айцы-манахі Шкатулку адразу гайдукі занеслі Гардыяну, а мы, умыўшыся і прыбраўшыся, рушылі, як той казаў, зоркі лічыць.

Прыяцелям Радзівілаў у Вільні зводу не было, адданых і кліентаў — цьма незлічоная. Найперш мы пайшлі ў кардыналію, дзе князь параіў паказацца і параіцца з нейкім Гаркевічам На першы погляд цаца не дужа якая, але вялікія рэчы ладзіліся праз яго Гаркевіча тытулавалі пісарэвічам, бо хоць і быў ён стары і сівы, але ўласнага тытулу ніякага не насіў У Радзівілаў ён таксама ні ў давераных, ні ў праўніках, ані ў якіх афіцыялістах не хадзіў Гаркевіча, мала што з выгляду як бы нічога такога ён і не значыў, усе як агню баяліся І тое дзіва — самы нявінны чалавек на свеце, здавалася, ніколі нічога не рабіў, ні на што не зважаў, як бы і не бачыў, а ведаў усё

Гаркевіча, распытаўшыся па тылах ягонай кватэры, мы не засталі, а ўсе дзверы ягоныя былі пазапісаныя крэйдай імёнамі асобаў, якія прыходзілі да нас. Кавалачак крэйды дзеля гэтай мэты вісеў пачэплены на шнурку. Мы мусілі ісці шукаць яго пад ратушай, на Імбарах. Па высокай шылаватай шапцы Валадкевіч адразу пазнаў яго ў натоўпе Падышлі

— Чалом, чалом! адкуль Бог прывёў?

— З Нясвіжа

— А князь?

— Здаровы, кланяцца казаў .

Валадковіч падышоў да яго бліжэй і зашаптаў яму нешта на вуха, на што той, нічога не адказаўшы, утаропіўся на латок перакупшчыка непадалёк ад сябе.

— Хай толькі пан падзівіцца, — сказаў ён, паказваючы на шнурок фігаў, — якая ў нас у Вільні валоская садавіна водзіцца, сама ў рот просіцца. Такое ў Нясвіжы, нябось, не бывае

Ведаючы дзівака, Валадковіч зарагатаў

— Мы сюды, пане пісарэвіч, не па тое прыехалі

— Ведаю, ведаю, — гоцкі на клёцкі! але і тое знойдзецца

А тым часам мы ішлі далей Валадковіч пачаў распытвацца пра дамок на Зарэччы, у якім трэба было шукаць войскага.

— Вы толькі гляньце на дах, — сказаў Гаркевіч, — дзе ўдоды сядзяць, там іх, пэўна, і знойдзеце

Не было магчымасці нічога дапытацца, а час ішоў

— Наказваў нам князь параіцца з васпанам, — закончыў мой прыяцель, — якое ж рады дасце?

— Гм? рады якое? — адказаў пісарэвіч — Калі б князь папытаўся ў мяне рады з паўгода таму назад, можа, што і параіў бы, а цяпер кішэня, у якой я тыя рады насіў, падралася, усё на бруку парастрасаў

Мы ўжо змерыліся былі адысці, калі Гаркевіч узяў Валадковіча пад руку.

— Хочаш рады? ідзі, пад'еж флякаў з імбірам, напіся добрага віна, прайдзіся па Замкавай гары, выкупайся ў Віліі, папасві каня, купі перніка на гасцінец і вяртайся ў Нясвіж, і пастарайся пасланы да маіх ног вяльможнага князя

Сказаўшы, адышоў.

Мы падумалі, ці ў сваім розуме стары, — і не аглядваючыся пайшлі ў Зарэчча.

Войскі жыў у родзічаў, у старым лядашчым дворыку, крывым і брудным. Ледзьве да яго дапыталіся Вайжбуны жылі на паверху, да якога трэба было ўспінацца і дзерціся па цёмнай лесвіцы. Пастукаліся ў дзверы, і Валадковіч, не чакаючы запрашэння і не пытаючыся, увайшоў Стары ляжаў на ложку, але апрануты, нікога пры ім не было Побач на століку малітоўнік, а на ім капуцынскі ружанец. Рукі закладзены за галаву, твар бледны і апалы, на скронях жылы, як шнуры.

Глядзеў на нас доўга і, відаць, пазнаўшы Валадковіча, які яму кланяўся, хуценька ўстаў, як бы яго спружыны падкінулі, задрыжаў, сеў, абапершыся абедзвюма рукамі на ложак.

— Чаго табе тут трэба? Чаго? чаго? — закрычаў ён — І тут ратунку ад вас няма? вы, радзівілаўскія падбрэхічы! Ведаю вас усіх, на тварах у вас напісана, што зракліся людзьмі звацца, ведаю, з чым прыйшлі! Ты, Валадковіч, прыехаў ад сэрца мечніка, які ні сэрца не мае, ні сумлення Імя носіш шляхецкае, шаноўнае, а лакейскую службу правіш. Чаго хочаш? што табе твой гаспадар загадаў сказаць?

Валадковічу кроў у твар лінула

— Пане войскі, — сказаў ён, заікаючыся, — і веку панаваму і жальбе прабачаюцца абразлівыя словы Я служу Радзівілу не за хлеб, а за дружбу Паслухайце, пане князь шкадуе сваёй хвілінавай гарачнасці. Кожны чалавек можа паддацца запальчывасці і забыцца Але ўсякая крыўда і гнеў маюць меру і межы

— Ёсць такія крыўды, якім меры няма, — адказаў войскі, уздыхаючы — Прашу ў вас толькі спакою, больш нічога Я ўцёк ад вашай банды аж сюды, але вы і тут дасталі мяне, людзі без сумлення, людзі без літасці.

— Пане войскі, — перабіў яго Валадковіч, — я толькі пасол, паслоў не вешаюць, паслам не сцінаюць галавы, князь мечнік.

— Не спамінай мне яго! Чаго гэты дзікі звер хоча ад мяне? Хай будзе спакойны! Не выведу яго на вочы людскія, ведаю добра, што Вайжбун у Радзівіла, хай бы нават найсвяцейшую справу меў, не выйграе. Я не патрабую ад яго нічога Скажыце яму яшчэ раз вы тое, што мелі сказаць іншыя і што я заўсёды паўтараю я, Вайжбун, выклікаю яго на суд Усёмагутнага і Справядлівага Бога, за крыўду маю! А на зямлі з ім і да яго не маю нічога, парахуемся ў іншым месцы Ёсць Бог! Ёсць Бог! — закончыў ён, падымаючы ў неба рукі

Уражаны Валадковіч хвіліну маўчаў

— Пане войскі, – дадаў ён, схамянуўшыся, – я прыношу пану ад князя прызнанне віны, ад яго імя прашу ў вас прабачэння. Няма такога грэху, якога скруха душы не загладзіла б.

— Але ёсць такія, за якія цэлага жыцця ў пакутах не хопіць, — перабіў войскі

І паўтарыў з такім выразам, што па мне дрыжыкі пайшлі.

— Ёсць Бог! Ёсць Бог!

Збянтэжаны Валадковіч ужо і сам не ведаў, з якое бочкі пачынаць.

— Пане войскі, — сказаў ён бесцырымонна, — няма чаго тут доўга суслы распускаць. За панесеныя ў Рабцы шкоды, за спалены двор і забудовы князь праз мяне шле пятнаццаць тысяч чырвонцаў золатам.

Пачуўшы гэта, войскі ўвесь у шале сарваўся з месца з паднятымі кулакамі і давай рукамі раскідацца





— Грашыма, грашыма хоча сплаціцца! — закрычаў, — у вас усё на дукаты зводзіцца: слава, пашана, раны, слёзы, спакой, сорам, гонар, — усё! Сапселыя магнаты навучылі вас усё прадаваць і за ўсё браць грошы, але я яшчэ не вырадзіўся, мы іншыя былі і ёсць, — і паказаў нам на дзверы — Прэч!

Валадковіч аж спацеў, а што ўвесь гэты час рабілася са мною, і не скажу, кроў ува мне агнём твар пякла. Але як што мы з месца не краналіся, войскі падняў галаву і паўтарыў·

— Вымятайцеся, вашамосці, прашу, тут не карчма, за дзверы! за дзверы!

— Пане войскі, — закрычаў Валадковіч, — літасцю Божай заклінаю вас, ахалоньце, дзеля Хрыста прабачце

— Ніколі! — панура сказаў войскі, — ніколі! За свае раны і кроў я прабачыў даўно, асуды ў сэрцы не нашу, але ганьбы імю майму, але агіднага гвалту, рабавання майго дзіцятка, ніколі, аніколі бо! Канаць буду, дасць мне ксёндз дараванне грахоў на збавенне, дык ад збавення адмоўлюся, а не дарую, бо не магу! бо калі б сказаў: прабачаю, дык схлусіў бы, а Бог бачыць сэрца маё! Зуб за зуб, дзіця за дзіця Бяздзетны сканае, так і перадай яму!

Ён ужо і гаварыў і паўтараў тое самае, як непрытомны, а рукою паказваў на дзверы

Упарты Валадковіч ані з месца, ані руш. Тады з другога боку пакойчыка адчыніліся дзверы, і ўвайшла Вайжбунуўна ў чорным, такая, якою мы яе бачылі ў Вострай Браме. Глядзець на яе было немагчыма, уся была — жалоба і роспач. Калі б такая яна выйшла перад трыбунал, складзены з саміх Радзівілаў, і тады мечніка за яе асудзілі б.

Вочы запалыя, выплаканыя, твар бледны, губы сінія, бровы ссунутыя. Адзета як паманаску, увайшла праз дзверцы, нахіліўшы галаву, пасля ўстала, выпрасталася, склала рукі на грудзях і стала, адважна гледзячы на Валадковіча, які адступіўся на некалькі крокаў.

— Не турзайце бацьку майго, — сказала голасам, у якім як бы чуліся слёзы, — ці не даволі вам таго, што на дом і нашыя галовы нанеслі? Хочаце яго дабіць? мяне дабіць, каб не засталося следу злачынства? Не могучы шаблямі, дасякаеце словам і сорамам Куды падзецца ад вас? дзе схавацца? і так на гэтай зямлі кутка зацішнага не маем.

І павярнулася да бацькі, які, бледны, стаяў і дрыжаў

— Хадзем адгэтуль, — сказала яму, — калі саміх пазбыцца нельга.

Войскі зноў падняў руку і паказаў на дзверы. Мы пераглянуліся. больш тут нічым не пажывішся; Валадковіч пакланіўся злосны і кіслы, і мы пайшлі. У абодвух нас халодны пот па лобе каціўся, мы прайшлі добры кавалак Зарэчча, перш чым слова з вуснаў спаўзло.

— І што ж мне было рабіць? — выбухнуў нарэшце Валадковіч — Ты сам сведка. З імі ніякай рады не дасі Усё марна! ліха ўчынілася, трэба пра ўсё забыць, пакуль яны самі не астынуць і не прыйдзе ім лепшая рэфлексія

Не прайшлі мы і пары крокаў, бачым — стаіць у падшытай шапцы Гаркевіч, нібыта нас якраз і чакаў

— Добранькі вам дзянёк, моцпаночку, — яшчэ здалёк закрычаў, — мабыць, хадзілі ў лазню? У Зарэччы за колішнім часам ладныя лазні былі і стрыгалёў багата жыло.

Не было чаго яму расказваць, і ён далучыўся да нас, а праз хвіліну спытаўся ў Валадковіча.

— Я так сабе быў падумаў, што вы мусілі прывезці з сабою залаты пластыр. Якіх жа ён памераў, ці накрые ўсю рану?

Нам ужо было так маркотна, што Валадковіч без ніякіх цырымоній адказаў:

— Маю пятнаццаць тысяч чырвонцаў золатам

Гаркевіч аж за галаву схапіўся, а болей за шапку

— Езус Назарэйскі, — усклікнуў ён, — колькі ж бо тое пачцівай шляхты і шляхцянак на такія грошы купіць можна?

Мы ішлі і маўчалі

— Ведаеш, пане, што? — дадаў Гаркевіч, — ёсць тут нейкі Дулемба, беднае пачцівае хлапчыска, якому адна панна адмаўляе рукі пад тым выглядам, што яе адзін раз мядзведзь падраў. Ці яна ў тым вінаватая, ці ён у тым вінаваты, не ведаю Калі б таго Дулембу неяк прылашчыць, можа б ён на што і прыдаўся?

Ні мяне, ні Валадковіча гэта не пераканала, але мы не ўпіраліся і пайшлі да бернардынаў на абед. Валадковіч не, каб шукаць Дулембу, да якога невядома як было падступіцца, узяў на розум і пайшоў да Гардыяна, якому мог выкласці ўсю гэтую справу Пачаў прасіць яго, ці не мог бы ён, як асоба духоўная, паспрыяцца пасрэдніцтвам да згоды

І ўжо браў на сябе, што калі ксяндзу ўдасца тая інтэрвенцыя, дык аддзячыць яму — пяцьдзесят фураў снапоў і дваццаць пяць бараноў

Гардыян адразу вельмі ахвотна ўзяўся, момантам завінуўся і паляцеў. А мы тым часам пайшлі ў горад, да знаёмых, на агледзіны Але Валадковічу карцела назад у кляштар і, нядоўга забавіўшыся, мы абодва пайшлі Спыталіся ў брамніка, ці не вярнуўся яшчэ Гардыян? Той адказаў, што яшчэ не Чым даўжэй яго не было, тым большую надзею гэта нам давала. Ужо і нешпар адслужылі, калі нарэшце пачуліся ягоныя крокі і паявіўся наш пасол; але па твары адразу відаць было, што нічога добрага нам ён не прынёс. Ён моўчкі адчыніў дзверы цэлі, мы ўвайшлі за ім, ён адкінуў на плечы каптур, дастаў з рукава хустачку, ацёр лоб, уздыхнуў

— Прапалі снапы і бараны! — сказаў, — я нічога не здолеў!

І развёў рукі

— Бачыць Бог, я больш дзеля княжацкай ласкі стараўся, чым за міласціну, гаварыў з бацькам душэўна і шчыра і з дачкою (зноў ацёр пот з лоба) Каменныя людзі, скажу я вам, каменныя! Наўядаўся я, намучыўся, нагаварыўся, — усё марна..

Што ж там далей распытваць было?

На другі дзень прыйшлося скаштаваць Дулембы; пачціві хлопец увесь з намі спіўся і сплакаўся Валадковіч пабажыўся яму, што панна, апроч таго, што яе звалаклі гвалтам і кінулі на людскія языкі, не мела чым папракнуць князя, бо той шанаваў яе і пашкадаваў Шкада было Дулембу і яе, і тых пятнаццаці тысяч, але спрабаваў ён дарма, заклінаў, прасіў; адправілі і яго Мы два дні чакалі карысці з ягонай паслугі Панна нарэшце выслухала яго, але дзеля таго толькі, каб прысягнуць яму, што ўжо нічыёй не будзе.

— Гадоў у дваццаць, — сказала яму, — людзі маглі б дзецям нашым нагадаць, што маці іхняя была захоплена дзікім магнатам і заставалася ў ягонай уладзе. Хай памяць пра тое няшчасце на нікога не спадзе, хай яна загіне разам са мною

Так закончылася наша няўдалае падарожжа, і здабылі мы ў ім толькі таго, што прывезлі нясвіжскім паннам пернікаў з кірмаша.

Валадковіч як у Вільню ляцеў, так потым ракам поўз у Нясвіж.

Дарога, мала што на самы спрыяльны і прыгожы вясновы час прыпала, прайшла ў нас смутна і нудна Мы прыбылі ў Нясвіж і яшчэ не паспелі вылезці з брычкі, а князь ужо паслаў дваровага, каб Валадковіч, як стаяў, на адной назе ляцеў да яго Я не пайшоў, бо чаго было нарывацца на буру.

Увечары князь не паказваўся, таварыш мой хадзіў маўклівы, пакручваў вус і паглядваў на столь. Толькі таго я і даведаўся ад яго, што князь загадаў пакласці тыя пятнаццаць тысяч на дэпазіт у бернардынаў, а войскаму праз даверанага паведаміць, што грошы ляжацьмуць там датуль, пакуль калі-небудзь ён не захоча ўзяць іх.

Але прайшло пасля таго гадоў пяць ці нават і болей, калі князю прыйшлося камусьці плаціць па кантрактах, а пад рукою на той час не было ніякай наяўніцы, і вось выпадкова неяк узгадаў ён пра тыя пятнаццаць тысяч Загадаў папытацца, ці былі яны яшчэ? Бернардыны адказалі, што ніхто па іх не з'яўляўся

Дайшло да князя, што стары Вайжбун зазываў яго на суд Божы і выкляў на бяздзетнасць, спачатку ён не браў гэтага да сэрца, пасля ўсё больш і больш Пасля першай жаніцьбы князя, якая не ўдалася, як вядома, ён пачаў успамінаць Вайжбунўну і перад усімі бажыўся, што яна яму ніколі з памяці не выходзіла, ані на хвіліну Сам быў фамільярны, але ўздыхаў і паўтараў·

— Няма мне, не было і не будзе такое жанчыны, як тая адзіная Мала яе бачыў, мала ведаў, а ў сэрца мне ўпісалася, што і сцерці не магу

У далейшыя гады князь досыць спаважнеў і ўтаймаваўся, гулянкі ў Нясвіжы былі рэдка.

У Чырвонай Рабцы некалькі гадоў нікога не было апроч дзяржаўцы, які яе нанава адбудаваў Пазней мы даведаліся што войскі з дачкою вярнуліся ў вёску Князю адразу





пра тое данеслі. Жылі Вайжбуны так замкнута, што стары войскі, які ўжо ледзьве ногі перастаўляў з кіем, наўмысна загадаў за дваром паставіць малую капліччку ў бярэзніку, каб не трэба было ездзіць у касцёл У сваім доме жывога духа не прымалі, самыя таксама ані за вароты не выходзілі. Ніхто іх не бачыў, апроч вяскоўцаў і аднаго афіцыйнага. Пра панну казалі толькі, што як узяла жалобу адразу пасля выпадку, дык ужо яе і не скінула і заўсёды хадзіла ў чорным і ў крэпе, у як бы манаскай сукенцы, з пацеркамі на поясе.

Добрых колькі гадоў сплыло з часу таго набегу на Чырвоную Рабку, калі князь увосень з малым початам выбраўся ў тыя самыя лясы на паляванне Загадаў мне ехаць з сабою, шляхты таксама было даволі, не бракавала і стралкоў з фузеямі Неяк увечары, у суботу, калі ўжо мы адпачывалі пасля палявання, на якім ніхто з нас звера і на вочы не бачыў і адзін на смех забіў вавёрку, князь сказаў клікнуць мяне ў намёт, у якім, пазбыўшыся кампаніі, сядзеў адзін.

Я застаў яго адзетага, але не так, як на паляванне· шабля пры баку, кантуш, жупан, твар нейкі ўсхваляваны і неспакойны.

— Вісьнёўскі, — сказаў ён, — шыкуйся, паедзеш са мною.

— Куды, вяльможны княжа?

— Ага, зараз куды? што табе да таго, пане каханку, паедзеш са мною і годзе, апраніся прыстойна, каб Радзівілам сораму не нарабіць. У адведзіны едзем, ты і я Коней ужо загадаў вывесці за бор, каб не заўважылі нас, як ад'язджаем, бо непатрэбна гэта... Знойдзеш мяне за Пакутай Гасподняй, на дарозе Толькі жыва, пане каханку.

Я пайшоў хуценька пераапранучца, хоць і не дужа было ў што, і пабег, не здагадваючыся, куды і па што едзем. Калі задыханы дабег да Пакуты Гасподняй, князь ужо сядзеў на кані. Азірнуўся толькі на мяне, і перш чым я ўзяўся за страмёны, пачвалаваў полем

Я дагнаў яго. Ехалі без дарогі Князь некалькі разоў сперазаў плёткай каня, і мы паперлі нацянькі, не разбіраючы дзе роў, дзе мяжа. Ехалі доўга, пачало ўжо паволі шарэць. Наваколле я ведаў выдатна і тут жа скеміў, што едзем у Рабку, і адразу мне зрабілася страшна і прыкра Якога ліха будзіць такія ўспаміны, калі рана ўжо прысохла і перабалела?

А вось і новая Рабка паказалася. Князь напралёт кіраваў на двор Я вачам не хацеў верыць, думаючы толькі, што таго будзе?

Пад'ехалі пад вароты, каля іх стаяў мужык. Князь, не кажучы ні слова, ссеў каля брамы, кіўнуў мне, я таксама саскочыў, аддалі мужыку коні, а самыя ціха ўвайшлі праз бакавую фортку на падворак.

Там нікога не было, сарокі сядзелі на плоце, некалькі гусей пілі з лужыны каля студні У адным акне ўжо свяцілася Аканіцы яшчэ не былі зачыненыя, так што мы нават маглі бачыць, што рабілася ўсярэдзіне. На крэсле сядзеў войскі перад камінам, а дачка гэтак сама ўбраная, якою мы яе ў Вільні бачылі, уся ў чорным, стаяла каля яго, абапершыся на біла. Князь паглядзеў, здавалася, разважаючы яшчэ, я ўбачыў, як ён перахрысціўся і рушыў у сенцы.

Мне, рады я быў ці не, адступаць не было куды Толькі злёгку пастукаўшыся ў дзверы, князь адчыніў іх і ўвайшоў, здымаючы каўпак з галавы

— Хай будзе пахвалёны Езус Хрыстус.

Вочы войскага і дачкі падняліся на яго, абое аслупянелі

На іх тварах я ўбачыў трупную бледнасць і жудасць; Вайжбунўна ўздрыгнула і пахілілася назад, як бы вачам не верачы. Войскі, не могучы ўстаць, неспакойнымі рукамі хапаўся за білцы крэсла.

Маўчанне трывала некалькі хвілін, князь стаяў у парозе, гледзячы на панну, з выразам благання пра літасць, амаль з пакорай, хоць гэта і не было цнотай Радзівілаў.

— Вашэці войскі, — пачаў ён паволі, — перад табою няўзброены вінаваўца твой Прыйшоў я сюды ўдвух, каб ты папомсціўся на мне, як сам таго захочаш, а віну мне дараваў Я праўда быў шалёны, пане каханку, але бачыце, што за шаленства сваё пакутаваць умею Нездарма тут каля вашага парога стаю, ведаю, што ўчыненай крыўды інакш сплаціць не магу, як. просячы рукі панны Фэліцыі і вось я, Радзівіл, пане каханку, уніжаюся перад васпанам, прагнучы, каб васпан прыняў мяне за зяця.

Сказаўшы гэтыя словы, князь перавёў дух, як бы вялікі цяжар зняў з сэрца, глядзеў і чакаў

Войскі маўчаў як прыбіты, вушам не верачы Я прыглядзеўся да панны, бледнасць з якое паволі праходзіла, вярталіся да яе жывыя калёры, вочы пачыналі іскрыцца. Бацька паглядзеў, як бы на ёй адказ вывяраў Вачыма, нічога не кажучы, павінны былі паразумецца, і войскі пачаў·

— Вялікі гонар майму дому, вялікая гэта учта на самой справе, пасля вялікай сараматы, але я не суддзя ў гэтай справе

Паказаў рукою на дачку.

— Гавары ты

У Фэліцыі вочы запалымнелі.

— Каб я аддала руку таму, хто ў мяне гонар забраў, — сказала яна, — ніколі! У сэрцы замест павагі і кахання я нашу пагарду і нянавісць, якая ўрасла ў яго і якое вырваць з сябе ніколі не здолею. Не жонкаю была б, а хатнім ворагам і помснікам за гонар мой Не, ніколі! Запозна, вяльможны княжа!

— Бог мне сведка, пане каханку, — заблагаў князь, — гавару шчыра, прыбыў сюды як скрушлівы пакутнік. Вобраз васпанны, не даючы мне спакою, пераследаваў мяне ўвесь час, у сумленні маім я насіў  кахаю панну Фэліцыю

Вайшчанка вокам помсным і гнеўным кінула на князя, перасмыкнула плячыма і хацела нічога не кажучы выйсці Войскі, які, відаць, таксама не хацеў заставацца, працягнуў да яе руку, бо ўжо без падпоры і дапамогі хадзіць не мог І яна падышла да яго, каб ён абапёрся на яе плячо.

Бачачы, што абое хочуць выйсці з пакоя, князь сумеўся і пачаў прасіць:

— Пане войскі! мілажалем Божым, ранамі Гасподнімі заклінаю вас, панна Фэліцыя, майце ж васпанства літасць да мяне, каб яе Бог меў да вас. Не хочаце мяне, адпіхваеце, і я прымаю гэты афронт як заслужаны, хоць яго ніколі ніхто з маіх атэнтатаў не зазнаў, калі дамагаліся княскай крыві; але скажыце мне, прынамсі, што прабачаеце мне Прабачэння просіць Радзівіл!

Войскі і вусны разамкнуць не паспеў, як Вайжбунуўна акінулася·

— Вяльможны княжа, не да нас, а да Пана Бога па выбачэнне ісці трэба. За спаняверку жыцця людскога і гонару належыць пакута. Пацярпі, вашэці княжа, як і мы цярпелі і цярпім Бачыш жалобу, якою ты акрыў мяне на ўсё жыццё; насі яе таксама, хай цябе сумленне дагрызае, як мяне сорам гняце; хай табе Бог даруе, а я не магу — І павярнуўшыся зусім, дадала — Хіба што калі б цябе пры сконе бачыла! — дадала, можа, нават без намыслу

Кінуўшы гэтыя словы яму ў вочы, выйшла, ведучы немачнага бацьку. Мы засталіся адны ў пустым пакоі

Князь хвіліну стаяў як скамянелы, пагладаючы то на агонь, то на пустое крэсла Але апамятаўся пацёр рукою лоб, каўпак ляжаў на зямлі, упаў, я падняў яго і падаў Князь машынальна скамячыў яго ў руцэ, агледзеўся, перавёў дух, і мы выйшлі на падворак.

Было цёмна і ціха Князь, які на тым часе быў сама ў сіле веку і не хістаўся ніколі, ледзь на нагах трымаўся; мы навобмацак выбраліся з сенцаў, ён не сказаў мне ні слова, павольна мы скіраваліся да брамы, я за ім. І ўжо падыходзілі да яе, калі павярнуў да мяне галаву і сказаў суха і парывіста.

— Ані слова пра гэта, разумееш, пане каханку, маўчаць.

За форткай мужык стаяў з коньмі ў руцэ, князь руку ў кішэню, дастаў жменю, не гледзячы колькі там было, і кінуў яму; мы селі на коні і павольна рушылі Я крадком азірнуўся на дворык і асветленыя вокны, ні ў хаце, ні каля ганка нікога не відаць.

Усю дарогу князь нічога мне больш не сказаў, з апушчанай на грудзі галавой ехаў, папусціўшы каню цуглі; зноў жа коні нас, а не мы іх вялі назад.

Калі мы выбраліся на гасцінец, князь адышоў крыху духам і, затрымаўшы каня, даў мне параўнацца з ім.

— Цяпер, пане каханку, я ўжо нічога не вінен у сумленні чуюся свабодным і праклёны іхнія даставаць мяне не могуць. Чаго ж у халеры ім яшчэ трэба? Што скажаш?

— Што ж магу сказаць? — сказаў я, — калі князь адчувае сябе спакайнейшым, дык і дзякуй Богу.

— Я зусім спакойны, пане каханку Шмат мне гэта каштавала, але я сябе перасіліў





Калі б дзеўка падабалася мне, — ажаніўся б, Радзівілаўская мітра даволі вялікая, каб накрыць усё, нават іх лайдацкае шляхецтва! пане каханку! Дужа мне абыходзіць — Вайжбуны! чорт бы іх пабраў!

Так ён супакойваў і загаворваў мяне некалькі разоў, хоць відаць было, што ўсё яшчэ маркоціўся і не рады быў таму, што здарылася Цёмнай ноччу мы даехалі да лагера. Конюх ужо нас чакаў, мы сселі з коней, перадалі яму іх і пайшлі ў намёты, на развітанне князь яшчэ раз падышоў да мяне, паклаў мне на плячо руку і ціха сказаў·

— Ані слова пра тое, пане каханку, нікому, прашу Раніцай загадаю, каб табе ад св Войцаха перадалі напажыццёва Віскіткі

Я пакланіўся яму да каленяў, але ён, ужо не глядзячы на мяне, увайшоў у намёт

Знаёмыя цэлы вечар шукалі мяне ў лагеры, па лесе гукалі, думалі, што я дзесьці на паляванні заблудзіўся і застаўся ў пушчы Калі я аказаўся, сыпанулі да мяне з пытаннямі, дзе я быў? Але я, дзеля князя і Віскіткаў, адбрахаўся, што, папёршы напралом і на скрут галавы, заблудзіўся ў лесе На другі дзень мы вярнуліся ў Нясвіж. Бог ведае, што сталася з князем· напала на яго неўзабаве вялікая ахвота да вялікіх забаваў, да гулянкі, ён строіў з сябе такога вясёлага, якім яго мы даўно ўжо не бачылі У замку дзень у дзень правіў балі, гасціны, канцэрты Можа, яму здавалася, што заглушыць у сабе памяць пра тую нешчаслівую прыгоду, хоць усё гэта разам толькі яшчэ больш ажыўляла яе

У краіне пачаліся падзеі, якія маглі б прымусіць забыцца на ўсё на свеце, калі б у князя не было пачцівага сумлення, якое яму ўвесь час напамінала пра ягоную віну

Нераз пасля віна і ў найвялікшым запале ягоным чулі мы, як вымаўляў ён імя Фэлісі Яно было заўсёды з ім у нашых бадзянках па свеце і вярнулася з намі дадому Міналі гады, князь колькі разоў, як толькі ў памяці ўсплывала Рабка, сціскаўся і стагнаў, згадаўшы сабе Вайжбунаў. Часам выпадкова сказанае слоўка, падобнае імя, твар, самая пустая акалічнасць, нават паляванне, нагадвалі яму пра вайшчанку вочы адразу апусціць, — і відаць было, што ўсё яшчэ сам з сабою не паладзіў

Трапіўся неяк на вочы нейкі хлопец, толькі-толькі таго, што меў прозвішча Вайжбун, але ж аніякага пакравенства з тымі не меў· князь узяў яго ў двор, вызначыў у войска, паклаў яму ўтрыманне і не забываў яго як роднае дзіця.

У Рабцы ж Вайжбунаў ужо ані следу Войскі праз некалькі гадоў пасля тых нашых начных адведзінаў памёр панна Фэліцыя, казалі, адразу ж камусьці прадала фальварак і выбралася, не пакінуўшы па сабе ніякага знаку. Пагаворвалі нешта глуха, нібыта паехала ў Вільню ў кляштар.

Калі ж мы пасля нашай доўгай адсутнасці вярнуліся ў Нясвіж, якога ўжо і ўбачыць не спадзяваліся, на другі ж дзень паслаў мяне князь у Рабку распытацца пра Вайжбунаў, бо пра смерць старога казалі ні тое ні сёе Я паехаў да шляхціца, які купіў вёску, каб крыху даведацца праўды. Ён толькі паўтарыў мне, што я і без яго ад людзей чуў, быццам панна Фэліцыя адразу пасля бацькавай смерці пайшла ў кляштар

З тым я і вярнуўся, але князя гэта не супакоіла, сказаў мне, што дасць сто чырвонцаў таму, хто дакладна даведаецца, што сталася з Вайжбунамі, але гэта ўжо былі старыя падзеі і, паабяцай князь хоць усе дзвесце, ніхто на іх не пакваліўся б

Я паехаў у Вільню па нейкай княскай справе, а час быў гарачы, і собіла мяне ліхое, змучанага, здарожанага, галоднага, дапасці да халадніка, як няма ладу да чаго Ледзьве ад міскі падняўся, як адчуў, — нешта мне далягае, нешта нядобра пачуваецца Я ўзяўся за сваё звычайнае лекарства — гарэлку з перцам, але і гэта ўжо не дапамагло І таго ж дня мяне кінула ў такую шалёную гарачку, што на раніцу ў ліхаманцы людзей не пазнаваў Калі параксізм крыху ўлёгся, не было іншай рады, як загадаць везці мяне ў шпіталь Міласэрных Паненак.

Далі мне там як княскаму слузе асобны ўтульны пакоік, і толькі я ў ім лёг, увайшла панна старэйшая з другой сястрою агледзець мяне, што ў мяне ёсць і што мне яшчэ трэба Яны адразу пазналі, што мяне фібра трасе А хвароба аж на хвілінку адступілася, калі я глянуў на панну, якая прыйшла са старэйшай ВаЧэй адвесці не мог, так мне нешта нагадвала ў яе твары.

Але дзе і калі я бачыў яе, таго я аніяк не мог узнавіць у памяці.

Яна таксама паглядзела на мяне, як бы і ёй пра нешта гаварыў мой твар, але тут

жа і звярнулася да панны старэйшай, якая, зрэшты, і вырашала, што мне даць, што рабіць са мною

Праз некалькі гадзін шпіталявання настаў другі пякельны параксізм той трасцы, а найперш такі азноб, што ў мяне зубы званілі малінавым звонам, пасля страшэнна забалела галава і гарачка — аж да немарасці.

Што ў гэты час рабілася са мною, я не ведаў, але назаўтра, калі аслабелы прачнуўся, расплюшчыў вочы і зноў убачыў тую сястру — яна сядзела каля майго ложка

Я прыгледзеўся да яе, перш чым яна заўважыла, што я прачнуўся, і мяне як бы раптам альсніла, — я пазнаў у ёй Вайжбунуўну — божухны! як жа перамянілася!

Яна ж гэта і была Узрост пакінуў на твары след, але нешта з даўняй прыгажосці ўсё ж засталося Я і быў упэўнены і сумняваўся адразу; то часам бы нават прысягнуў, а то вагаўся Рашыў праверыць яе. На другі дзень, калі мне ўсё яшчэ мроілася тая Вайжбунуўна, я азваўся да сястры, папытаўся, як яе завуць.

— У законе Марыя, — адказала і ўважліва паглядзела на мяне — Дзесьці я бачыла васпана, але не памятаю, дзе?

— І мне так здаецца, — адказаў я, — але калі б сястра была тою, пра якую я думаю, я лёгка сказаў бы, і дзе, і як, і калі мы бачыліся Мне здаецца, нібыта перада мною панна Фэліцыя Вайжбунуўна, дачка пана войскага з Чырвонай Рабкі

Яна пачырванела, уздрыгнула, пачуўшы тое імя, крыху павагалася, але тут жа смела сказала.

— Гэта так, я была ёю, але цяпер я служу Богу і ўбогім. у законе Марыя

Апусціла вочы, мы памаўчалі

— Няма чаго ўжо тут успамінаць мінулае, — сказаў я, — але я бачыў панну ў дзвюх гадзінах яе жыцця, якіх да скону не забудуся

Яна задрыжала, з вачэй пакаціліся слёзы, схапілася за хустачку, але не сказала ні слова

-- Я быў у той няшчасны вечар у Рабцы, за які князь наш дагэтуль пакутуе і забыць яго не можа Праўда, што не хочучы глядзець на ўсё тое, што там рабілася, сышоў з пляцу Быў я і таго вечара, калі ён сам са мною прыйшоў прасіць прабачэння і рукі васпанны, але ані таго ані другога не атрымаў

Здавалася, сястры Марыі не хапіла слоў, толькі паціху цяклі слёзы на складзеныя на каленях белыя рукі Я, крыху з гарачкі, а крыху ад сэрца, гаварыў далей

— Калі ўжо Пан Бог так усё зладзіў, што я тут спаткаў сястру, бо бачу ў тым не што іншае, як выразную волю Божую, дык хай мне будзе дазволена скарыстацца выпадкам і сказаць, што князь да гэтага дня непакоіцца за лёс панны сястры. Пан Бог мне сведка, што калі мы пасля многіх бадзянняў вярнуліся дамоў, ён адразу паслаў мяне ў Рабку, каб я даведаўся пра вас, а калі там мне ніхто нічога сказаць не мог, назначыў узнагароду за тое, хто прынясе яму пэўную вестку.

Сястра Марыя доўга маўчала, апусціўшы павекі.

— Усё гэта прайшло, — сказала, — забыта, пахавана Я сама столькі адпакутавала, што даўно навучылася прыносіць палёгку пакутнікам. Вы бачыце мяне шчаслівую Бог ведаў, што рабіў, ведучы мяне да сябе цярністай дарогай

І вось гэтак, усё цішэй і цішэй гаворачы са мною, закончыўшы амаль нячутным шэптам і падаўшы мне лекі, яна адразу выйшла.

Праз хвіліну пры мне ўжо была іншая сястра, відаць, наўмысна, выйшла, баялася, каб я зноў не прыгадваў ёй даўніх успамінаў Сястра Валерыя была вельмі вясёлая старая жанчына, аж залішне гаваркая Я пачаў распытваць яе пра сястру Марыю, — ці даўно яна ў законе і ці з навіцыяту пачала яна ў Вільні, паведаміўшы толькі тое, што яна паходзіла з нашых мясцінаў. Сястра пачала разводзіць з вялікімі пра яе пахваламі, якая гэта была прыкладная асоба, пабожная і поўная цнотаў, што ў законе яе паважаюць і шануюць ці не больш за каго іншага, і што яе больш як два разы ўжо спрабавалі выбраць старэйшай паннай, але яна не схацела. Дадала, што калі які кляштар патрабуе парадку і клопату, туды яе і пасылалі, і рэдка калі яна там доўга заставалася, — усюды была прыстойная і паважаная

Разбалбаталася старэнькая, складаючы рукі, мала не чынячы ёй свята. Я пераканаўся з яе слоў, што ў кляштары нічога не ведалі

Паскудная ліхаманка два тыдні трымала мяне ў шпіталі, але ўжо сястры Марыі я





больш не ўбачыў, даглядалі мяне іншыя, толькі на адыход я такі ўпёрся — падзякаваць і развітацца

Яна выйшла да мяне ў калідор.

— Калі там хто ў сутнасці на свеце займаецца мною, — сказала, — як васпан сцвярджае, Хрыстом Богам прашу вас і заклінаю, не гаварыце ўвогуле пра мяне Хай людзі забудуць, як бы я ўжо ў магіле была.

— Гэтага я зрабіць не магу, — адказаў я, — калі ж вестка гэтая, пераказаная князю, нікому не можа пашкодзіць, сястры ніякай прыкрасці не прынясе, а кляштару толькі карысць.

І з гэтым мы развіталіся

Калі я, як з крыжа зняты, вярнуўся ў Нясвіж, застаў нашага пана ў добрым гуморы; ён пачаў жартаваць з мяне, што я, як баба, паддаўся трасцы і пайшоў на лацінскую кухню У Нясвіжы не так лекавалі, толькі крупнікам з гарэлкі з імбірам і турэцкім перцам, бывала, што, часам, з хваробай уганялі ў магілу і хворага, але хто моцны, той вытрымліваў і ўставаў здаровы

Увечары, убачыўшы яго ў такім добрым настроі, калі мы засталіся адны і ён пачаў распытвацца ў мяне пра Вільню, ці пакланіўся я нябожчыкам Радзівілам, пахаваным у бернардынаў, я адазваўся:

— Усё гэта добра, вяльможны княжа, але я за вяльможным панам запазыку маю!

— Ты, у мяне, пане каханку! гэта ўжо нешта адмысловае! — усклікнуў ён, — ужо ці не след табе яшчэ і прыплаціць за тое што ты ўзяў у мяне Віскіткі?

— Не, вяльможны княжа, але Радзівілава слова для мяне закон, а я даведаўся, дзе Вайжбунуўна, і маю сто дукатаў

Князь аж падскочыў і, падступіўшыся да мяне, паклаў мне рукі на плечы.

— Што ж ты, пане каханку, даведаўся?

І тут я яму ўсё і выспеваў. Ён слухаў моўчкі, прасіў паўтарыць яе словы, апісаць, як выглядала, і пасмутнеў

— У імя Вайжбунуўны, — сказаў, — трэба вызначыць кляштару пасілак, пакуль жыцьме Васпан мне гэта ўладзіш, каб яна пра тое не ведала, толькі панна старэйшая. Сто дукатаў ты сабе выслужыў, і гэта табе, пане каханку, заўтра ж і сплаціцца, калі ў касе грошы будуць, бо ты сам ведаеш, што ў мяне цяпер гроша са свечкай шукаць трэба.

Такую гісторыю расказаў мне Вісьнёўскі, дадаўшы яшчэ пра Дулембу, што, доўга дарма канкурыруючы за панну, узяў нарэшце абшыд з войска і закапаўся ў вёсцы каля старога бацькі Пасля ўжо ўвогуле не ажаніўся Сядзеў у вёсцы верны той першай мілосці, якой ніколі так і не пазбыўся. Князю даносілі пра яго, і той нават рады быў бы якім-небудзь чынам здабыць яго ласку, але спосабу на тое не знайшлі

***

Раніцай пачаўся вялікі рух у фальварку, на стайнях, на дзядзінцы, бо ўжо неадкладна трэба было вырушаць да Белай

Падарожжа са Славацічаў не было доўгае, але ўтрапёнае, з прычыны тутэйшых дарог Край гэты пляскаты, нізіна, пяскі, балоты і лясы, як не грэбля, дык песчына, а ў лесе па сасновым карэнні, па долах і купах таксама не нагарцуешся.

Князя найбольш мучыла, што, выехаўшы са Славацічаў, мы мусілі добры кавалак дарогі церабіцца праз чужыя маетнасці, землі Сапяжынскіх маёнткаў, жонкі князя ваяводы Мсціслаўскага, дзе ўжо цяжка было распараджацца як дома, а ў корчмах таксама панавала бязладдзе і нэндза. Стрэхі паабдзіраныя, хлявы поўныя гною, ні заехаць, ні адпачыць, ні коням падасланы.

Усю гэтую дарогу князь толькі і дапытваўся

— А што? А ўжо ці мы на сваіх сметніках, пане каханку? А ці далёка яшчэ?

Калі яму нарэшце Мараўскі сказаў, што ўжо замак паказаўся, а было тое пад вечар другога дня, князь выглянуў у акно карэты, нібыта мог нешта разгледзець, накрэсліў у паветры рукою крыж і ўздыхнуў

— Далей ужо мяне нікуды не завезяце, пане каханку, — забурчаў, — са святым Ёсафатам у кампаніі спачываць мем

Нам таксама ад сэрца адлегла, калі мы здалёк па-над дрэвамі ўбачылі замкавую вежу і званіцу рэфарматаў

Пасланыя наперад людзі паведамілі ў мястэчку, і неўзабаве ад Вулькі паказаліся падводы, у касцёлах ударылі ва ўсе званы, а ў канцы грэблі мы ўбачылі святарства, мяшчан і жыдоў з рабінам і балдахінам. Калі мы сказалі пра гэта князю, той паківаў галавой.

— Навошта мне ўсё гэта!

І адразу паслаў наказаць, каб званіць перасталі

— Чаго ж гэта яны мяне як біскупа вітаюць? Гэта ўжо экспартацыяй пахне, пане каханку. Навошта? навошта?

Калі коні застукаталі ў брукаванай браме, ваявода падняўся, адчуўшы, што ён ужо ў горадзе, і мы ўехалі на дзядзінец.

— Дзякуй Богу!

Тут ужо чакала цалюсенькая служба. Усе харомы свяціліся, людзей было багата, усе паз'язджаліся вітаць князя, асобы афіцыйныя, суседзі, шляхта, але Мараўскі папрасіў перапрасіцца перад усімі, бо князь нездаровы і, рады не рады, а мусіць у ложак.

Унізе ўжо стаяла крэсла, і гайдукі, пасадзіўшы на яго хворага, патарабанілі ўгору ў харомы, якія ён звычайна займаў.

Падстаросты, бургграфы, чыноўнікі, афіцыйныя дарма чакалі, каб каго-небудзь запрасіў да сябе, каб пра што-небудзь спытаўся Князь загадаў маршалку пачаставаць іх усіх па-панску, а ўсе размовы і інтарэсы адкласці на потым

Хто ў тыя часы не ведаў Бельскага замка, перш чым ён памалу запусцеўся, той па ўжо пазнейшым яго стане ніякага сабе ўяўлення скласці не можа Не быў ён такі разлеглы, як Нясвіжскі, хоць месца ў ім хапала і на не меншы двор, але ў цэлым быў асталяваны па-панску, мала ці не па-каралеўску, хоць і на старасвецкі лад. Велізарныя залы, кабінеты, люстраныя пакоі, прыбраныя на розныя густы карцінамі, скульптурамі, каштоўнасцямі аздаблялі яго шыкарна Шмат пакояў было замкнута. З вокнаў вялікай залы, дзе не так даўно адбывалася вяселле князёўны з князем Масальскім, выгляд быў на ставок на Кжне, які яшчэ ў той час не зарос чаротам, сітнікам і татарнікам. Князевыя пакоі былі ўтульныя, і ў іх было ўсё патрэбнае Чаго там магло не хапаць, тое даўно ўжо з Нясвіжа перавезлі фургонамі.

Ледзь толькі мы спыніліся, і паволі ў замку ўсё пачало суцішвацца, як зазванілі ў касцёле Анёла Божага Князь уздрыгнуў, але, зняўшы з галавы ядвабную шапачку, пабожна склаў рукі і пачаў маліцца.

***

Князю ваяводу таго ж вечара зрабілася горш, паднялася гарачка, і ён альбо маўчаў, альбо гаварыў абы-што. Пры ім сядзеў доктар, і надворны фельчар, і пан Мараўскі. Відаць, гэта была рада, я чуў з другога пакоя, як Фінке настойваў, каб каля хворага садзілі жанчын, бо яны ўмеюць лепей даглядаць, яны цярплівейшыя і трымаюцца лепей

— Калі трэба кабета для дагляду, — азваўся Мараўскі, — дык што працей? хай каторы сходзіць у кляштар Паннаў Міласэрнасці, а і прышлюць хоць бы і дзвюх і трох самых здольных. Лепшага нічога на свеце не знойдзеце

Відаць, думка гэтая пераканала ўсіх, бо палкоўнік выбег адразу і, выпадкова сустрэўшы мяне першага, сказаў·

— Мой пане Глінка! дзеля міласці Божай, збегай у кляштар да паннаў, хай прышлюць сюды адну ці дзве, для прыгляду за хворым. Князь нецярплівіцца, кідаецца, а мы, хоць і доктар з намі, не можам даць сабе з ім рады Тут патрэбны дасведчаныя.

Я адразу пабег па шапку і плашч, бо на дварэ крапаў лістападаўскі дождж, і не доўга думаючы — у кляштар Ужо быў вечар, калі я пазваніў у браму Адразу адчынілася фортка.

— Я да панны старэйшай, — сказаў я, — з замка, ад ваяводы

Мяне ўпусцілі ў левую залу Чакаў нядоўга, выйшла і панна старэйшая; асоба была ў веку, але яшчэ даволі жвавая і рухлівая Даведаўшыся, што я з замка, яна пачала з вялікай клапатлівасцю дапытвацца ў мяне пра князя, сказала нават, што кожнага дня за яго моляцца.

— Нам, — сказаў я, — пры хворым цяжка ўпраўляцца, палкоўнік прыслаў мяне да панны дабрадзейкі, ці не ўдзяліла б нам панна ў дапамогу каго-небудзь з сясцёр

Панна старэйшая аж рукамі пляснула





— А мой ты Божа, чаму ж бо і не? А дзеля каго ж і абавязкі маем найбольшыя? Здам сястры ахмістрыні кляштар, сама пайду з другою Чакайце васпан чвэрць гадзіны, толькі надзенем плашчы і мы гатовыя

Пасля, падумаўшы і, відаць, не хочучы пакідаць мяне аднаго, панна старэйшая паклікала кагосьці са сваіх таварышак, мне прынеслі віна і смажаны кавалак мяса па-татарску закусіць, а тым часам усё там спасобілася. Я амаль што быў сведкам збораў, бо панна старэйшая адразу прасіла клікнуць сястру Марыю.

Калі я пачуў гэтае імя і ўспомніў расказ Вісьнёўскага і агледзеўся, дзе быў, мне стукнула, як бы нейкая дзіўная распарада Божая. Я адразу нават падумаў, а ну ж тая сястра Марыя будзе якраз Вайжбунуўна?

Магу сказаць, што ад гэтай думкі несамавіта зрабілася, і так я сабе ў думках засеў з непамыснымі выракамі Божымі, што аж спыніўся, слова не кажучы і не бачачы нічога перад вачыма.

Тут увайшла пакліканая сястра Марыя, я пагледзеў на яе, асоба была не маладая, твару даволі мілага і супакоенага, прывыкла, відаць, суцяшаць людзей і гаварыць толькі салодкія словы. Нешта падказвала мне, што гэта Вайжбунуўна.

— Сястра Марыя, — паспешліва азвалася да яе панна старэйшая, — пойдзеш са мною ў замак, пану князю пагоршала, дык наказваюць, просяць нашай паслугі

Калі яна гаварыла гэта, я прыглядваўся да твару сястры Марыі, і ўбачыў, як яна ўздрыгнула, як міжволі заламала рукі Падняла вочы на панну старэйшую, як бы перапалоханая

— Можа б, сястра Ганна, я .. я не ведаю, ці здолею, — азвалася ціха.

— Сястра Ганна мусіць застацца пры інфірмерыі. Тут патрэбна лагодная, як вы, і дасведчаная, ніхто мне так не дагодзіць, як вы. Я і сама іду

У законе першая цнота — паслушэнства, выбраная не супрацівілася, але з выразу яе твару я ўсё больш і больш набіраўся ўражання, што Бог так распарадзіў сваім празарэннем, каб менавіта гэтыя дзве асобы яшчэ раз у сваім жыцці сустрэліся

Мы паспешна рушылі да замка, уся дарога прайшла ў маўчанні, я быў пагружаны сам у сябе, і ўвесь час на вочы нагортваліся слёзы Я толькі чакаў, калі прыйдзем у пакоі, дзе мусіў быць Вісьнёўскі, там я яе і пазнаю.

Ужо таго ж вечара ніхто хвіліны спакойнай не меў — апасаліся за здароўе князя ваяводы. Перад спальняй, у якой ён ляжаў, у прыхожай было шмат народу, і хоць нам нават праціснуцца цяжка было, стаяла такая цішыня, што быў чуцен ціхі шолах сукенак Шапталі толькі на самае вуха, гучней ніхто не адважваўся

Уваходзячы, я здалёк заўважыў Вісьнёўскага і падаў яму знак. Перад сёстрамі ўсе расступіліся, і доктар адразу прыбег пагаварыць з імі

Калі Вісьнёўскі падышоў, я шапнуў яму на вуха·

— Паглядзі на тую сястру, якая спакайнейшая, і скажы мне, што табе здалося?

— Што? у такую хвіліну ты мне кажаш прыгледзецца да маладой сястры? — абурана агрызнуўся той — Глінка, як бога кахам, такога ад цябе не чакаў.

Мяне таксама злосць узяла

— Але, што чорт пабяры, — я яму, — хто табе сказаў, што яна маладая? што вашэці ў галаве? Ідзі і пагляд зі! а потым будзеш казаць!

Вісьнёўскі закруціўся, пайшоў бачком і бледны вярнуўся да мяне назад.

— Перапрашаюся, Глінка...

— Гэта Вайжбунуўна? — спытаўся я.

— Яна, — адказаў, — але як гэта здарылася?

— Божы палец, — адказаў я, — хто ж патрапіць адказаць, як яно ўсё так здарылася? Бог прымеркаваў

Мы абодва замоўклі, патрывожаныя Сказаў я тады сабе, што, дазволяць мне ці не, але буду пільнаваць дзверы і ў спальню ўціснуся. Сясцёр упусцілі адразу, я таксама ўвайшоў за імі

Князь ляжаў на ложку, страшэнна соп і енчыў Наблізіліся да яго на пальцах, наперадзе панна старэйшая, пасля сястра Марыя, пазіраючы на хворага. Першая адразу ж папravіла падушкі· крыху падняла тую, на якой ляжала галава, пасля ўзялася за другую

Князь забурчаў Я пачуў, як ён азваўся

— Хто гэта тут каля мяне завіхаецца? А хоць бы раз мне спакою далі, пане, хо . хто тут каля мяне?

Панна старэйшая ціха азвалася
— Сёстры міласэрнасці
Князь уздрыгнуў, заварушыўся, і цэлую хвіліну не мог гаварыць. Потым сказаў:
— Як завуць?
— Сястра Юстына і сястра Марыя.
Усё гэта гаварыла старэйшая, папраўляючы падушкі На твары Вайжбунуўны я бачыў вялікае замяшанне, рукі ў яе дрыжалі і яна выцірала сабе вочы
— Я пытаю прозвішчы, — сказаў князь ваявода як не сваім голасам
Панна старэйшая хвіліну нешта разважала і азвалася, не бачачы, што яе таварышка спалохана падае знакі
— Сястра Юстына ў свеце звалася Барташэўская, а Марыя — Вайжбунуўна.
Князь раптам заварушыўся, як спалоханы, абапёрся на рукі
— Езус Марыя, Юзаф! — крыкнуў, — Фэліцыя Вайжбунуўна!!!
Склаў рукі.
— Неспасцігальныя выракі Гасподнія.
Пачуўшы гэта, панна старэйшая, якая не магла зразумець нічога, а ўсё гэта прымала за гарачку, шапнула:
— Супакойцеся, вяльможны пане.
— Але я спакойны, я спакойны і памру цяпер зусім спакойны Бог яўна ласкавы да мяне. Як жа яе завуць у законе?
— Каго? — спытала старэйшая
— Вайжбунуўну, — хуценька азваўся князь. — Дзе яна? Хай скажа слова.
Панна старэйшая стаяла здзіўленая, не могучы адазвацца. Сястра Марыя спачатку як бы крылася і здавалася няпэўнай, што зробіць, потым раптам падышла бліжэй і сказала дрыготкім голасам.
— Я тут, вашэці княжа
Ваявода павярнуў да яе галаву
— Сястра Фэліцыя!
— Маё імя Марыя
— Так, так, прашу вас, дайце мне сваю руку.
Вайжбунуўна павагалася, пасля павольна ўзяла выцягнутую далоню князя, які, адчуўшы яе руку, схапіў яе і паднёс да вуснаў.
Панна старэйшая глядзела на гэта са здзіўленнем, блізкім да аслупянення
— Сястра Марыя, — пачаў князь. — Сястра Марыя! Бог так рашыў, каб без твайго прабачэння я не адышоў у лепшы свет. Слава Богу міласэрнаму ў вышнях. Прыйшла тая гадзіна, пра якую прароча гаварыў у Рабцы прабачэння прашу..
Маўчанне было страшнае і доўгае, Вайжбунуўна заплюшчыла вочы, збірала думкі, вуснаў адкрыць адразу не магла, аж паволі ясным і выразным голасам сказала.
— Хай табе Бог так прабачыць, як і я прабачаю.
Князь ваявода перавёў дух, — руку, якую трымаў, да вуснаў прыціснуў і ўздыхнуў, адпускаючы яе
Панна старэйшая, не разумеючы значэння гэтых праяваў, стаяла, стараючыся даўмецца толькі, што ў гэтую хвіліну яна была толькі прыладай нейкай волі Божай, і думка гэтая ўзрушала і трывожыла.
— Дайце мне вады, пане каханку, — слабым голасам сказаў князь. — Панна Вайжбунуўна хай не адыходзіць, вельмі прашу, Пан Бог паслаў яе. Была ў гэтым воля Божая
Калі ўсё гэта адбывалася ў спальні, Вісьнёўскі, увесь працяты і напалоханы, не мог у сабе стрымаць таямніцы і пабег з ёю да князевага сястранца, палкоўніка Мараўскага.
Той падышоў да ложка
— Як дзядзечка пачуваецца? — спытаўся, — можа, хацеў бы застацца адзін?
— Мне вельмі добра, пане каханку, — паспешна адказаў князь, — як гэта адзін? навошта? — І тут жа дадаў· — А і не думай мне тут распараджацца, пане каханку Я яшчэ жыву
Вайжбунуўна стаяла як статуя над яго ложкам, углядалася ў гэты твар, па якім ужо блукала смерць Па схуднелых шчоках плылі слёзы Збянтэжаны Мараўскі адступіў
Была ўжо позняя ноч, цішыня ў замку, я стаяў каля дзвярэй Князь, як гэта бывае





перад сконам, хвілінамі то драмаў, то засынаў, то зноў прачынаўся. І кожны раз, паварушыўшыся, пытаў·
— Сёстры тут?
На што старэйшая адказала:
— Мы тут
— А сястра Фэліцыя?
Дык і яна сама была вымушана адказаць.
— Я тут
— Прашу, не пакідайце мяне
Ледзьве могучы прамовіць гэтыя словы, засынаў зноў і неўзабаве зноў прачынаўся, і гэта паўтаралася ўсю ноч
Назаўтра з раніцы запанавала трывога, бо ўжо і лекары і сёстры, і хто толькі наблізіцца мог да хворага, сумняваўся, што ён можа выжыць. У касцёлах у той дзень, у Фары, у рэфарматаў, у базыльянаў правілі набажэнствы з вынасам найсвяцейшых сакраментаў, абы каб Бог ацаліў князю жыццё
Паслалі таксама на набажэнства ў Лясную і ў Кодзень. Для двара асобную імшу справіў капелан у капліцы, што ў замку каля вала, у якой калісьці спачывала цела св. Ёсафата да таго, як яго перанеслі да базыльянаў
Пад вечар, адчуваючы сябе яшчэ горш, князь ваявода зажадаў апошняй споведзі і астатняга прычасця, але сказаў, каб адбывалася гэта без ніякай помпы і пышнасці
Калі прыйшоў канонік з Фары і ўсе выходзілі са спальні, князь папрасіў у панны старэйшай, каб яна не вярталася ў кляштар і засталася з сястрою Марыяй пры ім
— Яно ўсё ўжо не задоўжыцца! — сказаў ёй, — прашу вас, зрабіце гэта, не дзеля мяне, дзеля Бога.
І тыя мусілі пагадзіцца, перш чым упусцілі каноніка Споведзь трывала з паўгадзіны, і хоць князь быў вельмі аслабелы і сваёй сілай падняцца ўжо не мог, але такі пажадаў, каб да камуніі ўстаць і ўкленчыць.
Канонік хацеў адгаварыць яго ад гэтага, але той не даўся
— З Панам Богам жартаў няма, пане каханку, — сказаў — Радзівіл, ці просты халоп, павінен біць чалом Я чалавек грэшны
І вось накінулі на яго футру, і ўзялі падпахі, падтрымліваючы дзеля святой камуніі, перад якою князь біў сябе ў грудзі ў скрусе вялікай Паклалі мы яго потым назад у ложак, і праз хвіліну ён ад стомы і ўражання не мог ужо сказаць ні слова Пасля ўздыхнуў і сказаў-такі
— Усё цяпер скончылася, адыходжу, пане каханку, *ad patres!* Бывайце здаровыя!
Канонік, які застаўся, пачаў абнадзейваць, шматкроць падаючы святыя сакраменты не толькі дзеля душы, але і дзеля цела Князь толькі ўсміхаўся з гэтага.
— Хай дзеецца воля Божая, пане каханку, — сказаў ён ціха, — у мяне вялікай ахвоты да жыцця няма На нічога ўжо больш не прыдамся, я сляпы вываратэнь, уломак стары, дык пара ўжо і ў склеп
Ён яшчэ папытаўся пра паннаў, а як што канонік сядзеў каля яго і пачуваўся даволі жвава, дык князь сказаў яму, каб ягоным даглядчыцам, прынамсі, далі есці, каб падсілкаваліся Па сутнасці яны да таго часу мацаваліся ці не адной толькі вадою з віном і бісквітамі Пайшоў я, праводзячы панну старэйшую і Вайжбунуўну ў бакавую залку, дзе загадаў хуценька накрыць стол, а на кухні заўсёды было што-небудзь гатовае Я карыстаўся выпадкам, каб лепей прыгледзецца да панны Вайжбунуўны, якая амаль ні да чога не дакранулася і сядзела задуманая і, відаць, толькі вялікай сілай душы баранілася, каб не выказаць узрушэння Пазнаваліся ў ёй яшчэ і даўняя прыгажосць, асабліва ў вачах, і энергічны характар, глядзела смела, павагу мела вялікую, але жыццё злагодніла яе, і слодыч у ёй спалучалася з моцай характару Ледзь прыгубіўшы столькі, каб толькі не адчуваць голаду, абедзве ўсталі і вярнуліся ў пакой да князя
Канонік неўзабаве сышоў, а як што князю, здавалася, крыху палепшала і нават забірала на сон, а доктар запэўніў, што гарачка адпусціла, панны маглі пайсці і адпачыць, мяне ж і Пулькоўскага пакінулі дзяжурыць.
Ноччу, здаецца, гарачка зноў вярнулася, бо князь будзіўся, падхопліваўся, то сцягваў з сябе коўдру, то папраўляў яе, трызніў, смяяўся, пасля ўпаў у санлівасць і хроп так страшна, як бы ўжо апошнія гралі арганы Панны ў такія моманты прыходзілі, і мы

абкладвалі яго падушкамі, падымалі, каб яму зручней было І ўвесь час дыхаў цяжэй і цяжэй

З апоўначы панны пайшлі ў свой кабінет адпачыць. Пулькоўскі моцна заснуў, я, каб крый Божа не задрамаць, узяў у Напюркі ў паперку моцнага тытуню і амаль увесь час соваў яго сабе ў нос, так што назаўтра ён у мяне апух як труба І дасталося мне з ім нямала бяды, бо мне ж свярбела чыхаць, а чхнуць тут было крыміналам, я заціскаў нос у кулаку, і пакута была з ім жахлівая

Сярод ночы я пачуў невыразнае ўзрушэнне. Свечкі гарэлі як звычайна за зялёнай шырмачкай, і на твар яму падала толькі невялікае святцельца. Я глянуў, — усміхаўся як за добрым часам, па твары разлілася як бы нейкая даброць, як бы пазбыўся ўсялякага клопату

Вусны паволі варушыліся, спачатку ціха, пасля гаварыў усё больш выразна, вельмі жыва і хутка, як бы прыспешваў словы, каб выгаварыць усё.

— Каторая гадзіна? га? не прабіла яшчэ? я гатовы ў дарогу! З Панам Богам рахунак зроблены. Бывайце здаровыя, пане каханку, бывайце здаровыя!

.. Радзівілаўшчызны мне тут глядзіце пільнуйце, прашу вас, і шчэзнуць ёй не давайце Памятайце, бо ж, пане каханку, з таго свету адпрашуся, вярнуся і папытаюся калькуляцыі

...Ужо мне плечы апухлі столькі часу на іх насіць. і арлы з трубамі. Гэй! гэй! пане каханку! арлы тыя колісь высока лёталі, а трубы зычна *larum* свету гралі, аж птушкам крылы паабціналі, як курам, а трубы ўжо хіба што на пахаванне зайграюць.

...Скончылася, пане каханку Ваяводаў мундзір занасіўся да ніткі. Дайце мне яго ў труну, ніхто ўжо ў ім не хадзіцьме. на гэтых здыхлякоў занадта шырокі. Але Бог Вялікі злітуецца з Радзівілаў! А калі пераважаць грахі нашыя і прыйдзе кара, пане каханку, умейце насіць няшчасце так, як не ўмелі насіць шчасце! Толькі не згінацца, не лезьці ў гразь Лахман пурпурай стаць можа, лепей дзіркі, чым плямы!

Замоўк, як бы чакаючы ад кагосьці адказу, а потым пачынаў нанава.

— Ужо іду, ужо іду Бачу, чакаюць мяне ў парозе, ваяводы, гетманы, канцлеры, біскупы... клічуць да сябе, іду, бацькі каханыя Дайце мне толькі яшчэ раз зірнуць на мае замкі, сады і пушчы, на вёскі і зямельку Тры локці зямлі хопіць Радзівілу

.. Каб толькі тая ваяводская труна цесная не была я люблю ляжаць раскошна, пане каханку, асабліва, што пасцель гэтая не на адну ноч, а да самага суднага дня, пане каханку!

Ружанец Сіроткі дайце мне ў руку, не пашкадуйце яго Я ж таксама быў сірата і сіратою сыходжу са свету, як палец адзін! Бог з вамі, пане каханку, не плачце.

Ён заснуў, але пад раніцу падхапіўся і закрычаў·

— Грайце хаўтурную ў радзівілаўскія трубы! Мядзведзь упаў, але скура яго засталася.

І, як звыкла, клікнуў мне.

— Глінка? ёсць там каторы? каторая гадзіна?

Я паспяшаўся да ложка, а панны, таксама пачуўшы голас, надбеглі. Абудзіўся ў памяці і папрасіў піць Падала яму панна старэйшая, але князь, ледзьве ўмачыўшы вусны ў кубку, апусціў галаву на пасцель. Папрасіў ружанца Сіроткі і пачаў маліцца

Ужо відаць было, што надыходзіць апошняя гадзіна. Цэлы двор на нагах, у вялікай цішыні чакаў, што Бог зрадзіць. Пад раніцу зноў вады папрасіў у Вайжбунуўны, але такім голасам, што яго ледзьве можна было пачуць. Беручы кубак, пацалаваў ёй у руку і адразу зашаптаў·

— У рукі Твае, Божа

А потым

— Езус, Марыя, Юзаф!

Твар пакрыўся бледнасцю, на лобе выступіў пот, а вусны як бы ўсміхаліся.

Князь не жыў

Мы ўсе ўкленчылі вакол яго ложка, і ксёндз пачаў гаварыць малітвы

На світанні ва ўсіх касцёлах зазванілі званы, і ў мястэчку плач і лямант разлёгся вялікі

Вечны спачынак дай яму, Пане, і вечная светласць хай свеціць яму на векі вякоў Аман

**Пераклаў з польскай мовы**
**Васіль СЁМУХА.**



# Людміла ПАЎЛІКАВА-ХЕЙДАРАВА





*Паэт – ігрок. Смялей, чытач,*
*на коне – блеф, што ты гартаеш.*
*Прабач за шчырасць – не святая.*
*Прабач за зман. Яшчэ прабач,*
*што сею смутак і трывогу.*
*Той адпявае – хто пяе.*
*Калі паэзія – ад Бога,*
*зямныя – словы ўсе яе.*

# МЕЛОДЫЯ ЛЮБОВІ

***

Анёл ласкавы, годзе з нас ялея,
мы ў свет прыйшлі, каб выбеліць душу,
сюды, дзе час, як шнур бікфордаў, тлее,
і смерць з жыццём падобны спарышу
і цел зліццю ў спякоце росных траваў,
дзе, можа стацца так, і продак мой,
прабіты дзідай здрады або славы,
ступіў на мост між небам і зямлёй.

І нам спазнаць святла зямнога смутак,
са свечкаю адмерваючы век, —
хто не дапіў агонь, дап'е атруту
і назаве памылкай гэты свет, —
а тут, дзе хмары схлынулі дажджамі,
у ліўні кос з-пад белых апакроў
чакае з чарай вогненнай над намі
бязгрэшная атрутніца Любоў...

## *МЕЛОДЫЯ ЛЮБОВІ*

Нараджаюцца рэкі, аблокі,
пяскі і калючкі,
аднаўляюцца зерне і промні,
лістота і час,
раскрываюцца кветкі...
Ты ведаеш, мабыць, балюча
першы раз бачыць сонца
і слухаць вятры першы раз,
цалавацца з пчалою
пушыстай, узбуджанай, звонкай,
ці, адкрыўшы прастору,
збегчы ў цёплыя травы лугоў,
дзе мяцёлкі ласкава
казычуць падпуззе казлёнку,
што брыдзе разамлелы...
Ты ведаеш, гэта любоў
разліваецца ў свеце
у кожным стварэнні і плодзе,
кожнай фарбе і гуку
па рэчышчах жылаў зямных...
Я хацела сабраць
для цябе гэту безліч мелодый,
ды ў жыццё даўжынёй
аказалася кожная з іх...

## *НАРАЧАНСКАЯ БЯРОЗА*

Цягнула вільгаццю з бароў
на бераг стылы, бераг ніцы,
але — якіх падкінеш дроў
у згаслы прысак вечарніцы?





Тут пахла рыбай і смалой,
набыткам мудрасці цвярозай,
але на ўскрайку, ля піўной,
пад вецер танчыла бяроза.

І ёй, гарэзніцы, крадком
на струнах дрогкага паветра
насякам доўгім, як смыком,
наярваў шал старэчы ветах.

І што было ў бярозе той —
не зразумець душу вачыма —
з славянскай грывай залатой
так па-цыганску біць плячыма!

А зразумець — дык што з таго?
Аднойчы збегчы з плыні року,
глынуць заміж зямнога соку
зямное восені агонь...

***

Зямля — не сон — святое свята жалю.
На захад сонца хіліцца... Кажу —
Як залатых лістоў апошнім балем,
Табой — смяротным балем — даражу.

Прадоўжым міг удзячнае разлукі,
Я не спяшу, прыгубіўшы віна.
І той, хто мне цалуе ранкам рукі,
Не зразумее — ў чым яго віна.

Я не спяшу ў апошнюю дарогу
І за сабой святла я — не тушу,
Адно прашу ў імя ўсяго святога:
Калі прыйду — прымі маю душу.

***

Паэт — ігрок... Смялей, чытач,
на коне — блеф, што ты гартаеш.
Прабач за шчырасць — не святая.
Прабач за зман. Яшчэ прабач,
што сею смутак і трывогу.
Той адпявае — хто пяе.
Калі паэзія — ад Бога,
зямныя — словы ўсе яе:
як гандляры на кірмашы —
ухваляць тое, што не маюць.
А скажаш: ісціна — нямая, —
і страшна робіцца душы.

***

Усё, што можа быць — было,
вар'яцтва — плакаць і смяяцца.
Усё, што можа быць — сіло

на ролю сумнага паяца.
Усё – адно адчайны шал,
дзе рвецца дух з цялеснай робы.
...І спатыкнулася душа –
на свет. Падумала – на дробязь...

### *БЫВАЕ ЎСЯКАЕ*

У магазін "Дарункі" зайшла я купіць для сына
піжаму, каб спалася цёпла, бо ён прастывае часам,
і, увогуле, з ганарару за выступленне ў калгасе.
Спынілася ля прылаўка, на сценцы за ім – піжамы,
а побач – індыйскія споднікі, што дэфіцыт нябачаны –
з іх шапкі спартыўныя шыюць, казалі па тэлебачанні.
Стаю, дзіўлюся, мяркую: "Ну, трэба ж, пашэнціла гэтак,
а сын мой і муж не носяць. Глядзі ты – якія моднікі!
Нібыта іх нехта ўбачыць апроч мяне ў тых спадніках!
А, можа?.. Усякае можа быць!" – І раптам амаль на вуха
голас густы: "Купляем?" Я азірнулася. Бачу – мужчына
стаіць незнаёмы. Сур'ёзны. У шапцы бабровай. Трохі,
здаецца, і сам сумеўся. Зірнула на дзядзьку строга:
"Купляем, – кажу, – на шапкі". – "На шапкі?" – здзівіўся
мужчына. А я павярнула да касы. Выбіла чэк на піжаму,
думаю: "Будзе сыну – на дзень нараджэння дарунак", –
і падалася ў куточак – уладкаваць свой пакунак.
З торбачкаю заблыталася. "Можна дапамагчы Вам?" –
чуецца зноў ля вуха. "Адкуль, – кажу, – гэткія добрыя?"
Не азіраюся нават. Навошта? І голас – той самы.
А ён мне ў адказ спакойна: "Проста спадабалася дама.
А што – хіба не бывае?" Прадаўшчыца ледзь не самлела.
Цяжкімі ад тушы вейкамі – пляскае, пляскае, пляскае...
І я разгубілася нават: "Бывае, вядома... усякае..." –
ну і – хутчэй з магазіна. Стаю на трамвайным прыпынку,
нібы над зямлёй на дроце, баюся, што недзе побач.
А ён мне зайшоў наперад і кажа: "Прабачце за смеласць,
Вы здагадаліся, пэўна ж – знаёміцца я не ўмею..." –
сцягнуў з галавы сваёй шапку, чамусьці ў руках камечыць.
"Ды каб жа ты праваліўся!" А ўслых: "Ну, а я – не жадаю!" –
Напэўна, я крыкнула гэта – мужчына ажно адхінуўся,
а ўсе, хто стаяў на прыпынку, з цікаўнасцю азірнуліся.
А тут – і трамвай! З разгону ўляцела ў трамвай... На гэтым
і можна б закончыць сказ мой. Ды толькі праз месяц з нечым
прыехала я ў "Дарункі" – чым-небудзь парадаваць маму.
Блукала там – нібы сляпая... І раптам сябе ў адчаі
злавіла на думцы млоснай: Яго шукаю вачамі...



# Віктар ШНІП | ТЫ



*Што за настрой?*
*Усё, што ні напішу, здаецца лухтой.*
*Якую ні вазьму кнігу – лухта.*
*Можа выпіць сто грам?*
*Выпіў. Чытаю. Ха!*
*Усё цудоўна. і маё, і чужое.*
*Як часам не хапае гэтых ста грамаў!*

**З Віктарам ШНІПАМ гутарыць Леанід ГАЛУБОВІЧ**
**ВЕРШЫ**
**ЦЕНІ АД БЯРОЗАВАГА СВЯТЛА**

*З Табой:*

# З Віктарам ШНІПАМ гутарыць Леанід ГАЛУБОВІЧ

**ЛЕАНІД ГАЛУБОВІЧ.** Вось і ты, Віця, дакаціўся да "постаці"... Дарэчы, як ты ставішся да нашых "крынічных" рубрык, у прыватнасці да рубрыкі "Ты"? Хто, на твой погляд, варты ў ёй з'явіцца і хто з'явіўся выпадкова?

**ВІКТАР ШНІП.** Вось і я дакаціўся да "постаці" Такая ўжо на цяперашні час мая доля. І я не баюся (і не спяваю ад радасці) гэтага "дакочвання", галоўнае – каб рубрыка "постаці" не дакацілася (сам ведаеш да чаго). Праўда, рана ці позна, а мы ўсе да нечага дакочваемся. Сёння ж мы, часцей за ўсё, коцім адзін аднаго (гэта бачна па рубрыцы "Ты"), і коцім так, як бочкі з аднаго склада на другі. Па дарозе поўныя бочкі – *бу́хаюць-буха́юць,* недапоўненыя і пакуль што зусім пустыя – *бумкаюць-бамкаюць*. . І ўсё гэта *бу́ханне-буха́нне, бумканне-бамканне* – наша літжыццё, у якім мы можам паказаць сябе, якія мы ёсць, на зло ўсім нашым нядобразычліўцам.

Любая рубрыка ў любым выданні для мяне – як пустая пляшка, якую можна напоўніць добрым вінам, а можна і (у рыфму). І чым рубрыка будзе напоўнена, залежыць ад таго, хто кіруе напаўненнем.

Нічога ў гэтым свеце выпадковага няма, бо ўжо ўсё напісана ў Кнізе Жыцця. І ёсць у Кнізе часопіс "Крыніца" Таму выпадковых імён няма і ў рубрыцы "постаці", бо калі ўжо мы ёсць, то мы вартыя таго, каб быць.

**Л.Г.** Як табе здаецца, ці не палічаць чытачы, асабліва літаратары, *анамальным,* калі ў "постацях" аб'яўяцца самі супрацоўнікі часопіса "Крыніца"? Ёсць у мяне (а магчыма і ў нас) такая падсвядомая белая зайздрасць. Аднак...

**В.Ш.** Міжволі прыгадаўся "інструктаж" пры маім прыходзе на працу ў "ЛіМ" "Свае творы ў тыднёвіку можна зрэдку друкаваць, а вось пра сябе ніякіх рэцэнзій і артыкулаў нельга – такі няпісаны лімаўскі закон" І гэты закон пакуль што нікім у нас не парушаўся. Спакуса "праслаўіцца" існавала і існуе – жывыя ж людзі. Але, калі б у "ЛіМе" ці "Крыніцы" з'явіліся вялікія артыкулы пра творчасць сваіх супрацоўнікаў, то, я думаю, ад гэтага б ніхто з літаратараў не памёр, а тым больш з чытачоў Праглынулі б аднаго, затым – другога (не атрута ж), трэцяга, а там, глядзіш, і звыкліся б. Аднак.

**Л.Г.** Будзем лічыць, што са *штатным раскладам* і чаргой па славу мы пэўным чынам разабраліся.

Мабыць, нашмат цяжэй разабрацца з самой Літаратурай.

Што гэта за "рэч" такая – Літаратура? Ці, як любіць пісаць Акудовіч, "панятак"..

Што ў ёй было ад Пачатку, ёсць сёння і чакаецца быць заўтра? Альбо – наадварот – чаго не было, няма і не будзе?

Увогуле, Літаратура – гэта чалавечая *справа* ці чалавечая *справаздача* перад. . жыцця перад смерцю, часу перад вечнасцю?

**В.Ш.** Літаратура гэта душа, прапушчаная праз мазгі. І ў каго якая душа і якія мазгі (калі яны ёсць) – той і адпаведную літаратуру ствварае. Увогуле, літаратура – гэта не такая простая "рэч", як, часам, нам думаецца, але і не такая складаная, каб у ёй не разбірацца...

Я асабліва не думаю пра тое, што было ў літаратуры і што было самой Літаратурай ад Пачатку, бо нікому невядома, калі быў той Пачатак. Я проста чытаю творы. Адны мяне натхняюць на *маё*, другія ж абуджаюць думкі накшталт· "І для чаго ўсё гэта?!"

*Што* сёння ёсць у літаратуры? Я сказаў бы: *хто* ёсць? Без *хто* няма *што*. А ў беларускай літаратуры, у прыватнасці, сёння ўжо ёсць. *ты, я, ён, мы, яны* і нават *яно...* І ад нас нікуды нашай літаратуры ўжо не дзецца. І дзякуй Богу, што ён не проста ёсць, а нешта і самі маем. Праўда, шкада, што пра гэта ведаем толькі мы. Хаця, ці патрэбныя мы свету?

А *што* чакаецца заўтра? Нешта ж будзе, калі будзе гэты свет і ў гэтым свеце наша Краіна са сваёй беларускай мовай. І тое, *што* будзе, залежыць ад таго, *хто* будзе заўтра. Але хутчэй за ўсё, яшчэ недзе гадоў 10, а мо і 20, чаго не было і няма, таго і не будзе... Мы стаім перад Еўрапейскай Сцяной. Яе трэба прабіць, каб лёгка ўздыхнуць і адчуць Волю (у творчасці), якую мы шукаем, да якой імкнемся і якой не разумеем і баімся. А ўвогуле, літаратура – гэта д'ябальшчына. І калі твор не д'ябальшчына – то гэта проста графаманская пісаніна і не больш. А можа я і памыляюся?

**Л.Г.** Твой адказ, бадай, лагічны, хоць просталінейны і, найперш, зухаваты.. Прымем яго за альтэрнатыву таму, што, напэўна, сказалі б іншыя ў дачыненні да нашай гаворкі пра сутнасць літаратуры.

Вось толькі – як быць з д'ябальшчынай? Ці не занадта часта мы спасылаемся на *яе* (укладваючы сваё разуменне ў гэтае дзікаватае слова), калі справа тычыцца нашай *хваробы,* ад якой мы не знаходзім ні ратунку, ні панацэі.. як цяпер у нашым бела-*рускім* грамадскім ладзе жыцця?.

Ну, пагаджуся, што Сыс – *д'ябальшчына* (нешта геніяльна-трагічнае ў маім разуменні), ну, Купрэеў – *чартаўшчына,* ну, Разанаў – *"не з нашага поля ягада"*, ну, Славамір Адамовіч – свядомы *ідыёт.*

Астатнія, у пераважнай большасці, – людзі як людзі...

Да прыкладу, у чым выяўляецца *д'ябальшчына* паэта Віктара Шніпа?

У нармальнасці, ці што?

**В.Ш.** Напачатку дадам пару слоў да папярэдняга адказу пра сутнасць літаратуры.

Сутнасць літаратуры, калі і далей гаварыць *просталінейна*, гэта – атрыманне *задавальнення*

# ТРЫ ІПАСТАСІ ПАЭТА

**1.**

**В. Шніп у кніжках "Гронка святла" і "Пошук радасці", што выйшлі ў 80-я гады, сцвярджаў сябе як творца ў рэчышчы традыцыйнай эстэтыкі і паэтыкі. На тое былі, як думаецца, прычыны не столькі суб'ектыўнага, колькі аб'ектыўнага характару, бо ўсе мы выхоўваліся на ўзорах беларускай класікі з яе паэтызацыяй роднай зямлі, прыроды, атрымоўвалі ўрокі адпаведнага ідэйна-грамадзянскага выхавання мастацкім словам – урокі савецкага патрыятызму, любові да Леніна, шанавання народнага подзвігу ў вайне і да т.п. В. Шніп як паэт найперш пачынаўся з апявання красы роднага прыроднага ўлоння, вобразнага адкрыцця таго вясковага свету, з якім быў звязаны ягоны першапачатковы эмацыянальны і жыццёвы вопыт. Пейзажныя малюнкі ў першых двух зборніках пазначаны мовай адметнай вобразнасці, імкненнем да жывапіснасці і пачуццёвай уражлівасці слова. Вось невялічкае васьмірадкоўе, якое яскрава гавораць пра прыродаапісальны дар В. Шніпа:**

*Першага снегу святло,*
*Ты для мяне, як свята.*
*Сонца памалу ўзышло*
*З коміна крайняй хаты.*

*Вецер сцяжыну маю*
*Ноччу замёў на лузе.*
*Ціха на ганку стаю,*
*Снег патушыць баюся.*

**В. Шніпу не бракавала назіральнасці, яркай вобразнай асацыятыўнасці, пра што таксама сведчаць і іншыя пейзажныя радкі: "За вадой услед іду – // Мне свой цень // Цягнуць нялёгка" ("Эцюд"); "Прымерзлі да нябёс галіны..."; "Ваду стаўляю, а вядро // Не адпускае рукавіцу" ("Гайнёю быстраю ляціць..."); "Схаваўся ў студню ранак, // Да дна звініць ланцуг" ("Навальніца"). Прыклады-ілюстрацыі можна доўжыць, і ўсе яны будуць гаварыць пра тое, што В. Шніп ўжо ў 80-я гады выявіў сябе як даволі ўмелы майстар паэтычнай вобразатворчасці, традыцыяналіст у пазітыўным, добрым сэнсе гэтага слова.**

**Зрэшты, традыцыйны характар творчасці меў і свой негатыў, нёс у сабе пэўны кансерватызм і стэрэатыпы. Тут я маю на ўвазе хаця б вершы пра вясковых дзядзькоў, пра Ільіча ў разліве ці пра камуніста, у якога "жалезам выпеклі гарачым на спіне зорку". Пераадолець непатрэбныя паэзіі штампы і каноны ў той час было нялёгка, здавалася б, немагчыма, тым больш для маладога вершатворцы. Між тым ужо ў першай палове 80-х у творах В. Шніпа праступае выразнае ўласнатворчае "я" паэта-беларуса, улюбёнага ў край "пад крыламі буслоў", якому радасна адчуваць, што "ў слове родным "Беларусь" свецяць нам Скарынавы буслы" ("Буслы Скарыны"), які прызнаецца, што любіць "так, як Каліноўскі, свет і волю" ("Вы пытаеце: чаму пяю?.."). Гэтае пранікнёнае вычуванне нацыянальнага духу, мінулага, сутнасці беларускай душы, а таксама спазнанне яе зломнасці і трагедыі набыло працяг у наступных кнігах В. Шніпа "Шляхам ветру" і "На рэштках храма". Увогуле, духоўны воблік і**

ад творчасці, як пры палавым акце ці смакаванні віна. На жаль, недзе працэнтаў 90 нашай літаратуры (фрыгідныя тэксты) ніякага задавальнення не прыносіць. З такіх твораў, як з даўно адкаркаваных пляшак віна, выпарыўся ўвесь спірт, і засталіся толькі самі пляшкі з бруднай вадой. Такога пойла не п'юць. На сённяшні дзень у нашых хатніх бібліятэках шмат кніг, якія страцілі сваю літаратурную каштоўнасць. Я ведаю, якія кнігі ў маёй хаце можна смела выкінуць, і я іх, прыйдзе час, выкіну, як гэта нядаўна зрабіў ты. І тое, што ты, Лёня, выкінуў на сметнік, – гэта было не літаратурай, ва ўсякім разе, для цябе. Добрую літаратуру ніхто не выкіне. І нават калі будзе пажар, мы будзем ратаваць літаратуру (сапраўдную), а не сваё шмаццё. .

Наконт таго, што літаратура – гэта д'ябальшчына, я, відаць, крыху загнуў, але.

Прыгадаю некалькі эпізодаў са свайго жыцця.

Здаецца, у 1990 годзе ў Мінску Павел Глоба адкрыў платныя курсы па астралогіі. На іх запісалася мая Людміла. Схадзіла адзін раз, а на другі – не захацела, бо пасля лекцыі не спала цэлую ноч. Адправіла мяне. І вось сяджу я ў паўнюткай зале і слухаю, як гаворыць (не што, а як) са сцэны жанчына-астролаг (вучаніца Глобы) пра тое, што чакае нас праз год, праз пяць, праз дзесяць і г.д. Хачу адразу сказаць, што нічога не збылося, калі не лічыць за астралагічны прагноз тое, што памрэ Кагановіч. Стары Кагановіч і без астролагаў памёр бы, як рана ці позна ўсе паміраюць.

Жанчына-астролаг гаворыць, людзі запісваюць за ёю, а я гляджу навокал і ледзьве стрымліваю смех. І тут, нечакана для сябе, я прыпадымаю, каб не было бачна, руку, даланёю да сцэны, і ў думках кажу· "Сціхні!" Жанчына-астролаг кашляе і змаўкае. Ад такога нечаканага фокуса я хаваю руку, як апечаную. А астролаг і кажа: "Прабачце, што я спынілася. Мне толькі што перашкодзіў працаваць чалавек, які сядзіць вось у тым сектары", і паказала ў мой бок...

Назаўтра я зноў прыйшоў на лекцыю. Жанчына-астролаг на гэты раз была не адна, а з асістэнтам-гіпнатызёрам, які сачыў за залай, каб не паўтарылася тое, што было ўчора. Пачалася лекцыя. Мне зноў было смешна слухаць тое, што неслася са сцэны, і бачыць, як гэта ўсё запісваецца ў сшыткі. Відаць, я прасядзеў бы без фокусаў гэтую лекцыю да канца (у мяне было жаданне паўтарыць, для праверкі самога сябе, свой учарашні фокус), калі б астролаг не папрасіла асістэнта намаляваць ёй на дошцы нейкі астралагічны графік. І толькі мужчына адвярнуўся ад залы, як я паўтарыў свой фокус. Астролаг закашлялася. Я схаваў руку, і са сцэны прагучала: "Сёння мне зноў вось толькі што перашкодзілі працаваць" Яна паклікала з-за куліс дзвюх памочніц, нешта ім сказала, і яны пайшлі ў залу і, ведаеш, прыйшлі і селі блізка з двух бакоў каля мяне.

Трэці раз я не пайшоў на астралагічныя курсы.

Быў яшчэ выпадак. Я працаваў у часопісе "Беларусь". Да нас у рэдакцыю зайшлі два экстрасенсы, якія хацелі, каб у нас з'явіўся пра іх які-небудзь артыкул. Мы імі не зацікавіліся, але затое яны зацікавіліся мной. У экстрасенсаў быў нейкі прыбор, на які трэба было класці рукі і з дапамогай сваіх думак ганяць стрэлку на прыборы. У маіх калег па часопісу не атрымлівалася, а ў мяне – атрымалася І тут экстрасенсы са мной пачалі эксперыментаваць. Дайшло да таго, што яны мне закрывалі рукой вочы і падносілі да мяне вокладкі часопісаў і пыталіся, што на іх

**эвалюцыю лірычнага героя паэта немагчыма ўявіць без пачуцця радзімы-Беларусі, далучанасці да яе лёсу. У зборніку "Выкраданне Эўропы" (1996) тэма Айчыны набывае вельмі драматычнае гучанне:**

*Мая Айчына – ты мая Турма,*
*І каб хацеў другой – другой няма...*
*І гэты свет, як попел пад нагамі,*
*І гэта неба, што, як смерць, над намі.*

**Так сёння, у сярэдзіне 90-х, паэт выказвае свой душэўны стан, а адначасна нібы выгаворвае і душу беларуса, у нечым зняверанага, перапоўненага сумам і трывогай. Працытаваны твор напісаны ў лепшых традыцыях патрыятычнай паэзіі.**

**У формах і паэтыцы традыцыйнага мастацкага выяўлення В. Шніп дасягнуў і дасягае несумненнага поспеху. Хоць, заўважым, надараліся ў яго творы эстэтычна недасканалыя, выдаткі светапогляднага характару накшталт: "А талент ад душы, // Не ад святога духу".**

**Сімпатычнымі рысамі паэзіі В. Шніпа ў 80-я гады стаў зварот да казачнасці, міфалагізацыі зместу твораў. Гэта ў пэўнай меры абнаўляла мастацкі лад, прыёмы, стыль вершаванага пісьма. Паэт знаходзіўся ў пошуку, задумваўся пра тое, як прыдаць свайму творчаму варштату індывідуальны почырк, яркасць і глыбіню выяўлення. Акрамя імкнення пераасэнсоўваць фальклор, ён, мусіць, арыентаваўся на эстэтычны вопыт Янкі Купалы і М. Багдановіча, нашых сучаснікаў М. Танка і Р. Барадуліна. Можна сказаць, што В. Шніп – таленавіты вучань сваіх выдатных папярэднікаў на ніве паэтычнага мастацтва.**

**І яшчэ вельмі характэрнае: нельга не адчуць у традыцыйнай вершатворчасці В. Шніпа лірычнай афарбаванасці пафасу, эмацыянальнай энергетыкі радка. У яго першых зборніках няма паэзіі кахання, прычым**





бачу, і я бачыў (самому не верыцца), што на тых вокладках. Да ўсяго я чытаў закрытымі вачыма з паперак, на якіх пісалі, што хацелі, мае калегі. Пасля гэтых фокусаў экстрасенсы мне прапанавалі кідаць часопіс і ісці разам з імі зарабляць грошы. Я адмовіўся, але яны адсталі ад мяне толькі праз месяц. .

Пасля тых маіх фокусаў прайшло ўжо нямала часу, але ж мае тыя здольнасці (відаць, ненармальныя), думаю, і сёння са мной. І мне не трэба, як некаторым, выдумляць і іграць звышнатуральнае, бо яно са мною, а п'янства і распуста – гэта праявы зямнога побыту, гэта з іншага ўзроўню. Мае фокусы, па-мойму, вышэй заяў кшталту· "Я – сын Янкі Купалы і брат Максіма Багдановіча", толькі я імі ў будзённым жыцці не карыстаюся.

**Л.Г.** На 90% пагаджаюся з тваім адказам, як і з тымі 90%, пра якія ты ўпамінаў тут, а вось з 10%, што *"пайшлі на пажар"*, трэба падумаць пакуль ёсць час і няма пажару – ратаваў бы я кніжкі ці жончыныя і даччыныя шмоткі?.. Найперш, відаць, ратаваў бы сям'ю, сябе і сваё крэўнае – рукапісы Менавіта ў такім парадку, як пішу. Што паспеў бы...

Бо, пагадзіся, тую літаратуру (кніжкі, часопісы і т.п.), што сёння ёсць у маёй хатняй бібліятэцы, і тыя шмоткі, што ёсць у шафе, можна купіць наноў абы грошы знайшліся...

А цяпер – пытанне, якое ты павінен прачытаць з заплюшчанымі вачыма. Не тое, што я табе не давяраю, а, скажам, удакладняю, каб упэўніцць чытачоў у тваіх здольнасцях...

Часта можна пачуць і прачытаць: *гэта наш чыста нацыянальны талент...*

Талент – дар Божы, прыродная з'ява ці праца душы і розуму? .

І ўвогуле, калі *талент* паняцце духоўнае, то – нацыянальны ён, касмапалітычны, агульначалавечы? .

**В.Ш.** Я цалкам згодны з табою, што тыя кнігі, якія мы маем у сваіх хатніх бібліятэках, страціўшы, сёння можна лёгка набыць наноў – абы грошы былі... І гаворачы пра ратаванне кніг з пажару (крый Бог!), я меў на ўвазе, што ўсё жывое і роднае даўно выратавана, бо ніякая літаратура не заменіць чалавека. Хораша пра кнігі сказаў Уладзімір Караткевіч:

*Кнігі – сябры.*
*Іх кідаюць перш за ўсё.*
*Але ўсё ж Чалавек*
*Выходзіць пад бомбы ў дарогу,*
*Захапіўшы з сабой*
*Акрым шчоткі зубной*
*Багдановіча, Танка, Купалу,*
*І Коласа, й Панчанку,*
*І Эклезіяста,*
*І – ў сэрцы – бога.*
*Калі здарыцца горшае,*
*Калі будуць паліць*
*(А папера палае лёгка і весела),*
*Мы на памяць завучым,*

**тут сустракаюцца проста цудоўныя творы і страфы ("Вясна ў цябе вавёркай...", "І прыйдзе час, і ўсё забудзеш..." і інш.). Зазірнуць як мага глыбей у сваю душу – у гэтым ключавы момант паэтычнага самавыяўлення, і без даверлівага выказвання унутраных асабістых пачуццяў не было б В. Шніпа-паэта.**

**2.**

**Зборнік "Шляхам ветру" і асабліва "На рэштках храма" засведчылі, што паэтычны радок В. Шніпа пачаў мадэрнізавацца і, так бы мовіць, еўрапеізавацца. Заўважна, як мяняецца вонкавы выгляд верша, які адрозны ад традыцыйнага страфічнай структурай, стылявым ладам. Паэт прыбягае да ўмоўнай мастацкай формы выказвання, скарыстоўвае паэтыку алегорый і сімвалаў:**

*і не было мне Смутку*
*і не было мне Радасці*
*ад дазволу берагчы і любіць*
*усё забытае занядбанае*
*толькі чорны воран*
*сядзеў ля магілы забытай*

**("і толькі чорны воран...")**

**У сімволіка-алегарычным ключы паэт выказвае складанасць свайго адчування свету, засяроджваецца на ўнутранасвядомасным працэсе выяўлення. Эстэтыка рэальнасці, візуальна-зрокавае светаўспрыманне саступіла месца сімвалічнай вобразнасці, асацыятыўнасці, абстрактнасці мыслення, раскаванай і дынамічнай стылявой сістэме твора. В. Шніп стаў пісаць, кажучы ягонымі словамі, "без знакаў прыпынку". Словам, паэт упадабаў мадэрнісцкі суб'ектыўна-разняволены напрамак творчасці. Выбар гэты і ўсталяванне такой цікавасці адбываліся ў другой палове 80-х, калі беларускай**

*Каб прапраўнукам не забыць*
*Ўсё сваё.*

Так што, нават калі і згараць усе кнігі – у нас у памяці застанецца самае лепшае, і па памяці можна будзе зноў шмат што ўзнавіць. Кнігу ніколі не заменіць ні радыё, ні тэлевізар, ні камп'ютар, бо чытанне кніг – інтымная справа.

Наконт майго чытання з заплюшчанымі вачыма – то, як мне тады ж патлумачылі дасведчаныя людзі, я бачыў усё трэцім вокам, якое ёсць у кожнага чалавека, а яно ў мяне аказалася найбольш развітым, чым у астатніх супрацоўнікаў тагачаснай "Беларусі". Сам я, на шчасце, тое вока ўключаць не ўмею, таму зараз "фокусаў" не будзе.

Здаецца, Андрэй Вазнясенскі параўнаў сапраўдную паэзію з чыстай вадой з крана, якая з'яўляецца толькі тады, калі сцячэ ржавая. А каб сцякла ржавая вада, трэба, каб кран быў адкрыты, а па-простаму – трэба, каб таленавіты чалавек працаваў так, як мне раней пісалі літкансультанты з газет· "Працуйце над кожным радком, над кожным словам у сказе. Удасканальвайце свой талент. ." І я "працаваў" над вершамі, бо іншага занятку і працы з 1978 года па 1985 у мяне амаль не было. "Іржавай вады" з мяне на той час выцякла шмат, але, па-мойму, калі б не было *таго* Шніпа, не было б і *гэтага*. І сёння ўжо мне абрыдла чуць папрокі ў тым, што я пішу многа. Дай Бог, каб так многа, як я, пісалі нашы некаторыя і маладыя, і масцітыя. Відаць, з іх ніхто б не згадзіўся сёння пісаць столькі, колькі я, бо не было б у іх часопісных і газетных публікацый у 20–30 вершаў, з якіх вартыя нейкай увагі толькі два ці тры творы, а ўсе астатнія – стракатня.

Талент талентам, а без разумовага і духоўнага ўдасканалення ніякага творчага росту не было і не будзе. Многія ж нашы калегі, як 20 гадоў назад гналі "ржу", гэтак і цяпер яе гоняць, напаўняючы ёю цвёрдыя біклажкі чарговых томікаў Як ні дзіўна, а яны выдаваліся і выдаюцца ў любыя часы, і сённяшняя выдавецкая сітуацыя для іх не вельмі вялікая перашкода, каб пусціць у людзі сваю работу І ніхто іх не спыніць, і самі яны ніколі не спыняцца, і ніхто з іх сам сабе не прызнаецца, што ўсё вымучанае імі, як кажа Сыс, "цалкам пралятае" Так што нават калі і працаваць як "тату Карлу", за пісьмовым сталом, можна не застацца ў нацыянальнай літаратуры. Літаратар ляціць на Парнас на двух крылах – на таленце і працы.

Талент, як і любое высокае мастацтва, можа быць толькі нацыянальным. І гаворачы пра любога сусветнавядомага літаратара, мы ніколі не забываемся, на якой зямлі ён нарадзіўся і якой ён нацыянальнасці. І калі б, напрыклад, Васіль Быкаў усе свае творы, напісаныя ім, напісаў на рускай мове, ён бы не стаў вялікім рускім пісьменнікам, як не стаў рускім Алесь Адамовіч.

На беларускай зямлі, нават у самыя неспрыяльныя часы для нашай мовы, нечага значнага дамагаліся і дамагаюцца толькі тыя творцы, якія пісалі і пішуць на мове карэннай (сваёй) нацыі. Зразумела, можна быць беларусам і нядрэнна пісаць па-руску, але, каб мець хоць нейкі поспех, трэбы жыць у Маскве і "варыцца ў расійскіх катлах". У свой час пэўнай славы дамогся, з'ехаўшы з Беларусі, Ігар Шклярэўскі. Але хто ён у рускай літаратуры сёння? А заўтра? Адным словам, толькі праз сваё нацыянальнае можна выйсці ў агульначалавечае, а іначай – пустое марнаванне таленту (калі ён ёсць) і паперы.

---

**паэзіі ў іншым святле адкрыліся абсягі і далягляды паэтычнага самавыяўлення. Вядома, еўрапейскія вершаваныя формы і сродкі пісьма больш арганічна засвоены тымі, хто выхоўваўся на традыцыях і сістэме мадэрнісцкага мастацтва (Я. Юхнавец, Н. Артымовіч і інш.). Калі ў нашай сучаснай паэзіі творчыя практыкаванні ў кірунку мастацкай умоўнасці і мадэрну бачацца наватарствам або чымсьці чужародным, то падобная вобразна-выяўленчая сістэма каардынат вызначае мастацкі статус і менталітэт заходняга паэтычнага мастацтва. Такія творы, як "У цемры", "Пыл", "Камень", "На раздарожжы" і іншыя, пераконваюць, што ў сваёй суб'ектыўнаўмоўнай выяўленчасці В. Шніп нетрафарэтны, дастаткова ўдумлівы, медытатыўны, дасягае шматзначнасці абагульненняў. Ірацыянальнае, пачуцьцёва-інтуітыўнае прыдае радку рухомасць, імпульсіўнасць, адчувальна паглыбляе магчымасці моўна-стылявой арганізацыі тэксту. Паэт хоча выказаць самае невыказнае, дае зразумець, наколькі складаны, таямнічы і зменлівы свет чалавечай душы, якая шукае адказу на духоўныя і маральныя пытанні, знаходзіцца ў руху да спазнання святла і цемры, жыцця і смерці, Бога і нашага грахоўнага існавання. У многіх вершах выяўляюцца ўнутраны драматызм, антыномія сэнсаў і паняццяў, канфліктнасць, сімвалічны метафарызм і міфалагізм вобразнага мыслення:**

*тады я сам уцёк з хаты*
*замкнуў гора падпаліў*
*і вось цяпер блукаю па свеце*
*і дзе ні жыву – я ўсюды госць*
*і што ні раблю – раблю для ўсіх*
*і ні для кога*
*і куды ні пагляджу – гарыць мая хата*
*гарыць мая хата*

**("ніколі да мяне ніхто не заходзіў...")**





**Л.Г.** Шкада, што не спрацавала "трэцяе" вока – была б якая-ніякая сенсацыя. Аднак, можа, гэта й добра, бо ёсць больш сур'ёзныя тэмы для гаворкі.

Віктар, *які*, на твой погляд, герой (станоўчы ці адмоўны) сучаснай беларускай літаратуры? Ці падобны *ён* да саміх творцаў, ці *творчы* герой нашай літаратуры ўвогуле?

І наўздагон: у чым палягаюць сёння літаратурныя праблемы – у літаратары (чалавеку), у чытачах (людзях), у іх непаразуменні, у ладзе жыцця, часе?..

**В.Ш.** Зусім нядаўна ў інтэрв'ю адзін з нашых класікаў прызнаўся: "Мая трагедыя як пісьменніка зараз у тым, што я не знаходжу станоўчага героя!" І гэта сапраўды трагедыя для пісьменніка, бо як нельга не бачыць нічога станоўчага ў людзях, якія адстойваюць наша адвечнае права на ўласную незалежную дзяржаву, якія, ахвяруючы ўласным дабрабытам і спакоем, змагаюцца за жыццё беларускай мовы?! А няўжо могуць быць адмоўнымі героямі твораў нашы бацькі?

Апошнім часам многія пісьменнікі (ці то стала модным, ці то фантазіі не хапае) у сваіх творах амаль цалкам спісваюць літаратурных герояў з сябе (герой станоўчы) і са сваіх знаёмых (часцей герой адмоўны). З'явілася шмат твораў пра тое, што пісьменнік бачыў і як жыў у сваім дзяцінстве, дзе вандраваў і што вытвараў там. Такія творы нагадваюць літаратуру застойных часоў Толькі ў тых творах наша саўковае жыццё апісвалася як райскае, а замежжа паказвалася як сметніца, у якую толькі смаркацца. Цяпер – усё наадварот Успаміны пра саўковае маленства – страшны сон, а падарожжы па замежжы – райскі сад. Тады падтрымліваўся і ўхваляўся сацрэалізм. А цяпер што? Той жа самы сацрэалізм, які ў наш час крыху муціраваўся. Але і тут кожны твор твору не роўня, бо ўсё залежыць ад таленту творцы.

Літаратурныя праблемы... "Мне б твае праблемы!" – так і чую ў сабе галасы сваіх знаёмых, якія засталіся ў вёсцы і корпаюцца там у зямлі; калі я пачынаю ім "бедаваць", што з 1993 года ў выдавецтве ляжыць рукапіс маёй кніжкі вершаў і невядома, колькі ён там будзе ляжаць мёртвым грузам, што кніжак амаль ніхто не купляе, што зусім знізіліся тыражы часопісаў і газет, і не толькі беларускіх.

Літаратурныя праблемы.. Яны сёння і ў самім літаратары (не знаходзіць станоўчага героя; не ведае, дзе знайсці грошы, каб выдаць кнігу або напіцца), і ў чытачах (адракаюцца ад беларушчыны; не маюць грошай, каб купіць кнігу), і ў самім ладзе жыцця, і ў часе (як-ніяк, а канчаецца тысячагоддзе)...

Праўда, літаратурныя праблемы ў кожнага літаратара свае. Адзін бядуе, што не можа выдаць да свайго юбілею кніжку, другі – што зусім не пішацца, трэці не можа, зашываючы сабе рот, зашыць яго так, каб гэта выглядала найэфектней і т.д. Але ёсць сярод нас і такія, у якіх асаблівых праблем няма ні ў жыцці, ні ў літаратуры. Адзін з такіх мне сказаў· "Зараз мой час! Вы ў свой час навыдаваліся колькі хацелі. Цяпер я буду выдавацца колькі хачу!" І выдае, колькі хоча, бо можа выпрасіць у спонсараў грошы на выданне сваіх опусаў Такому можна пазайздросціць, але, ведаючы, што ён піша, супакойваешся: "цалкам пралятае" І як бы мы сёння ні круціліся, ні варушыліся, а нашы праблемы застаюцца з намі, і нам ад іх нікуды не ўцячы. І каб ад гэтых праблем не адурэць, на іх трэба глядзець крыху "па-філасофску", як у тым анекдоце пра цвік у крэсле, на які сеў беларус і сказаў, падумаўшы: "А можа яно так і трэба. "

---

**І ўсё ж такі некаторыя структурныя, фармальна-стылявыя навацыі В. Шніпа застаюцца ўсяго эксперыментальнымі, успрымаюцца як спроба экстравагантнай тэхнікі пісьма. Яскравы прыклад – тэкст "БОГ...", якіператварыўся ў набор аднатыпнай лексікі, уяўляе нейкую своеасаблівую архітэктурнавершаваную мадэль ці проста рацыяналістычна зададзеную "штампавярховую" пабудову. У нечым падобны лексіка-сінтаксічны прыём скарыстаны і ў вершы "Могілкі". Вядома, і такія страфічныя выявы патрэбны паэзіі. Зрэшты, у ёй павінна быць усё: і эпатаж, і блазнаванне, і перфаманс, і шок, і эротыка... Добра, праўда, калі ўсяго ў патрэбнай меры, невялікіх дозах і без усялякай брыдоты, ваяўнічай навязлівасці. В. Шніп стараецца здзівіць, уразіць, запыніць увагу чытача формамі версіфікацыі – і гэта заслугоўвае ўхвалення. Але, мусібыць, паддаецца і не лепшай модзе, калі, напрыклад, піша: "Эўропа... Эўропа... Эўропа..." Не выключаю, што я памыляюся, але хочацца запярэчыць на гэты раз і В. Шніпу: мо не трэба гэтага эфектнага напісання "Эўропа"? Трэба ўлічваць сённяшнія часавыя рэаліі, моўную практыку, не паказваць сябе надта экзатычна. А то людзі шугаюцца, калі чытаюць-чуюць пра "клясы", "клясыкаў", "глёбус" ды "філёлягаў". Але тут ужо, відаць, справа моўнага густу і культуры творчасці самога паэта, і лепшы дарадчык яму ўласны слых і эстэтычнае чуццё.**

**3.**

**Дык хто ж ён, В. Шніп: традыцыяналіст ці наватар, рэаліст ці мадэрніст? Сёння паэт, як падаецца, знаходзіцца на шляху сінкрэтызацыі, універсалізацыі паэтычнага выяўлення. Ён, інакш кажучы,**

**Л.Г.** Ты тут распавёў пра тыя праблемы, што ляжаць на паверхні . Яны – зразумелыя.

Я ж, найперш, меў на ўвазе ўнутраныя (духоўныя) праблемы чалавека, да таго ж, літаратара. Вядома, што на такое пытанне адказаць шчыра – як распрануцца на людзях..

На мой погляд, – чалавек *у свеце бытуе*, а *жыве ў сабе.*

Дык хоць бы, вось, твае апошнія па часе нізкі вершаў... Але і тут мы, высока ўзляцеўшы, у рэшце рэшт заблытваемся ў біблейскім паднебным невадзе..

Найбольшы розгалас у чытацкай душы маюць, як ні дзіўна, тыя творы, дзе Творца *самаствараецца* "по образу и подобию" Ну, прыпомнім: дзяржавінскае "я раб, я червь, я царь", пушкінскае "и с отвращением читая жизнь мою... но строк печальных не смываю", ясенінскае "отчего прослыл я шарлатаном, отчего прослыл я скандалистом?", купалаўскае "я не паэта, о крый мяне божа!", багдановічава "ой, чаму я стаў паэтам ў нашай беднай старане", сысава "паэт сказаў· п'ем за Айчыну! І кожны выпіў· за сябе. "

Альбо тваё, ужо навязлае на зубах, "зжаўцелае сала", што цытавалася і цытуецца да месца і не.

Як злавіць жар-птушку Паэзіі?.. Ці паэзія – гэта нешта няўлоўнае, як чалавечая душа, – быццам бы і зняволена ў клетцы грудзей, а – не заўладаеш ёю... Дачакаецца цялеснага праху – і жывая, свабодная..

**В.Ш.** Сапраўды, творца *ў свеце бытуе*, а *жыве ў сабе...* І расказаць людзям пра тое, што ў душы, не кожны адважыцца. Аднак, падчас творчага працэсу лёгка страціць кантроль над сабою і даверыць паперы нават тое, у чым бы, відаць, не прызнаўся ў храме на споведзі. Наша творчасць – духоўная споведзь, калі не перад Богам і людзьмі, дык перад сабой. Маё ж непобытавае жыццё працякае неўсвядомлена. Я не магу растлумачыць (і не хачу), чаму гэты верш напісаў так, а не інакш. Я не ведаю, чаму яны напісаны "ад лірычнага героя з трагічнай свядомасцю" Сёння ж маё побытавае існаванне нібыта не дае значных падстаў быць самотным і адзінокім. Але ў вершах я часцей за ўсё самотны і адзінокі. Можа таму, што маё дзяцінства было не такім стандартным, як у большасці маіх аднагодкаў? Можа. Да сямі гадоў я гадаваўся ў цёткі з дзядзькам. Так ужо атрымалася, што маім родным бацькам давялося аддаць (не было сваёй хаты, а тут яшчэ і мая сястра нарадзілася) мяне, калі мне не было і года, сваім сваякам, якіх я называў мамай і татам. Я і сёння памятаю, як, седзячы на плоце, кожны дзень чакаў іх з працы. У той дзень яны затрымаліся, а я, убачыўшы суседзяў, запытаўся: "Ці хутка вернуцца мае мама і тата?" А ў адказ пачуў· "У цябе бацькоў няма. Гэта не твае бацькі..." Вярнуліся з працы дзядзька з цёткай, і я да іх з плачам: "Чаму ў мяне няма бацькоў?" Яны мне ўсё расказалі, растлумачылі. Але ці паверыў я ім? Так што ў душы маёй хапае і суму, і болю.

Як злавіць жар-птушку Паэзіі я не ведаю, але калі даведаюся, нікому не раскажу, а буду гэтых птушак лавіць, лавіць і лавіць – пакуль усіх не пералаўлю. Жартую. І калі шчыра, то я і не думаю (ва ўсякім разе, за пісьмовым сталом) пра тое, што такое Паэзія, як і не думаю пра тое, што такое паветра, а проста ім дыхаю і ўсё тут. Я ведаю, што Паэзія ёсць, і мне гэтага дастаткова. І я не магу казаць, што Паэзія – наша духоўная сутнасць, божы голас, боль, споведзь і т.д. Для мяне ўсё гэта гучыць банальна, шаблонна. Аднак я згодны з тваім паэтычным вызначэннем Паэзіі. Прапаную сваё: "Паэзія – гэта пыл на кніжных паліцах, якім не кожны можа дыхаць.. "

---

**імкнецца ў сваёй творчасці інтэграваць і паяднаць традыцыйна-нацыянальны тып мыслення і вопыт еўрапейскай вершатворчасці, яе сістэму мастацкіх формаў і сродкаў версіфікацыі. Гэты шлях, думаецца, перспектыўны і шматабяцальны не толькі для В. Шніпа, але і для ўсёй беларускай паэзіі. Структура нязвычных кампазіцыйных і стылявых форм напаўняецца жывым зместам, духам нацыянальнага мастацкага слова. Прыклад таму – вершы "Плот", "Калодзеж", "Гаршчок" і інш. Чытаючы гэтыя тэксты, міжволі згадваецца і творчы вопыт А. Разанава, яго вершаказы і версэты. Значыць, можна азначыць прыкметную і важную тэндэнцыю: паэтыка і элементы нетрадыцыйнага, мадэрнісцкага пісьма сталі з'явай эстэтычнага перастварэння, моўна-стылявой трансфармацыі на глебе сучаснай вершатворчасці, і нельга недаацэньваць гэтага пазітыўнага і каштоўнаснага моманту ў развіцці мастацкай палітры беларускай паэзіі на памежжы XX і XXI стагоддзяў. Яшчэ, вядома, будзе працягвацца далейшы сінтэз традыцыйнай паэтыкі слова і еўрапейскага мадэрну, магчыма, выкрышталізуецца пэўная эстэтыка-філасофская парадыгма сучаснага паэтычнага мастацтва, з'явяцца новыя перспектывы рэалізацыі і развіцця вершаванай форматворчасці, жанравых і стылявых структур мастацкага тэксту. Для мяне відавочна тое, што сёння выяўленчыя патэнцыі вершаванага слова істотна абнаўляюцца і пашыраюцца, і ёсць у гэтым пэўная заслуга такога цікавага і неардынарнага паэта, як В. Шніп.**

**Алесь БЕЛЬСКІ**





**Л.Г.** Дзякаваць Богу, мая жонка яго штотыдзень выцірае.. Хоць, вядома, я зразумеў тваю метафару і твой пасыл.

Таму тут якраз і *вызваляецца* месца для *кан'юнктуры.* . Давай зачэпім і яе ў нашай размове.

Пачну з таго, што я табе і па сёння – па вялікім рахунку – вінаваты 25 савецкіх рублёў, якія ты, як верны сябра, даслаў мне калісьці на вёску для апахмелкі... На тваім вяселлі я іх паклаў на каравай і нават пра тое сказаў публіцы.. ужо цвярозы і "завязаны"...

Скажам так – гэта бытавая кан'юнктура. . Хоць дастаткова ў мяне даўгоў і маральных і літаратурных, зрэшты, гэта адно і тое ж...

Ці адчуваеш ты сваю кан'юнктурнасць? У жыцці-побыце і літаратуры? Дарэчы, калі ёсць літаратурная кан'юнктура, то ці магчыма кан'юнктура творчая (мастацкая)? .

У чым праяўляецца кан'юнктурнасць сучаснай беларускай літаратуры ўвогуле? І ці магчымыя ў кан'юнктуры плён і здабыткі?

Пытанне для нашага часу, бадай, амаральнае, але "пераступім" і гэта. .

**В.Ш.** А між іншым, ты прасіў у мяне 100 рублёў. Я ж мог выслаць толькі 25, бо на той час болей не меў быў валацугам. Хоць і жыў у Мінску на кватэры, але, так ужо атрымалася, жыў да сваёй жаніцьбы без прапіскі, без вайсковага ўліку (у Маскве, калі пайшоў у ваенкамат, у мяне запыталіся· "Где ты столько лет скрывался от советской власти?"), без працы і, зразумела, амаль без грошай. Працоўную кніжку мне выпісалі ў аддзеле кадраў Мінскага лікёрагарэлачнага завода "Крышталь", дзе я з 1978 па 1985 год прапрацаваў крыху больш за год. Хаця што ўспамінаць! Што было – тое было. Ды ўсё ж я добра памятаю тую няёмкасць, якую адчуў, калі выконваў тваю просьбу ўсяго толькі на 25%. Я баяўся таго, што ты палічыш мяне за скнару, які шкадуе сябру нейкіх 100 рублёў, а сам, працуючы (як лічылася) на будоўлі, складае грошы ў шкарпэткі. Я ж быў тады такім будаўніком, як ты лётчыкам. А даўгі і ў мяне ёсць і маральныя, і літаратурныя.

У чым я кан'юнктуршчык? Напачатку прызнаюся, што гэтае слова ўвайшло ў мае мазгі толькі тады, калі вучыўся ў Маскве на ВЛК. Але і да гэтага я быў там-сям кан'юнктуршчыкам, праўда, несвядомым Напісаў жа ў свае 20 гадоў верш "Партызан у палоне", які пасля друкаваўся ва ўсіх зборніках, прысвечаных партыі, вайне і г.д. Але гэтага верша ў мяне магло і не быць, калі б Анатоль Вялюгін (супраць яго нічога не маю) не пастараўся зрабіць з маіх нягеглых радкоў пра партызана "шэдэўр" і не надрукаваў яго ў "Полымі" За таго "партызана" мяне доўгі час дзяўблі. Могуць і цяпер дзеўбануць.

Мной напісана шмат тэкстаў для рок-гуртоў Песня "Панарама-30" нават трапіла на пласцінку Гэта ўсё кан'юнктура.

Пісаў шмат для бардаў (па іх просьбе), якія спявалі на мітынгах. Таксама кан'юнктура.

А мае эстрадныя песні – гэта ўвогуле кан'юнктура. Праўда, у эстраду без кан'юнктуры і не трапіш. Тут як нідзе глядзяць на тое, што будзе купляцца, а што не.

А колькі я напісаў кан'юнктурных вершаў у абарону беларускай мовы, пра славутых людзей нашай гісторыі! Але мне не сорамна за гэтую кан'юнктуру, бо кан'юнктура, як і надвор'е на вуліцы, бывае розная. А голых, калі можна так сказаць, кан'юнктуршчыкаў у нас хапае. Голая кан'юнктура – калі раней усхвалялі ўзахлёб савецкі лад, а зараз – калі пішуць творы кшталту

---

# ПРА МЯНЕ І ПРА ШНІПА

**Гэта ў пэўным сэнсе падобна да анатамічкі: белая прастора цела і скальпель, якім кожны можа ўскрыць, дзе ён хоча, і паказаць, што ён хоча.**

**Спачатку я хацеў пісаць пра вершы, але потым адумаўся і перапыніў сябе. Якім чынам пра іх пісаць: падлічваць колькасць жаноцкіх і мужчынскіх рыфмаў, вызначаць ролю дзеяслова, падкрэсліваць сумніўную свежасць метафараў, альбо вышукваць паралелі і называць іх запазычваннямі, ці запазычванні называць паралелямі? Але няхай ямб з анапестам даруюць мне, не атрымоўваецца з мяне тэарэтык.**

**А потым я хацеў пісаць пра Чалавека, з вялікай літары, пра Творцу, але што я ведаю пра чужое жыццё, пра той чыгунок, дзе кіпяць і плавяцца пачуцці, думкі, перажыванні, што ведаю я пра той працэс, дзе шліфуюцца словы, дзе падганяюцца рыфмы. Быць на чужой кухні – гэта не самае прыемнае і не самае прыстойнае.**

**І я вырашыў, што не буду пісаць ні пра творцу, ні пра чалавека, тым больш, што я вызначыў за Шніпам адну якасць, якую вызначыў за сабою, і зараз маю падазрэнне, што мы стаім на парозе метамарфозы: паэт ператво-**

"Убей. .". Аднак і такія "шэдэўры" могуць застацца ў гісторыі літаратуры, але не як прыклады высокай Паэзіі.

Для мяне на сённяшні дзень "тэвээлаўцы" і "бумбамлітаўцы" – кан'юнктуршчыкі. Аднак гэтым азначэннем я не спрабую ні ў якім разе абразіць іх творчыя "выбрыкі", бо цалкам разумею іх жаданне праславіцца. Славы не можа хацець толькі мёртвы пісьменнік.

Анатоль Сыс – яркі (аж занадта) прадстаўнік бытавой кан'юнктуры – калі сам нічога ўжо не можа (не хоча?), дык крычыць усім, што яны нічога не могуць. Ты напішы верш і пачытай нам, а не крычы, як рэзаны, што ты геній *(гений ненаписанных стихотворений?)*. Мы ўсе крычаць можам. Але, як бы там ні было, Сыс заняў сваю нішу, хаця і не вельмі прыстойную. Ён, відаць, і сам разумее, што стаў пераігрываць. І чым далей ён будзе так іграць, тым усё ніжэй будзе апускацца (як чалавек) і аддаляцца ад той паэтычнай вышыні (гэта ўсіх нас тычыцца), куды хацеў узляцець з дапамогай сваіх фокусаў Сыс цвёрда дамогся таго, што пра яго гавораць. Вось і я яго скланяю. Кан'юнктура! Але пройдзе час, і будзе ўсё, як у песні: "Разговоры стихнут скоро, а..." А што застанецца? Увогуле сярод нашага брата фокуснікаў розных хапае. Кан'юнктура! Канкурэнцыя!

Вітаўт Чаропка, пішучы гістарычныя кнігі, таксама кан'юнктуршчык. Але такіх кан'юнктуршчыкаў, як ён, дай нам Божа хаця б з дзесятак. Словам, кан'юнктура – гэта рухавік прагрэсу ў літаратуры. І мы ўсе, хто на колькі здатны, павінны быць (у добрым сэнсе) кан'юнктуршчыкамі, але ніколі не забывацца, што толькі тое застанецца пасля нас, што будзе сапраўдным. Таму, пішучы кан'юнктурныя творы (а яны могуць быць кан'юнктурнымі не толькі па змесце, але і па форме), давайце будзем укладаць у іх свой талент (душу, прапушчаную праз мазгі), і ад кан'юнктурных твораў будзе не толькі часовая карысць.

**Л.Г.** Ты занадта педантычны ў сваіх адказах. Цябе цяжка *вывесці* на вольную тэму. Я даўно заўважыў, чытаючы твае вершы, што ў тых, дзе Шніп сцвярджае, што ён Віця, праяўляецца *Жыццё*, а ў тых, дзе Віця Шніп *забываецца*, – праяўляецца *Мастацтва*...

Сваім талентам мы "подотчетные" толькі Богу...

Наколькі цябе трывожыць адказнасць за грахоўнасць свайго таленту?

**В.Ш.** Відаць, такі я і ёсць, калі ты гаворыш, што я занадта педантычны. А пра грахоўнасць свайго таленту не думаў, не думаю (думаю пра свае паводзіны ў сям'і, на працы, з сябрамі) і пакуль што сур'ёзна не збіраюся думаць (душа кантралюе) – не да гэтага. Прыйдзе час адказваць за грахі – буду адказваць і, калі за вершы траплю ў пекла (добра было б у рай, але...), дык значыць – гэтага варты. Для мяне Паэзія – вандроўка ў *мой* свет, у якім я магу вольна дыхаць, не думаючы (стараюся не думаць), што будзе заўтра ў гэтым свеце. І ўсё гэта (наша творчасць, праца, гэта гутарка...) – "суета сует и томление духа под солнцем". . *Сумна..*

**Л.Г.** Калі ты не супраць, то на *суме жыцця* і скончым. Дарэшты нішто не развейваецца. Дзякуй за гутарку

*9.X. 97 г.*

---

**рыцца ў празаіка. Калі гэта адбудзецца, я зусім не здзіўлюся, бо Шніп увесь час праяўляе рэдкую па нашых часах здольнасць не пераўтварацца ў *мэтра*, а гэта значыць, што працэс росту ў яго яшчэ не спыніўся. І значыць, што ў яго яшчэ ёсць шанец лётаць. Чаму я раптам вырашыў, што Шніп будзе празаікам? Ці не таму, што я сам пачаў гэта рабіць? Можа быць. Бо значнаю часткаю таго, што мы здагадваемся пра іншых, мы абавязаны вывучэнню свайго ўласнага "я". Так і чужое дапамагае нам больш трапна і зручна вызначыць сябе адпаведна бягучаму моманту.**

**Калісьці першы чалавек хадзіў па садзе і меў толькі адзіны клопат і функцыю: называць. Ён даваў імёны раслінам і звярам, птушкам, небу, ветру, аблокам і ў рэшце рэшт дабраўся да вызначэння граха. Чалавек ішоў па садзе, і дрэва за дрэвам атрымоўвалі свае імёны, і вось яно – тое з плёнам пазнання. У спазнання і спасціжэння свой горкасалодкі плён. Мы ідзем, каб бачыць і называць убачанае, працягваючы Адамаву функцыю. Нас мала, і гэта хранічна. І саду ўжо даўно няма. Застаецца маленькі чалавек, які яшчэ больш мізарнее сярод створэнняў і здзяйсненняў сваіх рук і думак. Як шмат вакол нас рэчаў! Іх усіх трэба назваць, вызначыць іхнюю сутнасць, апісаць іхнюю знешнасць і паказаць на прызначэнне. І гэтым зрабіць іх больш рэальнымі ад самое рэальнасці. І тут табе будзе яма, бо ты вучышся думаць. Хочаш зрывай з дрэва плён, як Адам, а хочаш вешайся, як Юда, хаця ўсе, каму ты здрадзіў, даўно**





*СНЕГ*

**1**
**снег гэта святло**
**якое падаючы з вышыні**
**памерла ад страху**

**2**
**снег гэта квецень садоў**
**якія цвітуць у пекле**

**3**
**толькі ведае снег**
**чаму ён снег**

*КАСА́*

**каса большую частку свайго існавання**
**вісіць у застрэшшы**
**нібы павешаная за ўсе свае справы**
**але пра яе не забываюцца**
**бо каса гэта рабро**
**з якога ствараюць сенакос**
**і б'юць касу малатком**
**і лашчаць яе бруском**
**і звініць каса ўспамінаючы**
**што яна зброя касінераў**
**што яна сталёвая коска са сказа**
***памілаваць нельга пакараць***
**каса гэта ўсмешка Смерці**
**і я кажу сваім дзецям**
**глядзіце не чапайце касу**
**і вісіць каса ў застрэшшы**
**але да пары да часу**
**да пары да часу**

***

**Гартаю пажаўцелыя выданні,**
**Самотныя, як вершы аб каханні,**
**Якое адышло, як дзень вясновы...**
**Чытаю вершы, як цалую словы,**
**Каб словы ажылі і ў свет ляцелі...**
**Гартаю дні, якія адшумелі,**
**Як восеньская мёртвая лістота,**
**Якой і мёртвай шчэ пажыць ахвота.**

***

**У чорным куфлі чорнае віно,**
**Нібыта ноч, якой чакаў даўно,**
**Нібыта цень, які слугуе нам,**
**Нібыта кроў, якой пазбыўся хам.**
**У чорным куфлі чорнае жыццё,**
**На чорных дрэвах чорнае лісцё,**
**І чорны вецер гоніць чорны пыл,**
**І, быццам німб, чарнее небасхіл...**
**У чорным куфлі чорнае віно.**
**Якое спакушальнае яно,**
**Бо ў белым куфлі ўжо віна няма,**
**А на двары цямнеча і зіма.**

***

**Холадна. Змрочна. Дажджліва...**
**Гэта не восень, а – лета.**
**П'ю зледзянелае піва**
**З шумам начнога буфета.**

**З'ехаць адсюль бы, прапасці,**
**Тыдняў ну хоць бы на пару!**
**З'ехаць адсюль – мо і шчасце,**
**Ды ці пра гэта я мару...**

**Зноў за вакном на пероне**
**Вецер ганяе лістоту.**

---

**табе даравалі, акрамя цябе самога, і той яблык, што ты сарваў, горкі толькі для цябе самога.**

**Жыццё працягваецца, у тым сэнсе, што яно яшчэ не скончылася, у тым сэнсе, што акаляючы свет поўны людзьмі і рэчамі: едуць машыны, стаяць дамы, плачуць і спяваюць людзі, а сярод іх ходзіць неўпрыкмет і стараецца быць яшчэ менш прыкметным Шніп. І я не магу ўстрымацца ад метафары.**

**МЕТАФАРА:**

**Ён нічога не ведаў пра заданне. Яно было закладзена ў яго яшчэ да нараджэння. Гэта вырашылі Там, Яны, Наверсе. І калі ён прыйшоў у Горад, яго там ніхто не ведаў, яго там ніхто не чакаў. Ён думаў, што ён адзін, але пра яго не забывалі Тыя Там Наверсе. А людзі яму дапамагалі амаль заўсёды, і людзі думалі, што яны робяць гэта шчыра і нават не за ласку. Але людзі не ведалі, што так захацелі Тыя Там Наверсе. А ён туляўся сярод дамоў, якія яшчэ зусім нядаўна намерваўся будаваць, і аднойчы, а можа паступова, адчуў, хто ён і дзеля чаго ён. "Тут – усё чужое", – думаў ён. "Тут – усе чужыя", – думаў ён. Як цяжка быць чужаком, у кожны момант цябе могуць *засвяціць*. А яшчэ Тыя Там Наверсе пастаянна патрабуюць справаздачы пра тое, што ты ўбачыў, што ты адчуў. А раптам тут западозраць, што Шніп – гэта тое самае, што і Шпег. Як тады? Куды тады? – можа быць, у тое мінулае, калі ты нічога не ведаў пра заданне.**

**Сяргей ВЕРАЦІЛА**

Вецер хай хмары разгоне,
Хай з мяне вырве самоту!

Холадна Змрочна. Дажджліва...
Вось і канчаецца лета.
П'ю зледзянелае піва,
Быццам свінец з пісталета.

## *НЕХТА*

на вуліцы вецер
зрывае з дрэў цені
смяецца і плача
і выюць сабакі ў дварах
і тухнуць свечкі ля абразоў
і неба чарнее
і бацька гледзячы ў вакно кажа
Нехта павесіўся
мне хочацца запытацца хто
але я маўчу
бо на вуліцы вецер
зрывае з дрэў цені
і выюць сабакі ў дварах
і тухнуць свечкі ля абразоў
і неба чарнее
і я ўжо бачу
як на высокай асіне
вісіць Нехта
і мне не шкада яго

* * *

"Люблю мінчанак маладых,
Ад іхніх ног займае дых..." –
Гаворыць сябра і ўздыхае
І поўны келіх выпівае.
І сёння бар яму, як рай.
Музыка, грай! Музыка, грай!
І не глядзі, што мы п'яныя,
Галоўнае, што мы жывыя
І разумеем прыгажосць.
А ў прыгажосці – д'ябал ёсць.
– О як бы іх я распранаў!
О як бы іх я цалаваў! –
Гаворыць сябра, вар'яцее
І многа п'е, а піць – не ўмее,
Але ўсё ж помніць пра дзяўчат.
На іх кідаючы пагляд,
Зноў поўны келіх налівае.
Душа жыве, душа спявае:
– Люблю мінчанак маладых,
Ад іхніх ног займае дых. .

## *МОЖНА ПАМЕРЦІ*

I
Можна памерці ў любую хвіліну
Проста па п'янцы, а не за Айчыну...
Можна памерці...
Ды хочацца жыць,
Як пасля п'янкі расолу папіць.
Хочацца выйсці з сябе, як з кватэры
І заблудзіцца на вуліцах шэрых,
Дзе ўжо ніхто і даўно не жыве,
Дзе на асфальце трава,
як агонь на траве...
Можна памерці...
Як пыл з вакна сцерці,
Можна памерці... Ды хочацца жыць,
Цень мой за мной, як Іуда, бяжыць...
Хочацца жыць... Але можна памерці,
Быць у труне, нібы ліст у канверце...
Можна памерці...
Можна памерці...

II
Напішу вар'яцкіх вершаў – і памру,
А пакуль што моўчкі каву завару
Чорную, як вечар за маім вакном,
Горкую, як думкі перад вечным сном.
Тэлефон зазвоніць – разаб'ецца ціш,
А ў разбітай цішы ты, як лёд, ляжыш.
Холадна ў кватэры і няма святла,
І згарэлі свечкі, як і дзень, да тла...
Напішу вар'яцкіх вершаў – і памру...

## *КАЗКА ПРА ВАЎКА*

Вецер у полі агонь раздзімае,
Попел да неба, як слуп, уздымае,
І ўжо, здаецца, на слупе на тым
Неба стаіць, як на вогнішчы дым.
Воўк ля агню пасівелы сядзіць,
Быццам бы ідал, на поле глядзіць.
Воўк адзінокі сем дзён не засне,
Будзе маўчаць у чаканні мяне.
Толькі мне ў поле цяпер не хадзіць –
Попелу слуп там да неба стаіць.
Выйдзе з хаціны сп'янелы сусед,
Лаючы жонку і ўвесь гэты свет,
Пойдзе праз поле адзін да ваўка,
Не задрыжыць у суседа рука...
Воўк перад смерцю, як д'ябал, завые,
Ўспыхнуць у прыску вуглі залатыя...
Будуць у хатах суседзі сядзець
І на суседа праз шыбы глядзець.

# ЦЕНІ АД БЯРОЗАВАГА СВЯТЛА

***

Мала каму не хочацца быць калі не самым разумным, дык хоць ростам вышэй за сваіх знаёмых, бо ўсе астатнія – гэта толькі фон, на якім ідзе бяздарны спектакль пад даўно зацяганай назвай "Жыццё". У гэтым спектаклі мне выпала роля Паэта. І я не вышэй за сваіх знаёмых і, здаецца, разумны, як і яны, але мне выпала роля Паэта...

***

Раней часта пісалі адзін аднаму лісты. Цяпер не пішам і нават не тэлефануем, нібы мы памерлі, а нас няма каму пахаваць, і мы карыстаемся гэтым – жывём.

***

За вакном каркае варона. Відаць, акрамя мяне яе ніхто не чуе, бо даўно б гэтую надаеду нехта прагнаў. Няўжо ўсе такія лянівыя, ці я ўжо занадта нервовы?

***

Каля пяціпавярховіка дзеці залезлі на сліву. Ламаюць сукі, рвуць спелыя сінія слівы. Хочацца прагнаць іх, але праходжу міма моўчкі. Чужая сліва, чужыя дзеці, і я чужы.

***

Тыя, хто калісьці мяне папракаў, што я шмат пішу, на сённяшні дзень надрукавалі

# ШТРЫХІ ДА АСАЦЫЯТЫЎНАГА ПАРТРЭТА ВІКТАРА ШНІПА

Я добра памятаю першыя вершы Віктара Шніпа. Дакладней, не столькі самі вершы, колькі ўражанне ад іх. У мяне і зараз перад вачыма яго тоненькі школьны сшытак у клетачку, спісаны буйнымі паўкруглымі літарамі. Даверлівы, амаль дзіцячы, почырк. З тым сшытачкам Віктар неяк завітаў да мяне на Паркавую магістраль у самую шчаслівую пару маёй маладосці – я толькі што ажаніўся і пасля доўгіх блуканняў па пакутах атрымаў катушок на цокальным паверсе нашага інтэрната, а прасцей кажучы, у падвале. Няхай сабе і падвал, але затое свой пакойчык! Праўда, у ім не было ніводнага акенца і туды ніколі не зазірала сонца. Ды калі па шчырасці казаць, гэта не дужа прыгнятала – нам з Аленай было і так светла! Час для нас спыніўся, і мы зблыталі дзень з ноччу.

У гэтых "апартаментах" і адбылося маё першае знаёмства з творчасцю Віктара Шніпа. Мне, студэнту-філолагу, які на той час захапляўся паэзіяй сярэбранага веку, ягоныя вершы здаліся трохі шурпатымі, да канца не абгабляванымі (такая асацыяцыя, магчыма, узнікла таму, што Віця пасля архітэктурна-будаўнічага тэхнікума працаваў цесляром), але самае дзіўнае, што гэтая шурпатасць надавала вершам нейкі своеасаблівы шарм і выгадна вылучала на фоне тагачаснага гладкапісу. У шурпатых радках было тое няўлоўнае, што цяжка бывае выказаць словамі, але нельга не адчуць, тое самае ледзь-ледзь, што адразу адрознівае паэзію ад проста вершаў. У майго новага знаёмца было сваё адметнае светаўспрыманне, уласцівае толькі яму, Шніпу, і гэта больш важна, чым дасканалая версіфікацыя, нават калі яна высокае рамяство, якому пры жаданні і ахвоце не так ужо і складана навучыцца. І гэтую ахвоту я ў ім адчуў інтуітыўна, бо была яна па-сялянску ўпартая, валожынская...

Калі не памыляюся, некаторыя з тых вершаў, прачытаныя на Паркавай магістралі (цяпер праспект Машэрава), увайшлі ў першую кніжку паэта "Гронка святла", якую я люблю дагэтуль, як люблю першыя кніжкі Уладзіміра Марука, Леаніда Галубовіча, Міколы Мятліцкага, Леаніда Дранько-Майсюка, Людмілы Паўлікавай. І не толькі таму, што мы разам пачыналі, таварышавалі, вучыліся адзін у аднаго – працэс гэты быў падсвядомы, – але яшчэ і таму, што першая кніга – гэта заўсёды маленькае выбранае. Нездарма ж Уладзімір Маякоўскі ў сваім знакамітым артыкуле "Як рабіць вершы?" сцвярджаў, што "першая работа заўсёды больш светлая, таму што ў яе ўвайшлі загатоўкі ўсяго папярэдняга жыцця".

"Гронка святла" ўвабрала ў сябе ўвесь папярэдні жыццёвы і духоўны вопыт аўтара і стала сур'ёзнай заяўкай на будучае.

столькі сваіх рэфлексій, што часам думаецца: "А ці не пакралі яны ў мяне ўсё гэта?"

***

У паўтарагадовага сына тэмпература. Не спім. Апоўначы іду на кухню, каб прынесці яму лекі. Праз нейкую хвілю вяртаюся ў спальню, а Максімка босенькі бяжыць мне насустрач, трымаючы ў ручках мае пантофлі, нібы гаворачы: "Чаго ты, тата, босы ходзіш?" А я, часам, крыўджу яго.

***

Заходзіў у "Наша слова" пачынаючы паэт і ў размове са мной прызнаўся, што любіць мае вершы. Мне стала няёмка, нібыта я зрабіў нешта непрыстойнае. Хлопец пайшоў, і захацелася пачытаць свае творы: што ён там у іх знайшоў? Пачытаў. І сапраўды – нешта ёсць. Раптам чамусьці ўспомнілася і тое, што адзін знаёмы за пляшкай казаў мне, што не любіць маіх вершаў, бо я гультай – ужываю дзеяслоўныя рыфмы І сапраўды – дзеяслоўных хапае. Вершы абы-што.

***

Ніколі не бедаваў з таго, што не пішацца. Часам нічога не пісаў па два, па тры месяцы, а то і больш. Мо і добра, што не пішацца, бо ў гэтым жыцці і так хапае спраў, якія трэба рабіць з натхненнем. Спраў многа, а натхненне адно, так, як і жанчын многа, а жонка – адна. Знайшоў параўнанне.

***

Вось і зіма. Снегам засыпаны калюгі і смецце. Навокал светла і святочна. Але ці надоўга гэта? Праз якую гадзіну з дамоў павыходзяць людзі і растопчуць гэтую чысціню. Да вечара растане снег, а за ноч адновіцца прыгажосць, якую новым ранкам зноў растопчуць. Так вось і топчам тое, што нехта стварыць, лічачы толькі сваё вартым вечнасці. Ды дзе тая вечнасць?

***

Што за настрой? Усё, што ні напішу, здаецца лухтой. Якую ні вазьму кнігу – лухта. Можа выпіць сто грам? Выпіў. Чытаю. Ха! Усё цудоўна: і маё, і чужое. Як часам не хапае гэтых ста грамаў!

***

Гадоў шэсць як кінуў курыць. Пачка цыгарэт, на ўсялякі выпадак, ляжыць у мяне на кніжнай паліцы. Спакуса заўсёды перад вачыма, але не спакушаюся. Баюся скарацiць сабе жыццё? Баюся, што жонка пачне сварыцца? Ды не! Не курыць, калі можна і хочацца курыць, па-мойму, гэта яшчэ большая асалода і пакута, чым курыць. А я люблю вострыя пачуцці.

***

Люблю прыгожых спакуслівых дзяўчат Жончына шчасце, што я не высокага росту!

***

Чытаю дзённік Яна Скрыгана, напісаны ім у апошнія два гады жыцця. Чытаючы, бачу пісьменніка хворага, спакутаванага, але не абыякавага да свету, у якім ён жыў і памірае. Ён ведае, на што хворы, і ведае, што непазбежна памрэ. Хоча пісаць, але не пішацца. І, здаецца, ён больш пакутуе не ад хваробы, а ад таго, што не пішацца.

***

Тэлефанаваў адзін са стваральнікаў "новай літаратуры" Паўгадзіны даводзіў мне, што я няправільна зрабіў, калі ў адным агладзе маладой паэзіі прывёў яго імя разам з тымі, з якімі ён не хоча ўпамінацца. Я запытаўся: "Дык з кім цябе ставіць побач?" І ён адказаў. А што рабіць мне, калі сваё прозвішча я раптам прымрою побач з Багдановічам, Купалам, Коласам? Каму тэлефанаваць?

***

Даўно не аб'яўляўся сусед, каб пазычыць у мяне грошай на пляшку Раней думаў, як бы гэта не сустрэцца з ім, а цяпер – наадварот. Хаця грошай і цяпер я не вельмі б яму разагнаўся даць. Ды дзе ён? Ці жывы?

***

Мароз за трыццаць. Іду на працу, і думкі замярзаюць на хаду.

***

Зусім нядаўна хацеў заснуць. Узяў кнігу Чытаю і цяпер ужо думаю, як бы не заснуць, не дачытаўшы. Ну і натура! Але ж і кніга!

***

Цяпер не верыцца, што быў такі час, калі я зусім не ведаў, хто ў Беларусі старшыня Вярхоўнага Савета, а хто старшыня Савета Міністраў Ятады "хварэў" за "Дынама" (Мінск) і ведаў, як завуць кожнага футбаліста. Цяпер усё наадварот Праўда, часам і Вярхоўны Савет, і Савет Міністраў мне нагадваюць футбольную каманду, якая змагаецца за права застацца ў вышэйшай лізе чэмпіяната Савецкага Саюза.

***

Назіраю праз вакно, як ля суседняга пад'езда які ўжо дзень тры хлопцы па гадоў пятнаццаць круцяцца ля сваёй аднагодкі, якая жыве ў нашым доме. Адзін з іх, брынкаючы на гітары, спявае. Многім у двары гэтая кампанія абрыдла, і час ад часу з балконаў чуюцца вокрыкі. "Перастаньце раўці!" Вось і зноў пачулася: "Я зараз міліцыю выклічу! Сціхніце! Паскуды!" Моладзь ці то напалохалася, ці то проста вырашыла пайсці далей ад бяды, прыціхла, і дзяўчына, узяўшы ў рукі гітару, першай пайшла са двара. Хлопцы пашыбавалі следам І ўспомніліся радкі: "І ён увесь у пыле і калючках бяжыць за сучкай, нібы ідыёт" .. І мая душа паімкнулася за імі ўслед.

***

Прыехалі ў Дом творчасці пісьменнікі, якім ужо за 60. І адразу сярод адпачываючых, якія ніякіх адносін не маюць да беларускай культуры, пачулася: "Гэта пісьменнікі". Іх пазналі не таму, што іх творы з партрэтамі чыталіся, а таму, што пісьменнікаў людзі чакалі, і чакалі, каб іх пазнаць. І пазналі – па мове, па сівізне і па. А мы з Людай нікім не пазнаныя. Нас проста не чакалі.

***

У Дом творчасці мясцовы паштальён не ходзіць. Няма нагоды. Не выпісана ні часопісаў, ні газет. І лес вакол Дома – гэта не лес у трох кіламетрах ад Ракава, а сібірская тайга, і мы сюды сасланыя.

***

Люда ў бібліятэцы ўзяла пачытаць кнігу "Любовь в письмах выдающихся людей XVIII и XIX века" Які ўжо дзень з гэткай жа кнігай ходзіць каля Дома Алена Васілевіч. Ці то ў бібліятэцы акрамя гэтай кнігі няма нічога вартага, ці то. . Але гэта не супадзенне, бо ўсё было б так проста і зусім не цікава.

**Яна вылучалася лаканічным і дакладным радком, сінтэзам небанальнай думкі і светлага пачуцця, зайздросным уменнем шукаць і знаходзіць паэзію ў прозе жыцця. І, вядома ж, той своеасаблівай шурпацінкай, якую мы ўжо згадвалі на пачатку нашай гаворкі. Вось характэрны прыклад з таго, ужо даўняга, зборніка:**

*Іду з навостранай сякерай*
*У пажаўцелы шумны гай.*
*А раніца сарокай смелай:*
*"Галлё ля хаты пазбірай"*
*Услед глядзіць з узгорка вёска.*
*Рака ўздымае асаку.*
*Не замахнуся на бярозку*
*І нават кусцік не ссяку.*
*Іду, сціхаюць птушак спевы.*
*Туман за мной паплыў з ракі.*
*І бачна: восеньскія дрэвы*
*Сціскаюць лісце ў кулакі.*

**Я невыпадкова засяроджваю ўвагу на дэбюце паэта. Акурат у першай кнізе, нягледзячы на пэўныя хібы і ўплывы папярэднікаў, праступаюць абрысы будучых накірункаў творчасці і нават будучых кніг. "Гронка святла", як і наступныя кнігі ("Пошук радасці", "Шляхам ветру"), была вельмі рознапланавая. І гэта выяўлялася не толькі ў тэматыцы, але і ў інтанацыйна-рытмічным ладзе вершаў, што яскрава засведчыў апошні, у многім выніковы, зборнік "На рэштках храма". Кажу выніковы, бо апошнія публікацыі Віктара Шніпа даюць падставу гаварыць пра новы этап ягонай творчасці, этап пошукаў і эксперыментаў.**

**Скажу па шчырасці, што на самым пачатку яны мяне трохі насцярожылі, здаліся эпігонскімі практыкаваннямі пад Разанава. Праўда, калі адзін калега ў мяне спытаўся, ці не здаецца мне, што Шніп задужа выпендрываецца ў апошніх рэчах, я адказаў, што гэта ў яго ад сілы. Ды, зрэшты, гэта і заканамерна для паэта, які навучыўся пісаць – сумна ўвесь час іграць на адной і той жа ноце.**

**Даўно вядома, што ўсякі эксперымент першапачаткова выклікае скепсіс, усё новае раздражняе густ чытача, выхаванага на пэўных канонах. І тут любы мастак, які стаў на гэты шлях, моцна рызыкуе. Так, рызыкуе... Але, як сведчыць увесь вопыт гісторыі літаратуры, гэтая рызыка высакародная.**

**Ва ўсялякім разе, у творчасці Віктара Шніпа з'явіліся (а можа, праявіліся?) новыя рытмы, новыя матывы, новыя падыходы ў асэнсаванні рэчаіснасці. А яшчэ ў яго вельмі абвастрыліся мастакоўскія зрок і слых. У гэтым з прыемнасцю пераконваешся пры знаёмстве з ягоным "Асацыятыўным партрэтам" (Крыніца", № 11–12). Аўтар смела паставіў перад сабой даволі складаную задачу: на кожную літару алфавіта знайсці пэўную асацыяцыю, фанетычна блізкую і псіхалагічна дакладную. І, трэба сказаць, выканаў гэтую задачу бліскуча, пазбегнуўшы зададзенасці і нацяжак. Яму ўдалося арганічна паяднаць два пачаткі – рацыянальны і эмацыянальны. Возьмем хоць бы літару Ш, тым больш, што прозвішча нашага паэта таксама пачынаецца на Ш:**

*Ш шэпча пра шлях*
*Яно шапаціць у шыпшыне*
*Шукаючы шчасця*
*Яно шалапутнае*
*але яно шануе шчырых*
*Яно заўсёды там дзе шаша*
*Ш шыпучае як шампанскае*
*якое п'е шляхта*

**Ці вось яшчэ, на Я:**

*Я спакуснае як райскі яблык*
*Я імкнецца яднаць*
*але з яўным жаданнем*
*захаваць сваё я*
*Я гэта яно.*

Радок "захаваць сваё я" ў гэтым кантэксце мне здаецца далёка невыпадковым.

...Чытаючы адну з апошніх нізак Віктара Шніпа ў часопісе "Полымя" № 7 я зноў падзівіўся разнапланавасці ягоных твораў: у чалавека, які ўпершыню сустракаецца з паэзіяй Шніпа, можа скласціся ўражанне, што вершы належаць розным аўтарам – настолькі яны адрозныя па тэматыцы і па тэхніцы.

Міжволі ўзнікае думка, што вершы "Сонца сляпое на захад плыве", "і мы сабе прыдумаем краіну" ўзяты з ранейшых кніжак, а вершы "Кладка" і "Серп" – з новай, будучай. Добра гэта ці кепска? Думаецца, нармальна. Я ўжо казаў, што гэта ў яго ад усведамлення ўласнай сілы. Не будзем забываць, што па сваёй першай прафесіі Віктар Шніп архітэктар-будаўнік. І гэта вельмі істотна: ён любіць планаваць і будаваць свой верш. І пры гэтым будаўніцтве ў яго ёсць права на пошук, дадзенае яму талентам. І ёсць час, які працуе на талент.

... "Ш шэпча пра шлях".

Алесь ПІСЬМЯНКОЎ

# Пра Віктара ШНІПА

Паэт пры жыцці можа прайсці дзевяць кругоў пекла, як Дантэ. Можа паўжыцця пражыць у выгнанні і памерці на чужыне, як Авідзій. Паэты бываюць сляпымі і найвідушчымі адначасова, як Гамер, і бязногімі скараходамі па сусветах паэзіі, як Арсен Таркоўскі. Паэтаў хаваюць у храмах, як Адама Міцкевіча, ці закопваюць без развітальнага слова і магілы, як Восіпа Мандэльштама...

Але паэт адбываецца ў слове, і гэтым кампенсуюцца ўсе яго зямныя і пасмяротныя пакуты.

А таму найцяжэй быць паэтам нямеючага народа. Быць і сваёй прысутнасцю абвяргаць яго адпрыродную немату, сцвярджаць яго, Богам дадзены, голас.

Віктар Шніп – паэт народны. Не званнем, а – светаадчуваннем. Характарам сваім рахманым, маўклівасцю, непрыкметнасцю сваёй фізічнай асобы. І ў той жа час за чаркай – лепшага расказчыка пашукаць. Чым не беларускі нацыянальны тыпаж? Калісьці М. Стральцоў пісаў пра нацыянальную літаратуру і прыводзіў у якасці яскравага прыкладу купалаўскі радок "стагнаў яловы плот". Пэўна ж, на вялікай Беларусі можна сустрэць і паркан, і тын, і яловы плот. Але ж і папалазіў я праз гэтыя самыя яловыя платы ў Прыкарпацці! Для мяне больш нацыянальная акурат шніпаўская паганская вогнепаклонніцкая метафара:

*Вогнішча гадую, нас яно сагрэе...*

Агонь прасвятляе думкі чалавечыя, агонь і паэзію ачышчае ад слоўнай лішніцы. А вогнішчы, агеньчыкі гараць у шніпавых вершах часта, часцей мо толькі Храмы сустракаюцца. А ў Храм беларус звыкся толькі па святах наведвацца, нязвыкла яму ісці праз бясконцую вершаваную анфіладу цэркваў і касцёлаў – зруйнаваных, апляваных, забытых, прыгожых, з Богам і без бога.

Вядома, каб унікліва прачытаць усе вершы, якія друкуе сёння Шніп, трэба больш не чытаць нічога. Неяк у адной сяброўскай, а таму не заўсёды граматнай, эпіграме пісаў я і такое:

*Купала з Коласам прыйшлі б*
*І сталі у чаргу за Віцяй,*
*Што азначала б: Віктар Шніп*
*За нас абодвух пладавіцей.*

Паводле чытачоў сваіх, Шніп таксама народны. Адзін гарадзенскі бізнесмен з няпоўнай сярэдняй адукацыяй пазычыў у мяне ўсе Шніпавы зборнікі і настолькі ўразіўся, што пачаў пісаць сам. Першы яго верш быў пра Храм, пра наднёманскую Каложу... Згадаўшы бізнесмена (самародак, геній у сваёй справе!), я зусім не хачу сказаць, што элітарны чытач не знойдзе спажывы ў вершах Шніпа. Яшчэ як знойдзе – калі пашукае.

Лягчэй быць прыкметным паэтам, калі твой профіль прыродай высечаны ў скалах – і ўжо на адно гэта падзівавацца з'язджаюцца на пустэльны бераг Чорнага мора сябры і незычліўцы, паэты і непаэты. Цяжэй стварыць паэзію са звычайнага, да чаго ўсе звыклі. Як той касцёл у Ліпнішках на Лідчыне, выштукаваны ад падмуркаў да крыжоў з падабранага пад нагамі камення. Калі я чытаю вершы Віктара Шніпа, то ўспамінаю (Бог ты мой, і я не пазбегнуў!) гэты храм.

Міхась СКОБЛА

# ШЛЯХАМ ДАБРЫНІ І ШЧЫРАСЦІ

Паэзія Віктара Шніпа – паэзія бесперапыннага пошуку. Пошуку новых формаў самавыяўлення, новага зместу, новых сімвалаў – ад святла да змроку, ад Вечнага агню да Храма.

"Які час, такія і сімвалы", скажа нехта, але пры гэтым будзе мець рацыю толькі напалову. Зменлівы час, носьбіт розных грамадскіх зрухаў і жыццёвых катаклізмаў, творчыя магчымасці графаманаў ды літаратурных кар'ерыстаў





толькі звужае, абмяжоўвае пэўнымі рамкамі, за якія яны не могуць ды і не хочуць выходзіць. Магчымасці ж паэтаў таленавітых і вольных (хаця б адносна) пры гэтым толькі пашыраюцца, узбагачаюцца.

Зрэшты, знаходзячыся ўвесь час у пошуку, Віктар Шніп тым не менш не адмаўляе сябе ранейшага. Таму яго паэзія – ад першай кнігі да апошніх вершаў у перыёдыцы – вельмі пазнавальная. Усё той жа крыху запаволены рытм, усё тая ж апавядальная інтанацыя, усё тое ж вобразнае мысленне, якое гэтую самую апавядальную манеру пісьма робіць з'явай паэзіі:

*і стаіць хата сярод поля*
*і ў яе на страсе комін*
*як купіна на балоце*
*у якім жывуць чэрці*
*і залятаюць у комін вятры*
*і наглытаўшыся дыму*
*завываючы ўцякаюць прэч*
*комін гэта калодзеж*
*на дне якога ляжыць золата агню*
*калодзеж з якога зоркі чэрпаюць цяпло*

У апошнія гады яго паэзія стала ўмерана традыцыйнай і ўмерана наватарскай, што, магчыма, і дазваляе паэту быць "сваім" і ў "залежных" выданнях. Яна стала менш сацыяльнай і больш філасофскай, у ёй робіцца менш высноў і з'явілася больш роздуму і сумненняў, мітынговы запал паступова саступіў месца пакутлівай адзіноце душы.

Цікава, што гэта можна заўважыць нават па назвах яго "праграмных" кніжак: "Гронка святла" – "Пошук радасці" – "Шляхам ветру".

У першым зборніку Віктара Шніпа, сапраўды, было шмат святла, юначага захаплення жыццём і светам, аднак паступова прыйшло й расчараванне, а шлях да радасці аказаўся прывідным і бясконцым:

*Па чорнай дарозе*
*праз чорную ноч*
*Ішоў ён дахаты, успомніўшы маці.*
*І ноч*
*са слязамі*
*каціласа*
*з воч.*

Самоту нажыў ён, а радасць растраціў.

На змену святлу знешняму прыйшло святло ўнутранае – святло дабрыні і шчырасці.

Алесь БАДАК

# "PRO" І "CONTRA" НЕ-МОДНАЙ ПАЭЗІІ

Калі літаратура і пампрэ (следам за "аўтарам", "суб'ектам", "чытачом" ды іншымі), то, верагодна, ад недахопу паветра: натуральным чынам яна задыхнецца ў тлуме метафар, сімвалаў, архетыпаў, міфалагем і т.п. Магчыма, натоўп тропаў кагосьці прыводзіць у захапленне; мяне – палохае. Пакуль толькі прадчуваецца ступень яго ненажэрнасці і ўсёеднасці. Здаецца, мы добраахвотна становімся ценем ценю чыйгосьці Ценю, з радасцю ідэнтыфікуючы сябе з метафарычным выражэннем архетыпічнага зместу якой-небудзь сёння актуальнай міфалагемы...

Згаданыя сімптомы ў паэзіі Віктара Шніпа адсутнічаюць. Гэты літаратар цікавы сваёй *не-моднасцю:* як бы неадпаведнасцю канонам "класіціпост". Напрыклад, ці не самы вызначальны крытэрый сённяшняй метафары – яе алюзійнасць – В. Шніпам шчыра ігнаруецца: метафары ў ягоных вершах не гастралююць – яны там *растуць* ("Гаркавым дымам над зямлёй// Паціху коціцца наш час"; "У травы ўрастае туманамі вечар"; "Ад страху пятлёй завілася дарога"; "Вецер, што пасвіць па восеньскіх травах дажджы"). Такім жа не-модным выглядае і шніпаўскі маралізм – не іранічны ("гарадскі"), а скрушана-настальгічны ("вясковы"):

*Я не сучасны, бо –*
*мараліст,*
*Думаць прывык:*
*"А што скажа радня?"*

("***Бедныя дзеці багатых бацькоў...")

*Я цяпер гарадскі, я мадняк і чысцюля,*
*Як суседка ў царкву, у тэатры хаджу.*
*Хоць змачыць на дажджы*
*не баюся кашулю,*
*Як заразы – мне страх*
*гарадскога дажджу.*

("***Апусціліся нізка густыя аблокі...")

Паэтава не-моднасць (пры бясспрэчнай адметнасці) утварае значныя цяжкасці ў працэсе ягонай ідэнтыфікацыі/класіфікацыі – аднясення да той ці іншай плыні/групы/тусоўкі. Так, цяжка гаварыць пра "вясковасць"/"урбаністычнасць" паэзіі В. Шніпа, бо зручная апазіцыя гэтых характарыстык не апісвае адэкватна ўсю складанасць адаптацыі да чужога хранатопу таго лірычнага героя, які заснуў на сене, а прачнуўся на асфальце.

Мне вершы В. Шніпа тым і сімпатычныя, што ў іх *адначасова* прысутнічаюць "рэчы", якія звычайна ўжываць разам не прынята: да прыкладу, гарадская самотнасць – вясковы маралізм[1], "ясная" метафара – і сімвал, дзе адчуваецца архітэпічнае ўздзеянне як старажытнакітайскай культуры (верагодна, не ўсвядомленае аўтарам – верш "Дрэвы" са зборніка "Шляхам ветру"), так і біблейскай традыцыі (вершы "Кніга", "Партрэт" са зборніка "На рэштках храма").

Словам, гарадскі вясковы паэт В. Шніп трывожыць сваёй несугучнай часу "нічыйнасцю", якую ён да таго ж чамусьці не падкрэслівае. Наўмысная немоднасць – адзін з прыёмаў адаптацыі ў эпосе, старасвецкая разнавіднасць эпатажу – гэтаму літаратару, верагодна, невядомая. Не здагадваецца ён і пра тое, што сёння каціруецца самотнасць ці эстэцкая, ці агрэсіўна-саркастычная, ці (у крайнім выпадку) рэанімаваная дэкадэнцкая, ці (ужо ў *самым* крайнім выпадку) мадэрнізаваная байранічная[2]. Калі пералічаныя гатункі самотнасці з'яўляюцца выражанымі пры дапамозе сродкаў паэтыкі сімптомамі пазёрства, мізантропіі, іпахондрыі, спліну (прынамсі, у асвятленні тутэйшага неафрэйдыста), то Шніпава самотнасць (па аўтарскім вызначэнні – атрутная) ёсць пафас: паводле "Паэтычнага слоўніка" В. Рагойшы, "галоўная думка, *страсць* (вылучана мною. – *І.Ш.*), якой натхняецца паэт і якая вызначае характар яго ідэйна-мастацкіх пошукаў".

На мой погляд, менавіта спецыфічнасць пафасу (самоты) паэзіі В. Шніпа вызначае спецыфіку ствараемай ім лакальнай (індывідуальнай літаратурнай прасторы: ад кальцавой кампазіцыі вершаў ("Ціхае мястэчка", "***Паэта губіць геніяльнасць...", "Нудота", "***Па горадзе ходзяць салдаты..." ды інш.) да своеасаблівасці грамадзянскай лірыкі, што вырастае з архетыпу Балота ("Мая Айчына – ты маё Балота,// З якога б уцякаць – ды неахвота..."; "З балотнай ды роднай самотнай краіны// Паехаць да мора і там – патануць...").

Самотная страсць вылучае В. Шніпа з плеяды "злосных" тутэйшых васьмідзесятнікаў, пераважная большасць якіх даволі хутка прыйшла да той жа высновы, што і "белы крамлёўскі індзеец" – персанаж аднаго з вершаў рускага метарэаліста Юрыя Арабава: "И вдруг к индейцу приходит мысль,// что все индейцы кругом – скоты" ("Знамя", 1997, № 7). Дык вось, не-моднасць грамадзянскай (адраджэнскай?) паэзіі В. Шніпа звязана з адсутнасцю ў ёй рознага кшталту пракурорскіх інтанацый у адносінах да несвядома-разяватага "народа" ды істэрычных сіпаў у адносінах да свядома-свалачной улады. Адчуваецца ў падобных вершах пэўны фаталізм, наканаванасць – але вее ад іх не безвыходнасцю кола самсары, не абыякавасцю закона кармы, а ўсведамленнем самотнасці сённяшняга быцця ў беларускім Доме-Храме:

*Ты ў гэтым доме адзінокі,*
*Ты ў ім глухі, ты ў ім бязвокі,*
*І нат гаворачы "жыву",*
*Ператвараешся ў траву.*

Калі б паэт спыніўся на гэтым пасажы, то адзначаная "самотная страсць" была б, верагодна, такой жа сумна-неэфектыўнай, як пякучыя воклічы цяперашніх нашчадкаў колішніх класічных прарокаў. Аднак прапанаванае "калі б" – яўна гіпатэтычнае, бо сам В. Шніп, па ўсім відаць, перакананы ў *мужнай* самотнасці беларускай Долі:

*Ты ў гэтым доме, як пракляты,*
*З акон сваіх змываеш краты,*
*Як пыл змываецца дажджом,*
*Як лес змываецца агнём.*
*Але ты ўсё ж гаворыш люду,*
*Што гэты дом – найлепшы дом.*
*І будзеш піць журбы атруту,*
*І выцірацца кулаком.*

**("***Ты ў гэтым доме адзінокі...")**

Пакуль самотны (але нераз'юшаны) лірычны герой выцірае ці то змагарны пот, ці то скупыя слёзы кулаком,

*Праз дождж па дарогах*
*дажджлівай Айчыны*
*Самотныя людзі самоту вязуць.*

**("***З балотнай ды роднай самотнай краіны...")**

Здаецца, што самота ў беларускі Дом-Храм звозіцца з усіх магічных сусветаў: наўрад ці можна знайсці лепшае сховішча для быційнай самоты, чым рэшткі Храма, дзе жывуць людзі, нелюдзі, падобныя да сабак, і сабакі, падобныя да людзей[3].

Дзіўнасць "версіі" Храма, прапанаванай В. Шніпам, звязана з тым, што дастаткова распаўсюджаны і нават растыражаваны вобраз-сімвал нечакана (і таму здаецца – нетрадыцыйна) напаўняецца традыцыйным зместам. Знаёмыя, добра "распрацаваныя" іпастасі Будынку быцця – Дом/Хата і Храм – не адрозніваюцца па ступені канцэнтрацыі ў іх сакральнасці ці боскасці. Шніпаў Храм – свет, дзе кожны гаворыць з Богам у найбольш зручным месцы: "новыя босыя" – рокеры пачатку 90-х – адчуваюць сябе роўнымі Яму ў падвалах ("Ты босы, як бог, і ты смелы, як праўда"); сабакі перад смерцю багацеюць воляю ў сваім кутку Храма – на полі палыну ("Ён смертнаю воляю, як Бог, багаты,// і поле палыну ягоны Храм") і г.д. Хтосьці лічыць найбольш прыдатнай пры звароце да Бога эпічную біблейскую ўрачыстасць: "і прыйшоў Ён і сказаў Ён// ратуйце сябе і сваіх дзяцей". Іншыя ж разлічваюць на Богаву чуллівасць ды сентыментальнасць – таму іх пацеры дужа падобныя да тэкстаў гарадскога фальклору. І пяюць у сённяшнім Храме ўрыўкі з евангелляў у разгульна-слязлівай манеры (улічваючы, між іншым, выгоды тэхнікі кантрапункту):

*і яны распялі яго яшчэ раз*
*яшчэ раз яшчэ раз яшчэ раз*
*яшчэ многа многа многа разоў*
*і не плакалі дзеці*

**("***і прыйшоў Ён і сказаў Ён...")**

В. Шніп сучасныя "песні" ў Храме і пра Храм называе баладамі. У іх ствараецца свайго роду галерэя прарокаў, што жывуць патэтычна, а паміраюць ад банальнай праступы:

*Хадзіў Сляпы і ўсё крычаў:*
*"Ды вы ж не бачыце нічога!.."*
..........................
*Прастыў і ў ноч памёр Сляпы.*
*Яго суседзі пахавалі...*
*На рэштках збуранай царквы*
*Шкляны будынак збудавалі.*

**("Балада пра Сляпога, які ўсё бачыў")**

Для прарока, згадзіцеся, неактуальная смерць – героікі/антыгероікі малавата. Персанажы В. Шніпа – ні богу свечка, ні чорту качарга: ні для класічнага пантэону, ні для авангарднага перфоменсу. Пакуль не зусім ясна, якім чынам сістэматызуе вобразы прарокаў аўтар Храма, але відавочна, што "дзіўнасць" іх непасрэдна вынікае з самотнасці і не-моднасці светапогляду паэта.

З адзначанымі рысамі светапогляду звязана існаванне своеасаблівай "анталогіі сутнасцяў". Паэт успрымае быццё як сукупнасць бясконцага мноства рэчаў (дзе "рэч" – і прадмет, і паняцце). Здавалася б, пасля Лукрэцыя, Маркеса і Разанава немэтазгодна траціць сілы і час на *называнне* рэчаў. Гэта разумеюць літаратары, якія паспелі ўжо прасякнуцца духам "класікі-пост". Праўда, і сёння некаторыя аўтары спрабуюць "старое" (вядомае) імя прэзентаваць як аказіяналізм, тым самым прэтэндуючы на ролю дэміурга. Не-модны В. Шніп складае "анталогію" *рэчаў*, а не назоваў: "збан гліняная вежа// у якой каціная спакуса/ / кропляй млечнага шляху" ("Збан"); "плот ашыйнік// на шыі майго жыцця" ("Плот"); "пыл гэта цемра// якую разбіў вецер" ("Пыл"); "здрада гэта дым над Айчынай// у якім сонца// як пацалунак Іуды" ("Здрада"). Важна *самому* "апісаць" рэчы, бо толькі тады, відаць, яна *сапраўды рэальна* будзе для цябе існаваць. Мне здаецца, што свет для В. Шніпа яшчэ не зусім, "не да канца" існуе – далёка не пра ўсё *расказана*, інвентарызацыя быцця толькі пачалася. Магчыма, таму "рэшткі Храма" ўяўляюцца не руінамі, а пачаткам будоўлі – яны захутваюцца аўтарам у рыштаванні з "ценю", "пылу", "самоты". Згаданыя вобразы-сімвалы – бадай, самыя важкія ў паэзіі В. Шніпа. Менавіта іх заўважнасць і нешматлікасць ратуюць вершы ад таго "трапічнага гвалту", што стаў прычынай смерці не аднаго сучаснага твора.

Паэзія В. Шніпа – ланцуг адметнасцяў: яны хутчэй здзіўляюць, чым захапляюць, але найчасцей прываблівають, чым адштурхоўваюць. Так, інтымная лірыка ўражвае нетутэйшай традыцыйнасцю.

Амерыканскі сінолаг С.В. Лу, параўноўваючы кітайскую і еўрапейскую лірыку кахання, заўважае: "Кітайскія паэты кахаюць крыху інакш. Падобна на тое, што каханне пачынаецца з ростані, а не заканчваецца ёй. Першыя гады таксама цяжкія для нас, але мы чакаем, пакуль горшае адыдзе. А потым нас звяжуць успаміны. Вось пра што пішуць кітайскія паэты". Лірычны герой В. Шніпа альбо ўзгадвае, што было да з'яўлення каханай, альбо апісвае, што адбылося ў сувязі з яе знікненнем ("***Стаміўшыся ад дзённай мітусні...", "***На вуліцы маёй святла няма..." ды інш.). Ён (герой), як і кітайскія паэты, цэніць у каханні магчымасць быць самотным.

Вынік/высновы "агульнага" агляду паэзіі В. Шніпа асуджаны на невыразнасць, бо "распазнавальныя" і "празрыстыя" творы гэтага аўтара пры "не-агульным" аналізе паўстаюць як няяўна адметныя, "спецыфічныя". Тое, што непадобнасць вершаў В. Шніпа да тэкстаў сучасных яму паэтаў няяўная і сутнасная *адначасова*, выклікае ў крытыка як бы "эпістэ-малагічную няўпэўненасць": я адчуваю, што "вектар" пафасу Шніпа-паэта не зусім супадае з тэндэнцыямі эпохі, але я не магу не адчуваць, што цалкам Шніп-паэт з гэтай эпохі не выключаны. Каб пэўным чынам вербалізаваць значнасць згаданай "неакрэсленасці", даводзіцца карыстацца разарваным паняццем "не-моднасці". Парадокс: менавіта сэнсава бязмернае *"не-"* дапамагае ўсвядоміць, вымераць "празрыстасць" паэзіі В. Шніпа.

Словам, дзівяць справы твае, літаратура[4].

**Ірына ШАЎЛЯКОВА**

---

[1] *А ты ў той час хадзіла па Траецкім,*
*Дзе каваю прапахлыя вятры*
*Мялі лісцё чырвонае ў двары.*
*Шампанскім салютуючы савецкім,*
*Кусціліся ў кавярнях маладзёны,*
*Як на Кальварыі вясной вароны.*
**("***Стаміўшыся ад дзённай мітусні...")**

[2] Адзін са "стомленых" беларускіх паэтаў сцвярджае, што існуе яшчэ і "высокая мужчынская" самотнасць.

[3] *Здыхаў сабака ды не поўз да Хаты.*
*У Хаце сытыя яго браты*
*Крывёю абжыраліся на святы...*
**("Сабака")**

[4] Асабліва калі ў іх умешваюцца самотныя не-модныя паэты.

# ДНЯ ПАЭЗІІ – ЛЕТАПІСЕЦ

Напачатку ён уяўляўся ледзь не сталага веку мэтрам: па-мастацку расцярушаны чуб, далікатны капялюш, звычка гаварыць мякка, вольна... Укладальнік "Дня паэзіі", ніколі не абмінаў няўпэўненых студэнтаў-літаб'яднанцаў, якія шчыра бачылі ў ім "жывога класіка"...

Паэт у чалавеку жыве, зазвычай, нядоўга. Ён можа развітацца яшчэ да таго, як складзецца першы радок ці вытрывае некалькі зборнікаў – і ператворыцца ў пісьменніка. Дзіўна, але Віктар Шніп падаецца літаратарам, які перарастае "пісьменніка" і становіцца паэтам. Ды і на цэлую жменю метафар

маладзейшым ён стаў Шніпа колішняга.

Яшчэ пры жыцці "Дня паэзіі" кпіў з назвы гэтага альманаха: "Дзень паэзіі-89,90" і г.д. – што, у годзе толькі адзін дзень (пра ночы яшчэ не думаў) паэтычны?! Гэта ж не "Алімпіяда-80"!.. Але для яго ўкладальніка, думаецца, усё было апраўданым: днём здаваўся яму год (дакладней: годам – дзень). А таму і пасталеў, "паважнеў" Віктар з таго часу ці не на тыдзень. І праз тое яго паэзія, хоць і няспешная, паспявае занатоўваць-адлюстроўваць многае – ад баладнага:

*Прывялі каваля ў ланцугох.*
*Князь устаў,*
*даў напіцца вады:*
*– Меч зрабі, каб я ўсіх перамог,*
*І цябе адпушчу я тады<...>,*

ад быційнага:

*Хоць жанчыну не кахаеш,*
*Да жанчыны прывыкаеш.*
*Прывыкаеш не адвыкнуць,*
*Так балюча – ды не крыкнуць,*

да дэталёвага (верш пра слоік капусты ў склепе), да ўсёчасна знікомага, няўлоў-нага (радкі пра капежную капку).

Зрэшты, яна анталагічная, лірыка Віктара Шніпа. І хто захоча збольшага прасачыць маладыя пошукі беларускай паэзіі 80–90-х гадоў, можа карыстацца толькі ягонымі зборнікамі. Там ледзь не ўсе сучасныя вершатэмы: песняры-пачынальнікі ("Францішак Багушэвіч")... "горад", "вароны"; там ледзь не ўсе вершаформы: "слупкова-рыфмавальныя" ... "без знакаў прыпынку" ... хоку. І – канечне ж – каб здзейсніць усё гэта, мала і дзесяцігоддзя. Але што яму – летапісцу ад паэзіі – гэтая ношка!

І яшчэ ён памятае наказ Мацея Бурачка: "Грай, што маеш на душы", памятае – і ва ўсім, хоць і няпроста гэта, шукае Радасць (нават адну з кніжак так і назваў – "Пошук радасці").

А ў пошуку гэтым – як шмат перлін-знаходак, так нямала і неспадзевак, недакладнасцяў, расчараванняў, а то і стратаў. І не адпрэчыць ніяк гэта?

Калі чую крытыку на вершы Віктара Шніпа – прызнацца, часта слушную – прыгадваю пракаветнае паданне... Жыў на зямлі чалавек. Працаваў, ежу здабываў. І была ў яго мара – лётаць. Паназірае-пазайздросціць птушкам ды аблачынам – і зноў за работу. А аднойчы, як калоў дровы, нагнуўся і секануў – не па назе ці руцэ, а забалела. Глядзіць: крыло на паляняках ляжыць. Абмацаўся, а за спіной – другое, такі ж брудны атрэпак...

Як на маё, у штодзённых клопатах даводзіцца забываць на крылы і Віктару Шніпу, таміць іх над газетным сакратарствам, абтоптваць у гастраномных чэргах, абпальваць, слепячыся над газіцай, складаючы – год у год, як дзень у дзень – свой і наш паэтычны летапіс.

А ці здагадваецца пра гэта сам паэт – спытайцеся ў ягоных напаўлегендарных дзённікаў...

**Алесь ПАШКЕВІЧ**

# БЕЛАРУСКАЯ ДУША

Чытаеш творы Віктара Шніпа і – разумееш, як няпроста жыць шчыраму беларусу, з яго рамантычна-зямнымі наіўнай лагодай і адданай добрасумленнасцю. А як існаваць паэту, якому характарам свайго таленту наканавана пісаць народную кнігу жыцця, трагічна-пакутную, бязлітасна-жорсткую, і ў той жа час аптымістычна сцвярджальную, даверліва крохкую, неабходную, як "гронка святла", як "пошук радасці" для люду беларускага.

Відаць, феномен нашай нацыі ў тым, што калі чалавек ўсведамляе сябе беларусам, то ён не можа не быць патрыётам, чалавекам чулай, высакароднай душы. А найкаштоўнейшыя здабыткі беларускага архетыпа, якія так ахвотна запазычвалі нашыя суседзі ў Сярэднявеччы, – напэўна, і дапамагаюць зразумець сутнасць, глыбіню і духоўную веліч:

*Па дарозе бясконцай,*
*як вечнасць зямная,*
*Скача коннік у замак, якога няма.*
*Ён нясе для князёўны*
*сваю перамогу,*
*Ён каханне сваё для*
*князёўны збярог ..*
*...Зарасла да багатай*
*капліцы дарога,*
*Скуль пайшлі бараніць*
*ад чужынцаў Айчыну*
*І князі, халопы. І Храм той нямы,*
*Што людзей абуджаў да любові,*
*спагады,*
*Храм, дзе месца было,*
*каб душою ажыць...*

Шчымлівае пачуццё гармоніі, паўнаты быцця, таямнічую споведзь душы, хараства, страту якога ў мастацтве не можа замяніць нішто, нясе ў творчасці В. Шніпа пейзаж, як частка ўнутранага жыцця героя:

*Першага снегу святло,*
*Ты для мяне, як свята.*
*Сонца памалу ўзышло,*
*З коміна крайняй хаты.*
*Вецер сцяжыну маю*
*Ноччу замёў на лузе.*
*Ціха на ганку стаю,*
*Снег патушыць баюся.*

Здаецца, лірычны герой паэта ведае якуюсьці таямніцу аб узаемаадносінах чалавека з "братамі нашымі меншымі". У ягоных вершах прыкмячаецца прысутнасць даверлівай еднасці, якая ўсталёўваецца паміж чалавекам і жывёлай, чытач літаральна адчувае яе трапяткі, засяроджаны для нас погляд, нібы яна нешта хоча паведаць нам пра сябе:

*На полі гоман ля дубоў –*
*Вяскоўцы абступілі воз,*
*Стары з сасоннікў дамоў*
*Малое ваўчаня прывёз.*
*Што з ім збіраешся рабіць?*





*– З сабакам буду гадаваць.*
*– Навошта? Ваўчаня забі.*
*Забі, сівая галава!*
*– Не трэба ўжо мяне вучыць!*
*– Сярод ваўкоў знайшоў радню...*
*Ціхенька ваўчаня вурчыць,*
*Цалуе дзеду даланю.*

Па-сутнасці, гэта ўжо і не лірычны верш, не баладная замалёўка, а эпізод напружанай драмы-дзеі, дзе чалавек адыходзіць ад усяго пачварнага, біялагічнага, прыніжана зямнога, ён перамагае ў сабе звера. У В. Шніпа – гэта не толькі працяг Караткевічавай традыцыі, матывы новай этыкі адносін да прыроды, калі паляўнічы перажывае найбольшае задавальненне прамахнуўшыся. Вясковы дзед-паляўнічы хутчэй роднасны лірнікам, старцам, якія шукалі святасці, як шчаслівай дабрыні, братняй любові да ўсіх жывых істот, яны імкнуліся аднавіць той стан прыроды, калі ўсе жывёлы слухаліся чалавека, паважалі ў ім правобраз Божы. Грэшныя жарсці знічтожылі дабрадатнае ў чалавеку, і ён наблізіўся да звяроў хціўых, якія аддадзены пад уладу і апеку чалавека, а ён з-за ўласнага драпежнага нутра іх жа баіцца.

Мы ўвесь час з болем адзначаем перарванасць традыцыі, цесная сувязі паміж старажытнай і сучаснай культурай. І вось такая незаўважная глыбінная еднасць, як і ў часы нашых святых продкаў, калі драпежны звер робіцца паслухмяным, лагодным і ўлюбёным у чалавека, нябачна духоўна знітоўвае нас са старой мудрай Беларуссю.

Паэт здзіўляе майстэрствам нябачнай лірычнай дэталі, трапнай і адметнай, з усімі рэчыўнымі падрабязнасцямі. Тропы, гэтыя сапраўдныя рухавікі паэтычнага вобраза, у творчай лабараторыі Віктара Шніпа, – метафары, параўнанні, увасабленні, – "не вобразныя навальніцы" ў аб'ёме метрычнай прасторы твора, яны хутчэй асацыяцыі з глыбіннага кола паняццяў. Рэдкая вобразная экспрэсія, унутраная энергія, напружанасць радка, квяцістасць малюнка. ў творчай майстэрні паэта прыцемненыя, маюць выгляд амаль "бязвобразнай паэзіі". Сіла паэзіі Шніпа ў магутным эмацыянальным, пяшчотным і спагадлівым настроі-імпульсе, які знаходзіць адпаведны зацікаўлены водгук ва ўдзячных сэрцах чытачоў, чым, відаць, і тлумачыцца ягоная папулярнасць як паэта-песенніка. Але паэт не пазбягае мастацкага эксперымента, удала выкарыстоўвае гукапіс:

*Р любіць рамантыку*
*яно рэлігійнае і рыцарскае*
*яно ратуе ад роспачы*
*Р радуецца рэчцы і раніцы*
*яно рассявае рамонкі*
*размаўляе з рыбаловамі*

В. Шніп належыць да таго пакалення пісьменнікаў, якіх вылучае імкненне пазбавіць мастацкае слова ад вобразнага амярцвення, сцірання, заштампаванасці. І ў сваім шчырым імкненні сябры нацыянальнага слова, услед за Янкам Купалам, Максімам Багдановічам, Максімам Гарэцкім, Уладзімірам Караткевічам, звяртаюцца да пракаветных першакрыніц, функцыянальна-стылявых мадэляў, лексічных скарбаў старабеларускай літаратурнай мовы, практыкуюць досыць удалыя стылізацыі суцэльных старажытных жанраў. Паэт звяртаецца да скарынаўскага алфавітнага акраверша:

*Б біблейскае*
*яно Бог і Бацькаўшчына*
*яно благаслаўляе і бароніць*
*Б бароніць будзячы бязмежжа*
*і бадзяючыся па бездарожжы*
*і бясконца бялюткіх палях*
*бачыць сваю Беларусь.*

Бачыць Айчыну на бясконцых палях гісторыі, старонках летапісаў, у старадаўніх пергаментных манускрыптах, думках і пошуках продкаў, сугучных нашым, – азначае для паэта бачыць Радзіму ў "залатым веку" яе славы і велічы.

Да лірычнага героя В. Шніпа нібы звяртаецца Коннік з Храма Мінулага, амебейная (кальцавая) кампазіцыйная прастора твора размыкаецца ў наш час, у трапяткое імгненне дыялогу-адказу, даверлівай рэакцыі, калі "душа апранаецца ў нябачныя светлыя рызы":

*Ды пытанне ў яго ёсць сваё*
*да жывых.*
*Ён сустрэне мяне,*
*ён сустрэне любога*
*І спытае усё і спытае за ўсіх.*

Пасля такога ўздзеяння мастака абуджанае сумленне чытача трымціць ад пакутлівай раны – занядбанай мінуўшчыны і высакароднага жадання працягнуць справу Конніка, па-рыцарску служыць Радзіме. В. Шніп імкнецца пераадолець асноўную загану нашай мастацкай сістэмы папярэдняй пары, калі наш гісторыка-культурны працэс выглядаў такім збедненым і бляклым, бо мы вывучалі, даследавалі сацыяльна-грамадскія працэсы, а не гісторыю постацяў, з усім багаццем духоўнага свету асобы. Паэт уладна ідзе ўслед за шуканнямі Векавечнай беларускай Душы:

*І шукаючы продкаў сляды,*
*Мы заходзім у Храмы святыя.*
*І цалуем мы рукі святым,*
*І цалуем крыжы залатыя.*

Для лірычнага героя паэта ўсе нашыя продкі запісаныя ў вечнай Кнізе Жыцця. Згадаем, што ў нашых продкаў усё нацыянальнае ўводзілася ў Храм Божы, прасвятлялася і асвячалася на нябачных шляхах узыходжання, вяршынях народнага Духу. Нескаронасць беларускага Духу спраўджвалася ў разуменні неабходнасці пакут і выпрабаванняў для ачышчэння, набліжэння да духоўнай і жыццёвай радасці. Нездарма славуты першадрукар Францыск Скарына, у нечым атаясамліваючы сябе з прамудрым Саламонам, пісаў: "Не просил еси собе дней многих, ни богатства, ниже душ врагов.., но жадал еси собе только мудрости". Так, не толькі плоць, дух патрабуе ацалення ў сённяшняй

**рэальнасці. Невыпадкова, як да гаючай натальнай крыніцы, звяртаемся мы ўсё часцей і часцей да духоўных светачаў нашай Айчыны: Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Францыска Скарыны, да іх духоўнага подзвігу, да іх духоўнага вопыту ратавання нораваў свайго часу.**

**Украінскія і польскія даследчыкі неаднойчы заўважалі, што хвалі беларускага нацыянальнага Адраджэння перыядычна суправаджаліся заняпадамі, бо дзеячы айчыннай культуры не маюць арэола пакланення, паяднанасці з недасягальнымі вяршынямі падзвіжніцтва і мужным служэннем ідэі Бацькаўшчыны (як у іншых народаў). Такі Францішак Багушэвіч, вечны ў неўмручай нацыянальнай традыцыі, паэзіі, мове:**

*Ён сядзеў каля дарогі,*
*Як туман, увесь сівы.*
*-Бурачок, ты ж пахаваны.*
*- Дудка грае - я жывы.*

**Трагедыя геніяльнага паэта Паўлюка Багрыма, юначы верш якога годна прадстаўляе пачатак новай беларускай літаратуры, сюжэтна падаецца ў двух планах: жыццё Багрыма-майстра пасля вынішчэння паўстання і водпаведзь скептыку, нядобразычліўцу беларушчыны:**

*Зноў падняць бы меч паўстанца,*
*Рукі, браце, чуюць сілу.*
*Чым без мовы заставацца,*
*Лепш з мячом сысці ў магілу.*
*Стаў ён песняю народнай,*
*І душа ўзляцела зоркай...*
*Мо цяпер які нягоднік*
*Схоча ачарніць гаворкай:*
*"Ну які з яго паэта?*
*Толькі верш адзін пакінуў"*
*Не, няпраўда, людзі, гэта -*
*Верш і вольную Айчыну.*

**Грамадзянскае гучанне, лірычнае перажыванне падзей нацыянальнага Адраджэння парушае храналагічную плынь верша, напаўняе яе новай выяўленчай сілай, паэтычнай энергіяй.**

**Часам здаецца, што сэрца лірычнага героя В. Шніпа - нібы поле змагання святла з цемраю, адданасці з адрачэннем:**

*Толькі цемра адна пануе,*
*І карае мяне і цалуе, .*
*І няма мне ратунку нідзе -*
*Ні ў агні, ні ў вар'яцкай вадзе.*

**Трагедыя апошняй хвалі нацыянальнага Адраджэння таксама незагойнай ранай праходзіць праз спакутаваную і знявечаную беларускую Душу, як, напрыклад, у вершы "Выкраданне будучыні":**

*...І д'ябал у рай абяцае дарогу,*
*Калі адрачэшся ад родных, сяброў.*
*І ты яму верыш, не верачы Богу...*
*І д'ябал святкуе сваю перамогу,*
*І сын твой смяецца*
*над крыжам тваім.*

**У зборніку "Выкраданне Эўропы" мінорныя матывы дасягаюць антынамічнага, сапраўды эклезіястычнага гучання, тоеснага з настроем "Павучэння на свята Адзігітрыі Смаленскай" старабеларускага агіёграфа і гамілета Дзімітрыя Растоўскага: "...усялякая радасць света гэтага ёсць смутак; няма ўцехі, якая б не спалучалася са скрухаю; няма весялосці, за якой бы не ішла туга; няма смеху, які б не суправаджаўся плачам...; улагоджвай яго пахвалою, а ён цябе абражае; спадзявайся на яго, ён жа ва ўсім падмане; абяцае табе павагу, а дае зневажэнне; абяцае багацце, але і апошняе адбірае ў цябе; абяцае мёд, а дае жоўць"...**

*Мая Айчына - ты мая Турма,*
*І каб хацеў другой - другой няма...*
*І гэты снег, як попел, пад нагамі,*
*І гэта неба, што, як смерць,*
*над намі...*

**Але рэшту рая на зямлі, які не здатныя знічтожыць аніякія сусветныя катаклізмы, грэх першых людзей і хвалі Сусветнага патопу, знаходзіць лірычны герой Віктара Шніпа ў бацьках і сямейніках:**

*хачу ўспомніць свята*
*успамінаецца маці*

**Асаблівую ж радасць лірычнаму герою паэта прыносіць нараджэнне дзіцяці, калі ў ім абуджаецца і бацька і вой ("слова "кахаю" - то слабое слова, мужнае слова - абараню", як засведчана ў эпіграфе - паводле Ларысы Геніюш):**

*стаю пад вокнамі радзільнага дома*
*яшчэ не ведаю што нарадзілася*
*Вераніка*
*але мне здаецца пра гэта ведаюць*
*птушкі і аблокі травы і дрэвы*
*і яны мне гавораць пра гэта*
*ды я не разумею*
*я забыўся іхнюю мову*
*але ж з такімі шчасліўцамі як сам*
*задзіраю нос пад вокнамі*
*і пакуль углядаюся услухоўваюся*
*запіска з добрай весткай ад жонкі*
*як белы голуб вылятае з акна*
*і цэлую вечнасць*
*ляціць*
*да мяне*

**У лепшых сваіх творах паэт будуе Храм Векавечнай беларускай Душы праз чысціню, любоў і спагаду, гэтыя найсвяцейшыя якасці, якія, як сцвярджаюць філосафы і багасловы, цэментуюць і трымаюць Сусвет:**

*Праз цябе, я знаю, праз цябе*
*Гэтак светла сёння на двары.*
*Вогнішча рабінніку дзяўбе*
*Снегірок - вясёлы сын зары.*
*Хай вачэй світае сінява.*
*Я сняжынкі, як букет, нясу.*
*Не данёс. Букет расцвіў слязой.*
*На слязу увагі не звярні.*
*Паглядзі, над белаю зямлёй*
*Белы дзень на сонечным кані.*
*Ты ўсміхнулася, і мне святлей.*
*Снегірок, як меншы сын зары,*
*Падлятае да цябе бліжэй.*
*І яму ты ўсмешку падары.*

**Віктар Шніп, як Данута Бічэль-Загнетава і Вольга Іпатава, імкнецца ўсёй сваёй творчасцю сцвердзіць невычэрпную сілу, бессмяротнасць нацыянальнай Душы праз радасць, асабістае і грамадзянскае шчасце і поспехі герояў, як гарманічны саўдзел у пабудове больш светлага і мудрага жыцця.**

**Алена ЯСКЕВІЧ**





# ПУСТОТЫ ПАЭТА

**На першы погляд, Віктар Шніп просты, як зарыфмаванае чатырохрадкоўе.**

**На другі - няпэўны, як верлібр...**

**На іншы - наогул празаік...**

**Калі ён у літарацкай знаёмай кампаніі ўстаўляе некалькі сваіх валожынскіх слоў, я адчуваю вясёлую палёгку душы, і мне падаецца, што ўсё чалавечае жыццё на гэтай зямлі яшчэ толькі пачынаецца...**

**Захмелены Сыс яго як бы не заўважае, цвярозы Разанаў спатыкаецца сваім аб'ёмным поглядам на яго дробнай постаці, Дубавец спрабуе засланіць яго сваім ценем, Быкаў на яго не глядзіць, Барадулін не бачыць...**

**А я абдымліваю Шніпа** ***фіміямам*** **свайго "космасу" ў вузкім лімаўскім пакойчыку рэдакцыйнага сакратарыята... Мне з ім - спакойна, зразумела, па хатняму людзка і цёпла...**

**Пра паэзію мы амаль не гаворым. Зрэдку - пра жанчын. Бывае - пра палітыку...**

**"Прывет!" - "Прывет!", "дождж ідзе" - "восень ужо", "дзяўчаты ў джынсы пахаваліся" - "вясной вылырхнуць", "напісаў што?" - "ды так", "давай нам" - "нядаўна ж друкавалі", "на футбол хадзіў?" - "дождж жа йшоў", "а на мітынг?" - "па тэліку футбол быў", "трэба на бульбу ехаць" - "паедзем", "восень" - "ну"...**

**Пасля мы слухаем іншых. Якую туфту нясуць яны на фоне нашых зямных слоў! Талдычаць пра хуткую трагедыю чалавечай цывілізацыі, пра беларускі менталітэт, пра рускі шавінізм, пра Бродскага ды іншых бяздарных сіяністаў, пра канцэптуалізм, постмадэрнізм, пра Федарэнку і Лукашэнку... пра...**

**Маць вашу, думаем мы з Віцем не згаворваючыся, ну, пры чым жа тут Федарэнка з Лукашэнкам?! Яны ж не маюць ніякага дачынення да ТВЛ і Пэнцэнтра, а тым больш - да постмадэрнізму... Яны ўвогуле ў вершах не практыкуюць даўно. Не друкуюць прынамсі. Не канкурэнты. Хлеб не адбіраюць. Пішуць прозу - і няхай...**

**Дадому выпраўляемся разам, едзем паасобку. Едучы ў транспарце, я думаю "зацемкі", а Шніп - вершы...**

**І вось тут пачынаецца самае цяжкае, самае бясслоўнае... Тое, што заўжды - між усяго... Зерне нашай сутнасці, засыпанае радамі чорнай зямлі вершаваных радкоў...**

**Паэтычныя пустоты, як пустоты блочных ці цагляных дамоў, утрымліваюць цяпло, спрыяюць гукаізаляцыі, даюць прытул восам і бамжуючым мышам...**

**Нармальны чалавек заўжды пакідае ў сваім жыцці і бытаванні патайныя месцы на ўсякі выпадак, каб было дзе прытуліцца душы ў цёмны час адчужэння, - сваёй ці чыёй іншай, блізкай ці далёкай, але яшчэ жывой...**

**Для паэта такім жытлом з'яўляецца ПАЭЗІЯ. Яна - дом яго душы, з тымі самымі вершамі-пустотамі...**

**У Шніпа ёсць такі ДОМ, у якім больш чым дастаткова пустот. Ён збудаваны ў "горадзе ўтопіі" "на рэштках Храма"...**

**І мяне гэта непакоіць. Трэба "шукаць радасці", трэба "ісці за ветрам"! Далей, далей ад смуроднага духу смерці, якая не пакідае пустот, а - замазвае, замуроўвае, засыпае за сабой усе расколіны, дзіркі, ямы, міжрадкоўі... Раптам яна пакіне толькі цынкавы набор літар, слоў, косак, кропак?!.**

**Пакіне не нашы пытанні, а - свой страшны адказ. І ўсё адразу пра нас стане ясна і зразумела... Зусім не так, як думалася:**

*Ён сядзеў каля дарогі,*
*Як туман, увесь сівы.*
*- Бурачок, ты ж пахаваны.*
*- Дудка грае - я жывы.*

**Таму захоўвай і надалей пустоты між радкоў, мой даўні, але не да канца зразумелы сябра... Не абжывайся блізу храмаў. Святое - грэшніку недасяжнае...**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

# Зінаіда ДУДЗЮК



ПАРАДА

Каб знішчыць калючку,
не тузайце за голле і кветкі,
падкапайцеся пад корань

Ён нічым не абаронены.



# Аляксандар СТАНЮТА





*Парожні трамвай плыў
па бязлюднай, ажно
да ружовага неба, вуліцы
ў Порт-Элізабэце,
але набліжаўся ён
ці раставаў у мяккай
смузе небасхілу,
зразумець было нельга.*

# ПОРТ-ЭЛІЗАБЭТ

*Апавяданне з цыклу "Трафейнае кіно"*

Увайшоўшы ў свой нумар, ён паклаў на крэсла паліто, кашнэ і акуратна прылёг на прыбраны пасля дзённага сну ложак, не здымаючы пінжака і абутку, як любіў класціся ўсякі раз, застаўшыся нарэшце сам-насам пасля канцэрта перад ад'ездам на вакзал. Толькі цяпер ён зразумеў, што з самага пачатку яму хацелася нават не столькі пабачыць знаёмыя мясціны ў гэтым далёкім ужо ад яго горадзе, як проста ў ім пабыць, нічога асабліва і не разглядаючы, адно наталіцца вось гэтым адчуваннем уласнага знаходжання тут, тым болей, ужо вызваліўшыся ад усяго

Ён ляжаў, гледзячы на раздробненае святло люстры, знарок пакінутай на ўвесь вечар уключанай, як і настольная лямпа, плафон у ванным пакоі, – звык, вяртаючыся познімі вечарамі ў вандроўнае гатэльнае жытло, з парога бачыць яго асветленым, падобным на хатняе. Балела спіна, – боль пачаўся сёння раней звычайнага, – як толькі ўстаў з-за раяля, каб пакланіцца зале Падчас выступлення ў поўнай меры так і не надышла гарачая лёгкасць падуладнага яму хвалявання, якое давала смеласць унутранага ўзлёту, але і вяло яго ў выкананні рэчы цвёрда і дакладна, на глыбіні засяроджанага пачуцця.

Сяргей Аляксандравіч яшчэ ўдзень трывожна ўгадваў нешта няладнае. Нішто не выклікала адчувальнага водгуку, калі яны з Залеўскім, ягоным імпрэсарыа, невысокім шырокаплечым барадачом, выйшлі прагуляцца ў цэнтральных кварталах. На сырым сакавіцкім ветры горад, дзе ён вырас, па-ранейшаму невыказна блізкі, пахмурна маўчаў у адказ на яго хуткія дапытлівыя погляды Сяргею Аляксандравічу прыгадалася, як учора ён глядзеў у акно вагона, дзе плылі скрыжаванні дарог, шлагбаумы, станцыі пасёлкаў, а потым пайшлі ўскраіны, – і нічога не пазнаваў, чакаючы з дзяцінства памятнага будынка вакзала. Але вакзала не было· цягнулася размаляваная рэкламаю вялікая кітайская сцяна з бятонных пліт, хаваючы, хутчэй за ўсё, вялізны катлаван. Кідалася ў вочы мноства вайскоўцаў, міліцыянтаў у недарэчліва стракатай на гарадскім фоне камуфляжнай форме Рыхтаваўся да нейкай сустрэчы аркестр, неслі кудысьці сцягі – і ці то здалося, ці то сапраўды мільганулі чырвоныя павязкі на нейчых рукавах, нагадаўшы дружыннікаў з даўніны ягоных студэнцкіх гадоў.

Усё пачыналася калісьці тут, перад гэтымі фасадамі, аркамі, у скверах з чыгуннымі агароджамі, каля калон і балюстрад пад франтонамі з цэментнымі фігурамі будаўнікоў, на вуліцах сярод падобных на торты гмахаў з барэльефамі, ляпнінай. Быццам ужо кранутыя пацінаю, яны заставаліся на сваіх ранейшых, здаўна прызначаных ім месцах, у аднойчы і назаўсёды абумоўленым, непарушным парадку, – і не адштурхоўвалі, не ахіналі холадам чужога, непатрэбнага, утрымліваючы ў сабе нешта цёплае і дарагое Ні пышныя, цяжкія палацы і храмы – вайсковыя або дзяржаўных суровых афіцынаў, – ні глыбы помнікаў з аднолькавымі аграмаднымі чаравікамі правадыроў і паэтаў над галовамі прахожых – не засланялі і не адсоўвалі кудысьці ўбок таго, што тут было пражыта і перажыта.

Аднак жа бачылася гэта быццам праз плёнку ці мутнае шкло Злёгку бянтэжыў нейкі вялы спакой пры сустрэчы з горадам, пакінутым шаснаццаць гадоў таму, – з месцам, дзе ён ажаніўся, дзе нарадзіліся абедзве іхнія дачкі і дзе ён стаў на ногі як музыкант, пераадолеўшы ўпарты супраціў зусім не сляпога лёсу, – і вось цяпер чацверты год працаваў за мяжою, падоўгу жывучы там . Гэтая нячутнасць жывога гуку мінулага жыцця, маладосці – усё роўна як ён ужо не прыкмячаў выпадзення пэўных частотаў, – настолькі засмуціла, што раптам захацелася зараз жа павярнуць назад.

– Я вяртаюся, Леў Харытонавіч, прабачце, – сказаў ён вінаватым голасам і па-нямецку, каб змякчыць перад Залеўскім сваю нявеглівасць.

Дзень атрымаўся няўдалым, пакамечаным, – зрэшты, і вечар таксама. Слухалі з той увагаю ледзь стрыманага захаплення, з якім слухаюць землякі ў правінцыі Былі гарачыя, з ускрыкваннем, абдымкі даўніх знаёмцаў – патрыётаў, дабракоў і дзівакоў. Прыйшлі кансерваторскія старэйшыны ў німбах тонкай блакітнай сівізны, па-старэчаму ўчэпістыя ў поціскох рукі, з расчуленымі, вільготнымі вачамі за шкельцамі акуляраў Але ў першым аддзяленні ён такі змазаў у двух месцах і разумеў, што гэта ад іх не схавалася. Яго фатаграфавалі, і ён быў упэўнены, што нават у профіль на яго хударлявым твары пад ужо прыкметна пасрэбраным праборам выразна бачна незадаволенасць сабою.

Прыўзняўшыся і стараючыся не зачапіць партрэт Рахманінава ў рамцы, які заўсёды браў у паездкі, ён дацягнуўся да пачка купленых сёння мясцовых, рэспубліканскіх газет, але паклаў іх побач, ведаючы, што ўсё адно прагледзіць іх не раней, чым праз два-тры дні, ужо далёка адсюль. Што ж гэта такое – месца, дзе ты некалі жыў, – падумалася яму, – дзе штосьці адбывалася на тваіх вачах? Яно яшчэ сапраўды існуе, калі трапіш у яго праз шмат год, ці таксама знікла, прайшло і скончылася разам з усім, што было тут, пакінуўшы адну бачнасць сябе, свае падманна-нязменныя абрысы? А калі яно застаецца і да гэтага дн: як нейкі нерухомы, нікому, апроч цябе, не патрэбны ў гэтай ролі сведка даўняга, дык ці застаецца, хай непрыкметным ценем, нячутным шэптам, дыханнем або нямым рэхам, хаця б што-небудзь з таго, што аднойчы здарылася тут? Ці гэта ўжо абсалютная пустэча мінулага, кінутая назаўсёды планета, дзе можна смела драмаць у крэсле-качалцы пасярод шашы, па якой вецер шамаціць пажоўклым рыззём часу?

Цьмяна мільгала, ледзь прыпамінаючыся, незразумелае святло, нясмела торгалася нейкая забытая, калісьці абарваная радасць, і ён убачыў раптам сябе даўным-даўно, ці не ў трынаццаць гадоў – і не тут, дзе ён з хлапчукамі, што пасміхаліся з ягонай нотнай папкі з завязанымі ў бант чорнымі вітымі шнуркамі, як лунацік сланяўся ў сутарэннях пад руінамі, уцягваючыся ў жорсткія і распусныя гульні, каб упадабляцца ўсім, – не ў гэтым, а ў іншым, недалёкім адсюль, амаль не разбураным вайною заходнебеларускім горадзе на Нёмане. Яны паехалі туды з бацькам праз паўгода пасля таго, як у студзені пяцідзесятага памерла маці Бацька, які ваяваў на розных франтах, а ў апошні ваенны год служыў перакладчыкам у контрразведцы, ужо настаўнічаў у школе, цяпер, прыехаўшы з ім, Сярожам, у гэты горад пагасцяваць у мамінай сястры, стараўся даведацца, ці нельга знайсці працу і застацца тут

Стаяла сонечнае лета. У шэразялёным, што здаваўся вельмі высокім, доме з глухімі глыбокімі балконамі цётчын балкон быў крайнім з правага боку на апошнім, пятым паверсе. Калі Сярожа ступіў на яго, то зразумеў, што лепшага месцейка ён у жыцці не ведаў. Але ў зале, быццам знарок, стаяла піяніна, і штодзень, па дзве ранішнія гадзіны ён павінен быў за ім сядзець, нават у канікулы: жаданне маці, каб Сярожа займаўся музыкай, для цёткі было святое. Затое потым ён ужо амаль што пасяляўся на балконе і, пакуль не наплывала цемната, пільна разглядаў усё наваколле і ціхую, як тупіковы завулак, вуліцу ўнізе пад старымі вялікімі клёнамі. Кара з іх была дзе-нідзе абадраная, і голыя месцы блішчэлі, адшліфаваныя дзіцячымі падэшвамі.

Па-за дрэвамі была металічная агароджа гарадскога парку. Там увечары іграла музыка, гарэлі ліхтары – здавалася, яны дрыжаць, як папяровыя, ад бухання аркестру ў цёмна-сіняй глыбіні Начныя матылькі ў бесперапынным гібельным кружэнні несліся з цемнаты да адчыненых асветленых акон і, успыхваючы, прападалі ў іх.

З вышыні, якой ён не ведаў у развалінах свайго горада, Сярожа, забыўшыся на ўсё, сачыў за безупынным разгойдваннем галін, за тым, як вецер нагінаў і хістаў з боку ў бок гнуткія верхавіны, як варушыў, цярабіў і тузаў лісце, як перабіраў, трос і торгаў яго, спрабуючы сарваць, проста не выносячы ягонага спакойнага стану І без намагання распазнаваў здалёк тыя жывыя хады і калідоры, якімі хадзіў вецер у густых зарасніках парку: уладарна пракладваючы сабе шлях, ён там з налёту развальваў у бакі бязвольную, падатлівую лістоту, упарта налягаў на высокія акацыі, бэз і рабіў у іх хвалі крылом на плаўных паваротах, якія часта не даводзіў да канца, раптам прыгадваючы іншы напрамак, – тады схіленае і выцягнутае, нібы водарасць вадою, кустоўе вызвалена, з палёгкаю выпроствалася зноў

На гэтым каменным балконе Сярожа пільна і раўніва вартаваў і самое гэтае ўлюбёнае зацішнае схованка, і сваю хвалюючую нечым, зусім не самотную адзіноту, і вастракрылых стрыжоў, што коса рэзалі паветра, і неба, якое тут ужо не выклікала ў яго той цяжкай і гнятлівай, невыноснай думкі пра бясконцасць, калі знутры быццам штосьці нацягвалася, гатовае парвацца.

У адзін са светлых вечароў, гледзячы на расцягнутыя ажно на паўнеба барвовыя палосы сонечнага заходу, Сярожа пачуў нягучны жаночы голас, які паўтараў чутную з парка музыку. Ён нахіліўся і паглядзеў на балкон пад сабою Чорнавалосая дзяўчына ў чырвоным сарафане, незашпіленым, седзячы на табурэтцы, фарбавала пазногці на назе,

упіраючыся ёю ў балконную сценку і памахваючы далонню над маленькімі растапыранымі пальцамі. Сярожа чуў пах манікюра, яму хацелася доўжыць падглядванне і каб дзяўчына была менавіта такая, якой і ўяўлялася зараз зверху. Але назаўтра, калі сустрэў яе ў двары, з прыемным здзіўленнем упэўніўся ў іншым: у ёй было нешта як бы паўднёвае – ён такіх твараў не бачыў у сваім горадзе, да таго ж яна была яшчэ крыху старэйшая, чым ён думаў. І атрымалася так, што ён нясмела ёй кіўнуў – яна адказала ахвотна, з кароткай ветлівай усмешкаю.

З гэтага дня ён стаў міжволі ўсюды шукаць яе вачамі Яму хацелася быць з ёю знаёмым, размаўляць. Ён пераконваў сябе, што чакае зручнага моманту, але не мог выбрацца з нерашучасці, дранцвеў у збянтэжанасці, то злаваўся, а то скараўся, нібы адпускаючы яе ад сябе, і апускаўся ў мутны туман вычварных прыдумак, аддаючыся бесперапынным патайным назіранням за ёю здалёк, што не выклікала, як ён быў упэўнены, аніякага падазрэння.

Прайшло тыдні з два Ён ужо даведаўся, што завуць яе Тамарай, што яна гуляе ў баскетбол – па-сапраўднаму і вельмі добра. Яна гуляла яшчэ за дзяўчат, апошні год, аднак Крэвіч, ейны трэнер, што кіраваў і зборнай горада, рабіў так, каб яна ўжо трэніравалася ў яго з камандаю жанчын

Сярожы падабалася ў Тамары ўсё – ад голаса, якім яна пераклікалася з таварышкамі, да звычкі адцягваць пальцамі потную майку на спіне і ссоўваць ніжэй, да пятак, тоўстыя белыя шкарпэткі ў канцы гульні Ён не прапускаў ніводнага ейнага скачка ўверх, калі адкрываўся яе смуглы ўпалы жывот з дробненькай цёмнай ямкаю пасярэдзіне. Але больш за ўсё ён любіў глядзець, як Тамара, заняўшы пазіцыю ў абароне, то выстаўляючы перад сабой, то ўздымаючы загарэлыя рукі, перашкаджае саперніцам прайсці з мячом пад шчыт або прыцэльна кідаць здалёк. Тады яе ногі з налітымі лыткамі і ледзь прыкметным пушком з пругкай сілай рухаліся ў бакі і назад, шырока і крэпка ўпіраючыся ў пляцоўку, быццам у спружыністым, прыдуманым Тамарай танцы, – і цяжка было адвесці вочы ад гэтага. Калі ж ён хацеў лепш разглядзець яе цяжкаватыя, круглыя сцёгны ззаду, то спярша зладзеявата касавурыўся на суседзяў па лаўцы.

Тамара гуляла кожны вечар на абласных спаборніцтвах. Аднойчы, трохі спазніўшыся, Сярожа, ужо не раздумваючы, апусціўся на свабоднае месца ў першым радзе. Справа ад яго, сагнуўшыся ў тры пагібелі, сядзеў Кастыль – прозваны так хлапчукамі інвалід, што вечна тырчаў каля спартыўных пляцовак або перад піўным кіёскам, дзе спяваў турэмныя песні. З зямлістым, у рытвінах, тварам, заколатай пустой штанінай, мыліцай і кіем, ён выклікаў у Сярожы адчуванне чагосьці непрыемнага, што магло б адбыцца, калі б ён апынуўся з гэтым чалавекам дзе-небудзь сам-насам. Аднак цяпер ён не памятаў пра гэта, адразу ўтаропіўшыся ў спіну Тамары з нумарам шэсць на майцы проста насупраць яго Яе каманда абступіла Крэвіча падчас хвіліннага перапынку Высокі, моцны, з ярка-белымі зубамі, нязменнай сваёй усмешкай і з тою бліпчастай вільготнай прычоскаю, якую Сярожа пра сябе называў замежнай, Людзвіг Крэвіч цярпліва, па-настаўніцку гаварыў нешта, гледзячы ўвесь час толькі на Тамару і паблажліва не заўважаючы яе паказную няўвагу да яго.

Яна стаяла ў расслабленай позе, трымаючы рукі на поясе, здзьмухвала з ілба пасмачку, не ўзнімаючы галавы. І Сярожа, не адрываючыся, глядзеў на шчыльна абцягнуты сінімі ваўнянымі трусікамі, тугі, прыгожа раздвоены шар ейных сцёгнаў, – па ўнутраным іх баку хацелася правесці далонню, такімі яны здаваліся там атласна-гладкімі і цёплымі. – Што, падабаецца? – заахвочвальна ўхмыляючыся, запытаўся Кастыль, і кінуўшы на Сярожу ўважлівы, з блатною хітрасцю погляд, дадаў даверліва і са значэннем – Яна ўжо не цэл... не цэленькая, разумееш? Можаш у трэнера спытаць. – І Сярожа з сарамлівым і прыемным хваляваннем адчуў, што ад гэтага змякчанага вулічнага слоўца Тамара не толькі нічога не губляе ў яго вачах, але падабаецца яшчэ мацней, робячыся яшчэ больш прыцягальнай.

Ён адсеў ад пракуранага, падобнага на ссохлы грыб Кастыля з сінюшнымі, у татуіроўцы, кісцямі рук і адразу ж забыўся на яго Нешта вострa хвалюючае пасялілася ўжо ўнутры, нейкі салодкапакутлівы жах – пачутае падштурхнула і зрабіла бачным тое, што ён і сам няўцямна адчуваў у Тамары за розніцаю ў гадах і што нярэдка абрынала яго ў нясмеласць, баязлівасць. Намагаючыся сачыць за гульнёй, ён бачыў толькі Тамару і ні пра што болей не мог думаць, настолькі яна стала яму зразумелая, з тым патаемным, прыцягальным, што ўжо было адкрытым і даступным ёй, але прымушала яго мроіць не пра адну Тамару. І калі праз колькі дзён убачыў, як яна з няўважлівым, задуменным тварам выходзіць з пад'езда, злёгку нахіліўшыся наперад і адвёўшы назад локці, быццам пад напорам ветру, дык усё тое новае, спазнанае аб ёй, якое адразу так дзіўна і моцна спадабалася яму, падступіла ўжо да таго выразна, увачавідкі, што ён нават разгубіўся.

Ліпень канчаўся Праліваліся кароткія, абломныя дажджы, потым зноў стала сонечна і ветрана, як і тады, калі яны з бацькам толькі прыехалі сюды. Неяк інакш, цікавей глядзеўся з балкона горад. і складаны, з выгібамі буры дах тэатра па-за зялёным морам паркавага лісця, і жоўты выступ дома афіцэраў у скразным пралёце паміж дрэў, і цьмянае пабліскванне пазалочанага купала царквы – кожны раз, ідучы паўз яе, Сярожа ў здзіўленні запавольваў крок – столькі суцэльнага залатога святла, выпуклаакруглага ззяння было ўверсе, і блакітнавата-зялёныя плямы не псавалі нічога, нагадваючы пра нейкую багатую старадаўнасць.

У нядзелю нечакана сустрэўся на вуліцы бацька. Вочы ў яго блішчэлі Ён быў збянтэжаны і адначасова веселасмелы, як чалавек, што не змог нечага ўтоіць і цяпер махнуў на ўсё рукою: – А давай пойдзем у тэатр! Праўда, у іх там сёння, мне здаецца. . Ну, словам, сход ці пасяджэнне, канцэрт...

У фае ён спыніўся, кажучы штосьці велічна непрыступнай жанчыне з буклямі белых валасоў на галаве, якія рабілі яе падобнай на Ламаносава ў падручніку Тая незадаволена пацiснула плячыма і, адступіўшы, адвярнулася. Яны падняліся на колькі прыступак і апынуліся перад шчыльна зачыненымі белымі дзвярыма. За імі ўрачыста-скамянела маўчала нябачная глядзельная зала, важна аддзяліўшыся ад усяго наўкол і, ужо само сабою, ад іх з бацькам – выпадковых, дапушчаных сюды з такога неахвотнага дазволу

Шчыльна прынікнуўшы да дзвярных палавінак, бацька нячутна адчыніў іх і, зазірнуўшы ў цяжкі паўзмрок, што патыхаў адэкалонам і цукеркамі, сказаў, некага смешна перадражніваючы: – А ў глыбіні сцэны патанаў у кветках партрэт. Станіслаўскага. – Ён зрабіў паўзу ў канцы, і Сярожа здагадаўся, што гэтае прозвішча бацька падставіў у апошні момант. Па лесвіцы з дывановай дарожкаю яны падняліся ўверх, і, узяўшыся за вялікую бронзавую ручку яшчэ адных дзвярэй, бацька з прытворнай безуважнасцю прагаварыў: – Ён патанае, а буфет зачынены .. І, зноўку апынуўшыся ў тэатральным скверы, Сярожа, уздыхнуўшы, павесялеў

Позняй раніцай, прачнуўшыся ў адведзеным цёткаю пакоі адзін, ён выйшаў на балкон. Звыкла акінуўшы вокам свае зялёныя ўладанні пад сліпучым сонцам, Сярожа, як рабіў ужо не раз, зазірнуў збоку ўніз, на балкон Тамары Тамара з раскудлачанымі валасамі ляжала наўзбоч падушак на карычневых ад загару грудзях Крэвіча, яе рукі павольна гладзілі ягоную шыю, плечы – і раней, чым Сярожа выпрастаўся ад страху быць заўважаным, Тамара стала цалаваць Крэвіча хутка, ад твару да грудзей, нібы заспяшаўшыся або просячы прабачэння, і ў ейнай бачнай зверху толькі да паловы спіне з бледнай палоскай ад бюстгальтара было штосьці і ўдзячнае, і адданае, і залежнае адразу.

Ашаломлены, Сярожа збіраўся глядзець і далей, гледзячы пакуль перад сабою на зеляніну парка, і па-ранейшаму не бачыў нічога апроч загарэлых целаў у белай пасцелі, – але цётка ўжо высоўвалася з пакоя, грукаючы тазам з вымытаю бялізнай, у дзікунскіх каралях з драўляных прышчэпак, і ўсё прапала канчаткова і безнадзейна, як абарвалася, ледзь пачаўшыся, нібыта ў сне.

Цяпер ён ведаў Тамарыну таямніцу, невядомую, ён не сумняваўся, нікому, і гэта рэзка вылучала яе з іншых, калі Сярожа назіраў за ёю. Ім усё часцей авалодвала адчуванне таго напаўзабароненага адкрыцця, якім мог распараджацца толькі ён адзін і пра якое можна было фантазіраваць колькі заўгодна. – Яна ўжо не цэленькая, – паўтараў Сярожа і яму было прыемна ў думках вымаўляць гэтыя словы недаступна-дарослая Тамара раптам набліжалася так шчыра-выразна, адкрыта і недвухсэнсоўна, што ён бачыў сябе ўпэўненым і смелым з ёю, нават дзёрзка-вынаходлівым. А на балконе ён ужо цараваў над усім створаным ва ўяўленні аб ёй, над крыкамі і гучным рогатам вечаровых гульняў каля дома, дзе калінікалі Тамара ленавата, на паўсілы гуляла

сваім вялікім мячом з суседскай дзятвою і падпявала музыцы, што далятала здалёк, мяккім, акругленым голасам: – В парке Чаи-ир распускаются ро-зы... – Аднак пасля той раніцы ейны балкон ужо заўсёды быў пустым, толькі аксамітны грузны чмель павольна кружыў, завісаючы над настурцыямі ў скрынцы для кветак.

Сярожа заўважаў, што хваляванне, якое ахоплівала яго не толькі паблізу ад Тамары, але і ў час думання аб ёй, сцішыўшыся, пакідае пасля сябе ва ўсім звычайным і будзённым нейкую няўлоўную невызначальную навізну Усюды якімсьці чынам была Тамара. Пра яе так ці інакш давалі ўведаць дзённае зменлівае асвятленне, гудкі машын, парэнчы маста па-над зарослым ярам з ручаём, летнія пахі ля старых і цесных, паўпадвальных крамах на галоўнай, Савецкай вуліцы – і масляністая грыбная вільгаць у яловых лясках на стромкім нёманскім беразе, дзе Сярожа натыкаўся на парачкі шчасліўцаў, што кахаліся, амаль не таячыся, і ўяўляў сабе, як недзе тут і Тамара любіць свайго трэнера – і якая яна ў той момант, калі Крэвіч любіць яе

Аднак лепей за ўсё было думаць пра яе на сваёй добра абжытай балконнай вышыні ў моцны вецер. Тады Сярожа, стоячы нерухома, выпрастаўшыся, шчыльна ахоплены шумлівым холадам, быў поўны нязвыклай весялосці і свабоды няпэўных радасных прадчуванняў, не памятаючы нічога з таго, што таміла і непакоіла яго ў Тамары. Пад нястомным ветрам лісце шыпела і кіпела, і нябачная сіла, не даючы ні хвіліны спакою нічому навокал і самой сабе, была настолькі яўнай, адчувальнай, ляцела з такой імклівасцю і няўрымслівасцю, гудзела такім гудам у вушах, бесцырымонна ўскудлачваючы валасы, што рабілася ўжо нейкай неабсяжна-жывой, наравістай істотай, якая нізашто, ніколі і нідзе не прызнавала і не прызнае нічыёй волі, апроч уласнай І стаіўшы дыханне, Сярожы нібы лунаў у гэтай звінячай віхурнай нябеснай плыні, уздымаючыся ўсё вышэй ці зніжаючыся, пражываючы на ляту любыя павароты будучага жыцця, якія толькі мог удумаць.

У ясна акрэсленых або з наплывамі карцінах ён бачыў сябе дарослым, вельмі вядомым у свеце чалавекам – светлавалосым і высокім, з разумным і мужным, валявым тварам, някідка і вытанчана апранутым магчыма, чэмпіёнам – не, знакамітым джазавым піяністам, які гэтак няспешна, незалежна, як бы ў задуменні ўступае, калі нарэшце сціхне вялікі, шмат'ярусны аркестр, што роў, паблісквываючы сваімі трубамі, трамбонамі, – а можа, адкрывальнікам новых планет і зорак, выратавальнікам жывёл, гіпнатызёрам, які спыняе самыя безнадзейныя хваробы, неверагодным фокуснікам, ілюзіяністам накшталт Кіа – або вялікім вызнавальнікам, адгадчыкам і на адлегласці ўсялякіх замаскіраваных ненавіснікаў добрых людзей . Так, ягонае імя называе радыё, друкуюць з фотаздымкамі часопісы, газеты, вялікімі літарамі малююць ля ўваходаў на стадыёны і на плошчах, а ў некаторых краінах пішуць пражэктарамі ў начным небе, так, што яно плыве там на аблоках як на дырыжаблях. І вось аднойчы..

Аднойчы ён, які і мацней і дабрэй за ўсіх на зямлі, не помніць крыўды ні ад кога, які ператварыў зайздроснікаў у сяброў і перамог навалы і крушэнні, – аднойчы ён, у ззянні заслужанай і небывалай славы, недзе сядзіць – стомлена, сціпла, не займаючы занадта многа месца сваёй персонаю і стараючыся не прыцягваць увагі, – але яго пазнаюць. Ён гэта абыякава заўважае, але яму не прыходзіць у галаву, што сярод іншых ужо шмат часу ім востра і пакутліва цікавіцца Тамара: яна ездзіць за ім, жыве ў тых жа самых гарадах, што ён, чытае пра яго і слухае і назірае здалёк, не распазнаная ім, яго памочнікамі, спадарожнікамі; яна ўжо – з прычоскай і ў адзенні сапраўднай дамы, але паранейшаму з чымсьці няўлоўна ўсходнім у смуглаватым, з праступаючай матавай бледнасцю, твары, у вялікіх карычневых вачах, – але даўно ўжо страціла спакой, расчараваная ва ўсім, з адзінай і апошняй марай – быць хоць бы ў чым яму карыснай, – і вось нарэшце, у адзін цудоўны дзень...

У адзін цудоўны дзень, ці не ўсё роўна як, але яны сустракаюцца, амаль што сутыкаюцца: ён хоча стрымана пакланіцца і адысці, аднак Тамара спыняе яго – а лепей, апусціўшы вочы, стаіць нерухома, хаця ён ужо выдатна здагадаўся пра ўсё, – і абсалютна не мае значэння, як яны трапляюць на тую пляцоўку мармуровай, быццам у палацы, лесвіцы, што нагадвае ложу ці балкон. мусіць, яму пачціва падалі запіску ад Тамары. і задыхаючыся, на вачах ва ўсіх, яна салёным ад слёз ротам прыціскаецца да яго шыі і глуха мармыча, шчасліва





стогнучы: – Я не магу... я не магу так болей, о-о-о!..

І тут Сярожа адчуваў, як казыча ў горле, а па целе разбягаюцца мурашкі.

У тое лета, на так проста і цудоўна знойдзенай, быццам падараванай яму зацішнай балконнай вышцы Сярожа нейкім асаблівым чынам зведаў і зразумеў вецер – і палюбіў яго назаўсёды. Ён чуў, распазнаваў у ветры нешта непараўнальна больш адушаўлёнае, чымсьці лес ці трава, ручай, рэчка – самастойнае і ніколькі не залежнае ад іншых зямных існаванняў жыццё, якое ідзе без берагоў, бязмежна, загадкава ўзмацняючыся сабою самім і нічым іншым. Гэтая плынь, немаведама дзе пачаўшыся, неслася толькі каб несціся і зусім не дзеля таго, каб круціць крыжавіны млынавых лапат, дзьмуць у прасціны абвіслых ветразяў, напаўняць недарэчлівыя ветраныя каўпакі на захалусных травяных аэрадромах ці пляскаць надзетымі на жэрдкі палотнішчамі сцягоў, харугваў і штандараў. Усё гэта людзі падстаўляюць пад лавіны ветру і спрытнююць, каб адлавіць яго або хоць крыху зачарпнуць з ягонай вольнай і бяздумнай моцы, – а ён, нябачны і няўлоўны, ляціць сабе як і ляцеў, таранячы адвечную пустэчу, ні для чога не ахвяруе сваім высокім хуткім лётам і не сціхае паблажліва ні перад чым нават у кароценькім перыпынку.

Прыслухоўваючыся да пругкіх струмянёў ветру, што абцякалі яго, Сярожа думаў пра тое, што яны неслі ў сабе тыя ж самыя цяпло, прахалоду, пахі і вільгаць, якія яшчэ нейкія гадзіны таму збіраліся, настойваліся, веялі па-над далёкімі марамі, узбярэжжамі і складалі дыханне краін, нераспазнавальных адсюль ні ў які бінокль ці падзорную трубу, – былі паветрам тых месцаў, куды не трапіш, колькі пра іх ні трызні.

У школе ўлюбёным Сярожавым прадметам была геаграфія. Ён мог выйграваць спрэчкі ў аднакласнікаў, з заплюшчанымі вачыма паказваючы на вялікай насценнай карце пралівы, выспы, атолы, мысы; ён памятаў і тут жа называў у метрах, усё роўна як дэкламаваў, вышыні буйнейшых горных пікаў і глыбіні бяздонных, нібы прорвы, акіянскіх жалобаў і расколін, пачынаючы з жудаснай Тускароры.

Ён быў прызнаны непераўзыдзеным тлумачальнікам такіх прываблівых ужо аднымі сваімі назвамі рэчаў, як Грынвіч, часавыя паясы, экватар, ружа вятроў, мерыдыяны і шыроты, квадры Месяца і звязаныя з імі прылівы і адлівы, палярная ноч і паўночнае ззянне, зоны магнітных бураў, субтропікі і тропікі, сезоны праліўных дажджоў – і зразумела ж, казачныя джунглі, саваны і пампасы, прэрыі, каньёны.

Але дзе яму ўжо загадзя і не было і не магло быць роўных, дык гэта ў дбайным захоўванні ў памяці даступных звестак пра існуючыя на ўсіх кантынентах вятры. Устойлівыя летнія і зімовыя мусоны, цягучыя, няспынныя пасаты, марскія і берагавыя брызы, калючыя, пранізлівыя норд-весты і зюйд-весты, трывожны містраль на поўдні Францыі, спякотна-гібельны, сухі сірока на Сіцыліі, нарэшце – самум, які гуляравымі слупамі круціць і гоніць свае пясчаныя смерчы па-над палеглымі, ужо даўно з галовамі засыпанымі караванамі вярблюдаў, бедуінаў, – або страшэнны тайфун паблізу Філіпінаў ці разбуральныя, з мноствам смерцяў, ураганы, якім, безнадзейна заклікаючы аб літасці пры іхнім набліжэнні, даюць прыгожыя жаночыя імёны

Назіраючы за тым, як аблокі ўпартым ветрам выносяцца з-за даху дома, Сярожа з захапленнем дамалёўваў сабе іх папярэднія паветраныя шляхі. мэтанакіраваны, засяроджаны і нейкі быццам безуважны, абыякавы пралёт па-над шызай, са сталёвым адлівам Балтыкаю; доўгае, раўнамернае перамяшчэнне ад Нармандыі, над еўрапейскімі раўнінамі; вільготныя накаты з паўднёвага захаду, дзе ў далечыні, у туманным мораку раскінулася разбухлая ў дрыгвяных нізінах дэльта Дуная; і тая цяплынь, што плыве з Украіны, з настоем высушаных траў, з нячутнымі ўжо рэшткамі саленаватай свежасці Чорнага мора.

У небе, у слаістых, імклівых і зменлівых нагрувашчваннях, то з чыстымі, выразнымі краямі, а то расплывістых, калматых, са шлейфамі, вежамі і скаламі, – Сярожа распазнаваў і тое, што магло быць і было напраўду ці на малюнках – і тое, што прыходзіла ў галаву разам з дрымотнай блытанінай мрояў

Ветраным вечарам у адкрытым летнім кінатэатры яны з бацькам глядзелі да пачатку фільма на вавілон у небе, які тварыўся там быццам для іх дваіх. Змрочныя бездані, цясніны з кінжальнымі барвовымі разрэзамі, даўжэзнае фіялетавае пер'е нейкіх драпежных злосных птушак, рыхлыя коўдры веліканаў, грывы звар'яцелых коней, аплаўленыя калясніцы, – і весялілі лёгкім

пазнаваннем і засмучалі сваім хуткім знікненнем· хацелася іх затрымаць, пакінуць для сябе і штосьці з імі зрабіць. Ужо ішлі на экране надпісы, як з-пад зямлі, прыдушана і хрыпла грымела маршам хроніка, а яны яшчэ паспешліва перагаворваліся гучным паўшэптам – Ну, а зараз? – Вярблюд! – А горб, Сярожа? – Не трэба, затое шыя, галава! – Гледачы, што сядзелі перад імі, паварочваліся і шыпелі, таксама паглядалі ўверх, потым акідвалі іх, як ненармальных, недаўменна-раздражнёнымі позіркамі

У тыя дні Сярожа спазнаў яшчэ два цікавейшыя заняткі, што запомніліся на ўсё жыццё. рыбная лоўля і паветраны змей. Гнуткае вудзільна з нацягнутай аж да звона, амаль нябачнай над бліскучай вадой пругкай ніткай раптам задрыжэла, і ён ужо як быццам у пальцах трымаў напружаную струну, на канцы якой адчайна рвалася, вадзіла руку нешта настолькі перапалоханае, крэпенькае, якое жыве зусім іншым, не чалавечым жыццём, – што ў Сярожы прамільгнула· вось так, не верачы ў палон, нізашто не пагаджаючыся на раптоўную, неспадзяваную няволю, біліся б, торкаліся б у кулаку ўсім сваім цельцам мыш ці верабей І зусім як рыбу пад вадою, ён адчуў і сілу ветру, калі той вырываўся з рук. бацька, як звар'яцелы, імчаў што было духу скрозь слупкі палыну, лебяды, конскага шчаўя па ўзнятым над Нёманам, як над усім светам, беразе з катушкай нітак у высока ўзнятай руцэ, Сярожа нёсся следам, метрах у дваццаці, трымаючы за хвост падобны на вялікі канверт папяровы чатырохкутнік з лёгкімі планкамі крыж-накрыж і па краях, – яны беглі, пакуль бацька не закрычаў, загадваючы і палохаючыся: – Адпускай! – Змея павяло крыху ўправа, ён узляцеў, бацька не спыняў свайго бегу, ужо цяжкога і няроўнага, даючы нітцы доўжыцца, – і, узяўшы праз хвіліну ў яго катушку, тармозячы і дазваляючы ёй зноў круціцца, Сярожа адчуў у далоні амаль такое ж важкае, жывое, шчыльнае супраціўленне нейкага жыцця, што не ведае людзей, як і тады, калі трапілася на кручок плотка.

Здаралася і так, што Сярожа заўважаў у сабе штосьці здатнае ледзь не прыўзнімаць яго ў хадзьбе – падобна на тое, як у снах можна чаргаваць прабежку з пералётамі на колькі крокаў, а пры няцяжкім дадатковым намаганні ў паветры – і яшчэ далей Так, без разбегу, адштурхнуўшыся ад жоўтай пляцоўкі, ён запаволена ўзлятаў, усплываў, узмахамі рук утрымліваючыся ля самага шчыта, пакуль, атрымаўшы мяч, не дасылаў яго ў кальцо, дзе той правальваўся ў падвязаную, без дна, сетку; Сярожа рухаўся ўмела, спрытна, без аніякай збянтэжанасці перад Тамарай, ейны твар быў звернуты да яго; не здзіўляючыся, ён адчуваў дотык яе цёплых пальцаў, што з пяшчотнаю клапатлівасцю рыхтавалі канчатковую блізкасць, бачыў ледзь засмучаную ўсмешку ласкавай вопытнасці і спачування: – Порт-Элізабэт, – сказала Тамара і паўтарыла са спакойным падбадзёрваннем: – Порт-Элізабэт. – І ён зразумеў, што ўсё павінна адбыцца менавіта тут Ранішняе ружаватае святло падала на вуліцу – шырокую, пустэльную, з нахіленымі ў адзін бок стваламі дрэў; трамвай з доўгаю жэрдкаю замест дугі быццам чарціў нешта па небе, нехта стаяў у цяні на брукаваным тратуары ў светлым пляскатым капелюшы, – канацье, прыгадаў Сярожа з прачытанага дзесьці, – а насупраць праз вуліцу, каля агародчыка, які напалову закрываўаднапавярховы дом, чакала некага жанчына ў белым плашчы Ва ўсім была простая яснасць, але цягнулася гэта занадта доўга і марудна, быццам намагаючыся здабыць нарэшце нейкі свой апошні сэнс, і са шкадаваннем прачынаючыся, Сярожа паспеў выратаваць, як у карабельным крушэнні, гэтыя падрабязнасці разам з назваю месца Але дзе яно знаходзіцца – не разумеў і здзіўляўся

На вялікай карце ён лёгка, часцей проста нейкім нюхам расшукваў патрэбную кропку за некалькі імгненняў Але карты не было Порт-Элізабэт – гэтыя знаёмыя, з нейкага трафейнага фільма, словы, магчыма, азначалі ангельскую калонію? На ўзбярэжжы Індыі? У Новай Зеландыі? Былая крэпасць, марскі форт, некалі названы так першым камендантам, адважным афіцэрам у парыку з касічкай і са шпагаю, у гонар жанчыны, пакінутай на радзіме, недзе на другім канцы зямлі ў амаль безнадзейным чаканні ягонага вяртання? Сярожа прыгадаў, што вуліца за паркам і тэатрам, на якой стаіць царква з пазалочаным, у зеленавата-бурых плямах купалам, носіць імя Элізы Ажэшка. Аднак не шукаць жа ў гэтым сувязі І ён спытаўся – Тата, а Порт-Элізабэт – ёсць такі горад? Дзе ён можа быць? – Бацька з усмешкай паглядзеў на столь, сабраўшы на лобе маршчыны. – Трэба падумаць. Не памятаю. Недзе на краі зямлі. А што, з балкона твайго не відаць?

І пачынаючы з таго дня Сярожа ўзяўся перарабляць усё, бачнае яму з пятага паверха, на Порт-Элізабэт. Над ускраем сонечнага неба, там, дзе яно сыходзілася з ліловаю паласой зямлі, таксама свяцілася паветра; амаль гэткія ж зялёныя гародчыкі раскінуліся вакол невысокіх тарцовых трохкутнікаў дахаў; і ў такой жа нерухомасці, у задуменным спакоі высіліся старыя дрэвы. Сілуэты людзей няспешна соўгаліся ўздоўж сцен дамоў, калі-нікалі сонна застываючы на рагу ля скрыжавання Шмат паддавалася паўтарэнню як бачанае недзе раней: маўклівасць парою бязлюднай вуліцы, брама з чырвонай цэглы, белыя драўляныя агароджы, цьмяныя абрысы будынкаў у перспектыве – і тая асаблівая прыцягальнасць сціплай і скупой прыгажосці, якая захоўвалася дзякуючы светла-блакітнаму, з цёплым ззяннем, небу.

Толькі дрэвы стаялі проста ў адрозненне ад тых, што прысніліся: тыя выраслі з нахілам, сцяміў Сярожа, пад моцнымі вятрамі, якія дзьмуць у адным напрамку, – значыцца, на акіянскім узбярэжжы, у межах тропікаў або паблізу іх. І ён яшчэ падумаў, што ствалы клёнаў і соснаў, тапаляў і ліп, секвояў і пальмаў, дубоў і баабабаў, якія выходзяць з зямлі, – гэта і ёсць сама зямля, яна выштурхоўвае сябе наверх знутры ў выглядзе дрэў з сілай, якую немагчыма суняць, – як немагчыма стрымаць тую нутраную моц, з якою яна ўздымаецца гарамі і выбухоўвае ў вулканах.

Так, ён адкрыў сабе ў тое лета, у тым горадзе на халоднай, хуткай, з прыбярэжнымі вірамі рацэ і Тамару, і вецер, – але і астатняе, звычайнае, таксама адкрылася з новага боку· яно магло быць перайначаным, магло адбывацца ў выбраных па яго жаданню месцах – і сапраўдным і прыдуманым адначасова Ён быў адзіным і ўладарным гаспадаром, адданым і надзейным хавальнікам безлічы выразных і хісткіх, няпэўных вобразаў і мрояў, вычварных, мудрагелістых карцін і дзіўных, нечуваных гукаў – яны ўзнікалі на імгненне, трымцелі, пераліваліся і рассыпаліся, нібы бліскучыя ртутныя кроплі. І бясконцай чарадою, неўпрыкмет мільгалі і наслойваліся празрыстыя шматкі ўражанняў, думак, – прывесці іх да нейкага парадку, даць рады ўсяму гэтаму не ставала сіл Затое ні ў кога ў цэлым свеце не было такога патаемнага ходу, тунельчыка да таго незвычайнага, з гарэннем шчок, злёгку змакрэлымі ад поту скронямі, калі, сціснуўшыся ў камяк, ён да болю ў вачах упіваўся позіркам у вечаровы змрок, пільнуючы ўнізе гнуткі цень, які плыве пад паветкай галін, і ловячы станчэўшым слыхам голас, што падпявае ўслед аркестру з гарадскога сада. Ніякім чынам нельга было яшчэ з такой дакладнасцю, міжволі, патрапіць у рытм дзівоснай музыкі, ад якой збівалася дыханне, – у прадчуванне лепшага, што абяцае жыццё. Бо тое, што падабалася, магло доўжыцца, і, знікаючы, зноўку ўзнікаць, і не канчацца ніколі.

Удзень, пасланы цёткаю ў аптэку, Сярожа сустрэў Тамару, калі яна ўжо выходзіла адтуль. Яна кіўнула яму як малодшаму і свайму суседу, але неяк вымушана, быццам бы адрываючыся ад нечага ў думках А ўвечары, калі скончыліся спаборніцтвы, ён, адышоўшы да алеі ад пляцоўкі – там ужо круціліся малыя, доўга глядзеў на Тамару, якая стаяла блізка перад Крэвічам, апусціўшы галаву, з закінутай за спіну фуфайкаю трэніровачнага касцюма. І было відаць, што не трэнер яе затрымлівае – яна сама не ішла ў раздзявальню, упарта чагосьці дамагаючыся ад яго, – а ён з застылым выразам глядзеў кудысьці ўбок.

Якім ні ўважлівым быў Сярожа, пэўна, ён нешта прапусціў або не зразумеў· Крэвіч раптам ударыў Тамару па твары, канцы ейных валасоў ускінуліся – і Крэвіч нанёс другі ўдар Яна панікла, пахіснулася і, не ўтрымаўшыся на нагах, села на зямлю; потым, абапіраючыся абедзвюма рукамі, пачала ўставаць з каленяў – марудна, непрыгожа – і, падняўшыся, пайшла няцвёрдаю хадою за далёкім ужо Крэвічам, а пасля няўпэўнена пабегла за ім паўз здранцвелых хлапчукоў.

Сярожа з жалем убачыў, якая яна зрабілася пакорная і на ўсё згодная, нішто ёй болей не магло дапамагчы – ні голас, ні фігура, ні фарбаваныя чырвоным лакам пазногці тонкіх доўгіх пальцаў, – усё, што яму так падабалася, было цяпер ёй не патрэбна – вось як не патрэбна ўжо было страсаць з трусікаў наліплы пясок, памятаць пра тое, як яна выглядае ў гэты момант і ці бачаць яе іншыя

Далей Сярожа не хацеў глядзець. Нічога не разумеючы ў тым, што адбылося, ён адно адчуваў, як распадаецца і быццам бы мялее тое,

што пачалося ў яго тут гэтым летам і што яму ўжо належала· Тамарын твар, смуглявасць яе ног на пляцоўцы, схаванай у зялёнай гушчыні, умольная пяшчота ейных рук, што гладзяць магутныя мужчынскія грудзі на падушках ніжняга балкона, – і свой балкон, як назіральная вежа, адкрыты для вятроў, лепшае на зямлі месца, адкуль можна дацягнуцца позіркам і ўявіць сабе ўсё што заўгодна, не кажучы пра гэта анікому, – Сярожа звыкла знайшоў яго ў прасвеце паміж лісцем, як толькі завярнуў на вузенькую вулачку І адразу ж запаволіў крок.

Нехта ў шырокім чорным пінжаку з вытырклымі плячыма курыў, узлакаціўшыся на балконную сценку Дзверы кватэры не былі зачынены на замок. У пярэдняй цётка Нюра са шчыльна сціснутымі губамі ўзяла яго за руку і адпусціла, не ведаючы, напэўна, што рабіць. – Шура, прыйшоў Сярожа, – вымавіла яна нерашуча, быццам баючыся нечаму перашкодзіць, і павярнулася да іхняга пакоя. Там былі бацька і маленькі, у пагонах, чалавек, – ягоная фуражка і вайсковая сумка-планшэтка ляжалі на плюшавым абрусе. З балкона ўвайшоў і той, якога Сярожа прыкмеціў з вуліцы. – Ну, хвілін дзесяць, спадзяюся, у мяне ёсць, каб сабрацца? – спытаў бацька. – Ёсць, але мы чакаем, – строга адказаў маленькі. – Сярожа, мы ад'язджаем, – спакойна сказаў бацька. – Дадому Нюра, ты там збяры яму ..

Сярожа выйшаў на балкон. Усё неяк выцвітала і адначасова скурчвалася, змяншалася, нібы ўцягвалася ў бездань шырачэзнай яміны-варонкі, і выглядала груба-простым, сумным – аніякім Лістота ўнізе стыла ў нерухомасці як нежывая І, гледзячы на яе, ён адчуў ціхую, гразкую маркоту, яшчэ не ведаючы, што бачная зверху пыльная зеляніна адыходзячага лета ўжо заўжды будзе нагадваць яму пра вось гэтае пачуццё звужвання і станчэння жыцця і немагчымасць іх спыніць – Пойдзем, Сярожа, – бацькава рука легла яму на патыліцу і прыцягнула галаву, ускудлачваючы валасы

Раніцай яны выйшлі з вагона ў сваім горадзе Двое, што прыехалі з імі, стаялі на асфальце побач з бацькам, курылі і азіраліся. – Вось ключ, – сказаў бацька. – Ідзі дадому, а пасля да дзядзькі Колі. Слухайся яго – А ты, тата? – спытаў Сярожа – Я хутка буду

Але яго болей не было, як мамы, – аніколі

На стале зазваніў тэлефон Залеўскі паведамляў, што машыну высылаюць праз паўгадзіны. – Дзякую, але адсюль да вакзала рукою падаць: я ведаю. Можа пройдземся? – І няма праблем, Сяргей Альсанч Сустракаю ў вестыбюлі, – густа правуркатаў Залеўскі, які трываў ледзь не фізічныя пакуты нават ад хвіліннага чакання

Калі прыйшлі, Сяргея Аляксандравіча ізноў, як і ўчора, здзівіла адсутнасць здаўна знаёмага вакзальнага будынка. Замест яго праз вясновы снегапад у мутным жаўтлявым электрычным святле віднелася велізарнае, груватскае збудаванне, якое ён мог параўнаць адно з уздыбленымі ў сутыкненні цягнікамі Аднак ён падумаў, што ўсё ж здолеў бы адшукаць там платформу, дзе цэлае жыццё таму глядзеў апошні раз на свайго бацьку, калі той адыходзіў ад яго з двума суправаджальнікамі па баках. Ён мог бы знайсці гэты перон і зноў пастаяць на ім, гледзячы туды, куды пайшоў бацька, які тою раніцай быў маладзейшы за яго цяперашняга, – давалася магчымасць быццам бы паўтарыць штосьці з таго, для аднаго сябе Але не хацелася

У вагоне ён пераклаў падушку ад акна да сцяны ля дзвярэй, выняў з чахла і сваю, паралонавую, што прыглушала грукат калёс, – і лёг Залеўскі выйшаў да правадніка. У купэ панавалі мяккія прыцемкі і цішыня. – Я аб'ехаў паўсвету, – падумаў Сяргей Аляксандравіч. – Бацька і маці не ведаюць. – І нечакана з празлівай выразнасцю ўбачыў іх абаіх. У апошні школьны год яму хацелася, засынаючы, уяўляць, што яны жывыя, але назаўсёды засталіся вельмі далёка – недзе на краі зямлі, як казаў бацька некалі Можа і ў Порт-Элізабэце, – раптам прыгадалася яму. Ледзь усміхнуўшыся куточкамі вуснаў, ён асцярожна, павольна ўздыхнуў Тупы рытмічны перастук унізе пайшоў у глухі раскат – і ён заплюшчыў вочы На ніколі не бачанай, звужанай у канцы зялёнай вуліцы ляжаў няяркі ружаваты водбліск аблокаў; у ейнай пустэльнасці было штосьці як бы недагаворанае, стоенае. Два чалавекі стаялі на процілеглых баках – мужчына ў летнім капелюшы і жанчына ў светлым плашчы. Слабая, горкая ўсмешка зноў кранула губы Сяргея Аляксандравіча. Парожні трамвай плыў па бязлюднай, ажно да ружовага неба, вуліцы ў Порт-Элізабэце, але набліжаўся ён ці раставаў у мяккай смузе небасхілу, зразумець было нельга



# Мікалай ЛАПІЦКІ

НАШ



*...жыцьцё і палітычныя здарэньні, якія мелі месца пасьля сьмерці Вітаўта, прымусілі Жыгімонта злагодзіць юрыдычныя абмежаваньні, якія былі ўведзены пасьля заключэньня вуніі Літвы з Польшчай. Апрача гэтага, самое жыцьцё ня спрыяла ўвядзеньню і ўтрыманьню ў Вялікім Княстве Літоўскім пастанаўленьняў, абмяжоўваючых свабоду праваслаўнага насельніцтва.*

## *Пра Мікалая ЛАПІЦКАГА*

**Жыццёвы шлях протапрэсвітара М. Лапіцкага пачаўся 13 снежня 1907 года ў вёсцы Грэлікі Вілейскага павета Віленскай губерні. Узгадаванне ў заможнай рэлігійнай сям'і прывяло юнака ў праваслаўную духоўную семінарыю ў Вільні, а потым на праваслаўны багаслоўскі факультэт Варшаўскага універсітэта.**

**У ліпені 1934-га, атрымаўшы дыплом alma mater, ён быў рукапаложаны ў сан святара і прызначаны на першы прыход у павятовыя Ашмяны. Наступны год адзначаны паспяховай абаронай магістарскай працы на тэму "Праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панавання Уладыслава Ягайлы".**

**Беларуская мова, беларускія паводле свайго духу казані і патрыятычная пазіцыя маладога адукаванага святара вельмі хутка былі заўважаныя царкоўнымі і свецкімі ўладамі, і айцец Мікалай мусіў ехаць да новага месца службы – у глухую вёску Сцяфанполле на Дзісненшчыне. Там ён перажыў і "вызваленчы" паход 1939 года і пачатак савецканямецкай вайны, які ўратаваў сям'ю ад дэпартацыі ў Сібір.**

**У гады нямецкай акупацыі а. Мікалай займаецца пошукам і вызваленнем з канцлагераў беларусаў-ваеннапалонных, сам трапляе ў рукі СД, а вярнуўшыся на волю, пераязджае ў Менск і далучаецца да**

# ЮРЫДЫЧНАЕ ПАЛАЖЭНЬНЕ ПРАВАСЛАЎНЫХ У ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ ЗА ЧАСОЎ ЯГАЙЛЫ

Пытаньне аб тым, у якой меры правы праваслаўнага насельніцтва ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў Ягайлы былі абмежаванымі ў параўнаньні з правамі каталіцкага насельніцтва, уяўляе сабою вялікую зацікаўленасьць для гісторыкаў. Аднак, адносна шмат месцаў разьвязка ня знойдзена з увагі на тое, што кожны дасьледчык гэтае галіны рабіў новыя дагадкі.[1]

Гаворачы пра абмежаваньні праваслаўнага насельніцтва ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў Ягайлы, трэба памятаць, што яно адносілася не да ўсяе тэрыторыі гэтага гаспадарства, але адзіна да тэрыторыі Літвы ў вузкім значэньні гэтага слова.

У тыя часы землі беларускія і ўкраінскія стваралі гэтак званыя ўдзелы, а кожны з іх меў імя, якое паходзіла ад галоўнага гораду. Яны захавалі сваю самадзельнасьць у галіне шматвяковае традыцыі.

Прынцып: "старыны ня рухаці" быў усеўладным. На аснове тае "старыны" вытварыліся ў кожным большым удзеле звычаёвыя законы, якія пазьней сабралі ў кадэксы асобных удзельных прывілегіяў.[2]

На пачатку XV веку сувязь паміж такімі акругамі міжсобку і з Літвой была вельмі слабою.

Землі. Полацкая, Смаленская, Віцебская, Кіеўшчына, Падольле, Валынь і Жмудзь стваралі хутчэй фэдэрацыю, чымся адналітны дзяржаўны арганізм. Становішча намесьнікаў, кіруючых гэтымі землямі, было блізкім да князевага.

Функцыі цэнтральных органаў гэтых дзяржаўных акругаў абмяжоўваліся рэпрэзэнтацыяй у асноўных абрысах. Навонкі іх абавязкі зводзіліся да абароны перад супольным ворагам.

Гэты абавязак даваў ім права на пэўныя ападаткаваньні, якія плылі з усяго Вялікага Княства Літоўскага ў скарб вялікакняжы. Паза гэтым цэнтральны ўрад за часоў Уладыслава Ягайлы пакідаў акругам поўную свабоду

Ён не парушаў ані "старыны" мясцовай, ані ствараў агульных законаў, абавязкавых для кожнае зямлі.

Першым агульнадзяржаўным законадаўчым актам можна лічыць земскі прывілей 1447 г , дзе падкрэсьлены ягоны ўнівэрсальны характар.

У актах, выдадзеных за часоў Уладыслава Ягайлы, перад земскім прывілеям 1447 году (акт Віленскі, Гарадэльскі ды інш.), гутарка ідзе толькі пра Літву і Літоўскую зямлю, у той час калі беларуская зямля і яе насельніцтва абыходзяць маўчаньнем, не зважаючы на тое, што

---

**адбудовы Беларускай Праваслаўнай царквы. Пасля аўтакефальнага Сабору БПЦ, які адбыўся 30 жніўня – 2 верасня 1942 года, Лапіцкага прызначаюць настаяцелем менскай Чыгуначнай царквы. Як дэлегат ад духавенства ён удзельнічае ў Другім Усебеларускім кангрэсе, што пацвердзіў вернасць незалежніцкім ідэалам 25 сакавіка. 5 траўня 1946 года Мікалай Лапіцкі разам з Беларускім царкоўным камітэтам склікаў у Рэгенсбурзе з'езд духавенства і вернікаў-беларусаў з амерыканскай, ангельскай і французскай акупацыйных зонаў. З'езд катэгарычна выступіў супраць уваходу беларускіх епіскапаў у склад Рускай зарубежнай царквы.**

**З 1950 года айцец Мікалай жыве ў ЗША. У новым свеце ён працягвае сваё святарскае служэнне: узначальвае прыход св. Еўфрасінні ў горадзе Саўт-Рывер, штат Нью-Джэрсі; стварае пры царкве школу беларусазнаўства, выдае часопіс "Царкоўны Сьветач"...**

**На працягу некалькіх гадоў у дзень абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі а. Мікалай чытаў у Кангрэсе ЗША прысвечаную гэтай падзеі малітву.**

**Яго зямная дарога завяршылася ў 1976 годзе ў дзень Божай Маці Адзігітры Смаленскай. Каля свежай магілы на беларускіх могілках у Саўт-Рыверы гучалі словы пра тое, што "пуцяводнымі зоркамі для протапрэсвітара Мікалая былі служба Богу, Беларускай праваслаўнай Царкве і Беларускаму Народу".**

**Уладзімір АРЛОЎ**





геаграфічны тэрмін "Русь" быў напэўна добра ведамым у канцылярыі Вялікага Князя Літоўскага.

Нарэшце,а гэта самае важнае, цэлы шэраг акруговых прывілегіяў пазьней выдадзеных, як гаворыць Каменецкі,[3] паклікаючыся на папярэднія прывілегіі Казімера Ягелёнчыка і Александра, маўчаць пра першыя прывілегіі Уладыслава Ягайлы.

З гэтага можна рабіць выснаў, што прывілегіі Уладыслава Ягайлы адносіліся адзіна да ўласьцівае Літвы Што праўда, канкрэтных доказаў для такога сьцверджаньня няма.

Што датычыцца праўнага палажэньня праваслаўя на абшарах паганскае Літвы, дык за часоў Гэдыміна, Альгерда і Уладыслава Ягайлы перад Крэўскаю Вуніяй яно карысталася прывілейным палажэньнем; ад пары дынастычнага аб'еднаньня В Кн Літоўскага, сьцверджанага Крэўскім актам, праўнае палажэньне праваслаўнага насельніцтва ў акругах Вялікага Княства Літоўскага зьмянілася на горшае.

14-га жніўня 1385 г у горадзе Крэва, ЯГАЙЛА за руку ЯДВІГІ і прызнаньне яго каралём Польшчы, прыабяцаў, што прыйме каталіцкую веру разам з усімі ягонымі братамі, сваякамі і шляхтай.[4]

Такая вунія не абяцала нічога добрага для праваслаўя. Пасьля падпісаньня яе можна было спадзявацца пагоршаньня ў палажэньні праваслаўных. Так яно і здарылася ў сапраўднасьці.

За некалькі дзён перад шлюбам з ЯДВІГАЙ ЯГАЙЛА зрокся праваслаўя, у якім дагэтуль быў Ягонаму прыкладу пасьледавалі ягоныя чатыры браты, якія з ім прыехалі ў Кракаў, і ўся ягоная сьвіта.

Разам з вялікай колькасьцю каталіцкага духавенства УЛАДЫСЛАЎ ЯГАЙЛА вярнуўся ў 1388 г у Вялікае Княства Літоўскае і энэргічна пачаў наварачваць Ліцьвіноў-паганаў на каталіцкую веру [5]

Карыстаўся пры гэтым ня толькі словамі пераканаваньня, але гвалтам і насільствам. На Жмудзі, дзе нацыянальная традыцыя была моцна закаранiўшыся, каталіцкая прапаганда даўжэйшы час ня мела паводжаньня, таксама, як яна была беспасьпяховай сярод праваслаўнага насельніцтва на землях Вялікага Княства Літоўскага.

Народ ня толькі не пайшоў сьледам УЛАДЫСЛАВА ЯГАЙЛЫ ды іншых князёў, але вельмі часта, у пазьнейшыя часы, ня хістаўся аддаць жыцьцё за чысьціню і непарушальнасьць праваслаўнае веры.

Асабліва гэта здаралася тагды, калі вялікі князь прабаваў сілай перавярнуць праваслаўных у каталіцкую веру [6]

Аднак Уладыслаў Ягайла вельмі хутка пакінуў такі мэтад і прымяняў да праваслаўных агранічэньні ў абсягу асабістых вольнасьцяў, пабудовы новых цэркваў і доступу праваслаўных на найвышэйшыя ўрады ў кіраўніцтве дзяржавай.

У галіне абмежаваньня асабістае свабоды сілай распараджэньня Уладыслава Ягайлы забаранялася Ліцьвінам, якія прынялі каталіцкую веру, уваходзіць у сужэнствы з праваслаўнымі.

Адначасна з гэтым, з мэтай распаўсюджаньня каталіцкае веры сярод Ліцьвіноў, якія бачылі ў ёй "крыжацкую" веру і з большай прыхільнасьцю адносіліся да праваслаўнае царквы, ува ўласьцівай Ліцьве, праўдападобна, існавала забарона будаваць новыя мураваныя цэрквы. Такая забарона абасноўвалася на касьцельным праве, сфармуляваным у Велюнска-Каліскім статуце 1420 г [7]

Гэты статут забараняў на вечны час усім іншаверцам мець або будаваць новыя маліцьвенныя дамы без дазволу мясцовых рымска-каталіцкіх біскупаў епархіяльных ува ўсей правінцыі Гнезно, а пазьней і ў Віленскай епархіі, якая прыналежала да яе і кіравалася тым самым сынадальным статутам, што і рэшта епархіяў у Польшчы.[8]

Да гэтага часу ня ўдалося ніякаму дасьледчыку або гісторыку знайсьці эдыкт Ул. Ягайлы або Вітаўта, які-б забараняў пабудову праваслаўных сьвятыняў. Можа быць, што такі закон і быў выданы, як гаворыць Г. Ходыніцкі, але на гэта няма беспасярэдных доказаў [9] Аднак пазьнейшыя валадары, як напр. Александр Ягелёнчык у 1494/5 г г на жаданьне в.кн маскоўскага, каб для ягонае дачкі ў Вільні была пабудавана новая праваслаўная царква, паклікаючыся на закон ужо даўно існуючы кажа: "Князи наши и панове наши, вся земля мають то право и записи от предков наших и от отца нашего и от нас и то в правех написано, што церквей греческого закону больше не прибавляти, ино нам тех прав предков и отца нашего и наших не годится рухати" [10] На падставе гэтага сказу можна рабіць выснаў, што

забарона пабудовы новых цэркваў у Літве існавала з часоў продкаў Александра Ягелёнчыка. Аднак, як гаворыць К. Ходыніцкі, Александр нароўні з ягонымі папярэднікамі і наступцамі, ня прытрымоўваліся такое забароны. У такім сьвятле няма нічога дзіўнага, што, калі рымскі біскуп Фэррары, пасланы папам у 1513 г, у Маскву прыехаў на Літву і пабачыў там праваслаўныя цэрквы, зразумеў, якой вялікай пагрозай для рымска-каталіцкага касьцёлу яны зьяўляюцца, і, як гаворыць кс. І Фіялэк, засароміўся тым, што праваслаўная царква астаецца тут зусім вольнай.[11]

Калі-ж нават некалі і была выдадзена забарона пабудовы новых цэркваў, дык, як кажа кс. І. Фіялэк: "Фалшывай зьяўляецца думка, быццам такой забаронай літоўскія валадары намерываліся зьнясьці Ўсходнюю Царкву ў сваім гаспадарстве, або хоць-бы адабраць ад яе нейкія правы, якія да гэтага часу мела і якімі кіравалася".

Справа ішла пра нешта іншае: пра паўстрыманьне росту гэтае царквы, як схізмы, каб далей не разьвівалася за межы сваёй сучаснасьці з паніжэньнем і ўшчэрбкам каталіцкае веры, як пануючага касьцёлу [12]

Памінаючы розныя абмежаваньні і ўціск, Праваслаўная Царква ў Вялікім Княстве Літоўскім разьвівалася

Прычынай гэтага была вялікая колькасьць і гушчыня праваслаўнага насельніцтва ды апека над царквою князёў і вяльможаў удзельных.

З гэтым не маглі пагадзіцца тварцы палітычнае вуніі, кіраваныя польскім каталіцкім духавенствам.

Польскія магнаты і Ягайла, каб узмоцніць вунію, пастанавілі пашырыць правы літоўскай шляхты, надаючы ёй пэўныя свабоды і прывілегіі, якія мела польская шляхта. Аднак, баючыся каб праваслаўная вера не пашыралася паміж Ліцьвіноў, прывілегіі былі дадзены шляхце, якая была каталіцкай або прымала каталіцкую веру.

У 1387 г Уладыслаў Ягайла выдаў прывілей, у якім пералічваюцца правы каталіцкае шляхты.

На пачатку яго маюцца такія словы: "Для пашырэньня (augmentum) сьвятое веры і замацаваньня (firmatatem) каталіцкае рэлігіі мы аддаём і ўступаем хрышчаным або жадаючым хрысьціцца падданым наступныя свабоды і правы.

Паіменна: "кожны шляхціц (armiger sive bojarin), прымаючы каталіцкую веру (fidem catholicam), нароўні з ягонымі спадкаемцамі і наступнікамі атрымоўваюць поўную свабоду мець, карыстацца, уладаць, прадаваць, адступаць, мяняць, даваць, ахвяроўваць і перадказываць згодна з іх гледжаньнем (beneplacitos) і жаданьнем (voluntarios) замкі, округі (districtus), маёнткі (villas), дамы і наагул усё, чым у спадчыне пасьля бацькі кожны валодае, каб папярэдзіць праўнай няроўнасьці тых, каго вунія зрабіла грамадзянамі аднае і тае самае кароны, каб яны карысталіся і цешыліся правамі, падобнымі да тых, якія маюць іншыя нашыя падданыя на землях нашага (гутарка пра асобу Ягайлы) Каралеўства Польскага, хочам, каб у кожным каштэлянстве (in castellanea) і акрузе або на тэрыторыі быў адзін судзьдзя, які-б разглядаў справы (causas quaerunlantium audiat) і вызначаў кары (poenas) паводле звычаю і права судзьдзяў, якія знаходзяцца ў акругах і судох нашага Польскага Каралеўства.

Шляхце пакідаецца права і свабода выдаваць замуж сваіх дочак, унучак і наагул жанчын, не выключаючы і ўдоваў, каб толькі ў такіх выпадках захаваўся каталіцкі абрад (rituum catholicum).

Калі-ж дачка, унучка, або сваячка якога-небудзь шляхціца астанецца пасьля сьмерці мужа ўдавою, дык яна можа астацца ў маёнтках або валаданьнях (in bonis su possesionibus) свайго мужа, пакуль, разумеецца, будзе ўдавою, калі-ж захоча выйсьці замуж паўторна, хай аддасьць мужу, якога сабе выбярэ, падаркі (donatum), а маёнткі і тое што мае ў карыстаньні няхай аддасьць дзецям памёршага, калі такія будуць, у выпадку браку дзяцей – найбліжэйшым сваякам свайго першага мужа, як робяць удовы Польшчы.

Шляхта звольнена ад усякіх паставак у натуры ў адносінах да гаспадарства, за выняткам будовы новых і направы старых замкаў у тым выпадку, калі да гэтага паклічуць усю Літву"

Ваенныя паходы, згодна з хатнім звычаем, шляхта выконывае за ўласны кошт і ў выпадку пагоні за непрыяцелем, ня толькі шляхта, але і кожны здольны абыходзіцца із зброяй мужчына, павінен браць удзел.

Кожны, хто пасьля прыняцьця каталіцкае веры адступіў ад яе, нароўні з тым, хто ня прыняў каталіцкае веры, з гэтых правоў карыстаць ня будзе. Прывілей выдадзены ў Вільні 20 II. 1387 году.





На аснове віленскага прывілею з дня 20. II. 1387 г. толькі шляхта атрымоўвала права на спадчыннае карыстаньне гарадамі, паветамі, вёскамі і дамамі; апрача гэтага яна атрымала права свабодна выдаваць дочак і сваячак замуж ды адначасна з гэтым звальнялася ад нясеньня пастаянных служэбнасьцяў, за выняткам пабудовы новых і направы старых гарадзішчаў ды ўдзелу ў вайне, аднак да гэтага яе маглі паклікаць толькі разам з усей Літоўскай Зямлёй [13] Мэтаю гэтага прывілею, які мае на сабе сьлед рэлігійнага прозэлітызму, было ўзвысіць становішча каталікоў у Вялікім Княстве Літоўскім да клясы прывілейнай і адначасна прыніжыць праваслаўных. Такую самую мэтанакіраванасьць заўважаем у "грамаце" ЯГАЙЛЫ, дадзенай ім у тым-жа 1387 годзе першаму каталіцкаму біскупу ў Вільні АНДРЭЮ (гэрбу Ястраб).[14]

Абодва вышэй прыведзеныя дакументы вобразна сьведчаць, што каталіцкая рэлігія ад 1387 году стала пануючай і прывілегіяванай рэлігіяй у Вялікім Княстве Літоўскім.

Што датычыцца праваслаўя, дык яно займае другараднае становішча і яго лічаць ніжэйшым у параўнаньні з каталіцтвам.

Аднак каталіцкае духавенства, якое мела тагды вялікі ўплыў на палітычнае жыцьцё, і польскія паны не здаволіліся і пастанавілі з мэтаю ўзмоцніць каталіцызм, задушыць праваслаўе (схізму), і адначасна з гэтым падпарадкаваць народы літоўскі, украінскі і беларускі ўладзе Рыму

Зразумелая рэч, гэта нічога добрага праваслаўю не абяцала.

Што праўда, аб гэтым не сказана ў вышэй прыведзеных прывілегіях, але са зьместу гэтых апошніх відаць, што ЯГАЙЛА і польскія паны пашырылі правы каталіцкае шляхты з тым, каб каталіцкая вера разьвівалася з відавочным ушчэрбкам праваслаўнае веры.

Толькі Гарадзельскі Сойм, які адбыўся ў 1413 г, парушыў справу праваслаўных.[15]

Праўда, і ў ягоных пастановах няма адкрытага выказваньня аб праваслаўных, але там маюцца такія месцы, на падставе якіх можна рабіць высноў, што пералічаныя абмежаваньні накіраваны супраць прыхільнікаў праваслаўнага веравызнаньня.

Прыняты гэтым соймам Гарадзельскі прывілей, пацьвердзіўшы яшчэ раз правы Віленскага прывілею, дадае наступныя новыя· Арт пяты гаворыць.

"Паны і шляхта, баяры нашых літоўскіх земляў, вышэй пералічаных, маюць цешыцца, удзельнічаць і карыстацца з даравізнаў, прывілегіяў і адступстваў ад нас ім дадзеных, паколькі падлягаюць каталіцкаму і рымскаму касьцёлу і паколькі ім былі прызнаны гэрбы, так як з сваіх маюць пажытак і карыстаюцца паны і шляхта Польскага Каралеўства"

XI артыкул, пастанавіўшы стварыць 2 ваяводзтвы, каштэляніі і абяцаючы стварэньне яшчэ іншых высокіх чыноў на польскі ўзор, мае ў сабе наступную кляўзулю: "Аднак ніякі земскі ўрад, або высокае становішча як каштэляніі і г.д. ня могуць быць прызнаны нікому іншаму апрача вернікаў хрысьціянскае веры і толькі такія могуць быць дапушчанымі да нашых радаў".[16]

З агульніковага акрэсьленьня аб верніках "хрысьціянскае веры" можна-б было рабіць выснаў, што вышэй прыведзеная засьцярога не замыкала доступу да урадаў праваслаўным, але толькі не хрысьціянам.

Аднак усякія сумнівы адносна гэтага разьвявае XIV артыкул, каторы, падсумоўваючы ўсе прывілегіі, дадзеныя ў папярэдніх артыкулах, гаворыць: "з вышэй пералічаных свабодаў, прывілегіяў і ласкаў могуць карыстацца і цешыцца імі толькі паны і шляхта Літоўскае зямлі, якім прызнаны гэрбы і скарбы шляхты Польскага каралеўства і якія зьяўляюцца вернікамі хрысьціянскае рэлігіі рымскага касьцёлу, а не схізматыкі або няверныя" [17]

Тут праваслаўных трактуюць нароўні з паганамі-ліцьвінамі. Выдаючы гэты акт, ЯГАЙЛА і ВІТАЎТ мелі на ўвазе дзьве мэты, а менавіта: даючы прывілегіі каталіком, узмоцніць каталіцкую веру

Відавочным становіцца факт, што такая спрытная палітыка не магла прыблізіць вяльможаў і шляхту да праваслаўя, а значыць аддаляла праваслаўных ад палітычнае дзейнасьці і пазбаўляла іх уплываў у гэтай сфэры. Аднак здараліся вынятк. ужо пасьля распаўсюджаньня ў Літве каталіцкае веры частка вяльможаў далучылася да Ўсходняе Царквы.[18] Па другое, пры дапамозе Гарадзельскае Вуніі вышэйшая ўлада, асабліва яе польская старана, старалася ўзмоцніць палітычную вунію

Упрывілегіяванае становішча каталіцкае шляхты з аднаго боку прывязывала яе да вуніі з Польшчай,[19] а з другога заахвочвала праваслаўных прымаць каталіцызм

Такім чынам Гарадзельскі акт юрыдычна даваў польска-каталіцкай культуры калі ня

поўную перавагу над праваслаўнай беларуска-украінскай, дык прынамсе рабіў пачатак гэтаму.

У выснаве гэтага зразумелым становіцца, чаму палякі і наагул усе каталікі былі ім задаволены; адначасна з гэтым для праваслаўя ён абяцаў адно толькі непрыемнасьці, таму што сьцьвердзіў, што ня толькі выканаўчая ўлада, але і заканадаўства пайшло дарогай уціску.

Маючы на ўвазе ўзмацаваньне вуніі, Гарадэльскі акт будаваў дарогу перамозе каталіцызму над праваслаўем у Вялікім Княстве Літоўскім.

Вышэйшыя пласты праваслаўнае грамадзкасьці маглі хіліцца ў бок каталіцызму ў рэзультаце гэтых правоў і прывілегіяў, якія былі дададзены каталіцкай шляхце.

У той самы час ніжэйшыя грамадзкія пласты, з пераходам у каталіцкую веру вяльможаў, гублялі абаронцаў і апякуноў рэлігійных інтарэсаў

Зразумела, што пастановы Віленскага і Гарадэльскага актаў не маглі падабацца праваслаўным вяльможам, пражываючым на Літоўскіх, Беларускіх і Украінскіх землях, таму што паніжалі іх веру.

У выснаве гэтага, сярод праваслаўных, якія значна перавышалі колькасьцю ліцьвіноў-каталікоў, нараджаецца незадаваленьне самой вуніяй Вялікага Княства Літоўскага з Польшчай.

Да трыццатага году XV стагодзьдзя такое незадаваленьне стрымоўвалася асабістай энэргіяй і здольнасьцю Вітаўта.

Пасьля ягонае сьмерці (1430) Вялікім Князем Літоўскім быў абвешчаны брат Ягайлы – Сьвідрыгайла.[20]

Вельмі хутка паміж ім і Ягайлам наступілі непаразумленьні, рэзультатам якіх сталі хатнія забурэньні і змаганьні.

Падчас гэтых забурэньняў, грамадзкасьць Вялікага Княства Літоўскага разьдзялілася на два варожыя лягеры: літоўска-каталіцкі з Жыгімонтам, сынам Кейстута, які карыстаўся падтрымкай Ягайлы, і беларуска-украінска-праваслаўны, кіраваны Сьвідрыгайлам.

Пасьля ўпадку Сьвідрыгайлы ў верасьні 1432 г Вялікім Князем Літоўскім быў абвешчаны Жыгімонт, родны брат Вітаўта.

Змаганьне, закончыўшыся перамогай Жыгімонта, пакінула сьлед на літоўскім заканадаўстве ў галіне роўнапраўя веравызнаньняў.

Прыхільнікі Жыгімонта зразумелі, што праваслаўная грамадзкасьць падтрымала Сьвідрыгайлу таму, што ён апякаваўся іх верай.

Таму яны пастанавілі зраўнаць правы праваслаўных і каталікоў. Яны здавалі сабе справу з таго, што незадаволенае і шматлікае насельніцтва рускіх земляў прыпадкова або сьведама аб'еднанае ў лягеры Сьвідрыгайлы, хай сабе і пераможанае на гэты раз, можа стаць назаўтра ізноў небясьпечным праціўнікам.

У кастрычніку 1432 г у Горадні адбыўся зьезд прадстаўнікоў польска-літоўскіх прыхільнікаў Жыгімонта, на якім пастанавілі паменшыць прыхільнасьць праваслаўных да Сьвідрыгайлы.

З гэтай мэтаю яшчэ 15.X. 1394 г ад імені ЎЛАДЫСЛАВА ЯГАЙЛЫ быў выдадзены наступны прывілей: "З увагі на тое, што калі мы прызналі ласкі, прывілегіі і свабоды прывілегіяў, выключанымі былі князі, баяры, шляхта і пасяляне рускія, падданыя Літоўскае Зямлі, жадаючы, каб з гэтага ня вынікнула ў будучыні паміж людзьмі адных і тых самых земляў раздваеньне, або якая небудзь шкода, у выніку якое становішча гэтых-жа земляў магло-б стаць пад пагрозай, але каб усе былі абдзелены ласкамі, зьедналыя духам і згоднаю воляй, каб такім чынам сільней і трывалей накіроўвалі свае імкненьні і стараньні да захаваньня цэласьці тых-жа земляў і шчасьлівага дабрабыту і каб уклаліся ў яшчэ больш прыхільную і верную службу і належную ўступлівасьць у адносінах да нас і да вышэй названага нашага брата найдаражэйшага Жыгімонта, Вялікага Князя Літоўскага і Русі, хочам, каб успомненыя князі, шляхта і баяры рускія цешыліся і карысталіся з тых самых ласкаў свабодаў, прывілегіяў і палёгкаў, якія мелі і з якіх карыстаюцца князі, шляхта і баяры літоўскія, і каб маглі насіць гэрбы або кляйноты шляхэцкія і карыстацца імі падобным спосабам, як Ліцьвіны, якія атрымалі гэрбы ад шляхты Польскага Каралеўства і цяпер маюць іх у карыстаньні ды імі цешацца. Ліцьвіны тыя, паразумеўшыся з братамі з Польскага Каралеўства аб супольнай гэнэалёгіі, няхай прымуць да паіменаваных сваіх гэрбаў або кляйнотаў, рускую шляхту, каб ёй даць магчымасьць насіць гэтыя кляйноты паводле звычаю шляхты ў Польскім Каралеўстве".[21]

Як відаць з гэтага акту, праваслаўная шляхта на падставе сказанага вышэй атрымала тыя самыя прывілегіі, якія ў свой час былі дадзены літоўскай шляхце каталіцкага веравызнаньня.

Але гэты акт, складзены сямю ўпаўнаважанымі Ягайлы ў Горадні (хоць у самым прывілеі сказана, што ён быў складзены ў Львове), як гаворыць праф. В. Біднов і праф В. Чэрмак, ня быў сьцьверджаны каралеўскай пячацьцю і таму не атрымаў юрыдычнай санкцыі.[22]

У сваю чаргу праф Левіцкі ў ягонай працы "Повстане Сьвідрыгеллы" (стар. 156) гаворыць. "Тое, што кароль у сапраўднасьці сваю пячаць загадаў прывесіць, ня можа падлягаць сумніву, бо ў 15 дзён пазьней сам падобны дакумент выставіў" І паказвае крыху пазьней на зьмест падобнага прывілею, выдадзенага ад Уладыслава Ягайлы і з ягонай пячацьцю ў Львове 30 кастрычніка 1432 г

Паводля Левіцкага, зьмест вышэй прыведзенага дакументу, выдадзенага для шляхты Луцкае зямлі, можа быць доказам таго, што кароль Ягайла павінен быў прызнаць правы, падобныя да тых, якія на супольным зьездзе ў Горадні 15 кастрычніка 1432 г. былі складзены прадстаўнікамі абодвух гаспадарстваў для ўсяе праваслаўнае шляхты.

Другі факт, які сьведчыць у карысьць гэтага, як сьцьвярджае праф. Левіцкі, гэта тое, што каля таго самага часу было праведзена зраўнаньне правоў праваслаўных з каталікамі на Чырвонай Русі і Падольлі. Ад гэтага часу праваслаўныя саноўнікі ўвайшлі ў склад польскага сэнату

Да гэтага самага акту, гаворыць праф. Левіцкі, належыць вестка запісаная ў Густынскім Летапісе з 1432 году наступнымі словамі: "Ягелло король будучи на Кіеве, дал привилей Волынским обывателем абы им в вере никто насилия не чинил, а не церквам православным пакостил ани до своей их веры никто не принуждал" [23]

В. Чэрмак, наадварот, крытыкуе доказы праф. Левіцкага А. і катэгарычна цьвердзіць, што "такого прывелею Ягайла ня выдаў ані ў часе 30 кастрычніка 1432 г , ані некалі пазьней, да канца свайго жыцьця".[24]

Канкрэтных доказаў сьцьвердзіць або адкінуць абодва цьвердажньні ў нас няма.

Падсумоўваючы цьверджаньні праф. Левіцкага, нам здаецца, што больш праўдападобным зьяўляецца тое, што праваслаўная шляхта ў Вялікім Княстве Літоўскім атрымала ў 1432 г правы, з увагі на тое, што гады каралеўскага місыянэрства прамінулі, а паўстаньне Сьвідрыгайлы паказала, што праваслаўнае насельніцтва зьяўляецца здольным бараніць із зброяй у руках сваю веру і дамагацца сваіх правоў.

Горадзенскі прывілей 1432 г , хоць і ня быў зацьверджаны каралём, усёж выразіў сабою пачатак ініцыятывы зраўняць у правох усіх, якая паўстала ўва ўлоньні тагачасных кіруючых колаў

Прадаўжэньнем гэтага быў Троцкі прывілей, дадзены Жыгімонтам 6 траўня 1434 году, наступнага зьместу· "У Імя Госпада. Амін У вечную памяць. Таму што можна папярэдзіць нягоднасьць шмат памылак і сумніваў узмацняючы памяць пра справы нашага веку з дапамогаю пісьмовых даведак і паіменных сьведкаў, таму мы Жыгімонт з Божае ласкі Вялікі Князь Літоўскі, нароўні пан і спадкаемца земляў рускіх, гэтым абвяшчаем, каму выпадае, усім сучасным і патомству, якія ўспрымуць весткі з гэтага акту, што жадаючы землі нашы Літву і Русь да лепшага стану давесьці і дабрабыт іх паколькі гэта ёсьць у нашай магчымасьці, з дапамогай Бога, дапамагчы і больш памысныя для іх стварыць абставіны, жадаючы сабе апрача гэтага, каб паміж людзьмі гэтых земляў не паўстала братняя варожасьць, ані каб становішча гэтых земляў не спазнала ў будучыні ніякага ўшчэрбку, але, каб усе былі забясьпечаны роўнымі ласкамі, у еднасьці розуму і з няпрымушанай воляй як мага больш старанна і трывала да падтрымкі гэнага стану земляў і да захаваньня штораз шчасьлівейшага дабрабыту скіроўвалі супольнае імкненьне і высілкі ды адчувалі ахвоту зьдзесьніць з вялікшай вернасьцю належных нам услугаў і абавязкаў, – даём, пазваляем і прызнаём безадкліканна на вечныя часы князям і баярам, так літоўскім як рускім, земляў нашых Літвы і Русі. Па першае, што ў выніку ніякага даносу яўнага ці скрытага, ані пад уплывам ніякага неабаснаванага падазрэньня ня будзем успомненых баяраў і князёў вінаваціць, караць пакуль перад гэтым на яўным судзе згодна з указаньнем права Літоўскае зямлі дастаткова будзе даказана іх віна. Наступна, што названыя князі, баяры ды іх праўныя нашчадкі будуць трымаць усе маемасьці спадчынныя і айчынныя роўным правам, так як і недзе ў іншым месцы ў хрысьціянскім сьвеце і будуць мець права свабодна прадаваць тыя, мяняцца імі, дароўваць, пазбаўляць спадчыны і карыстацца паводле свайго жаданьня і на сваю думку, такім чынам аднак, каб перад намі або нашымі

ўрадамі, складалі асьведчаньне аб усякіх такіх пазбаўленьнях спадчыны, заменах, продажах і даравізнах.

Калі некатораму з названых князёў альбо баяраў здарыцца зыйсьці з гэтага сьвету, тагды ягоная жана, астаўшыся ў стане ўдавы, зможа затрымаць айчыннае дабро свайго мужа, але астаецца забавязанай да непаменшаных сьведчаньняў у нашу і нашых патомкаў карысьць.

Аднак, калі пажадае уступіць у новую сужэнскую сувязь, будзе карыстаць адзіна з пасагу, мужам вызначанага, а дабро пакіне праўным нашчадкам памёршага.

Калі-б нашчадкаў па мужчынскай лініі ня было, у тым выпадку родныя браты забяруць спадчыннае дабро, аднак заўсёды з падобнай засьцярогай адносна спаўненьня ўсіх сьведчаньняў пад поглядам нас і нашых наступнікаў.

Яны затрымоўваюць і надалей усю маемасьць і тое, што ў іх карыстаньні, дадзенае Найясьнейшым Князем Александрам альбо Вітаўтам тагды Вялікім Князем Літоўскім, родным братам нашым шчасьлівае памяці, як ня менш і ад нас наданае.

Нарэшце сяляне ўсе разам і кожны паасобку, а таксама подданыя ўспомненых князёў і баяраў у нашых землях павінны быць цалком звольненымі і вызваленымі ад усякіх данінаў і аплатаў, якія называюцца дзеклямі і належалі нам і нашым продкам.

У ня меншай меры засьцярагаем для нас і нашых наступнікаў права, што ўспомненыя князі і баяры ды іх падданыя будуць і надалей забавязанымі, як былі забявязанымі з даўніх часоў, будаваць замкі і напраўляць іх, таксама як хадзіць у ваенныя паходы ўласным коштам, бо бяз гэтага нашы землі ў добрым стане ўтрымаць нельга, ад іншых работаў у нашых замках людзей вышэй паіменаваных князёў і баяраў звальняецца.

Апрача гэтага дапушчаем і пазваляем, каб князі і баяры рускія маглі насіць і мець у карыстаньні гэрбы або кляйноты шляхэцкія, так сама, як літоўскія, і каб былі прыйманымі ў тыя кляйноты праз ліцьвіноў, аднак атрымаўшы на гэта згоду братоў тае самае гэнэалёгіі з Польскага Каралеўства.

У канцы ўсе пісьмы, прывілегіі і ласкі, дадзеныя ўспомненым вышэй нашым братам Касьцёлам, Князём, Баярам пры якіх-бы ні было ўмовах і формах, яшчэ раз узнаўляючы зацьвярджаем, прызнаём, ратыфікуем і пастанаўляем, што яны маюць захаваць сілу абавязваючае сапраўднасьці.

Для сьведчаньня гэтае справы і для таго, каб прыдаць ёй абавязваючую сілу, загадваем гэты акт прывешчанаю пячацьцю нашае велічнасьці агледзець.

Здарылася гэта і дадзеным было ў нашым горадзе Троках у самы дзень Ушэсьця Гасподняга г е. 6 траўня 1434 г " [25]

Са зьместу прыведзенага прывілею бачым, што ён прыносіць палепшаньне ў палажэньні праўна-палітычным і праваслаўнае шляхты ў Вялікім Княстве Літоўскім.

Хаця-ж ён і зьяўляецца паўтарэньнем папярэдніх прывілегіяў шляхэцкіх, аднак ён трактуе праваслаўных нароўні з каталікамі і прынамсе ня відаць у ім тэндэнцыі ўпрывілегіяваць каталіцкую рэлігію.

Праўда, поўнага зраўнаньня ў правох прывілей гэты ня даў, бо бачым, што для праваслаўных вяльможаў пакідаў дарогу да найвышэйшых становішчаў зачыненай.

Яны маглі мець толькі шляхэцкія гэрбы і займаць ніжэйшыя ўрадавыя становішчы.[26]

Др. Чэрмак гаворыць. "што вось нават у 1434 годзе ня прыйшлі да поўнага зраўнаньня ў правох схізматыкаў з каталікамі ў Літве, бо схізматыцкай шляхце літоўскай бракавала і надалей поўні правоў доступу да саноўніцкіх земскіх урадаў [27]

Гэтак выглядае таму, што аб іншым нічога ня сказана ў акце, а паводле др. Чэрмака "Вялікі Князь Жыгімонт выказаў у ім усё, што хацеў прызнаць сваім падданым шляхэцкага званьня абодвух рэлігіяў і народнасьцяў і што ня прызнаў нічога больш гэтага" [28]

Дзеля гэтага і пасьля 1434 году ў Вялікім Княстве Літоўскім ня было па праву поўнага роўнапраўя праваслаўнае шляхты з каталіцкай.

І ўсё-ж Троцкі прывілей выраўнаў так яскрава выказаную няроўнасьць паміж праваслаўнымі і каталікамі ў Гарадэльскіх прывілегіях.

Такім чынам жыцьцё і палітычныя здарэньні, якія мелі месца пасьля сьмерці Вітаўта, прымусілі Жыгімонта злагодзіць юрыдычныя абмежаваньні, якія былі ўведзены пасьля заключэньня вуніі Літвы з Польшчай.

Апрача гэтага, самое жыцьцё ня спрыяла ўвядзенью і ўтрыманьню ў Вялікім Княстве Літоўскім пастанаўленьняў, абмяжоўваючых свабоду праваслаўнага насельніцтва.





Цяжкое палажэньне Польшчы ў выніку частых войнаў з Крыжацкім Ордэнам, даволі доўгі несупакой у Літве, выкліканы супрацівам неахвотных вуніі з Польшчай, ды палітычныя і дынастычныя камбінацыі Ягайлы, прымусілі ўладу зьмяніць адносіны да праваслаўных.

Апрача таго Ягайла і ўсе Ягайлавічы, спалучаныя паходжаньнем, псыхікай і любасьцю да свайго народу, добра ведалі, што ён хутчэй праваслаўна-беларуска-ўкраінскі, чымся літоўска-каталіцкі.

Вось таму, не зважаючы на тое, што пад уплывам каталіцкага духу ў 1413 г былі выдадзены пастановы Гарадэльскага Сойму, паніжаючыя праваслаўных, рэлігійная розьніца і пасьля яго ня гуляе амаль ніякае ролі.

У гэты час на Захадзе Эўропы пануе догмат· "cuius regio, eius religio", а ў Вялікім Княстве Літоўскім быў бачным пачатак рэлігійнае талеранцыі.

Па гэтаму пытаньню др. В. Чэрмак выказваецца наступнымі словамі: "урэзываючы крыху правы схізматыцкае шляхты, XI артыкул Гарадэльскага прывілею рабіў паважныя абмежаваньні адзіна на пэргамэньце; на практыцы схізматыцкая шляхта трактавалася і перад 1563 г. на шмат ласкавей, чымся на гэта пазваляў забавязваючы да сёмага дзесяцігодзьдзя XVI в. прынцып успомненага артыкулу; няма сумніваў адносна таго, што ў часе паміж 1434 і 1563 г князі, паны і пасяляне рускія схізматыцкае рэлігіі бывалі неаднаразова адзначанымі праз Вялікіх Князёў пры раздаваньні саноўніцтваў і ўрадаў" [29]

Дзякуючы гэтаму адміністрацыйная практыка, уступаючы жыцьцёвай неабходнасьці, прыгатавала такім чынам грунт поўнаму зраўнаньню ў правох веравызнаньняў на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага ў 1563 г

---

[1] Праф. В. Биднов: "Церковь Православная в Польше и Литве" (po volumina legalegum). Др. В. Чэрмак: "Справа рувноуправненя схізматыкув і католікув на Літве" (1432–1563), "Розправы Акадэміі Умеентносьці", том XIX, год 1903; В. Каменецкі: "Огранічэня вызнанёвэ в праводавстве Літэвскем в XV і XVI веку", "Пжэглёнд Гісторычны", том XIII, год 1911, К. Ходыніцкі: "Косьцюл Православны а Жэчпосполіта Польска", стр. 76–91. Кс. І. Фіялэк: "Опісы Вільна до половы XVII в.", "Атэнэум Віленьске", том II, 1924 г.; Проф. Левіцкі Анатоль: "Повстане Свідрыгеллы". Бобжынскі: "Дзее Польскі"; Грушэвскі М.: "История Укр. Руси", том V, стр. 47–52.

[2] В. Биднов: "Православная Церковь в Польше и Литве", стр. 25.

[3] В. Каменецкі: "Огранічэня вызнанёвэ в праводавстве літэвскем в XV і XVI веку", "Пжэглёнд Гісторычны", т XIII, стр. 271.

[4] "Акта Уны Польскі з Літвон" (1385–1791), выдалі С. Кутжэба і М. Сэмковіч, Кракув, 1932, стр. 2–3.

[5] "Пол. Собр. Рус. Летопис". т. II, Густынски Летоп., стр. 351.

[6] Биднов В.: "Православная Церковь в Польше и Литве", стр. 11

[7] Кс. Ян Фіялэк: "Опісы Вільна", Атэнэум Віленьске, т. II, 1924, стр. 154.

[8] К. Ходыніцкі: "Косьцюл Православны а Жэчпосполіта Польска", стр. 79.

[9] К. Ходыніцкі: "Косьцюл Правосл. а Жэчпосполіта Польска", стр. 79.

[10] Акты Запад. Рос., І., № III; Даніловіч, "Скарбец Дыплёматув", Вільно, 1862, стр. 241.

[11] Кс. Фіялэк: "Опісы Вільна", Атэн. Віл. т II, 1924, стр. 149–150.

[12] Ібід стр. 155–156.

[13] Дзялыньскі: "Збюр Прав Літэвскіх", Познань, 1841, стр. 1–2; Грушэвскі М.: "Ист Укр. Руси", т. V, стр. 47; Біднов: "Церк. Прав. в Польсцэ і Літве", стр. 13–14.

[14] Біднов – Ібід.

[15] "Акта Уны Польскі з Літвон", Ст. Кутжэба і Вл. Сэмковіч, № 49–50–51.

[16] Дзялыньскі: "Збюр Прав Літэвскіх", стр. 12–16.

[17] Ібід.

[18] "Литва в отношеніи к Россіи и Польше", "Вест. Юго-Запад. Рос.", т. I, ст 117, Кіев.

[19] Грушэвскі: "Ист. Укр. Руси", том V, стр. 48–49.

[20] Левіцкі Анатоль: "Повстане Сьвідрыгеллы", стр. 151–158.

[21] Проф. Левіцкі А.: "Codex epist.", т. III, стр. 525–4, № 17, паводле др. В. Чэрмака, "Розпр. Акад. Умеентносьці", том. XIX, 1903, стр. 357.

[22] Біднов В.: "Прав. Церковь в Польше и Литве", стр. 29.

[23] "Пол. Собр. Рус. Летоп.", т. II, Густынски Л., стр. 354.

[24] В. Чэрмак: "Справа рувноупр, схізм. і кат. на Літве, 1432–1563", Розпр. Ак. Ум., т. XIX, 1903 год, стр. 357.

[25] "Codex epist.", т II, № 22; Чэрмак В., стр. 374.

[26] Біднов: "Прав. Церк. в Польше и Литве", стр. 32.

[27] Чэрмак др.: "Справа рувноупр, схізм. і катол. на Літве" (1432–1563), Розпр. Акад. Умеентн., т XIX, р. 1903.

[28] Ібід.

[29] Ібід.

**Протапрэсьвіцер Мікалай ЛАПІЦКІ.**
**Праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім**
**за часоў панаваньня Ўладыслава Ягайлы.**
Нью-Ёрк, 1978

# Лера СОМ



## СНЕЖАНЬ

*Сексціна*

Пячатка цемры, году мроя-сон,
Ізноў ён, час праверкі росту – Снежань.
Згуляны гульні, скончыўся сезон,
Настрою, думкам, моцы, волі – межань,
Няма ні ўзлётаў, ні правалаў: фон...
Але ніхто не пазначае межы.

Пакуль у кола не замкнулі межы,
Пячатцы цёмнай не прыцiснуць сон.
Крыштальны, дзіўны, любы, снежны Снежань,
Ты цемры час і беласці сезон,
Глухі і звонкі тон, паводка й межань,
На роздум і тугу – найлепшы фон.

Навісла неба як нейтральны фон,
Завея скрала далягляду межы.
Пячатка цемры мроіцца як сон,
Стаю на цэнтры свету – снежыць Снежань,
Бяскрыла птушкам – нежывы сезон,
Жыццё застыла на адзнацы "межань"

Святлу і дням не разгарнуцца, межань
Для іх настаў, яны як плямкі, фон
Тут прыцемкі, і трохі зор на межах
Пячаткі цемры. Бачыш іх як сон.
Ці помніш, што калісьці быў не Снежань,
А нейкі іншы, колерны, сезон?

Палю паперы – гэта мой сезон
Рахункі звесці ў падрахунак. Межань
На брудную паперу Чысты фон
Рыхтую, і на ім малюю межы.
Пячатка цемры падаўжае сон,
Дапамагае передумаць Снежань.

Усё, што не змагла – даруй мне, Снежань!
Ты кропку перайшоў, ідзе сезон
Адносін іншых і для іншых. Межань
Закончыўся, і адступае фон,
І помнік высвятляе свету межы
На новы год. Пячатка цемры – сон.

Ёсць руйнавання час. Ён – межань межаў,
Сезон для заўтра, адпачынак-сон.
Пячатка цемры – фон, бялюткі Снежань.

*07 01 1998*

---

Межань – самы нізкі ўзровень вады ў рацэ, вадаёме; перыяд, калі так бывае.





## КЕНГУРУ

За апошнія гады мне давялося там-сям пабываць і тое-сёе пакаштаваць. У партовай рыбнай лаўцы ў Александрыі я еў смажаную на грылі рыбу-меч, у начным рэстаране "Неба Парыжу" смакаваў паштэт з гусінай пячонкі, у лонданскім "Уілерз", адным з лепшых марскіх рэстаранаў свету, глытаў свежыя Фін-дэ-клеры і яшчэ тры віды вустрыц, назваў якіх не помню. Бязлітасна халодным зімнім днём апякаўся цыбульным супам у ірландскім рэстаране на Манхэтэне, мой нож уваходзіў як у масла ў далікатнейшую выразку з аргенцінскага высакагорнага быка ў рэстаране "Марэда", від на Рыа-дэ-Жанейра з дваццаць пятага паверха пяцізоркавага гатэля "Цэзар" не мог адцягнуць вочы ад дэсерту з трох тузінаў трапічных фруктаў У замку Фушл на поўначы Аўстрыі гатавалі неверагоднае сядло барашка, у Чыкага я сядзеў за столікам першай у свеце Піца-хат, у Венецыі ўзламваў інквізітарскім ключом панцыр амара з вусамі як у Сальвадора Далі.

Калі ў мюнхенскім рэстаране "Гурмэ" (19 з паловай зорак з дваццаці магчымых у класіфікацыі Гу Міё) каля нашага століка пачалі гатаваць соўс для замоўленага голуба, японская пара здымала працэс відэакамерай, пакуль не скончылася стужка. Пад час аднаго з прыездаў у Антверпен мае сябры паклікалі свайго знаёмага, кухара адзінага на той час у Бельгіі чатырохзоркавага рэстарана (паводле класіфікацыі Мішлэн). Ён з'явіўся з дзвюма скрынямі інструментаў, адных нажоў налічвалася штук васемнаццаць, і гатаваў нам вячэру – гэта было як бы Джон Ленан прыйшоў да вас у кватэру і заспяваў "Yesterday"

Але нідзе і ніколі я не перажыў такога ўзрушэння, як у вясковай хаце старшыні беларускага калгаса, куды з нагоды нейкага рэвалюцыйнага свята я з кубінскім дыпламатам патрапіў як перакладчык. На перапоўнены закускамі і бутэлькамі стол раптам узнеслі смажанага кенгуру. Тое, што ўнесеная жывёліна адносілася да атраду сумчатых, а не дробных грызуноў, у мяне не выклікала ніякага сумнення.

– Раз, два, тры, чатыры, пяць, выйшаў зайчык пагуляць! – праспявала сакратарка па ідэалогіі.

– Піф-паф, ой-ёй-ёй, памірае зайчык мой! – падхапіў парторг

– Патрыя о муэртэ – радзіма альбо смерць! – крыкнуў кубінец і ўсадзіў відэлец у фаршыраванага монстра. Мяне занудзіла, і я выскачыў на марознае паветра.

Далей падзеі разваліся так: недзе праз гадзіну сумеснымі з вадзіцелем намаганнямі і пры ідэалагічнай падтрымцы райкамаўскай сакратаркі мы вырвалі аташэ з застолля, бо катастрафічна пазніліся на ўрачысты мітынг. Да райцэнтра было кіламетраў дваццаць. Ехалі ўжо з чвэрць гадзіны, як вадзіцель раптам пабялеў і пачаў рэзка тармазіць. упоперак дарогі стаяла машына і нехта махаў Па накатаным снезе "Волгу" развярнула і бокам пасунула на людзей, якія чамусьці рушылі да нас.

Калі мы выскачылі з аўтамабіля, знаёмыя галасы старшыні і парторга сустрэлі нас дружным воклічам: "На пасашок!" У гэтым месцы праходзіла мяжа калгаса, і гаспадары не маглі адпусціць госця без аглаблёвай На капот узгрувасцілі скрыню з прыпасамі, забулькаў каньяк, усе чокнуліся і выпілі Я прыгубіў і шукаў, як бы незаўважна выліць рэшту ў снег, калі быў схоплены на месцы злачынства.

– Ты камуніст? – спытаў парторг

– Камсамолец.

– Тым болей Што скажа камарад аташа?

– Венсэрэмас – мы пераможам! – нечакана адгукнуўся той

– Пі, – падвёў рысу парторг.

Горш ужо не будзе, падумаў я і пад пільным наглядам інтэрнацыянальнай кампаніі ўліў у сябе шклянку. Пасля ўсіх удараў дня каньяк быццам не падзейнічаў Выпілі па другой і па трэцяй. Стала шумна, горача, нікуды не трэба было спяшацца. Праважаючыя то крычалі ў вуха, то ўвогуле знікалі Хвілінная стрэлка на гадзінніку скакала як кенгуру

Калі наша "Волга" падкацілася да палаца культуры, грамадскасць даўно ўжо спрабавала

разбегчыся, але вопытныя арганізатары зачынілі дзверы. Мы распрануліся ў кабінеце дырэктара, аташэ асвяжыўся шампанскім, сакратарка зноў высыпала сабе ў сумку цукеркі, і нас правялі ў прэзідыум Госця віталі ад імя горада і раёна, кубінец выступіў у адказ, прычым, як мне здалося, па-іспанску, але зразумела "Манкада", "Гуантанама", "Плая Хірон", "мучачас", "мачэтэ", "Чэ", як тады называлі рэвалюцыйнага бандыта Чэ Гевару . Пасля да мікрафона па чарзе выходзілі прадстаўнікі грамадскасці з залы і прадстаўнікі прэзідыума, якія зачытвалі амаль аднолькавыя тэксты і паўтаралі тыя ж самыя вызначэнні Я перастаў слухаць і страціў кантроль за зменай прамоўцаў, пакуль раптам не высветлілася, што сам стаю за трыбунай і прамаўляю – без паперкі.

*– Узняўшыся на вышыню, дзе ніколі не ступала нага чалавека, а цяпер развіваецца навукова-тэхнічны прагрэс і супрацоўніцтва дзеля міру ў цэлым свеце, у імя і на карысць свабодалюбівых сілаў і народаў, якія цвёрда сталі на шлях карэнных духоўных і сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў ва ўсіх сферах жыцця і дзейнасці, скіраванай на далейшае ўмацаванне, паглыбленне і пашырэнне.*

Фраза набухала як цеста, у якое передалі дражджэй, перавальвалася цераз край і валачылася сырымі бясформеннымі камякамі Безнадзейна згубіўшы назоўнік і ўсё больш вязнучы ў багне дадатковых сказаў, я вывярнуў на свабодную яшчэ прастору азначэнняў і пусціў серыю прыметнікаў·

*– ...праверaных гісторыяй і вытрымаўшых выпрабаванні часу непарушных братэрскіх повязяў трывалай усебаковай савецка-кубінскай і кубінска-савецкай дружбы, прысвечанай..*

Мяне цягнула ў пастку, як труса ўцягвае ўдаў Абраны сінтаксіс бязлітасна патрабаваў новага пад'ёму, а падымацца ўжо не было куды. Амаль не было. Грудзі напоўніліся паветрам:

*.Генеральнаму сакратару Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза Старшыні Прэзідыўма Вярхоўнага Савета СССР асабіста Леаніду Ільічу Брэжневу!*

Яшчэ на пачатку шматступеннага тытула генсека я адчуў лёгкае, як калыханне малекул, падвышэнне напружання ў прэзідыуме і імклівае падзенне тонусу ў зале – аўдыторыя мярцвела на вачах. Кожнае вымаўленае слова быццам адстраляная ступень ракеты-носбіта выводзіла інтанацыю на ўсё большую вышыню. Адпрацаваныя часткі з медна-ўрачыстым гудам праносіліся па шматжыльным мікрафонным дроце і з дынамікаў абрыналіся на галовы слухачоў На канцы трынаццацічленнага дапаўнення паўза на долю секунды для пераводу дыхання дала такі акцэнт акалічнасці спосабу дзеяння "АСАБІСТА", што я ледзь устаяў на нагах.

У грозна-львіным лянівым выплеску мой раптоўна левітанаўскі голас як расплаўлены метал стаў заліваць любоўна вылепленыя языкам, паднябеннем і губамі формы імені ў давальным склоне· чырвоным золатам налілося і зазвінела "ЛЕАНІДУ ", напоўнілася і ўрачыста ўзялося застываць "ІЛЬІЧУ . "

Нечакана сутаргава пачала скарачацца дыяфрагма. Рэшткі пазбаўленага кіслароду паветра рвануліся ў трахею, страсянулі правіслыя галасавыя звязкі і сухім парахавым выбухам ударылі па мікрафону·

"БРЭ. "

Наступнае

"Ж"

без галоснага за сабою, страціўшы звонкую жорсткасць, бясшумным вожыкам падкацілася да нейтральна-невыразнага

"НЕ. "

і, як шматтонную глыбінную бомбу, напружаннем усіх унутраных органаў я выштурхнуў у дынамік гулка-воўчае

"ВУ–ууу! "

Дзве тонкія стальныя іголкі пранізалі абедзве лапаткі ў тым месцы, дзе ў анёлаў растуць крылы Далоні разышліся і сышліся ў бязгучным хлапку, потым другім Святло з лямпаў слаілася і лускамі ападала ў залу Я апладзіраваў імені, якое толькі што вывярглa сябе з мяне Я апладзіраваў адзін

Адчай, роспач і сум апанавалі ўсё навокал. Незямная горыч якойсьці канчальнай страты напоўніла сэрца. Нешта бязмежна дарагое і безабаронная пакідала мяне назаўсёды, непапраўна і беззваротна.

Я не чуў успыхнуўшых апладысментаў, не бачыў, як устаў прыэзідыум і падымалася





зала, не помню, як развіталіся і выехалі з гораду. Гэта было ў іншай прасторы, у іншую эпоху, у іншым жыцці.

У тым жыцці мы вярталіся ў Менск далёка за поўнач. На пярэднім сядзенні час ад часу ванітаваў аташэ. Вадзіцель круціў настройку прыёмніка. "I said something wrong.. " ціха спявалі "Бітлз" У гэтым новым жыцці я баяўся толькі аднаго· што мяне болей ніколі не апячэ нявыносна церпкі незямны боль там, дзе ў анёлаў растуць крылы – боль, без якога, як я ўведаў пазней, няма розніцы паміж жыццём і смерцю.

# КАНЦЭРТ ДЛЯ ПРЭЗІДЭНТА

Першага жывога прэзідэнта я сустрэў яшчэ пры савецкай уладзе. Ён нават прыслаў мне ліст, дзе пісаў, што сустрэча надоўга запала яму ў памяць. Мне яна таксама запала, хаця па іншай прычыне Канечне, цяпер гэтай публікі гаць гаці, але тады любы прэзідэнт быў экзотыкай. На пачатку 70-х Менск наведаў Ніксан. праезд перакрылі, да вокнаў не падыходзь, адны спецыяльна абучаныя сцяжкамі махалі. Мой сябар хацеў перайсці вуліцу, дык потым у нашым інстытуце замежных моваў яго дапытвалі. з якой мэтай спрабаваў уступіць у сувязь з амерыканскім прэзідэнтам? З сапраўдным прэзідэнтам сапраўднай дзяржавы я пазнаёміўся пад час сваёй самай першай паездкі за мяжу

Выехаць выйшла з дапамогай таго самага аднакурсніка, які спрабаваў уступіць у несанкцыянаваную сувязь з Ніксанам, ён працаваў перакладчыкам у бюро маладзёжнага турызму "Спадарожнік" Размова па тэлефоне была кароткай гарыць пуцёўка ў камсамольскую спецтургрупу, прынясеш грошы да абеда – твая. Пасля заканчэння інстытута я працаваў ужо некалькі гадоў, але яшчэ ні разу не быў за мяжой Пуцёўка каштавала 426 рублёў – тры месячныя зарплаты. На яе пайшлі грошы, адкладзеныя на мэблю (усё роўна свая кватэра ў бліжэйшыя гады не пагражала). Прыстаўка "спец" да назвы тургрупы азначала, як высветлілася, што я быў адзіны, хто плаціў за паездку Астатнія ехалі на казённы кошт

Паездка была на невялікі востраў у Міжземным моры Паводле Гамера, менавіта на ім падарожнікі за залатым руном на чале з Адысеем сустрэліся з Цырцэяй, якая ператварыла іх у свінняў Гамер добра ведаў мясціны, пра якія пісаў

Аснову групы складаў народны ансамбль песні і танцаў аднаго з менскіх заводаў Рабочых у ансамблі не было ніводнага, калі не лічыць кіраўніка, які ў працоўнай кніжцы лічыўся фрэзероўшчыкам. Ансамбль выступаў перад кіраўніцтвам завода на савецкія святы, а таксама бесперапынна ўдзельнічаў у конкурсах, аглядах і справаздачных канцэртах, якія разрослая бюракратыя прафесійнай самадзейнасці наладжвала ў неверагоднай колькасці. На аглядах важныя цёткі з упраўленняў культуры прысвойвалі званні "народных" натасканым на механічных рэпетыцыях удзельнікам мастацкай самадзейнасці. Ні адна з цётак не важыла менш за 5 пудоў, а былі і больш важкія экземпляры Перад імі ліслівілі, дарылі кветкі і цукеркі, плялі інтрыгі.

(Я потым неяк задумаўся: куды ж прапалі цёткі, калі разам з савецкай уладай сканала прафесійная мастацкая самадзейнасць? У камерцыйных кіёсках, абменных пунктах валюты і секс-тэлефонах сядзіць маладое пакаленне, выхаванае цёткамі, а дзе ж яны самі? Куды падаліся, што робяць, на якой ніве сеюць і жнуць, мілуюць і караюць? Ці ёсць такая ніва? Аказалася – ёсць. выбарчыя камісіі па правядзенні дэмакратычных выбараў О, якія цуды мастацтва дэманструюць там былыя наглядальнікі за Музамі, як высока лунаюць над бытам і трывіяльнасцю інструкцый! Увасклашаюць мёртвых, выклікаюць духаў і могуць адным бюлетэнем накарміць пяць тысяч, а таксама наадварот І пры гэтым ніякай самадзейнасці!)

Званне "народны ансамбль" азначала прызнанне заслуг кіраўніка, большую зарплату Але самае галоўнае – адкрывала дарогу да паездак за мяжу "Кароль Лір" блякне перад інтрыгамі, змовамі і здрадамі, слязамі, адзюльцерамі і клятвамі ў вернасці, якімі суправаджалася барацьба за месцы ў групе Такі ансамбль і склаў дваццаць з трыццаці ўдзельнікаў паездкі

Астатнія месцы размеркаваліся паміж супрацоўнікамі абкама і райкама партыі, ЦК

камсамола і таварыства "Веды". Яны лічыліся прапагандыстамі. Меркавалася, што ансамбль будзе танцаваць, а прапагандысты адкрываць вочы астраўной грамадскасці на міралюбны знешні курс партыі і ўрада. Таму ім пуцёўкі выдалі бясплатна. Апроч мяне, у групе быў толькі адзін турыст, які не танцаваў і не меўся чытаць лекцый Ён сказаў, што працуе зборшчыкам на заводзе "Гарызонт" Калі на інструктажы абменьваліся тэлефонамі, ён таксама даў свой рабочы нумар.

– Здорава, у вас тэлефон на канвееры! – не стрымаў я здзіўлення Ён толькі ўсміхнуўся. Канвеер, выглядала, быў зусім у іншым месцы Яму, як я зразумеў, аплацілі не толькі пацёўку, але яшчэ і выпісалі камандзіровачныя ў адпаведнасці са званнем Перакладчыца чакала нас у Маскве – гэтае бясплатнае месца належала маскоўскай камсамольскай мафіі Кабета аказалася баявая, ангельскай мовай валодала ў межах, неабходных для закупкі магнітафонаў Паколькі ў анкеце я пазначыў, што скончыў інстытут замежных моваў, дык усю паедку працаваць давялося аднаму мне

Востраў сустрэў нас халодным ветрам і штормам – стаяў май, да адкрыцця сезона заставаўся яшчэ месяц. Мы былі адзіныя ў невялікім сціплым гатэлі, які, як высветлілася, належаў той самай фірме, што арганізавала тур. Фірма мела выключнае права на савецкіх турыстаў, бо належала сакратару мясцовай кампартыі. У мяне, аднак, склалася ўражанне, што ўзаемасувязь была адваротная: кіраўнік фірмы стаў сакратаром кампартыі, каб атрымаць даходны бізнес. Для савецкіх турыстаў паняцця "сезон-несезон" не існавала, публіка была запалоханая і непатрабавальная і, зрабіўшы падарункі начальству, можна было забяспечыць станоўчы водгук і няблага зарабіць. У астраўной кампартыі налічвалася чалавек сто трыццаць, яна лічылася баявым атрадам міжнароднага камуністычнага руху, генеральнага сакратара запрашалі на нарады і з'езды ў Маскву Інструктары міжнароднага аддзела ЦК, у сваю чаргу, рэгулярна каталіся пазагараць на востраў, праўда, у адрозненне ад турыстаў, – у сезон.

Відаць, справы ішлі добра, бо кіраўнік фірмы ад імя кампартыі запрасіў усю тургрупу ў кінатэатр.

– Як з ідэйнага боку карціна, ці не антыкамуністычная? – праявіў пільнасць кіраўнік тургрупы Сакратар кампартыі запэўніў, што ў яго кінатэатры (аказалася, што гэтая ўстанова таксама належала яму) антыкамуністычныя карціны не ідуць. Тым не менш, кіраўнік сабраў прапагандыстаў, папярэдзіў аб магчымых правакацыях і заклікаў да пільнасьці і адпору

Фільм называўся "Секс-машына". Гэта было першае кіно такога кшталту ў маім жыцці· дагэтуль самым эратычным фільмам, які я бачыў, быў "Андрэй Рублёў"· там у сцэне "ноч на Купалле" мільгалі голыя постаці Кінавопыт астатняй групы, магчыма, за выключэннем прапагандыстаў, быў ідэнтычны майму, аднак ніхто гэтага не паказваў У перакладчыцы ў гэты дзень, як звычайна, балела горла, і ў паўпустым кінатэатры ўся група расселася вакол мяне

Калі потым кіраўнік групы пісаў справаздачу аб паездцы, ён адзначыў прагляд фільма, прысвечанага эканамічнаму крызісу, крытыцы рэлігійна-буржуазнай маралі і экалагічным праблемам Захада, вырашэнне якіх падштурхоўваецца толькі прыкладам Савецкага Саюза.

Падзеі ў фільме разгортваліся ў Рыме часоў татальнага энергетычнага крызісу· няма бензіну, электрычнасці, на гарадскія вуліцы вярнуліся коні і карэты

– Драпежнае вынішчэнне рэсурсаў, адсутнічае планавая эканоміка, няма сістэмы маральна-матэрыяльнага заахвочвання энергазберажэння, – адкаментаваў пачатак адзін з прапагандыстаў

У фільме дзейнічаў прафесар-маньяк, які шукаў спосабы здабычы электрычнасці з сексуальнай энергіі У навуковых мэтах на лабараторны стол клаліся асістэнты з асістэнткамі, на іх чаплялі датчыкі, шматколерныя драты цягнуліся да трансфарматараў, вымяральнікаў сілы і частаты току Па камандзе прафесара эксперыментатары пачыналі эксперыментаваць. Заўважыўшы рэзкае павышэнне ўвагі турыстаў да падзеяў на экране, актыўны прапагандыст вырашыў даць відовішчу класавую ацэнку

– Звычайная эксплуатацыя чалавека чалавекам, як заўсёды пры капіталізме, – растлумачыў ён

– А пры сацыялізме? – спытаўся нехта нябачны з цемры

– А пры сацыялізме наадварот! – парыраваў прапагандыст.





Непасрэдны працэс вытворчасці сексуальнай энергіі на экране не паказвалі. Рэжысёр пайшоў па шляху сублімацыі. у самыя пікантныя моманты камера пераязджала на вымяральную апаратуру, і глядач мусіў сам здагадвацца, што азначае адхіленне стрэлкі вольтметра на пяць ці дзесяць дзяленняў.

Тым часам эксперыментатары на экране дабіваліся ўсё большых і большых поспехаў· запальвалі люстры, уключалі халадзільнік і электрапліты, а адна пара з асабліва высокім каэфіцыентам карыснага дзеяння рухала хуткасны ліфт, а потым гнала электрапоезд. Такое народнагаспадарчае выкарыстанне распусты не магло не выклікаць шчырай ухвалы з боку прапагандыстаў·

– Умеюць жа з усякай трасцы зрабіць карысць! Як японцы з кары!

Эпахальная перадача савецкага карэспандэнта з Японіі пра тое, як, купіўшы савецкі лес, японцы выкарыстоўваюць яго на 102%, бо перапрацоўваюць нават кару, за якую не плацяць, глыбока запала ў душы савецкіх тэлегледачоў. Прычым не ў тым сэнсе, што, маўляў, нам бы так рабіць, а – прыдуркі ўсё ж гэтыя японцы!

У фільме згадваўся і Савецкі Саюз. калі італьянская ўрадавая камісія абмяркоўвала вынаходства прафесара, супраць выступіў прадстаўнік Ватыкана. падобнае выкарыстанне граху супярэчыць вучэнню царквы.

– Вы, святы айцец, яшчэ пра бязгрэшнае зачацце скажыце! – узвіўся міністр абароны. – А калі гэта першымі зробяць расейцы?.

І кардынал здаўся.

– Ну, як вам, таварышы, фільм? – пацікавіўся кіраўнік пасля сеансу.

– А, так сабе. самыя цікавыя моманты не паказалі, адказаў адзін з танцораў.

У справаздачы потым кіраўнік напісаў: "Буржуазная цэнзура выклікала адмоўную ацэнку моладзі, якая прадэманстравала здаровыя класавыя інстынкты".

З інстынктамі ў групе сапраўды ўсё было ў парадку: думаю, калектыўна выпрацаванай за два тыдні энергіі хапіла б для асвятлення ўсяго невялікага вострава.

Турысцкія аб'екты мы паглядзелі за першыя пару дзён і пачалі рыхтавацца да канцэрта. Сакратар кампартыі прадаставіў залу свайго кінатэатра (уваход, дарэчы, быў платны нават для камуністаў, так што свае 102% сакратар зарабіў) Напярэдадні прадстаўлення нам абвясцілі, што на канцэрт прыйдзе сам прэзідэнт краіны.

Паводле савецкіх мерак, краіна была несур'ёзная, усяго тысяч трыста жыхароў Але слова "прэзідэнт" несла нейкі магічны сэнс, нешта невядомае, небяспечнае, правакацыйнае Незважаючы на астраўны нейтралітэт, ад яго патыхала блокамі НАТА, СЕАТА І СЕНТА адначасова, балістычнымі ракетамі, авіяносцамі і атамнымі падводнымі лодкамі. Калі афіцыйная перакладчыца пачула пра прэзідэнцкі візіт, дык заявіла, што ў яе няма вопыту выступлення на сцэне, і захварэла.

– А ў цябе ёсць вопыт? – пацікавіўся кіраўнік групы.

Сцэнічны вопыт у мяне быў. Асабліва запомнілася святкаванне пяцігоддзя інстытуцкага хору Я патрапіў у харысты з прычыны штаноў· кантынгент у інстытуце быў дзявочы, хлопцаў катастрафічна не хапала. Мяне злавілі ў калідоры і паставілі ў апошні шэраг, дзе я прастаяў тры гады. Рэпертуар быў з ухілам у містыку· "Ленин – это весны цветенье", "Вечно живой Ильич"

Кантроль за наведваннем вёўся жорстка, як у дысбаце. пераклічкі на пачатку рэпетыцый і ў канцы, дакладныя рэктару, раздача ці, адпаведна, пазбаўленне стыпендыі альбо месца ў інтэрнаце Што толькі я не рабіў, каб вырвацца з пасткі: прыносіў лісты з аэраклуба, што ў мяне трэніровачныя зборы, запісаўся на дзяжурствы ў народную дружыну нават аднойчы заспяваў на канцэрце. У кіраўніка пачаліся канвульсіі, але дзяўчаты-альты зараўлі і заглушылі мой пратэст

Рэванш адбыўся на святкаванні пяцігадовага юбілею хору Пасля канцэрта, які я вёў у якасці канферансье, была п'янка ў грым-уборных. Прафсаюзнае начальства, кіраўнікі іншых мастацкіх калектываў, эліта хору – стараста і яе намеснік, салісты, пара камсамольскіх функцыянераў – падымалі тосты, закусвалі, а потым нехта прапанаваў заспяваць штонебудзь "для душы" Нечакана для сябе я апярэдзіў усіх з прыпеўкай·

"Пароход плывёт прямо к пристани,
Будем рыбку кормить коммунистами!"

Я абсалютна не быў злосным дысідэнтам, амаль нічога не ведаў пра слаўную гісторыю КПСС, – проста словы спадабаліся. Магчыма, гэта была эстэтычная рэакцыя на наш

замагільны рэпертуар. Прычым, праспяваў няблага, у сэнсе – гучна. Кіраўнік хору потым адзначаў· "Лукашук першы раз не сфальшывіў, але лепш бы памаўчаў" Мяне выратавала рэпутацыя несур'ёзнага чалавека (я друкаваў гумарыстычныя апавяданні ў маладзёжнай газеце) і статус канферансье, якому дазволена несці абы-што Так ці іначай, але больш на рэпетыцыі я не з'яўляўся і на сцэне не выступаў

І вось пасля доўгага перапынку я зноў выйшаў на сцэну. Рэпертуар ансамбля насіў падкрэслена інтэрнацыянальны характар і ўключаў танцы амаль усіх народаў СССР, ад рытуальных скокаў аленяводаў да аварскай лезгінкі. На пачатку я прывітаў гледачоў ад імя артыстаў з Менска, а потым па ходу канцэрта прадстаўляў нумары Апошняй ішла "Калінка", якую выконвалі на біс. Публіка добра ведала гэты нумар, які традыцыйна паказвалі ўсе танцоры з Савецкага Саюза.

Пасля канцэрта нас з кіраўніком групы, да якога далучыліся і прапагандысты, паклікалі ў фае, падвялі да нейкага старога і прадставілі:

– Пан прэзідэнт, гэта госці з Расеі.

Я ўдакладніў, што мы з Беларусі, усе па чарзе пацiснулі старому руку. Вакол сабраўся натоўп, ахоўнік прэзідэнта насцярожана паглядваў па баках. Пасля кампліментаў прэзідэнт раптам спытаўся·

– Скажыце, а чым вы, беларусы, адрозніваецеся ад расейцаў?

На гэтае пытанне мне давялося адказваць якраз напярэдадні. Я заблудзіўся ў партовым раёне і павярнуў на вуліцу, якая прывабіла ілюмінацыяй – амаль на кожным будынку свяціліся чырвоныя лямпы. За мяжой я быў упершыню і таму не адразу ўсвядоміў, куды патрапіў Мне памахала спачатку мулатка гадоў дваццаці пяці, я памахаў у адказ, але не спыніўся. Потым падышла смуглявая парачка семнаццацігадовых. Калі я з цяжкасцю выслізгнуў з іх абдымкаў, перада мною стаялі два даволі сур'ёзныя тыпы з татуіроўкамі. Тыпаў цікавіла, што канкрэтна я хачу

Я прызнаўся, што хачу дадому.

– Куды-куды?

Як вядома, "Беларусь" у даслоўным перакладзе на ангельскую гучыць як "Белая Русь"

– Глядзі ты, аказваецца, расейцы – як амерыканцы, бываюць чорныя і белыя, – здзівіліся субяседнікі. І прапанавалі: – Не хочаш чорную – бяры белую.

Нягледзячы на рэльефную мускулатуру партовых грузчыкаў і пэўную цікавасць прапановы, я праявіў адвагу і маральную стойкасць. Спешна, пад абразлівыя выкрыкі жрыцаў любові пакідаючы раён чырвоных ліхтароў, я саграваўся думкай, што на маім месцы так паступіў бы кожны, каму абмянялі валюты толькі на 30 рублёў

І вось – сам прэзідэнт задае тое ж пытанне, што і партовыя сутэнёры. хто такія беларусы. Мне стукнула ў галаву пацешыць старога сваёй гісторыяй, і пачаў пераказваць дыялог ля публічнага дома – папярхнуўся: прэзідэнт быў не белы Праўда, ён быў і не чорны, а нейкага туманна-брусьнічнага колеру з іскрой, як фрак Чычыкава. Не выключаю, што ад хвалявання мне мроілася.

– Уайт Раша – Белая Русь ты мая! – нечакана ўмяшаўся актыўны прапагандыст, той самы, які тлумачыў, што пры капіталізме чалавек эксплуатуе чалавека, а пры сацыялізме – наадварот

– О, белыя рускія, я ведаю, – ажывіўся прэзідэнт І патлумачыў народу, які тоўпіўся навокал· – Яны змагаліся за цара!

Астравіцяне загулі, прапагандыст ахнуў, кіраўнік аслупянеў З падобнай трактоўкай сваёй нацыянальнай прыналежнасці я сустракаўся за мяжой потым не раз Але тады гэта здарылася ўпершыню, прагучала зусім нечакана, да таго ж – з вуснаў прэзідэнта.

– А мы вось змагаліся супраць ангельскай кароны, – сказаў прэзідэнт (Востраў толькі пару гадоў як выйшаў з-пад брытанскага пратэктарату )

– Ты яму перакладзі, што і мы супраць манархіі, – захваляваўся прапагандыст – Аляксандра II забіў беларус Ігнат Грынявіцкі. А ў Менскім раёне ёсць калгас імя Войкава – ён расстрэльваў царскую сям'ю!

У інстытуце нас вучылі, што прафесія перакладчыка – гэта прафесія невідзімкі. Ты – сродак, медыум, аўтаматычны трансфарматар словаў субяседнікаў, і не можаш даваць ацэнку ці неяк рэдагаваць іх выказванні. Пры сінхронным перакладзе мозг добрага перакладчыка заняты адэкватнай граматычна-лексічнай перадачай тэксту, а не цэнзурай Я перакладаў, як аўтамат





– Аднак, як члены брытанскай Садружнасці нацыяў, мы і надалей уважаем каралеву Лізавету за свайго манарха, – разгублена прызнаўся прэзідэнт

– У нас гэтае пытанне вырашанае канчаткова! – пахваліўся прапагандыст – Перадавікам уручаем пераходны прыз Войкава.

Апошнюю фразу сказаць па-ангельску вельмі няпроста. Шмат пазней я папрасіў перакласці гэты выраз знаёмага амерыканца, выпускніка факультэта масавых камунікацыяў Нью-Ёркскага універсітэта, які свабодна гаварыў на шасці еўрапейскіх мовах. На працягу гадзіны ён задаваў пытанні, што такое перадавік, вытворчасць, пераходны прыз, што менавіта зрабіў Войкаў Для перадачы пяці простых і зразумелых любому савецкаму чалавеку словаў лепшаму выпускніку курса, чыя дыпломная праца дагэтуль захоўваецца ва універсітэцкай бібліятэцы, спатрэбілася трыццаць лексічных адзінак ангельскай мовы. Прывяду адваротны даслоўны пераклад. "Кожны месяц наёмнаму працаўніку, чыя прадукцыйнасць у дадзеным вытворчым падраздзяленні ў дадзены перыяд пераўзышла прадукцыйнасць усіх астатніх, уручаецца часовы прыз за лепшае забойства цара"

Не выключаю, што ў маім перакладзе таксама прагучала нешта падобнае

– Не можа быць! – ахнуў на гэты раз прэзідэнт

– Можа! – радасна запэўніў прапагандыст. – Усе нашы турысты – перадавікі!

Прэзідэнт падаўся назад. Пад пінжаком целаахоўніка выпнулася нешта вуглаватае. Кіраўнік групы, які дагэтуль ашаломлена назіраў за ходам ідэалагічнай дуэлі, раптам прысеў, быццам збіраўся станцаваць "Яблычка", і схапіўся за сэрца. Пачалася беганіна, прэзідэнт пачакаў, пакуль з'явіліся лекары, і хутка развітаўся. У гатэлі кіраўнік адразу адкрыў чамадан, дастаў бутэльку гарэлкі, наліў і выпіў, потым наліў зноў

– Гэта была загадзя сапланаваная правакацыя, – апраўдваўся на экстранным сходзе групы актывіст прапаганды і агітацыі – Таварышы, калі зноў давядзецца пачуць падобнае пытанне, трэба казаць. мы не белыя, мы – чырвоныя

– Ты каго маеш на ўвазе? – шэптам спытаўся кіраўнік, які ад перанесеных хваляванняў і гарэлкі збарвянеў; яго і без таго пунсовая шыя налілася крывёю. Пеpажыты стрэс патрабаваў разрадкі, і ён з размаху ўрэзаў кулаком па стале – Ты не чырвоны, тваю маць! Ты дурны!

Прапагандыст спачатку пабялеў, затым пачырванеў, як рак, потым пазеленеў Да бел-чырвона-белага сцяга заставалася яшчэ дваццаць год, да прэзідэнцкага чырвона-зялёнага – і таго болей Хаця не, чырвона-зялёны з белым арнаментам існаваў якраз тады, так што колеравая гама ідэалагічна была цалкам вытрыманая. Кіраўнік і мне параіў зрабіць вывады з таго, што адбылося.

Адзін вывад, па-мойму, ляжаў на паверхні: для перадачы рэаліяў развітога сацыялізму мова Шэкспіра і Байрана недастаткова развітая.

Оруэла я тады яшчэ не чытаў

**Аляксандр ЛУКАШУК**

*Фрагменты кнігі "Перад свабодай".*



